# КАСТРЫЧНІК

| Dzień | Nowy styl | Święta, imieniny | Дзень | Стары стыль | Святы, імяніны |
|---|---|---|---|---|---|
| W | 1 | Danuty, Remigiusza | А | 18 | Зоф'і, Ірыны |
| Ś | 2 | Dionizego, Teofila | С | 19 | Фёдара, Канстанціна |
| C | 3 | Gerarda, Teresy | Ч | 20 | Яўстафія, Алега |
| P | 4 | Franciszka, Rozalii | П | 21 | Мялеція, Іпація |
| S | 5 | Apolinarego, Placyda | С | 22 | Іоны, Фокі |
| N | 6 | Artura, Brunona | Н | 23 | Андрэя, Іраіды |
| P | 7 | Marii, Marka | П | 24 | Фёклы, Уладзіслава |
| W | 8 | Brygidy, Pelagii | А | 25 | Сяргея, Еўфрасінні |
| Ś | 9 | Ludwika, Wincentego | С | 26 | Іана, Калістрата |
| C | 10 | Franciszka, Pauliny | Ч | 27 | Марка, Ігнація |
| P | 11 | Aldony, Emila | П | 28 | Вячаслава, Харытона |
| S | 12 | Eustachego | С | 29 | Кірыяка, Феафана |
| N | 13 | Edwarda, Teofila | Н | 30 | Грыгорыя, Міхаіла |
| P | 14 | Dzień Nauczyciela | П | 1 | *Пакроў Пр. Багамаці* |
| W | 15 | Jadwigi, Teresy | А | 2 | Андрэя, Анны |
| Ś | 16 | Filomeny, Gawła | С | 3 | Дзіянісія, Іана |
| C | 17 | Małgorzaty, Wiktora | Ч | 4 | Веранікі, Ерафея |
| P | 18 | Juliana, Łukasza | П | 5 | Пятра, Аляксея |
| S | 19 | Piotra, Ziemowita | С | 6 | Фамы, Макарыя |
| N | 20 | Jana, Ireny | Н | 7 | Сяргея, Пелагеі |
| P | 21 | Urszuli, Hilarego | П | 8 | Таісіі, Трыфана |
| W | 22 | Filipa, Marka | А | 9 | Якава, Андроніка |
| Ś | 23 | Marleny, Seweryna | С | 10 | Яўлампія, Васіяна |
| C | 24 | Marcina, Rafała | Ч | 11 | Зінаіды, Філіпа |
| P | 25 | Darii, Kryspina | П | 12 | Кузьмы, Марціна |
| S | 26 | Ewarysta, Łucjana | С | 13 | Карпа, Веніяміна |
| N | 27 | Iwony, Sabiny | Н | 14 | Параскевы, Мікалая |
| P | 28 | Szymona, Tadeusza | П | 15 | Яўфімія, Лук'яна |
| W | 29 | Jacka, Narcyza | А | 16 | Лонгіна |
| Ś | 30 | Edmunda | С | 17 | Андрэя, Восіі |
| C | 31 | Urbana, Saturnina | Ч | 18 | Лукі, Марына |

**Гадоў таму:**

200 8.11.1785 (магчыма — 1784) г. нар. **Міхал Бабройскі** (пам. 21.9.1848 г.) — беларускі славіст і арыенталіст, адкрыўца „Супрасльскага зборніка", аўтар работы „Пра характэрныя моўныя звароты беларускага народа" — адной з першых прац па беларускай мове, прафесар Віленскага універсітэта. Нарадзіўся і выхаваўся ў вёсцы Волька Выганоўская каля Орлі на Беласточчыне.

110 11.11.1875 г. нар. Альберт Паўловіч (пам. 17.3.1951 г.) — беларускі пісьменнік, друкавацца пачаў у 1907 г. у „Нашай ніве", першы зборнік вершаў „Снапок" (1910), аўтар драмы „Васількі", многіх вершаў для дзяцей, жартаў.

100 31.10./12.11./ 1885 г. нар. Міхайла Грамыка (пам. 1.7.1969 г.) — беларускі пісьменнік, друкавацца пачаў у 1907 г., паэма „Гвалт над формай" (1922), п'есы „Скарынін сын з Полацка" (1926), „Над Нёманам" (1927) і інш. творы. Геолаг. Адным з першых распачаў пошукі нафты на Палессі.

90 20.10./1.11./ 1895 г. нар. Уладзімір Крыловіч (пам. 23.10.1937 г.) — беларускі акцёр, адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра, з 1915 г. выступаў у аматарскім тэатральным гуртку, з 1921 у тэатры імя Я. Купалы, ролі: Каліноўскага ў п'есе „Каліноўскі" Е. Міровіча, Крыніцкага ў „Паўлінцы" Я. Купалы, Кручкова ў „Пінскай шляхце" В. Дуніна-Марцінкевіча, Карнейчыка ў „Канец дружбы" К. Крапівы і інш.

85 14/27/.11.1900 г. нар. Рыгор Пукст (пам. 12.11.1960 г.) — беларускі кампазітар оперы: „Машэка" (1945), „Свіцязянка" (1960), першая беларуская опера для дзяцей „Марынка" (1955), 6 сімфоній, многа інструментальных і вакальных твораў, між іншым, кантата „А хто там ідзе?" (1958).

80 1/14/.11.1905 г. нар. Міхась Васілёк (пам. 3.9.1960 г.) — беларускі паэт, дзейнічаў у беларускім рэвалюцыйным руху ў Заходняй Беларусі, у тым і на Беласточчыне, друкавацца пачаў у 1926 г. у часопісе „Маланка", першы зборнік „Шум бараввы" (1929).

65 12.11.1920 г. нар. Андрэй Макаёнак — беларускі драматург, пачаў друкавацца ў 1946 г., першая п'еса — аднаактоўка „Перад сустрэчай" (1950), п'есы: „Выбачайце, калі ласка" (1953), „Трыбунал" (1970), „Таблетку пад язык" (1973) і інш., сцэнарыі фільмаў: „Рагаты бастыён" (1964), „Пасля кірмашу" (1974) і інш..

60 26.11.1925 г. нар. Юрый Семяняка — беларускі кампазітар, оперы: „Калючая ружа" (1960), „Калі ападае лісце" (1968), „Зорка Венера" (1970), аперэта „Паўлінка" (1973), многія папулярныя песні, між іншым, „Явар і каліна", „Ты мне вясною прысніласся" і інш.

55 26.11.1930 г. нар. Уладзімір Караткевіч (пам. 25.7.1984 г.) — беларускі пісьменнік, друкавацца пачаў у 1955 г., першы зборнік вершаў „Матчына душа" (1958), аповесці: „Цыганскі кароль" (1961), „Дзікае паляванне караля Стаха" (1964), раман „Хрыстос прызямліўся ў Гародні" (1966) і інш.

3.11.1882 нар. беларускі пісьменнік Я. Колас • 4.11.1887 нар. беларускі пісьменнік і дзяржаўны дзеяч Ц. Гартны • 7.11.1867 нар. польская вучоная М. Складоўская-Кюры • 7.11.1917 Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя • 10.11.1906 пачала выходзіць беларуская газета „Наша ніва" • 11.11.1821 нар. рускі пісьменнік Ф. Дастаеўскі • 30.11.1899 нар. беларускі пісьменнік М. Лынькоў.

# ЛІСТАПАД

| Dzień | Nowy styl | Święta, imieniny | Дзень | Старыя стыль | Святы, імяніны |
|---|---|---|---|---|---|
| P | 1 | Wszystkich Świętych | Н | 19 | Іана, Клеапатры |
| S | 2 | Bohdana, Bożydara | С | 20 | Арцёма, Герасіма |
| N | 3 | Sylwii, Huberta | Н | 21 | Іларыёна, Філафея |
| P | 4 | Karola, Olgierda | П | 22 | *Казанск. іконы Б.М.* |
| W | 5 | Elżbiety, Sławomira | А | 23 | Якава. Ігнація |
| Ś | 6 | Feliksa, Leonarda | С | 24 | Афанасія, Арсенія |
| C | 7 | **Wielka. Rew. Paźdz.** | Ч | 25 | **Вялікая Кастр. рэвал.** |
| P | 8 | Seweryna, Klaudiusza | П | 26 | Дзімітрыя Феафіла |
| S | 9 | Ursyna, Teodora | С | 27 | Нестара, Капіталіны |
| N | 10 | Andrzeja, Lubomira | Н | 28 | Неанілы, Сцяпана |
| P | 11 | Marcina, Bartłomieja | П | 29 | Анастасіі, Анны |
| W | 12 | Renaty, Witolda | А | 30 | Зіновія, Маркіяна |
| Ś | 13 | Mikołaja, Stanisława | С | 31 | Спірыдона, Нікадзіма |
| C | 14 | Emila, Wawrzyńca | Ч | 1 | *Кузьмы і Дзямяна* |
| P | 15 | Alberta, Leopolda | П | 2 | Афонія, Маркіяна |
| S | 16 | Edmunda, Małgorzaty | С | 3 | Іосіфа, Георгія |
| N | 17 | Salomei, Grzegorza | Н | 4 | Нікандра, Сымона |
| P | 18 | Anieli, Romana | П | 5 | Галакціёна, Грыгорыя |
| W | 19 | Elżbiety, Seweryna | А | 6 | Клаўдзіі, Аляксандры |
| Ś | 20 | Feliksa, Anatola | С | 7 | Феадота, Кірылы |
| C | 21 | Janusza, Konrada | Ч | 8 | *Міхаіла Архістраціга* |
| P | 22 | Cecylii, Marka | П | 9 | Анісіфара |
| S | 23 | Felicyty, Klemensa | С | 10 | Радзівона, Алімпа |
| N | 24 | Jana, Flory | Н | 11 | Віктара, Сцепаніды |
| P | 25 | Erazma, Katarzyny | П | 12 | Іана, Ніла |
| W | 26 | Leona, Sylwestra | А | 13 | *Іана Залатавуснага* |
| Ś | 27 | Waleriana | С | 14 | Філіпа Грыгорыя |
| C | 28 | Grzegorza, Zdzisławy | Ч | 15 | Гурыя, Дзімітрыя |
| P | 29 | Błażeja, Saturnina | П | 16 | Мацвея, Сяргея |
| S | 30 | *Andrzeja*, Justyny | С | 17 | Нікана, Лазара |

**Гадоў таму:**

215 17.12.1770 г. нар. Людвіг ван Бетховен (пам. 26.3.1827 г.) — нямецкі кампазітар, сімфонія „Гераічная“ (1803-4), Дзесятая сімфонія (1824), опера „Фідэліо“ (1805), „Урачыстая абедня“ (1823) і інш.

160 14 снежня 1825 г. выбух паўстання дзекабрыстаў у Расіі, частка якіх знаходзілася таксама на Беласточчыне, між іншым у Бранску.

145 20.12.1840 г. нар. Казімір Альхімовіч (пам. 31.12.1916 г.) — беларускі жывапісец і графік, ілюстратар твораў А. Міцкевіча, удзельнік студзеньскага паўстання на Беларусі, сасланы ў Сібір, некалькі карцін па гісторыі Беларусі, між іншым, „Смерць Глінскага ў турме“ (1884) і інш.

120 8.12.1865 г. нар. Ян Сібеліус (пам. 20.9.1957 г.) — кампазітар, заснавальнік нацыянальнай фінскай музыкі, аўтар 7 сімфоній, сімфанічных паэм, у тым славутай „Фінландыі“ (1899), музычных твораў па фінскаму народнаму эпасу „Калевала“, многіх песень і інш.

115 10.12.1870 г. нар. Фердынанд Рушчыц (пам. 30.10.1936 г.) — польскі мастак, нарадзіўся на Беларусі, прафесар аддзялення прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта (1919-32), на якім вучылася шэраг беларускіх мастакоў, большасць яго карцін адлюстроўвае беларускія рэаліі, між іншым, „Мінск зімою“ (1895), „Млын ноччу“ (1899), „Мост зімою“ і „У свет“ (1901) і інш.

95 25.11./7.12./ 1890 г. у Супраслі каля Беластока нар. Рамуальд Муклевіч (пам. 9.2.1938 г.) — савецкі ваенны дзеяч, удзельнік грамадзянскай вайны на Беларусі.

9/21/.12.1890 г. нар. Мікалай Аладаў — беларускі кампазітар, адзін з заснавальнікаў і першых выкладчыкаў Беларускай кансерваторыі, музычная камедыя „Тарас на Парнасе“ (1947), інструментальныя творы, шматлікія песні.

90 9.12.1895 г. нар. Далорэс Ібаруры — дзеяч іспанскага і міжнароднага рабочага руху, за сваю дзейнасць названая Пасіянарыя (Пальмяная), журналіст.

80 3/16/.12.1905 г. нар. Мікола Сярдобаў — беларускі спявак і рэжысёр, ролі-партыі: Каліноўскага ў оперы „Кастусь Каліноўскі“ Д. Лукаса, Дзяніса Давыдава ў оперы „Надзея Дурава“ А. Багатырова і інш., паставіў оперу „Кветка шчасця“ А. Туранкова і інш.

75 15/28/.12.1910 г. нар. Іван Шаціла — беларускі акцёр, на сцэне з 1932 г., ролі: Якіма Сарокі ў „Паўлінцы“ Я. Купалы, Левановіча ў „Хто смяецца апошнім“ К. Крапівы, Янкі Купалы ў „Шчасці паэта“ В. Віткі і інш.

55 10.12.1930 г. нар. Мікола Арочка — беларускі паэт і літаратуразнавец, пачаў друкавацца ў 1950 г., першы зборнік „Не ўсе лугі пакошаны“ (1958), аповесць „Хай расце маладая таполя“ (1964), аўтар даследавання „Валянцін Таўлай“ (1969) і інш.

9.12.1891 нар. беларускі паэт М. Багдановіч • 10.12.1821 нар. рускі паэт М. Някрасаў • 12.12.1821 нар. французскі пісьменнік Г. Флабер • 13.12.1797 нар. нямецкі паэт Г. Гейнэ • 15.12.1948 заснаванне Польскай аб'яднанай рабочай партыі • 21.12.1896 нар. савецкі і польскі маршал К. Ракасоўскі • 24.12.1798 нар. польскі паэт і грамадскі дзеяч А. Міцкевіч • 25.12.1642 нар. англійскі вучоны І. Ньютан • 27.12.1822 нар. французскі біёлаг і хімік Л. Пастэр • 30.12.1922 утварэнне СССР.




| Dzień | Nowy styl | Święta, imieniny | Дзень | Стары стыль | Святы, імяніны |
|---|---|---|---|---|---|
| N | 1 | Eligiusza, Natalii | Н | 18 | Платона, Рамана |
| P | 2 | Balbiny, Pauliny | П | 19 | Варлаама, Аўдзея |
| W | 3 | Franciszka | А | 20 | Грыгорыя, Анатолія |
| Ś | 4 | *Barbary*, Krystiana | С | 21 | *Увядз. ў храм Пр. Баг.* |
| C | 5 | Saby, Kryspina | Ч | 22 | Валяр'яна, Архіпа |
| P | 6 | Mikołaja, Emiliana | П | 23 | *Аляксандра Неўскага* |
| S | 7 | Marcina, Ambrożego | С | 24 | *Кацярыны*, Аўгусты |
| N | 8 | Marii, Wirginii | Н | 25 | Клімента, Пятра |
| P | 9 | Wiesława, Leokadii | П | 26 | Якава, Інакенція |
| W | 10 | Julii, Daniela | А | 27 | Паладзія, Рамана |
| Ś | 11 | Damazego | С | 28 | Сцяпана, Васілія |
| C | 12 | Adelajdy | Ч | 29 | Парамона, Нектарыя |
| P | 13 | Łucji, Otylii | П | 30 | *Андрэя Першазванага* |
| S | 14 | Alfreda, Izydora | С | 1 | Філарэта, Навума |
| N | 15 | Celiny, Waleriana | Н | 2 | Авакума, Іана |
| P | 16 | Albiny, Alicji | П | 3 | Сафоніі, Саввы |
| W | 17 | Olimpii, Łazarza | А | 4 | *Варвары*, Юльяніі |
| Ś | 18 | Gracjana, Bogusława | С | 5 | Анастасія, Захарыя |
| C | 19 | Dariusza, Urbana | Ч | 6 | *Мікалая* |
| P | 20 | Teofila, Dominika | П | 7 | Антонія, Паўла |
| S | 21 | Jana, Tomasza | С | 8 | Патапа, Кесара |
| N | 22 | Zenona, Honoraty | Н | 9 | Анны, Сцяпана |
| P | 23 | Wiktorii, Sławomiry | П | 10 | Міны, Ангеліны |
| W | 24 | Adama i Ewy | А | 11 | Данііла, Нікана |
| Ś | 25 | Boże Narodzenie | С | 12 | Спірыдона, Алякс-дра |
| C | 26 | Szepana, Dionizego | Ч | 13 | Яўгенія, Аўксенція |
| P | 27 | Jana, Maksyma | П | 14 | Калініка, Апалонія |
| S | 28 | Teofilii, Antoniego | С | 15 | Паўла, Сцяпана |
| N | 29 | Dawida, Tomasza | Н | 16 | Марына, Феафаніі |
| P | 30 | Marcelego | П | 17 | Ананія, Азарыя |
| W | 31 | Melanii, Sylwestra | А | 18 | Зоі, Севасціяна |

**Гадоў тому:**

1005 980 г. — першыя летапісныя звесткі пра Тураў, сталіцу беларускага племя дрыгавічоў.

640 1345 г. — пачынае княжыць Альгерд (нар. каля 1296 г. — пам. у 1377 г.), адзін са стваральнікаў магутнасці Вялікага княства Літоўскага.

595 1390 г. — горад Бярэсце (Брэст) атрымлівае правы на самакіраванне па магдэбургскаму праву.

495 каля 1490 г. нар. беларускі першадрукар, вучоны, асветнік і пісьменнік эпохі Адраджэння Францішак Скарына (пам. каля 1551 г.).

455 каля 1530 г. нар. беларускі гуманіст, рэфармацыйны дзеяч, філосаф, вучоны і асветнік Сымон Будны (пам. 13.1.1593 г.).

330 1655 г. — Цыпрыян Камуняка склаў адзін з каштоўнейшых помнікаў беларускага пісьменства „Ліст да Абуховіча“.

220 1775 г. — Антоній Тызенгаўз засноўвае ў Гродне Вышэйшую медыцынскую акадэмію.

185 1800 г. — нар. Міхал Кулеша (пам. 3.11.1863 г.) — графік і жывапісец, настаўнічаў у Гродне і Беластоку, стварыў шмат карцін з жыцця ў Беларусі, Літве і Польшчы, між іншым, — „Руіны замка ў Міры“, „Царква Барыса і Глеба на Каложы ў Гродне“, „Мерачоўшчына“ і інш.

170 Каля 1815 г. нар. Францішак Савіч (пам. каля 1845 г.) — беларускі рэвалюцыянер і публіцыст, супрацоўнічаў з „Садружнасцю польскага люду“ Ш. Канарскага, аўтар пракламацый „Заўвагі пра маральную вайну народа з дэспатызмам“, антыпрыгонніцкага верша „Там блізка Пінска“ і інш.

95 1890 г. — нар. Пятро Мятла (пам. 28.8.1936 г.) — дзеяч прагрэсіўнага руху ў Заходняй Беларусі, настаўнік, пасол Сейма, член Цэнтральнага камітэта Беларускай сялянска-рабочай грамады.

75 1910 г. — выйшаў першы зборнік вершаў Я. Коласа „Песні-жальбы“.

45 1940 г. у Беластоку быў створаны Рыгорам Шырмам славуты Беларускі ансамбль песні і танца, сёння — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР.

**Толькі скнара і лянівы**
**не выпісвае „Нівы”**

# НА НІВЕ БГКТ

## ЛЕТАПІС БГКТ 1983-1984

3.V.1983. У памяшканні ГП БГКТ адбылася сустрэча з намеснікам старшыні ГП, дэлегатам на Кангрэс ПРОН Янам Зенюкам, які прадставіў праблемы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Выступленні Я. Зенюка і А. Баршчэўскага ўнесены ў пратакол Кангрэса ПРОН.

11.V.1983. Адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, на якім абмяркоўваліся наступныя справы: святкаванне 25 гадавіны літаратурнага аб'яднання „Белавежа", правядзенне народных фэстаў БГКТ, актывізацыя дзейнасці таварыства ў сувязі са справаздачна-выбарчай кампаніяй БГКТ, пытанні, звязаныя з арганізацыяй Беларускага этнаграфічнага музея, а таксама ўзнаўленне гаспадарчай дзейнасці з ухілам да народнай вытворчасці. Шмат таксама гаварылася аб навучанні беларускай мовы ў школах, аб далейшым развіцці мастацкай самадзейнасці.

13.V.1983. Сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Мечыслаў Дарошка і кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ВК Пётр Дабжынскі прынялі прадстаўнікоў ГП БГКТ: старшыню Мікалая Самоціка, намесніка старшыні Яна Зенюка і сакратара Кастуся Майсеню. Разглядаўся ход выканання супольных установак Сакратарыята ВК з кіраўніцтвам ГП БГКТ, прынятых 19.XI.1982 года на супольным пасяджэнні.

13.V.1983. У Гайнаўскім беларускім ліцэі выступіў журналіст „Нівы" Мікалай Гайдук з дакладам на тэму: „Гайнаўшчына ў раннім сярэднявеччы".

15.V.1983. У Бельскім доме настаўніка адбыўся цэнтральны дэкламатарскі конкурс для школьнікаў, прысвечаны творчасці беларускіх паэтаў і празаікаў, пражываючых у Польшчы і згуртаваных у літаратурным аб'яднанні „Белавежа". У аглядзе ўдзельнічала 36 вучняў. Сярод ліцэістаў два раўназначныя першыя месцы журы прызнала Аліне Якімюк з Гайнаўкі і Ян-

ку Палавянюку з Бельска. З падставовых школ асабліва вылучыліся вучні школы ў Дубічах Царкоўных. Усе яны: Аня Корч, Янка Карнілюк і Міраслава Леанюк занялі тры першыя месцы.

21.V.1983. Праф. др Ежы Тамашэўскі, навуковы працаўнік Інстытута гісторыі Варшаўскага універсітэта, у памяшканні ГП БГКТ у Беластоку выступіў з дакладам „Нацыянальныя меншасці ў даваеннай Польшчы".

23.V.1983. У Супраслі паўстаў 15-асабовы гурток БГКТ.

27-28.V.1983. Праходзілі II дні царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, галоўным арганізатарам якіх быў Гайнаўскі дом культуры. Спаборнічалі царкоўныя хоры з Гайнаўкі, Бельска, Беластока, Легніцы, Шчэціна, Лодзі, Любліна, Крыніцы Горнай і Вроцлава.

28.V.1983. У памяшканні ГП БГКТ у Беластоку адбылася аўтарская сустрэча з Алесем Барскім, які чытаў свае вершы і расказваў аб паездцы ў Англію.

29.V.1983. З нагоды святкавання Дзён Бельска ў канцэртнай ракавіне выступалі харавыя калектывы з беларускім рэпертуарам: Васілёчкі" з Бельска, „Бярозкі" з Кнарыд і „Дзявочыя ноткі" з Бельскага беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча. На кніжным кірмашы беларускі празаік Сакрат Яновіч падпісваў свае кніжкі, а вечарам правёў ён аўтарскую сустрэчу ў бельскім клубе БГКТ.

29.V.1983. Адбыўся агляд самадзейных тэатральных калектываў БГКТ. Прыступіла да яго ўсяго два калектывы: з Беластока і Волькі Цераховскай. Беластоцкія самадзейнікі выступілі з дзвюма пастаноўкамі: „Мікітаў лапаць" і „Бацькоўскае благаслаўленне". Калектыў з Волькі выступіў з цікавай інсцэнізацыяй „Караваймніцы".

29.V.1983. Заснаваўся новы гурток БГКТ у Дуброве Беластоцкай, які ўзначальвае Аркадзь Суліма. Гурток налічвае 49 чалавек. Члены гуртка абавязаліся дапамагаць у працы існуючым гурткам БГКТ, а таксама арганізаваць новыя гурткі ў тых вёсках, у якіх жывуць беларусы.

29.V.1983. Тэатральны калектыў Беластоцкага гарадскога гуртка пад мастацкім кіраўніцтвам Янкі Крупы выступіў у Плёсках і Войшках з выбранымі сцэнкамі з п'есаў: „Паўлінка", „Мікітаў лапаць" і „Благаслаўленне".

30.V.1983. Адбылося пасяджэнне выдавецкай камісіі БГКТ. Камісія зацвердзіла матэрыялы для Беларускага календара на 1984 год і тэматыку для Беларускага календара на 1985 год.

31.V.1983. У Боцьках адбыўся заснавальны сход гуртка БГКТ, на якім сакратар ГП К. Майсеня расказаў прысутным аб ролі і заданнях гуртка, а М. Хмялеўскі пазнаёміў са статутам нашай арганізацыі. Пасля дыскусіі было выбрана праўленне гуртка. У сходзе ўдзельнічалі начальнік гміннага ўпраўлення А. Нікіцюк і кіраўнік па справах ідэалагічнай працы гміннага камітэта ПАРП В. Рышчук.

1.VI.1983. У памяшканні ГП БГКТ у Беластоку адбыўся чарговы цэнтральны агляд „Беларуская песня 83“ для школьнікаў. Удзельнічала 67 выканаўцаў: 15 салістаў, 6 дуэтаў і 6 калектываў. Конкурс быў вельмі багаты, масавы і цікавы.

2.VI.1983. Актыў варшаўскага гуртка БГКТ браў удзел у арганізацыі выступлення мастацкага калектыву „Прасніца“ з Гомеля, якое адбылося ў Доме савецкай культуры.

5.VI.1983. Тэатральная група гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку выступіла з мантажом на падставе беларускіх п'ес: „Паўлінка“, „Мікітаў лапаць“ і „Бацькоўскае благаслаўленне“ ў вёсках Кнарыды (гміна Бельск) і ў Красным Сяле (гміна Боцькі).

3.VII.1983. Пад лозунгам „25 год літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ адбыўся народны фэст у Паўночным Востраве (гміна Шудзялава). З дакладам выступіў старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік. У мастацкай частцы выступіў славуты жаночы хор з Гарадка, а таксама сямейны дуэт Люба і Аля Гаўрылюк з беластоцкіх „Каласкоў“.

5.VII.1983. Паўстаў гурток БГКТ у вёсцы Сынкаўцы, што ў гміне Новы Двор. Гурток налічвае 17 чалавек.

10.VII.1983. Адбыўся беларускі народны фэст у Рыбалах (гміна Заблудаў). З прамоваю да сабраных на фэсце жыхароў Рыбалаў і навакольных вёсак выступіў д-р Аляксандр Баршчэўскі. У мастацкай частцы выступіў калектыў песні і танца „Курпі зялёныя“, пасля „Бярозкі“ з Кнарыдаў, „Дубочкі“ з Дубяжына і мясцовы рыбалаўскі хор. Фэст закончыўся конкурсамі ведаў аб дзейнасці БГКТ і супрацьпажарнай бяспецы.

10.VII.1983. Пад лозунгам святкавання 25-годдзя літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ праходзіў таксама народны фэст у валілаўскім Борыку ля Гарадка. Пасля афіцыйнага адкрыцця фэсту слова ўзяў Мікалай Самоцік, які звярнуў увагу на дасягненні беларускага літаратурнага руху ў Народнай Польшчы. У мастацкай частцы выступіў харавы калектыў з Гарадка і беластоцкія „Каласкі“. Быў таксама сарганізаваны кірмаш кніжных выданняў БГКТ, які карыстаўся вялікім зацікаўленнем.

11.VII.1983. У памяшканні ГП БГКТ адбылася сустрэча прэзідыумаў Галоўнага праўлення БГКТ і Ваяводскай рады ПРОН з мэтай лепшага супрацоўніцтва. Ад імя Ваяводскай рады ПРОН выступіў праф. П. Борань, а ад імя Прэзідыума ГП — д-р Я. Зенюк.

17.VII.1983. У гайнаўскім амфітэатры, які знаходзіцца ў парку Трыццацігоддзя, адбыўся беларускі народны фэст. З прамовай выступіў Аляксандр Баршчэўскі. Пасля яго выступлення распачалася мастацкая частка, у якой выступілі харавыя калектывы з Гарадка, Навасадаў, Дашоў, Рыбалаў, Дубяжына, Меляшкоў і Тыневіч. На заканчэнне выступіў Гайнаўскі хор. Падчас фэсту, які праходзіў пад лозунгам дваццаціпяцігоддзя „Бела-

вежы“, вялікай папулярнасцю карысталіся кніжныя выданні БГКТ. Свае кніжкі падпісваў Сакрат Яновіч.

27.VII.1983. У памяшканні БГКТ у Гайнаўцы адбылося спатканне дырэктараў ГОКаў з дырэктарам Раённага дома культуры ў Гайнаўцы М. Бушкам і сакратаром ГП БГКТ К. Майсенем. Была падсумавана дагэтуляшняя дзейнасць гэтых устаноў у галіне дапамогі мастацкай самадзейнасці з беларускім рэпертуарам.

29.VII.1983. ГП БГКТ наведаў старшы інспектар ЦК ПАРП Веслаў Клімэк з прадстаўніком ВК ПАРП у Беластоку Багуславам Цудоўскім. Кіраўніцтва ГП праінфармавала іх аб дзейнасці Беларускага таварыства і яго праблемах.

1-30.VII.1983. Дзесяціасабовая група настаўнікаў беларускай мовы з Беласточчыны была ў ліпені ў Мінску на курсе. Заняткі на курсе вялі вядомыя ў рэспубліцы педагогі. Праграма пабыўкі ў Мінску была вельмі багатая цікавымі мерапрыемства-



*Калектыў БГКТ з Арэшкава, што каля Гайнаўкі, падчас пастаноўкі „Каравайніц“. Фота Я. Целушэцкага.*

мі і экскурсіямі. На заканчэнне курса ўсе яго ўдзельнікі атрымалі спецыяльныя пасведчанні Педагагічнага інстытута імя М. Горкага ў Мінску ў тым, што яны прайшлі 140-гадзінны курс па павышэнню настаўніцкіх кваліфікацый.

11.VIII.1983. Адбылося спатканне групы гайнаўскіх юрыстаў з К. Майсенем. Разглядалася справа бясплатных парад для членаў і прыхільнікаў Беларускага таварыства. Вырашана, што юрысты: М. Клімюк, К. Бяляўскі, С. Васілюк і В. Ажахоўскі будуць даваць бясплатныя, прававыя парады ў клубе БГКТ у Гайнаўцы кожную сераду (вул. Вызвалення № 6) ад 14 да 15 гадзіны.

12.VIII.1983. ГП БГКТ у Беластоку наведаў дырэктар аддзела культуры Ваяводскага ўпраўлення Ян Трахімяк. Супольна з ім кіраўніцтва ГП БГКТ абмеркавала магчымасці фінансавай дапамогі аддзела культуры на рамонт аб'екта ў Гайнаўцы, прызначанага на Беларускі этнаграфічны музей, магчымасці і формы дапамогі мастацкім калектывам з беларускім рэпертуарам, а таксама на выданні БГКТ.

13.VIII.1983. Па ініцыятыве Рады культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці, якая дзейнічае ў рамках Саюза польскіх студэнтаў, каля Трасцянкі (гміна Нарва), на беразе ракі Нарвы, адбылася беларуская вечарына пры вогнішчы. Спявалі беларускія народныя песні. З цікавай гутаркай па гісторыі Беларусі выступіў С. Яновіч. Пасля школьнікі з Трасцянкі пад кіраўніцтвам Галены Тапалянскай далі мастацкую частку, якую склалі беларускія песні і дэкламацыі твораў нашых „белавежцаў“. У вечарыне прысутнічаў М. Самоцік.

14.VIII.1983. Адбыўся справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Хільмонах (гміна Новы Двор). Гурток павялічыўся — 16 новых жыхароў вёскі падпісалі членскія дэкларацыі БГКТ. Было таксама выбрана праўленне гуртка і дэлегат на З'езд Таварыства.

29.VIII.1983. Праходзіла пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, якое многа ўвагі прысвяціла справе стварэння этнаграфічнага музея ў адным з памяшканняў, атрыманых у Гайнаўцы. Прэзідыум зацвердзіў асабовы склад арганізацыйнага камітэта музея, які зоймецца ўсімі справамі, звязанымі з яго ўтварэннем. Шмат увагі Прэзідыум прысвяціў таксама абмяркоўцы формаў і напрамкаў дзейнасці будучай спулдзельні працы, якая таксама будзе займаць адно з атрыманых памяшканняў у Гайнаўцы. Прэзідыум зацвердзіў праграму дзейнасці арганізацыі да X з'езда БГКТ і пазнаёміўся з рэалізацыяй плана святкаванняў 25 гадавіны літаратурнай секцыі БГКТ „Белавежа“.

1.IX.1983. Некаторыя члены Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ і журналісты „Нівы“ прынялі ўдзел у школьных урачыстасцях з нагоды пачатку навучальнага года. Усе яны выступілі з прамовамі, у якіх гаварылі аб патрэбе навучання роднай мове. І так, М. Самоцік быў у Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, К. Майсеня — у пачатковай школе № 1 у Гайнаўцы, член Прэзідыума ГП С. Трафімюк — у Беларускім ліцэі ў Бельску, журналісты „Нівы“: М. Хмялеўскі ў пачатковай школе ў Плёсках, Я. Чэрнякевіч — у Райску і Ю. Трачук — у Храбалах.

2.IX.1983. Ад першай суботы верасня кожны тыдзень ад $18^{05}$ да $18^{30}$ гадз. Польскае радыё ў Беластоку перадае беларускую радыёперадачу.

4.IX.1983. Адбыліся ўрачыстыя гмінныя дажынкі Гайнаўскай і Дубіцкай гмінаў у Махнатым. У мастацкай частцы выступілі са-

мадзейныя калектывы БГКТ з Гайнаўкі, Дубяжына, Новага Беразова, Навасад, Старога Корніна і Курашава.

7.IX.1983. Праўленне гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку пад старшынствам М. Гайдука абмеркавала ўсе справы, звязаныя з падрыхтоўкай народнага фэсту БГКТ у Беластоку.

7.IX.1983. Вучні Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы разам з настаўнікам Аляксеем Харкевічам парадкавалі пляц пры памяшканні будучага Беларускага этнаграфічнага музея БГКТ.

11.IX.1983. Адбыўся ў Гарадку мнагалюдны мітынг з нагоды адкрыцця абеліска ў памяць узнагароджання Гарадоцкай гміны Ордэнам Крыжа Грунвальда III класа. На ўрачыстасць прыбылі прадстаўнікі ваяводскіх партыйных і адміністрацыйных улад на чале з I сакратаром ВК ПАРП у Беластоку Уладзімірам Каладзеюком. Прысутнічалі таксама госці з суседняга Бераставіцкага раёна Гродзенскай вобласці БССР: сакратар райкома КПБ Вольга Белавусава, Аляксей Лінчук — старшыня Бераставіцкага выканкома і заслужаны пенсіянер, ветэран партызанскага руху Мікалай Шышкін. Пасля мітынгу адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці ў Гарадоцкім доме культуры. Выступіў гайнаўскі хор БГКТ, які працуе пад кіраўніцтвам мгр. Аляксандра Лукашука.

11.IX.1983. Прайшлі ў Бельску раённыя дажынкі. У мясцовым парку была адкрыта выстаўка бельскіх прадпрыемстваў, звязаных з сельскай гаспадаркай. Была таксама багатая мастацкая частка, у якой прынялі ўдзел нашыя беларускія калектывы: „Бярозкі" з Кнарыдаў і бельскі хор „Васілёчкі".

17.IX.1983. На 63-м годзе жыцця раптоўна памёр старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Мікалай Самоцік. Беларуская грамадскасць у Польшчы панесла вялікую страту.

30.IX.1983. Ваяводскі дом культуры ў Беластоку арганізаваў спатканне ў Мілейчыцах у рамках традыцыйных ужо „выязных пятніц". Тэма спатканoccasionally — „Супрацоўніцтва БГКТ з дамамі і асяродкамі культуры". Упершыню дзеячы культуры разам з прадстаўнікамі ГП БГКТ абмяркоўвалі такія важныя праблемы, як неабходнасць супольнага дзеяння ў мясцовасцях з беларускім насельніцтвам. Важным пунктам дыскусіі быў даклад журналіста „Нівы" Міхася Шаховіча: „Беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы". У спатканні прынялі ўдзел прадстаўнікі мясцовых гмінных улад. Сустрэча была ўпрыгожана выступленнямі жаночых харавых калектываў БГКТ з Дашоў і Чаромхі.

6.X.1983. З удзелам сакратара ВК ПАРП у Беластоку Мікалая Казака і кіраўніка аддзела інфармацыі Анатоля Вакулюка ў рэдакцыі „Нівы" адбыўся адкрыты партыйны сход на тэму актуальных задач Галоўнага праўлення БГКТ і рэдакцыі „Нівы".

7.X.1983. Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, якое вырашала праблемы: ажыўлення справаздачна-выбарчай

кампаніі ў гуртках нашай арганізацыі, правядзенне рамонту памяшкання пад будучы музей беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, а таксама арганізацыйныя справы. Прынята была справаздача аб працы БГКТ у мінулым культурна-асветным годзе.

9.X.1983. Гарадскі гурток БГКТ у Беластоку з нагоды 40 гадавіны Войска Польскага сарганізаваў сустрэчу з падпалкоўнікам Янам Матуевічам. Расказаў ён прысутным аб гістарычным баявым шляху Людовага Войска Польскага з Леніна да Берліна і аб ролі нашага войска ў часе ваеннага становішча ў Польшчы.

11.X.1983. Праўленне гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку абмеркавала пытанні, звязаныя з перадвыбарчым сходам, разважала справу ўтварэння дыскусійнага клуба ПРОН, а таксама арганізацыйныя справы.

12.X.1983. Я. Зенюк і М. Хмялеўскі сустрэліся са старшынёй Ваяводскага камітэта Стронніцтва дэмакратычнага (СД) Зыгмунтам Кумэрам і сакратаром Антонам Святліцкім. Абмяркоўваліся справы супрацоўніцтва абедзвюх арганізацый.

12.X.1983. Распачала працу ў бягучым сезоне тэатральная група гуртка БГКТ у Беластоку пад кіраўніцтвам Янкі Крупы.

12.X.1983. У Бельскім доме культуры адбылася ўрачыстая акадэмія з нагоды Дня настаўніка. У мастацкай частцы выступіў беларускі хор „Васілёчкі“ пад кіраўніцтвам мгр Сяргея Лукашука.

З нагоды 40 гадавіны Войска Польскага і бітвы пад Леніна бельскі хор „Васілёчкі“ даў канцэрт у Гацьках у мясцовай святліцы. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел запрошаныя камсамольцы з беларускага горада Слоніма.

21.X.1983. Выбраная на апошнім пленуме ГП БГКТ статутовая камісія на сваім першым пасяджэнні абмяркоўвала папраўкі да статута, якія будуць зацвярджацца X з'ездам БГКТ.

21.X.1983. Адбыўся справаздачна-выбарчы сход гуртка БГКТ у Бельску-Падляшскім. Са справаздачным дакладам выступіў старшыня Уладзімір Раеўскі, які прадставіў дасягненні ў дзейнасці бельскай арганізацыі, а таксама і некаторыя недахопы. Падкрэслівалася вялікая заангажаванасць моладзі ў дзейнасць гуртка, асабліва пры загаспадаранні новаатрыманага памяшкання БГКТ, якое выконвае ролю сапраўднага клуба з шматграннымі напрамкамі працы. Падчас дыскусіі выступіў Я. Зенюк, які праінфармаваў удзельнікаў сходу аб ходзе рэалізацыі супольных установак Сакратарыята Ваяводскага камітэта ПАРП і кіраўніцтва ГП БГКТ, прынятых восенню 1982 г., а таксама аб бягучых працах Прэзідыума перад X з'ездам БГКТ. Пасля дыскусіі было выбрана новае праўленне гуртка і дэлегаты на X з'езд таварыства.

21.X.1983. У Ваяводскім камітэце ПАРП у Беластоку адбылася сустрэча прадстаўнікоў нацыянальных таварыстваў у Польшчы

і галоўных рэдактараў прэсавых органаў таварыстваў. У сустрэчы прынялі ўдзел прадстаўнікі цэнтральных палітычных і адміністрацыйных улад у асобах: намесніка прэсавага прадстаўніка Польскага Урада Анджэя Канапацкага, старшага інструктара ЦК ПАРП Веслава Клімэка і прадстаўніка Міністэрства ўнутраных спраў Станіслава Дэмянюка. Абавязкі гаспадара ўзяў на сябе сакратар Ваяводскага камітэта партыі Мікалай Казак. У дыскусіі прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх нацыянальных таварыстваў. Ад беларусаў выступалі Ян Зенюк і Аляксандр Баршчэўскі. У сваіх выступленнях закранали яны ўсе тыя асноўныя праблемы, якія пастаянна хвалююць усіх дзеячоў таварыстваў нацыянальных меншасцей.

22.X.1983. Адбыўся справаздачна-выбарчы сход у Залуках (гміна Гарадок). Пасля справаздачы аб дагэтуляшняй працы гуртка і дыскусіі было выбранае новае праўленне гуртка і дэлегат на X з'езд Беларускага таварыства. Сход абслужыў член ГП БГКТ, журналіст „Нівы" Мікалай Гайдук, які расказаў прысутным аб дзейнасці Галоўнага праўлення БГКТ.

22.X.1983. Справаздачна-выбарчы сход гуртка БГКТ у Валілах



*Калектыў БГКТ з Меляшкоў, што каля Гарадка, у пастаноўцы „Вяселля". Фота Я. Целушэцкага.*

(гміна Гарадок) падсумаваў сваю дзейнасць і выбраў новае праўленне, а таксама дэлегата на з'езд. Сход абслужыла інспектар ГП Ірэна Васілюк, яна расказала аб бягучай дзейнасці Беларускага гаварыства.

23.X.1983. Рада клуба гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку прыняла план працы на асенне-зімовы сезон. Вечарам для членаў і сімпатыкаў БГКТ была сарганізавана дыскатэка.

25.X.1983. Адбыўся першы арганізацыйны сход гуртка БГКТ у Мельніку. Сход вёў старшыня ГСу Яўген Шышка, які выказаў патрэбу ўтварэння ў Мельніку гуртка БГКТ. У сходзе ўдзельнічалі: Міхась Хмялеўскі і інспектар ГП Міхась Вішанка. Пазнаёмілі яны са статутам арганізацыі і расказалі аб яе дзейнасці і дасягненнях. Затым прысутныя падпісалі членскія дэкларацыі і выбралі праўленне гуртка. Гурток налічвае 13 чалавек.

26.X.1983. Адбыўся арганізацыйны сход дыскусійнага клуба ПРОН пры гарадскім гуртку БГКТ у Беластоку. У склад рады гэтага клуба выбраны: Васіль Петручук — старшынёй, Ян Зенюк, Юрка Трачук і Антон Мірановіч — членамі. Намеснік старшыні ГП БГКТ і адначасова намеснік старшыні Ваяводскай рады ПРОН Ян Зенюк расказаў, чым займаецца ПРОН і як у ім ставяцца да справы нашай беларускай меншасці.

28.X.1983. У Доме культуры ў Бельску-Падляшскім прайшоў канцэрт царкоўнага хору з Варшавы пад кіраўніцтвам Ю. Шурбака, родам з Бельшчыны. Другі канцэрт адбыўся ў царкве св. Арх. Міхаіла ў Бельску.

28.X.1983. У падставовай школе № 2 у Гайнаўцы адбылася канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы падставовых школ Гайнаўшчыны. Паказальны ўрок беларускай мовы ў 4 класе, які вяла настаўніца Вольга Андраюк, прысвечаны быў тэме „Шануй і паважай працу". Запрошаны на канферэнцыю Антон Мірановіч падзяліўся з настаўнікамі поглядамі гісторыкаў на паходжанне слова „Русь" і „Белая Русь" і расказаў пра даўнюю гісторыю нашых зямель. У класе сарганізавана была вельмі цікавая выстаўка „Народная творчасць — скарбніца ведаў аб народзе".

3.XI.1983. Кастусь Майсеня і Міхась Хмялеўскі сустрэліся ў Сямяцічах з I сакратаром гмінна-гарадскога камітэта ПАРП Антонам Брыкам і абмеркавалі магчымасці шырэйшай дзейнасці мясцовага гуртка БГКТ. Падобная сустрэча адбылася ў Сямяціцкім доме культуры з яго дырэктарам Антонам Хілінскім.

4.XI.1983. У Рыбаках (гміна Міхалова) адбыўся справаздачна-выбарчы сход гуртка БГКТ. У рады нашай арганізацыі было прынята на сходзе 6 чалавек і цяпер гурток налічвае 32 чалавек. Сход абслужыў Аляксандр Баршчэўскі, які гаварыў аб дзейнасці БГКТ у Польшчы, а таксама аб міжнароднай сітуацыі. Пасля было выбрана новае праўленне гуртка і дэлегаты на X з'езд таварыства.

4-5.XI.1983. У актавай зале Медыцынскай акадэміі ў Беластоку прайшла навуковая канферэнцыя, прысвечаная польска-беларускім культурным узаемасувязям, у якой прынялі ўдзел вядомыя прадстаўнікі навукі. Канферэнцыю адкрыў прадстаўнік беластоцкага навуковага асяроддзя д-р Генрык Маецкі, які звярнуў увагу на тое, што праблематыка польска-беларускіх культурных узаемасувязей ужо многа гадоў з'яўляецца адным з асноўных пытанняў даследчыкаў. На працягу двухднёвай канферэнцыі выступіла 12 дакладчыкаў.

5.XI.1983. Гурток БГКТ у Вітаве (гміна Гайнаўка) на сваім справаздачна-выбарчым сходзе выбраў новае праўленне і дэлегата на З'езд.

5.XI.1983. У Доме культуры „Гурнік" у Гайнаўцы адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 66-й гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. У мастацкай частцы выступіў хор Украінскага таварыства „Жураўлі", які прыехаў у Гайнаўку на гасцінныя канцэрты. Пасля канцэрта „Жураўлі" і гайнаўскі хор БГКТ правялі сяброўскую сустрэчу.

5.XI.1983. З нагоды свята Кастрычніцкай рэвалюцыі бельскі хор „Васілёчкі" даў канцэрт у Нарве ў мясцовай святліцы.

6.XI. 1983. Справаздачна-выбарчыя сходы гурткоў БГКТ прайшлі ў Чэхах Арлянскіх і Арэшкаве.

7.XI.1983. У Бельскім доме культуры адбылася ўрачыстая акадэмія, прысвечаная 66 гадавіне Вялікага Кастрычніка, з удзелам мясцовых улад. У мастацкай частцы выступілі гарцэры і вучні Беларускага ліцэя ў Бельску. Выступіў таксама хор „Васілёчкі".

11.XI.1983. Па ініцыятыве беластоцкага аддзела Рады культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей Саюза польскіх студэнтаў у памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку адбыліся ўрачыстыя атрасіны студэнтаў-першакласнікаў. У атрасінах прынялі ўдзел I сакратар камітэта ПАРП у Беластоцкай палітэхніцы Антон Юшчак, праф. Беластоцкай палітэхнікі д-р габ. інж. Анатоль Якаўлюк і навуковыя працаўнікі палітэхнікі і беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта дактары навук Валянцін Анішчук, Анатоль Адзіевіч, Фёдар Брэчка і Мікалай Кандрусік. Урачыстасць упрыгожыла выступленне беларускага хору з Гайнаўкі, які спецыяльна прыехаў у Беласток для гэтай нагоды.

13.XI.1983. Гурток БГКТ у Беластоку арганізаваў сустрэчу з лектарам ТВП Станіславам Вуйцікам, які выступіў з дакладам на тэму сусветнага значэння Кастрычніцкай рэвалюцыі.

19.XI.1983. Рада клуба гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку арганізавала танцавальную вечарыну для моладзі.

20.XI.1983. Бельскі хор „Васілёчкі" выступіў з канцэртам для бацькоў вучняў, якія вучацца ў беларускім ліцэі ў Бельску.



*Харавы калектыў БГКТ з Рыбалаў гм. Заблудаў са сваім кіраўніком П. Нявінскім (у сярэдзіне, з гармонікам).*

*Фота — архіў „Нівы“.*

24.XI.1983. У справаздачна-выбарчым сходзе гуртка БГКТ у Сямяцічах удзельнічалі К. Майсеня і інспектар ГП Міхась Вішанка. Прысутныя выбралі новае праўленне гуртка і дэлегатаў на X з'езд БГКТ.

24.XI.1983. Бельскі хор „Васілёчкі“ выступіў з канцэртам для ўдзельнікаў семінара, які адкрыў новы культурна-асветны сезон 1983/84 г. у Бельску, а таксама для вучняў Эканамічнага ліцэя ў Бельску.

27.XI.1983. Мілейчыцкі гурток БГКТ на сваім сходзе дыскутаваў аб больш эфектыўнай дзейнасці беларускай арганізацыі. Было выбрана новае праўленне гуртка і дэлегаты на X з'езд БГКТ.

27.XI.1983. Адбыўся справаздачна-выбарчы сход беластоцкага гарадскога гуртка БГКТ, які налічвае каля 700 членаў. Са справаздачным дакладам выступіў старшыня гуртка Мікалай Гайдук. Пасля дыскусіі адбыліся выбары новага праўлення і дэлегатаў на X з'езд таварыства. На заканчэнне сходу сарганізавана была мастацкая частка ў выкананні аматарскага тэатральнага калектыву пад кіраўніцтвам Янкі Крупы. Выступалі таксама Люба і Аля Гаўрылюк з „Каласкоў“.

28.XI.1983. Камісія культуры ГП падсумавала сваю дзейнасць у мінулым культурна-асветным сезоне і вызначыла план працы да X з'езда БГКТ

4.XII.1983. З нагоды 25-й гадавіны аб'яднання „Белавежа" выдадзены быў літаратурны нумар „Нівы", у цэласці прысвечаны творчасці „белавежцаў".

4.XII.1983. Бельскі хор „Васілёчкі" выступіў з канцэртам у Сакольскім доме культуры.

15.XII.1983. У падставовай школе № 3 у Бельску адбылася чарговая раённая канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Прыкладны ўрок у 5-м класе вяла методык навучання беларускай мовы Тамара Русачык. Запрошаны на канферэнцыю журналіст „Нівы" Мікалай Гайдук правёў цікавую гутарку аб мінулым нашых зямель, а таксама адказваў на шматлікія пытанні настаўнікаў адносна новых падручнікаў.

18.XII.1983. Адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ. На парадку дня было падсумаванне справаздачна-выбарчай кампаніі ў гуртках і інфармацыя аб арганізацыі музея і спулдзельні, якія прадставіў сакратар ГП Кастусь Майсеня, а таксама прапановы наконт паправак у статуце БГКТ, якія прадставіў старшыня статутовай камісіі Вінцук Склубоўскі. Пасля дыскусіі пленум выбраў дзве камісіі X з'езда БГКТ: 1) арганізацыйную ў асобах: Я. Зенюк, К. Майсеня, В. Ласкевіч, У. Раеўскі і В. Бура, 2) праграмную ў складзе: А. Баршчэўскі, А. Іванюк, М. Гайдук, А. Карпюк і Х. Галёнка.

22.XII.1983. Выйшаў з друку „Беларускі каляндар на 1984 год" тыражом у 8.000 экземпляраў.

27.XII.1983. Прэзідыум ГП на сваім чарговым пасяджэнні разгледзеў выкананне плана працы за мінулае паўгоддзе, а таксама бягучыя справы.

28.XII.1983. З удзелам К. Майсені адбыўся справаздачна-выбарчы сход гуртка БГКТ у Дубінах, што каля Гайнаўкі. У БГКТ было прынята 16 новых членаў і гурток цяпер налічвае 50 чалавек. Сход выбраў таксама новае праўленне і дэлегата на X з'езд БГКТ.

28.XII.1983. Адбыўся справаздачна-выбарчы сход гуртка БГКТ у Гарадку. З дакладам аб дзейнасці гуртка выступіла Ніна Цыванюк. У дыскусіі выступілі таксама прадстаўнікі Галоўнага праўлення А. Баршчэўскі і М. Хмялеўскі. Затым адбыліся выбары новага праўлення і дэлегата на X з'езд БГКТ.

29.XII.1983. У Гайнаўскім доме культуры „Гурнік" адбыўся літаратурны вечар „белавежцаў", у якім прынялі ўдзел: Віктар Швед, Алесь Барскі, Сакрат Яновіч, Васіль Петручук, Іван Кірызюк, Юрка Трачук, а таксама два дэбютанты — Мікалай Ваўранюк і Янка Мордань. Дырэктар Гайнаўскага дома культуры, які вёў літаратурны вечар, уручыў „белавежцам" грашовыя ўзнагароды за папулярызацыю роднага слова.

30.XII.1983. Адбыўся справаздачна-выбарчы сход гуртка БГКТ у Гайнаўцы. З дакладам выступіў Сяргей Харкевіч. Пасля ажыў-

ленай дыскусіі адбыліся выбары новага праўлення гуртка і дэлегатаў на X з'езд.

31.XII.1983. У памяшканні ГП БГКТ адбыўся традыцыйны навагодні баль, у якім прыняло ўдзел звыш 200 членаў і сімпатыкаў БГКТ.

12.I.1984. Адбылася сустрэча прадстаўнікоў ГП Янкі Зенюка, Кастуся Майсені і Міхася Хмялеўскага з дырэктарам Прадпрыемства распаўсюджвання прэсы і кніжкі Юзэфам Пяхоўскім і кіраўніком секцыі прапаганды і культуры „Руху" Веславам Петухам. Былі абмеркаваны справы далейшага супрацоўніцтва і фінансавай дапамогі ў культурна-асветнай дзейнасці БГКТ, асабліва ў правядзенні аўтарскіх сустрэч нашых літаратараў у клубах „Рух".

13-14.I.1984. Прайшлі традыцыйныя навагоднекарнавальныя балі ў Беластоку, Гайнаўцы і Варшаве, сарганізаваныя гурткамі БГКТ.

14.I.1984. На малой сцэне Драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі ў Беластоку адбылася прэм'ера „Парога" Аляксея Дударава — маладога беларускага драматурга з БССР. На дзве гадзіны перад прэм'ерай адбылася сустрэча, падчас якой нашы літаратары Сакрат Яновіч і Міхась Шаховіч пазнаёмілі запрошаных гасцей з сучаснай беларускай драматургіяй, польска-беларускімі літаратурнымі сувязямі і літаратурным беларускім рухам у Народнай Польшчы. Затым пры каве і гарбаце прайшла цікавая дыскусія, у якой выступіў дырэктар тэатра Тадэуш Александровіч. Гава-



*Імпрэзы БГКТ карыстаюцца папулярнасцю. На фэсце, які сарганізаваў гарадскі гурток БГКТ горада Беластока ў гарадскім парку Звярынец. Фота М. Гайдука.*

рыў ён аб выхаваўчай ролі тэатра і аб яго абавязках з увагі на нацыянальны склад жыхароў г. Беластока і рэгіёна.

16.1.1984. Адбылося пасяджэнне гістарычнай секцыі БГКТ пад старшынствам Вінцука Склубоўскага. Былі абмеркаваны справы ўдзелу секцыі ў арганізаванні святкавання 40 гадавіны Народнай Польшчы, а таксама ўдакладненне тэм для падрыхтоўкі кніжкі, прысвечанай 30 гадавіне Беларускага таварыства.

17.1.1984. Па ініцыятыве Галоўнага праўлення БГКТ паўстаў Грамадскі камітэт пабудовы Этнаграфічнага музея беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і Музея рэвалюцыйнага руху у Гайнаўцы ў складзе 33 чалавек, у асноўным актывістаў БГКТ і грамадскіх дзеячоў Беласточчыны.

19.1.1984. У падставовай школе ў Пашкоўшчыне (гміна Орля) адбылася навагодняя ёлка для школьнікаў. У мастацкай частцы вучні 7 і 8 класаў паказалі п'есу Алеся Барскага „Гарадскія госці".

19.1.1984. Пад старшынствам Георгія Валкавыцкага адбылося пасяджэнне выдавецкай камісіі ГП, якая падсумавала сваю працу за мінулыя чатыры гады, а таксама разгледзела бягучыя выдавецкія справы БГКТ, між іншым, на рэдактара „Беларускага календара на 1985 г." пакліканы М. Гайдук.

21.1.1984. У будынку Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку была арганізавана ёлка для дзяцей працаўнікоў ГП, актывістаў і ўдзельнікаў танцавальнай групы. Былі розныя конкурсы, танцы і кінафільм. Дзед Мароз прынёс усім падарункі.

24.1.1984. Галоўная рэвізійная камісія БГКТ правяла фінансавую кантроль ГП за 1983 год.

24.1.1984. Члены Прэзідыума ГП Я. Зенюк і В. Ла[illegible]евіч правялі сустрэчу з епіскапам Беластоцка-Гданьскай епархіі др-ам а. Саввам.

25.1.1984. Праўленне гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку прыняло праграму дзеяння на 1984 год і план працы на I квартал.

26.1.1984. У беластоцкім „Арсенале" была адкрыта чарговая персанальная выстаўка мастацкіх работ Анатоля Корзуна — вядомага мастака родам з Гайнаўшчыны.

31.1.1984. Адбылася навагодняя ёлка для дзяцей у варшаўскім клубе БГКТ.

3.II.1984. З удзелам К. Майсені і М. Хмялеўскага адбыўся справаздачна-выбарчы сход гуртка БГКТ у Паўлах (гміна Заблудаў). Пасля ажыўленай дыскусіі выбрана было новае праўленне гуртка і дэлегат на X з'езд БГКТ.

5.II.1984. Гайнаўскі беларускі хор выступіў з канцэртам у Нарве, а вечарам у 18 гадзін даў другі канцэрт у памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ.

6.II.1984. Адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Была зацверджана справаздача з дзейнасці Беларускага таварыства за 1983 год і абмеркаваны справы, звязаныя са справаздачна-выбарчай кампаніяй у БГКТ. Прэзідыум зацвердзіў план мерапрыемстваў, прысвечаных святкаванню 40-й гадавіны Народнай Польшчы.

14.II.1984. Праграмная камісія X з'езда БГКТ на сваім першым пасяджэнні пад старшынствам А. Баршчэўскага абмяркоўвала пытанні па праграме працы на наступную кадэнцыю дзейнасці БГКТ.

16.II.1984. Адбылося пасяджэнне праўлення гайнаўскага гуртка БГКТ, якое выбрала старшынёй свайго праўлення настаўніка Васіля Іванюка. Быў таксама прадстаўлены і зацверджаны план працы гуртка на першае паўгоддзе 1984 г.

18.II.1984. У вясковым клубе „Рух" у Дабрывадзе (гміна Кляшчэлі) адбыўся раённы агляд конкурса „Беларуская песня 84". На аглядзе выступілі тры калектывы з Чаромхі, Дашоў і мясцовы, дабрыводаўскі.

19.II.1984. Бельскі хор „Васілёчкі" даў канцэрт для бацькоў, дзеці якіх вучацца ў зборнай гміннай школе ў Бельску.

20.II.1984. На нарадзе групы актыву БГКТ у Беластоку былі разгледжаны формы рэалізацыі праграмы святкавання 40-й гадавіны Народнай Польшчы.

22.II.1984. Адбыўся справаздачна-выбарчы сход гуртка БГКТ у Гданьску. Справаздачны даклад з дзейнасці гданьскай арганізацыі за апошнія чатыры гады прадставіла сакратар гуртка Анна Іванюк. У шырокай дыскусіі закрануты былі шматлікія справы, якія хвалююць гданьскае беларускае асяроддзе. Сход закончыўся выбарамі новага праўлення гуртка і дэлегатаў на X з'езд.

22.II.1984. ГП БГКТ, ВП ТППР і Ваяводскі вайсковы штаб у Беластоку з нагоды 66-й гадавіны Савецкай Арміі наладзіў урачысты вечар у Беластоцкай філармоніі. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі партыйных і адміністрацыйных улад, многа людзей, у тым шмат членаў БГКТ. З дакладам выступіў начальнік Ваяводскага штаба Леан Сямёнчык і падпалкоўнік Савецкай Арміі Аляксандр Шчэрбіна. У мастацкай частцы багатую праграму прадставіў бельскі хор „Васілёчкі" пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука.

26.II.1984. Адбыліся адначасова тры раённыя агляды ў конкурсе „Беларуская песня 84": у Беластоку, Бельску і Дуброве Беластоцкай.

На працягу месяца лютага студэнцкая галерэя „Дзеканка" ў Варшаве гасціла ў сваіх залах выстаўку студэнта 5-га курса Варшаўскай акадэміі мастацтваў Лёніка Тарасэвіча, дзеяча гуртка БГКТ у Варшаве.

1.III.1984. У варшаўскім клубе БГКТ з дакладам „Вытокі беларускага адраджэнскага руху“ выступіў Юры Туронак, які запачаткаваў гэтым новы цыкл дакладаў, прысвечаных навейшай гісторыі Беларусі.

3.III.1984. У Гайнаўцы адбыўся фінальны агляд конкурса „Беларуская песня 84“ у катэгорыі фальклорнай песні. Удзельнічалі калектывы з Хільмонаў, Курашава, Меляшкоў, Арэшкава, Гарадка, Беластока, Дашоў, Кнарыдаў і Тыневіч Вялікіх.

4.III.1984. У Пашкоўшчыне адбылася школьная ўрачыстасць. Вучні са старэйшых класаў па просьбе сваіх бацькоў выступілі з п'есай А. Барскага „Гарадскія госці“. Пасля адбылося спатканне школьнікаў і іх бацькоў з запрошанымі гасцямі: Алесем Барскім, Васілём Петручуком і Янкам Кірызюком, якія чыталі свае творы. Кастусь Майсеня расказаў аб працы БГКТ, а Міхась Хмялеўскі аб працы рэдакцыі „Нівы“.

4.III.1984. У „Ніве“ ад 4 сакавіка г.г. аб'яўлены быў літаратурны конкурс „Узыходы“, прысвечаны 40-годдзю Народнай Польшчы.

4.III.1984. У Бельскім доме культуры адбыўся фінальны агляд сучаснай аўтарскай беларускай песні ў конкурсе „Беларуская песня 84“. У ім прынялі ўдзел калектывы: з Бельскага беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча, Гарадка, Рыбалаў і Грабянёў. Выступалі салісты і дуэты з Кляшчэляў, Гарадка, Дубяжына і Бельска.

9.III.1984. Адбылася сустрэча прадстаўнікоў Прэзідыума ГП з кіраўніцтвам Упраўлення горада Гайнаўкі па справе рамонту будынку на Этнаграфічны музей беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. У сустрэчы ўдзельнічалі: начальнік Гайнаўскага ўпраўлення Станіслаў Кастэра, намеснік начальніка Ядвіга Патэюк, а таксама сакратар гарадскога камітэта ПАРП Мечыслаў Охня і намеснік дырэктара Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці Аляксандр Прыступюк.

14.III.1984. Праўленне гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку пад старшынствам Валянціны Ласкевіч абмяркоўвала падрыхтоўку да святкаванняў 40-й гадавіны ПНР, а таксама разгледзела бягучыя справы гуртка.

17.III.1984. На сходзе дыскусійнага клуба ПРОН пры гарадскім гуртку БГКТ у Беластоку намеснік старшыні ГП д-р Ян Зенюк праінфармаваў прысутных аб новым выбарчым Палажэнні, на падставе якога разам з іншымі і нашая беларуская арганізацыя ўпершыню мае права выстаўляць кандыдатаў у радныя.

18.III.1984. Адбылося ў Гайнаўцы выязное пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, на якім супольна з мясцовымі ўладамі абмяркоўваліся справы беларускага музея.

18.III.1984. Рэактываваў дзейнасць гурток БГКТ у Доўгім Бродзе (гміна Дубічы Царкоўныя).

22.III.1984. У варшаўскім клубе БГКТ выступіла з дакладам д-р Т. Ясінская. Тэма даклада: „Гісторыя развіцця беларускай літаратурнай мовы“.

23.III.1984. Адбыўся сход гуртка БГКТ у Міхалове, які выбраў новае праўленне. Прысутны на сходзе А. Баршчэўскі расказваў аб культуры і традыцыях беларусаў, а К. Майсеня праінфармаваў аб дзейнасці БГКТ.

4.IV.1984. У варшаўскім клубе БГКТ адбыўся вечар, прысвечаны перакладчыцкай дзейнасці паэта Віктара Шведа.

8.IV.1984. Адбыўся VIII пленум ГП БГКТ, які дапоўніў і прыняў дакументы на X з'езд: справаздачу ГП аб дзейнасці за мінулыя 4 гады, праект новага статута БГКТ і праекты праграмы і пастаноў X з'езда.

15.IV.1984. У Беластоку адбылася нарада дэлегатаў на X з'езд БГКТ з Сакольскага, Дубро́ўскага, Беластоцкага раёнаў і горада Беластока. На ёй былі абмеркаваны матэрыялы на з'езд: справаздача ГП з чатырохгадовай дзейнасці і праект паправак у статуце БГКТ. Нараду дэлегатаў вёў М. Хмялеўскі. Удзельнікі нарады сустрэліся з беларускім драматургам з Мінска Аляксеем Дударавым, якога п'есу „Парог“ паставіў Драматычны тэатр імя А. Вянгеркі ў Беластоку. У сустрэчы ўдзельнічалі таксама рэжысёр „Парога“ Мірыям Александровіч і дырэктар тэатра Тадэуш Александровіч.

15.IV.1984. У Гайнаўцы адбылася раённая нарада дэлегатаў на X з'езд БГКТ. У ёй удзельнічалі: Ян Зенюк, Кастусь Майсеня, Аляксандр Баршчэўскі і Аляксандр Іванюк.

11.IV.1984. У варшаўскім клубе БГКТ Юры Туронак выступіў з дакладам, у якім падвёў вынікі беларускаму адраджэнскаму руху 1900-1914 гадоў. Была таксама гутарка аб арганізацыі беларускіх школ у час нямецкай акупацыі.

2.V.1984. У варшаўскім клубе БГКТ выступіў Алесь Барскі, які расказаў аб сваёй літаратурнай дзейнасці ў апошні час, пазнаёміў са сваімі перакладамі твораў беларускіх пісьменнікаў на польскую мову і прачытаў некалькі новых вершаў.

6.V.1984. Адбыўся X з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У памяшканні прафсаюзаў у Беластоку сабралася 99 дэлегатаў з усіх бакоў Беласточчыны, а таксама з Варшавы, Аўгустова і Гданьска. З'езд распачаўся мастацкай часткай у выкананні вучняў Бельскага беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча. Выступілі яны са слоўна-музычным мантажам па творах „белавежцаў“. Потым выступіў славуты бельскі хор „Васілёчкі“, які сваёй праграмай захапіў усіх прысутных. Затым намеснік старшыні ГП Ян Зенюк адкрыў З'езд і ад імя дэлегатаў сардэчна прывітаў прыбыўшых на яго гасцей, прадстаўнікоў партыйных і адміністрацыйных улад і прадстаўнікоў арганізацый: В. Клімэка — старшага інспектара адміністрацыйнага аддзела Цэнтральнага камітэта ПАРП, С. Дэмянюка — намесніка начальніка грамадска-



*Прэзідыум X з'езда БГКТ. Фота Ю. Трачука.*

адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў, М. Дарошку — сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, С. Кікольскага — кіраўніка сельскагаспадарчага аддзела Ваяводскага камітэта ЗСЛ, Г. Кержаноўскую — кіраўніка аддзела ідэалогіі, прэсы і прапаганды Ваяводскага камітэта СД, В. Дамброўскага — намесніка старшыні Ваяводскай рады ПРОН, К. Канопку — дырэктара грамадска-адміністрацыйнага аддзела Ваяводскага ўпраўлення, К. Дэркоўскага — дырэктара Ваяводскага дома культуры, В. Мялешку — намесніка беластоцкага куратара асветы і выхавання, Ю. Трусевіча — намесніка старшыні Ваяводскага ўпраўлення ТППР, А. Дырдала — намесніка дырэктара аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення, В. Петуха — кіраўніка культурна-асветнага аддзела Ваяводскага ўпраўлення „Рух", А. Зэман з Ваяводскага праўлення ЗГП і Р. Віткоўскага — старшыню Галоўнага праўлення Літоўскага таварыства.

Затым былі выбраны старшыні З'езда ў асобах: Аляксандра Іванюка і Аляксея Карпюка, а таксама пакліканы Прэзідыум З'езда ў 14-асабовым складзе. Пасля гэтага старшыням З'езда ліцэісты з Бельска і Гайнаўкі ўручылі кветкі і ад імя сваіх школ зачыталі прывітальныя лісты ўдзельнікам З'езда. Быў таксама зачытаны ліст ад Ваяводскай рады ПРОН у Беластоку. Ад імя ўступаючага Прэзідыума ГП А. Баршчэўскі выступіў з уводным словам да дыскусіі. Са справаздачным дакладам Галоўнай рэвізійнай камісіі выступіў яе старшыня М. Хмялеўскі. Затым старшыня З'езда А. Іванюк запрапанаваў выбраць камісіі: мандатную, статутовую, пастаноў і выбарчую. Пасля іх паклікання распачалася дыскусія, у якой выступілі: М. Шаховіч і В. Ласкевіч з Бе-

ластока, І. Баўранюк з Макаўкі, М. Аляксеюк з Варшавы, К. Дэркоўскі — дырэктар ВДК у Беластоку, А. Іванюк — дэлегат з Гданьска, М. Дарошка — сакратар ВК ПАРП у Беластоку, С. Дэмянюк з Міністэрства ўнутраных спраў, С. Кікольскі з ВК ЗСЛ, М. Байко з Белавежы і В. Рудчык — журналіст „Нівы“. Пасля перапынку выступілі старшыні паасобных камісій З'езда. Старшыня статутовай каімсіі В. Склубоўскі прадставіў папраўкі да статута БГКТ і яны аднагалосна былі прыняты. Старшыня мандатнай камісіі В. Петручук паінфармаваў, што на 135 выбраных дэлегатаў 99 прымае ўдзел у X з'ездзе. Старшыня выбарчай камісіі В. Швед прадставіў спісак прапанаваных кандыдатаў у склад новага Галоўнага праўлення, Рэвізійнай камісіі і ў Таварыскі суд. Пасля невялікіх паправак адбылося галасаванне і большасцю галасоў былі выбраны новыя ўлады БГКТ. З'езд закончыўся прыняццём пастаноў, якія прадставіў старшыня камісіі пастаноў М. Гайдук. Яны былі прыняты аднагалосна. Затым адбыўся першы пленум ГП, на якім быў выбраны Прэзідыум ГП БГКТ




*Перад дэлегатамі і гасцьмі X з'езда БГКТ з літаратурна-песенным мантажом „Люблю наш край“ па творах беларускіх пісьменнікаў у Польшчы выступілі ліцэісты Бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча. Фота Ю. Трачука.*

на чале з д-р А. Баршчэўскім, а таксама кіраўніцтвы Рэвізійнай камісіі і Таварыскага суда.

12.V.1984. У доме культуры імя К. Каліноўскага ў Гарадку адбылося ўрачыстае святкаванне юбілею 30-годдзя беларускага харавога калектыву. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі мясцовых і ваяводскіх органаў улады. Урачыстасць адкрыў намеснік старшыні ГРН у Гарадку М. Дуброўскі. З дакладам выступіў начальнік Гміны С. Гацко. Пасля даклада калектыў выступіў з багатым канцэртам. Затым адбылося ўрачыстае адзначэнне членаў калектыва. Р. Дылько, Г. Кот і В. Мядзведзеў узнагароджаны сярэбраным знакам „Заслужаны Беласточчыне". Бронзавыя медалі за заслугі для пажарніцтва атрымалі: Н. Мушынская, Н. Цыванюк і С. Копа. Адзнакі за перамогу ў супрацьпажарніцкім спаборніцтве былі ўручаны: В. Мядзведзеў, Р. Дылько, Н. Парэмбскай і І. Паўлючук. Былі таксама рэчавыя ўзнагароды калектыву ад Гарадоцкага гміннага ўпраўлення, мясцовага спулдзельчага банка, пажарнай каманды і Галоўнага праўлення БГКТ. З падзякай для калектыву выступілі: намеснік старшыні ГП Я. Зенюк, дырэктар Ваяводскага дома культуры К. Дэркоўскі і старшыня гуртка БГКТ у Беластоку В. Ласкевіч.

12.V.1984. З удзелам інспектара ГП Аляксандра Рафаловіча адбыўся сход гуртка БГКТ у Сухінічах (гміна Шудзялава), на якім расказаў ён як праходзіў X з'езд БГКТ і якія прыняў пастановы. З такой жа самай тэматыкай прайшоў 13.V.1984 г. сход гуртка ў Слоі (гміна Шудзялава).

15.V.1984. Дуброўскі гурток БГКТ, які ўзначальвае Аркадзь Суліма, таксама азнаёміўся з вынікамі X з'езда БГКТ і абмяркоўваў, як уключыцца ў выкананне яго пастаноў.

18-19.V.1984. У гайнаўскай новай царкве прайшлі III дні царкоўнай музыкі. У іх прынялі ўдзел царкоўныя хоры з Белавежы, Чыжоў, Любліна, Вроцлава, Беластока і Гайнаўкі. Выступілі таксама два мужчынскія хоры „Цантілэна" з Вроцлава, „Жураўлі" з Варшавы і маладзёжны хор з Фінляндыі.

20.V.1984. У клубе БГКТ у Беластоку адбылася аўтарская сустрэча з Сакратам Яновічам.

20.V.1984. Васіль Петручук на аўтарскай сустрэчы ў вёсках Пянькі і Новая Воля (гміна Міхалова) чытаў свае творы і адказваў на шматлікія пытанні.

22.V.1984. Адбылося пасяджэнне праўлення гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку. Абмеркаваны былі справы арганізацыі 1 ліпеня г.г. у Беластоку фэсту БГКТ з нагоды 40-годдзя Народнай Польшчы.

27.V.1984. Гайнаўскі беларускі хор выступіў з двума канцэртамі — у Міхалове і Гарадку.

27.V.1984. У памяшканні ГП БГКТ у Беластоку адбыўся цэнтральны дэкламатарскі конкурс для школьнікаў, які ў гэтым го-

дзе праходзіў пад лозунгам „Ідэя свабоды і дружбы ў беларускай прозе і паэзіі“. На конкурсе выступіла 17 ліцэістаў з Гайнаўскага і Бельскага ліцэяў і 23 вучні з 13 падставовых школ.

У маі выйшла з друку кніжка гумарыстычных апавяданняў Міхася Шаховіча „Вада ў рэшаце“, яе выдала Галоўнае праўленне БГКТ.

У маі ў кнігарнях Беластока паявіўся ў продажы „Пан Тадэуш“ Адама Міцкевіча ў перакладзе на беларускую мову Браніслава Тарашкевіча.

**Яўгіння Палоцкая**

---

# Музей чакае!

Ад кожнага з нас залежыць, ці патрапім мы захаваць нашу беларускую культуру. Нашыя продкі стваралі яе ўласным намыслам і рукамі з надзеяй, што мы яе ўшануем, захаваем і яна будзе жыць вечна. Найлепшым яе захавальнікам стане наш беларускі музей у Гайнаўцы.

Музей ужо ствараецца. Зроблены ўсе неабходныя працы і пачаўся збор грашовых сродкаў на пераробку будынкаў, абсталяванне іх на музей, збор экспанатаў і г.д. Працуе грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху. Яго адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6, tel. 28-89.

Грашовыя ахвяраванні на пабудову музея просім уплочваць на конта: Bank Spółdzielczy w Hajnówce. Nr konta 905217-1922-132.

Ахвяраванні з-за граніцы просім накіроўваць на рахунак: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku. Rachunek walutowy: 5018-24325-151-6787.

Будуем наш музей — дом нашай роднай беларускай культуры!

Патрэбны ўклад кожнага з нас. З усіх па стольki, колькі хто зможа — і наш музей паўстане.

Музей помнікаў беларускай культуры чакае Тваёй ахвярнасці!

---

# Выбраныя X з'ездам новыя ўлады Беларускага грамадска-культурнага таварыства

## ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БГКТ

Крысціна Алекша
Мікола Алексяюк
Уладзімір Баранчук
Анатоль Барута
Аляксандр Баршчэўскі
Віктар Бура
Мікола Бушко
Яўген Валкавыцкі
Яўген Вапа
Мікола Гайдук
Хведар Галёнка
Люба Гаўрылюк
Віктар Грыгорук
Янка Добаш
Міхась Дулько
Янка Зенюк
Аляксандр Іванюк
Анна Іванюк
Аляксей Карпюк
Янка Крупа
Уладзімір Куршаль
Валянціна Ласкевіч
Аляксандр Лаўрыновіч
Віталь Луба
Сяргей Лукашук
Аляксандр Мазалеўскі
Кастусь Майсеня
Анатоль Мартыновіч
Рыгор Мароз
Мікола Нікалаюк




*Перад удзельнікамі X з'езда БГКТ выступаюць славутыя бельскія „Васілёчкі" пад кіраўніцтвам мгр. С. Лукашука.*

*Фота Ю. Трачука.*

Васіль Петручук
Аляксандр Раманюк
Аляксандр Рафаловіч
Васіль Сакоўскі
Галена Тапалянская
Сымон Федарук
Янка Федзюкевіч
Янка Хіліманюк
Аляксандр Хлябіч
Міхась Хмялеўскі
Юрый Хмялеўскі
Янка Ціванюк
Ніна Цыванюк
Міхась Шаховіч
Віктар Швед



*Выбраны X з'ездам старшыня Галоўнага праўлення БГКТ д-р Аляксандр Баршчэўскі, кіраўнік Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, паэт. Фота З. Лянкевіча.*

## ПРЭЗІДЫУМ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

Аляксандр Баршчэўскі — старшыня
Янка Зенюк — намеснік старшыні
Кастусь Майсеня — намеснік старшыні
Віталь Луба — сакратар
Мікола Бушко — член
Аляксандр Іванюк — член
Аляксандр Карпюк — член
Анатоль Мартыновіч — член
Міхась Хмялеўскі — член
Віктар Швед — член

## РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ

Уладзімір Юзвюк — старшыня
Сымон Шыманюк — намеснік старшыні
Кастусь Масальскі — сакратар
Васіль Антыпюк — член
Кастусь Моцька — член
Валянціна Панфілюк — член
Янка Стрышко — член

## ТАВАРЫСКІ СУД

Вінцук Склубоўскі — старшыня
Сцяпан Трафімюк — намеснік старшыні
Віктар Рудчык — сакратар
Янка Жамойцін — член
Яўген Максімец — член
Васіль Сегень — член
Сакрат Яновіч — член

# Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў ліках

**(Са справаздачы Галоўнага праўлення X з'езда БГКТ)**

**У** перадз'ездаўскія чатыры гады асабовы склад Беларускага грамадска-культурнага таварыства быў наступны. 1980 г. — 5545 членаў, 1981 г. — 5515 чл., 1982 г. — 5585 чл., 1983 г. — 5132 чл.

Па ўзросту члены падзяляліся: ад 18 да 30 год — 2684 чалавекі, ад 30 да 40 год — 1327 чалавек, больш за 40 год — 1121 чалавек.

Па сацыяльнай прыналежнасці сярод членаў нашай арганізацыі маем: сялян — 1628 чалавек, рабочых — 984 г., інтэлігенцыі — 989 ч., вучняў і студэнтаў — 1367 ч., пенсіянераў — 164 ч. У параўнанні з 1980 г. павялічылася колькасць сялян на 252 чалавекі. Не змянілася колькасць вучняў, студэнтаў і пенсіянераў, зменшылася колькасць інтэлігенцыі на 512 чалавек. Жанчын у БГКТ было 1816 чалавек, паменшылася іх колькасць у параўнанні з 1980 г. на 528 чалавек.

Адукацыя членаў БГКТ у канцы 1983 г. прадстаўлялася наступным чынам: з пачатковай адукацыяй было 1549 членаў, рамеснай — 1987 чл., сярэдняй — 986 чл. і вышэйшай — 610 членаў. У параўнанні з 1980 г. колькасць членаў з сярэдняй адукацыяй зменшы-

лася на 910 членаў, з пачатковай — на 333 чл., з рамеснай павялічылася на 397 чл., а з вышэйшай — на 117 членаў.

Колькасць гурткоў БГКТ у параўнанні з 1980 г. павялічылася на 10, г.зн. з 181 на 191.

За 1983 г. членскія ўзносы былі рэалізаваны ў 41,7%, г.зн. было ўплочана 104.448 зл. У раёнах аплочванне членскіх узносаў прадстаўлялася наступным чынам: Варшава — 112%, Саколка — 80%, Гданьск — 78%, Мілейчыцы — 69%, Беласток горад — 56%, Беласток-раён — 27% і Гайнаўка — 17%.

Культурна-асветную дзейнасць БГКТ праводзіла ў 135 клубах, вясковых святліцах, гмінных асяродках культуры. Самастойныя клубы Таварыства дзейнічаюць у Варшаве, Беластоку, Гданьску, Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім і Саколцы. Працуе 32 аматарскія калектывы, у тым ліку: 11 тэатральных, 15 вакальных, 5 вакальна-інструментальных і 1 танцавальны. У параўнанні з 1980 г. колькасць калектываў зменшылася на 26.

Вялікай папулярнасцю карыстаецца штогадовы конкурс „Беларуская песня". У ім, напрыклад, удзельнічала: у 1981 г. — 150 аматараў, у тым 9 салістаў, 7 дуэтаў і 14 калектываў; у 1982 г. — 180 аматараў, у тым 8 салістаў, 9 дуэтаў і 15 калектываў; у 1983 г. — 170 аматараў, у тым 11 салістаў, 7 дуэтаў і 20 калектываў.

Масавыя імпрэзы БГКТ — гэта таксама народныя фэсты-ны. За мінулыя чатыры гады адбылося іх каля 30. У 1980 г. яны праходзілі пад лозунгам святкавання 25-годдзя БГКТ і „Нівы", у 1982 г. у гонар 100-годдзя са дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа, у 1983 г. на іх адзначалася 25-годдзе літаратурнага аб'яднання „Белавежа", а ў мінулым годзе імі наша арганізацыя ўшанавала 40-годдзе Народнай Польшчы.

Адна з вельмі важных галін культурна-асветнай дзейнасці БГКТ — гэта літаратурны рух. За 25 год дзейнасці літаратурнага аб'яднання „Белавежа" яе члены правялі некалькі тысяч аўтарскіх сустрэч у розных мясцовасцях Беласточчыны; у прадпрыемствах, вёсках, школах і г.д. Сярод іх чатырох сталі членамі Саюза польскіх пісьменнікаў. За мінулыя чатыры гады „Белавежа" апублікавала ў „Ніве" больш за 500 вершаў, апавяданняў, нарысаў, афарызмаў, значная колькасць твораў „белавежцаў" была апублікавана ў „Беларускім календары". Выйшаў у 1980 г. трэці нумар альманаха „Белавежа", тры індывідуальныя зборнікі паэзіі (1981 г. „Роздумы" Надзеі Артымовіч і „Пошукі" Зосі Сачко, у 1982 г. „Блізкасць далёкага" Алеся Барскага), у 1984 г. выйшаў зборнік гумарэсак Міхася Шаховіча „Вада ў рэшаце", у 1982 г. — зборнік народных казак і легенд з ваколіц Белавежы „Аб чым

шуміць Белавежская пушча“ у апрацоўцы Міколы Гайдука. Да друку падрыхтаваны некалькі наступных зборнікаў твораў „белавежцаў“.

У школьным годзе 1980/81 беларускую мову вывучала 3430 вучняў у 40 школах. Такі стан навучання ўтрымліваўся наступныя два гады. Пералом наступіў у 1983/84 школьным годзе, у якім колькасць школ з беларускай мовай павялічылася да 51, а вучняў, вывучаючых гэты прадмет — да 3708 чалавек. У ліцэях, у выніку рэарганізацыі агульнаадукацыйных школ, колькасць ліцэістаў зменшылася з 638 чалавек у 1980 г. да 565 чалавек у 1983/84 школьным годзе. Узровень навучання і выхавання ў абодвух беларускіх ліцэях высокі. Ліцэй імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім займае адно з першых месц у Беластоцкай школьнай акрузе па выніках навучання, многія вучні яго сталі лаўрэатамі агульнапольскіх алімпіяд па розных прадметах. Для школьнай моладзі праводзяцца конкурсы: „Беларуская песня“, дэкламатарскі, чытальніцкі. Найбольш папулярны сярод моладзі песенны конкурс, напрыклад, у 1983 г. прыняло ў ім удзел 82 вучняў, у тым ліку 15 салістаў, 6 дуэтаў і 8 калектываў. Удачна таксама прайшоў чытальніцкі конкурс па творах Я. Купалы і Я. Коласа ў 1982 годзе.

Орган БГКТ тыднёвік „Ніва“ выходзіць тыражом у сярэднім 4500 экземпляраў, ён разыходзіцца па ўсёй Польшчы і чытаецца ў 13 замежных краінах. У „Ніве“ змяшчаецца сем катэгорый матэрыялаў: публікацыі аб дзейнасці БГКТ, грамадска-палітычныя, сельскія, культурна-асветныя, літаратурныя, гістарычныя, гумар. На правах дадаткаў „Нівы“ выходзяць „Зорка“ для дзяцей і „Літаратурная старонка“ — орган літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа“.

У выніку намаганняў ГП БГКТ беларускія радыёперадачы па Беластоцкаму радыё павялічаны ад верасня 1983 г. з 15 мінут на 30 мінут і цяпер перадаюцца ў кожную суботу а 18 гадзіне.

Працы па стварэнню ў Гайнаўцы Музея помнікаў беларускай культуры набылі шырокага размаху: пачаліся ў грамадскім пачыне працы пры музейных аб'ектах, Ваяводскае ўпраўленне ў Беластоку прызначыла на яго заснаванне 5 мільёнаў злотых, пачаўся збор ахвяраванняў ад прыватных асоб і грамадскіх арганізацый, а таксама збор экспанатаў.



Нарадзіўся Мікалай Самоцік 6 мая 1921 года ў вёсцы Ляшукі гміны Нараўка на Гайнаўшчыне. З маладых год актыўна ўдзельнічаў у будаўніцтве новага. З 1946 па 1953 г.г. настаўнічаў у вёсцы Семяноўка. У 1954-1972 г.г. працаваў у Гайнаўцы: узначальваў аддзел асветы і культуры Павятовай рады нарадовай, сакратарыў у Павятовым камітэце ПАРП, старшынстваваў Прэзідыуму Павятовай рады нарадовай. Ад 1973 г. і да апошняга дня свайго жыцця М. Самоцік быў старшынёй Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Унёс ён вялікі ўклад у развіццё нашай арганізацыі, у пашырэнне яго ўплываў.

Актыўны дзеяч БГКТ ад часу яго стварэння, М. Самоцік многія гады прадстаўляў нашае асяроддзе ў Ваяводскай радзе нарадовай, быў ініцыятарам шэрагу грамадскіх пачынаў.

За сваю ахвярную працу М. Самоцік быў узнагароджаны Афіцэрскім і Кавалерскім Крыжамі Ордэна Адраджэння Польшчы, Залатым Крыжам Заслугі, залатым знакам „Заслужаны для Беласточчыны" і іншымі адзначэннямі.

# Звычайны, добры чалавек...

Цяжка, вельмі цяжка пamірыцца з думкай, што яго ўжо няма сярод нас, што не забяжыць ён у рэдакцыю — проста так сабе, звычайна, без важнай справы, от, каб па-сяброўску паціснуць руку і запытаць: „Што новае? Як сябе адчуваеце?“ Каб пасядзець з намі, пагутарыць і час ад часу сардэчна пасмяяцца.

А ўсмешка ў яго была своеасаблівая. На шырокім, маршчыністым твары паяўлялася яна неяк крыху сарамліва і ціха ды басавымі гукамі пераліваласся ў шчырую добразычлівасць, выяўляючы асноўную рысу яго характару: дабрыню. Быць добрым для ўсіх, нават для сваіх ворагаў, — гэта аснова яго адносін да людзей.

— Добрыя людзі жывуць коратка.

Чулі вы гэтыя словы? Апошні раз чуў я іх ад адной жанчыны з вёскі Курашава на Гайнаўшчыне, на роднай Гайнаўшчыне Мікалая Самоціка, да якой да апошніх дзён захаваў ён у сваім сэрцы самыя лепшыя пачуцці. Не толькі на Гайнаўшчыне — у кожным іншым кутку Беластоцкага краю сустракалі М. Самоціка як свайго блізкага чалавека.

Паходзіў М. Самоцік з беднай сялянскай сям'і, з вёскі Ляшукі, што свае палі і сенажаці раскінула ў абойме дзвюх рэчак: Нарвы і Нараўкі, дзе і па сённяшні дзень захаваўся яшчэ амаль чысты запаведнік беларускасці — спеўнай, звонкай гаворкі, якую бацькі беларускага нацыянальнага адраджэння паклалі калісьці ў аснову нашай літаратурнай мовы. І я ў час сваіх журналісцкіх вандровак любіў спыняцца ў Ляшуках, Сушчы, Луцэ, Тарнопалі, Рыбаках, Бандарах, Семяноўцы... Мікола ведаў гэтыя старонкі. Тут вадзіў на расу бацькоўскага коніка і араў бацькоўскі загон, тут фармавалася яго свядомасць і замілаванне да роднага, тут, у Семяноўцы, распачаў ён свой працоўны шлях.

І заўсёды ахвотна ды часта вяртаўся ў гэтыя старонкі. Для гэтага выкарыстоўваў ён кожную нагоду. Аднойчы, памятаю, вярталіся мы з нейкага народнага фэсту. У галаве шумела ад беларускіх песень і ад шчырай гасціннасці нашых людзей.

— Ну то што, заедзем да мяне? — запытаў старшыня.

Ён даўно ўжо не жыў у Ляшуках, але ўсё яшчэ гэтую вёску лічыў сваёй, яна была блізкай яго сэрцу. Гэтае „да мяне“ прагучэла зусім звычайна і натуральна ды поўнасцю апраўдана. Аказа-

лася, што сапраўды яго сустрэлі тут як свайго чалавека, які толькі на крыху адлучыўся ад роднай вёскі, каб у горадзе аформіць важную жыццёвую справу. Было лета. У цеснаватай, пастарэлай бацькоўскай хаце ўсе мы не змяшчаліся. Стол вынеслі ў агарод, пад яблыні і грушы. І пачалі запрашаць, чым хата багата...

У 1953 годзе адклікалі яго з Семяноўкі ў Гайнаўку, якая тады распачынала сваю кар'еру павятовага цэнтра. Нядоўга быў ён інспектарам, а пасля пяць год кіраваў аддзелам асветы і культуры Павятовай рады нарадовай. Гэта тады Гайнаўшчына станавілася апорай навучання беларускай мовы на Беласточчыне. Пабудова школ грамадскім чынам, рост культурнага ўзроўню вясковай моладзі — як і чым акрэсліць заслугі Мікалая Самоціка ў гэтай галіне?

Роўна 20 год свайго, на жаль, так нечакана абарванага жыцця, правёў М. Самоцік у Гайнаўцы: ад 1953 да 1973 года. У 1959 г. выбралі яго сакратаром Павятовага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Жыццё ў той час у яго не было лёгкае. Спрадвечна адсталую Гайнаўшчыну не вельмі любілі розныя ўлады. Хутчэй за ўсё служыла яна падручным прыкладам дрэннага гаспадарання, дзе ўсяго замала: і ўраджаю, і штучных угнаенняў на гектар, і абавязковых паставак, і кантрактацыі... Толькі чалавечай ахвярнасці тут заўсёды было ўдосталь. Пабудова дарог, вясковых крамаў, школ, пунктаў прыёму малака, святліц. І ўсё грамадскім чынам. Бо вышэйшым уладам неяк не ўдавалася знайсці ў сваіх бюджэтах сродкаў на падмацаванне адсталай гаспадаркі на Гайнаўшчыне. І Мікалай Самоцік — як сакратар ПК ПАРП, а ў гадах 1970-73 як старшыня Прэзідыума Павятовай рады нарадовай — ездзіў у Беласток, абабіваў парогі болей і меней важных дырэктараў і сакратароў, прасіў, патрабаваў, высняў, што гэта неабходна, што патрэбна для ваяводства і краіны. Часам удавалася. Такім чынам, напрыклад, скромны гайнаўскі тартак ператварыўся ў аграмадны дрэваапрацоўчы камбінат, вырабы якога шырока вядомы ў краіне і па-за яе межамі. Такім чынам паўстала Ляўкоўскае керамічнае прадпрыемства, якое мясцовую гліну пераўтварае ў надта ж патрэбную цяпер цэглу. А сама Гайнаўка зараз ганарыцца высокай узнагародай — Ордэнам Сцяга Працы...

У 1973 г. М. Самоціку даверылі абавязкі старшыні Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, з якім ён шчыра сябраваў ад самага пачатку дзейнасці нашай арганізацыі. Ведаю, што не вельмі хацелася яму пакідаць Гайнаўку. Казаў ён, што зжыўся з людзьмі, што адчувае там сябе, як дома, а тут — новыя абавязкі.

—Калі ўжо даверылі мне гэтую пасаду, — казаў ён, — то я буду старшынёй, бо веру, што іншыя таварышы мне дапамогуць.

І быў. Літаральна да апошняй хвіліны жыцця, бо тое смяротнае

кровазліццё на мозг наступіла ў яго ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ.

Беларускім грамадска-культурным таварыствам давялося яму кіраваць у цяжкі час. Афіцыйны тэзіс аб нацыянальнай аднароднасці ўсяго насельніцтва Польшчы, які пракламавала тады найвышэйшае кіраўніцтва краіны, не спрыяў нашаму нацыянальнаму руху. Пазней падзьмуў у наш бок халодны вецер „Салідарнасці". Некаторых нашых актывістаў кінула ў гарачку. І тут прыдаліся асноўныя рысы характару старшыні М. Самоціка: спакой, тактоўнасць і дабрыня сялянскай душы. Ён патрапіў знайсці тую „залатую сярэдзіну", якая даводзіла да згоды перасвараных, якая ўціхамірвала часовыя эмоцыі.

Тады, у той бурлівы час, якраз споўнілася яму 60 гадоў жыцця. Пайшоў ён на заслужаную пенсію. Але грамадскай дзейнасці не пакінуў. Не сказаў усім нам: „Ці мне найбольш трэба? Нашто мне ўсе вашыя праблемы, спрэчкі? Я хачу пажыць сабе спакойна, заняцца агародчыкам, цешыцца ўнукамі". Відаць, жаданне служыць людзям, знаходзіцца з імі пастаянна было ў яго мацнейшае ад уласнай выгады і ўяўнай асалоды ад бяздзейнасці. Цешылі яго нашыя поспехі, трывожылі няўдачы. Калі ўрэшце стала фактам перадача аб'ектаў былой мазаікарні ў Гайнаўцы пад музей беларускай нацыянальнай меншасці і на гаспадарчую дзейнасць БГКТ, які ж радасны ён быў! З захапленнем гаварыў пра гэта, між іншым, у інтэрв'ю для беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё. У гэтай справе разам з Кастусём Майсенем, тады яшчэ сакратаром Прэзідыума ГП БГКТ, наведвалі яны Ваяводскі камітэт ПАРП, удзельнічалі ў важнай сустрэчы з палітычным кіраўніцтвам нашага ваяводства. Яна была карыснай для ўсяе нашай беларускай грамадскасці.

І ўжо яго няма сярод нас. Не выступіць на пленуме, на сходзе, не сядзе разам...

Толькі памяць наша захавае трывала яго імя.

**Віктар Рудчык**
„Ніва" ад 16.X.1983 г.

## БЫВАЙ, МОЙ ДРУЖА ДАРАГІ, БЫВАЙ!

*Памяці Мікалая Самоціка*
*прысвячаю*

Паверыць цяжка, што Цябе ніколі
Больш не сустрэну, дарагі мой Коля,
Ты рана свой жыцця закончыў век.
І пагаворка нават ёсць такая,
Што людзі добрыя раней ўміраюць,
А Ты ж быў вельмі добры чалавек.
З Табою, дружа мой, гадоў так многа
Супольнаю хадзілі мы дарогай,
Супольнымі ідэямі жылі.
На кожным кроку суму адгалоскі,
Сумуюць нашы гарады і вёскі,
Сумуюць намі сходжаны палі.
І да жыцця Цябе ніхто не верне,
Аднак Табой пасеянае зерне
На роднай ніве дасць багаты плён.
У нашых сэрцах жыць Ты будзеш вечна,
Мы ўсе з'яднаны дружбаю сардэчнай, —
Ты будзеш жыць у змесце новых дзён.

**Віктар Швед**




*Праваслаўныя храмы Бельска Падляшскага ў замалёўках Б. Рудкоўскіна. Званіца пры царкве Раджджаства Прасвятой Дзевы Марыі. 1984 г.*

# ІДЗЁМ НАПЕРАД

У мінулым годзе Беласточчына адзначала юбілей 40-годдзя народнай улады ў краіне і нам выпадае пачаць нашыя разважанні з таго, дзе ў нашым ваяводстве за гэты час адбыліся найбольшыя пераўтварэнні. Так, гэта наша беластоцкая прамысловасць — заслужаны гонар тых нашых старэйшых сяброў, каму цяпер спаўняецца 55-65 год жыцця і якія ўжо адыходзяць на пенсію, на заслужаны спачынак, бо якраз яны пабудавалі яе ўласнымі рукамі на пустым месцы. Больш чым колішні кароль у іх ёсць права сказаць: „Засталі мы край саматужны, а пабудавалі прамысловы". На пацвярджэнне непатрэбны лікі, даволі глянуць навокал сябе ды ўсвядоміць, што ў прамысловасці на Беласточчыне працуе амаль 60 тысяч чалавек, гэта значыць — кожны адзінаццаты жыхар з яе 659 тысяч цяперашняга насельніцтва. І таму не будзе няпраўдай, калі сказаць, што пры народнай уладзе наша адвечна „вясковае" ваяводства пераўтварылася ў адзін з важнейшых прамысловых рэгіёнаў Польшчы. Дадайма: маладых і энергічных. І можа іменна ў беластоцкай прамысловасці даволі хутка, калі раўняць яе з іншымі рэгіёнамі краіны, бо ўжо ў маі 1983 г. затрымаўся крызісны занепад і пачалося павольнае павелічэнне вытворчасці.

Найхутчэй прыйшла ў сябе спажывецкая прамысловасць і сёння яна не толькі дасягнула дакрызіснага ўзроўню, але значна перавысіла яго ў многіх прадуктах, асабліва тых, для якіх сяляне далі адпаведную колькасць сыравіны, напрыклад: збожжа, садавіны, гародніны, малака. Значна марудней падымаецца лёгкая прамысловасць. Хоць ёй таксама ўдалося затрымаць змяншэнне вытворчасці, але павелічэнне яе ідзе з натугай, марудна, напрыклад, баваўняных і бавоўнападобных тканін яна выпускае на чвэрць менш, чым да крызісу. Не лепшы стан у драў-

ніннай прамысловасці, якая амаль на трэць зменшыла сваю вытворчасць і не здолела затрымаць гэтага спаду. Яшчэ горш стаяць справы пашавай прамысловасці, якая зменшыла вытворчасць болей чым на палову і, як дагэтуль, не відаць, каб нешта ў ёй направілася. Няма патрэбы і казаць, што ад велічыні яе прадукцыі моцна залежыць колькасць у крамах мяса, масла, яек і многа чаго іншага. І ў той жа час радуе, што дробная прамысловасць не толькі вельмі хутка выйшла з крызісу, але надзвычай спраўна здолела сваю дагэтуляшнюю вытворчасць змяніць і стала выпускаць бароны, плугі, культыватары, сашнікі, цэнтрыфугі, вупраж і многа чаго іншага, надзвычай патрэбнага сельскай гаспадарцы.

І хоць зрух на лепшае на фабрыках Беласточчыны выразна відаць, аднак яго вынікі не ўсюды апраўдваюць тое значнае павелічэнне заработнай платы, што наступіла ў апошнія тры гады. Яно вырасла аж у два з паловай раза, у той час, калі надта мізэрна павысілася вытворчасць працы.

Наперакор усім цяжкасцям на Беласточчыне не спыняецца развіццё прамысловасці: працягваецца пабудова магутнай дывановай фабрыкі „Агнелла“, паўстае прадпрыемства ювелірных вырабаў „Польсрэбра“, будуецца абутковая фабрыка ў Монькак здадзена мясное прадпрыемства ў Бельску, паўстаў вялікі цяплічны камбінат (тры гектары пад шклом!) каля Беластока.

Цяпер асноўным заданнем — усімі даступнымі спосабамі павялічваць вытворчасць. Дзеля гэтага неабходна грунтоўна палепшыць гаспадаранне і людской працай, і сыравінай. Значыць, развіваць нашу прамысловасць меней ушыр, болей углыб: павышаць прадукцыйнасць працы, ашчаджаць сыравіну і матэрыялы, паляпшаць якасць вырабаў — дабыць усе прадукцыйныя магчымасці і проста клапаціцца пра вышэйшую культуру вытворчасці. Але ў той жа час не занядбоўваць і далейшага яе развіцця. Прадбачваецца, што ў 1984-85 гадах будуць здадзены ва ўжытак: прадпрыемства па пераробцы грэчкі і гароху, з прадукцыйнасцю 25 тон на дзень грэцкіх круп і 40 тон на дзень лушчанага гароху, фабрыка „Польсрэбра“ з прадукцыйнасцю больш за 900 тысяч штук ювелірных вырабаў у год, прадпрыемства спажывецкай і мясной вытворчасці „Лес“ у Гайнаўцы, новыя пякарні: у Бельску з выдайнасцю 12 тон вырабаў у дзень, у Сямяцічах — 6 тон і ў Гайнаўцы — каля 6 тон, вялікі цэнтр абслугоўвання аўтамашын „Польскі фіят“, частка новага сучаснага вакзала ПКС у Беластоку і інш.

Словам, не запрапашчаны

высілкі папярэдняга пакалення. Мы здаравеем!

## УДВАЯ ШЧЫРЭЙ

У апошнія тры гады сялянам вельмі спрыяла пагода, кажучы словамі Коласа, „усё было ў меру і ў пору“ і ў выніку гэтага ў параўнанні з найцяжэйшым 1980 годам, у мінулым годзе яны сабралі болей збожжа, бульбы, цукровых буракоў. Добры ўраджай і высокія скупачныя цэны прынеслі небывалы доўгія гады плён — сяляне Беласточчыны ў 1983 г. прадалі дзяржаве ў чатыры разы болей збожжа, чым у 1980 годзе! Яшчэ большая продаж была ў 1984 г. Нядрэнная была скупка бульбы, гародніны, садавіны, рапаку. А цукровых буракоў і ў нашым ваяводстве і ва ўсёй краіне было столькі, што вытворчасць цукру ў 1983 г. дасягнула 2 мільёнаў тон і была найбольшай ад часу, калі толькі гэты салодкі пясок у Польшчы пачалі здабываць. У мінулым годзе вытворчасць цукру склала 1750 тыс. тон, ■ рапаку — як ніколі ў нашай краіне — аж мільён тон!

— Чаго яшчэ трэба? Абы толькі так далей! — хочацца ўсклікнуць, гледзячы на такія вынікі. Але з гэтым „так далей“ не так ужо і проста.

Аказваецца, што хоць ня-блага родзіць нам у полі ды на лузе, але не так поўна робіцца ў хлявах.

Прычын гэтага многа: прамысловасць дае замала кармоў, асабліва не хапае іх для птаства і свінней; хоць цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю моцна павысіліся, але не ў карысць гадоўлі; пагода не можа так хутка паспрыяць гадоўлі, як плёну на полі, і нямала чаго іншага. І ўсё гэта важна, але найважнейшае, на маю думку, тое, што на вёсцы няма каму гадаваць. Наша вёска вельмі хутка старэе і пусцее. За мінулыя чатыры гады на Беласточчыне гарадскога насельніцтва прыбыло каля 30 тысяч, а вясковага зменшылася на 10 тысяч чалавек і то ў асноўным моладзі і людзей у працоўным узросце. І гэта зусім не спыніцца, бо, як мяркуецца, у бліжэйшыя два гады на вёсцы колькасць дзяцей і моладзі зменшыцца на далейшыя 4 тысячы, ■ ў гарадах павялічыцца на амаль 10 тысяч. Яшчэ горш з людзьмі ў працоўным узросце: на вёсцы іх стане меней на 4 тысячы, а ў гарадах прыбудзе на 8 тысяч чалавек. І каму ж цяпер цягаць з капца ў парнік ды з парніка ў карыты бульбу, сушыць ды ладаваць сена, карміць, даіць, вывалакаць гной з хлявоў? Старэчам-дзядкам ды бабулькам, што і самі кійком падпіраюцца? Мала хто набывае зямлю для дзяцей, і яе ў ПФЗэце хоць і крыху зменшылася, але яшчэ аблагуе мнагавата. Столькі, што можна было б пракарміць з яе такі горад, як Бельск.

Таму на працягу трох мінулых гадоў амаль палова ўсіх інвестыцыйных сродкаў (44%) накіроўвалася ў сельскую гаспадарку. У выніку меліравана 12800 га ўжыткаў, пракладзена 175600 м водаправоду, прэгулявана 63600 м рэк, пракладзена 82 км дарог, пабудавана 7 вясковых дамоў культуры і святліцаў. Заўважальна палепшылася забеспячэнне сялян трактарамі і іншымі машынамі, за тры гады ў беластоцкай вёсцы прыбыло каля 6000 трактараў і цяпер іх тут 23000 штук (у 1983 г. на адзін трактар выпадала 25 га зямлі, а ў 1980 выпадала 36 га). Але нястача машын, што аблягчаюць і паскараюць найбольш цяжкія і працаёмкія работы, усё яшчэ вельмі надакучлівая і яе ліквідаваць трэба будзе доўгія гады.

На 1984-85 гады прадбачваецца, як і раней, найбольш сродкаў накіроўваць у сельскую гаспадарку (каля 45% усёй колькасці інвестыцый) і гэтым коштам, між іншым, меліраваць новыя 9 тысяч га ўжыткаў, пракласці 70,3 км водаправоду, збудаваць 4 ветэрынарныя лячэбніцы. Аднак, перш за ўсё дзяржава будзе ствараць такія ўмовы, каб сяляне змаглі не толькі ўтрымаць дагэтуляшнія ўраджаі збожжа, бульбы, цукровых буракоў і іншай прадукцыі, але нават павысіць іх: збожжа — на 2 цэнтнеры з гектара, бульбы — на 31 ц/га, буракоў — на 8 ц/га. І вельмі важнае — выдатна павялічыць гадоўлю, ды перш за ўсё свінней. Для гэтага, між іншым, неабходна ў гаспадарках пабольшыць нарыхтоўку розных кармоў, больш рацыянальна карміць жывёлу, лепш даглядаць яе, асабліва клапаціцца пра інсемінацыю. Значыць, трэба, каб на полі і лузе лепш расло, а гэта патрабуе больш штучных угнаенняў, бо за апошнія гады іх выкарыстанне небяспечна зменшылася. Ну і абрабіць кожную лапінку зямлі, каб не пуставала, ці свая яна, ці ПФЗэту.

Вядома, каб усё гэта ўдалося ў нашай сельскай гаспадарцы, каб яна змагла зрабіць новы крок наперад, павінны салідна папрацаваць не толькі сяляне, але таксама прамысловасць, гандаль, сельскагаспадарчая служба — усе мы. Народная прыказка кажа: без працы няма чаго хлеба шукаці. А калі мы хочам мець хлеб і да хлеба, значыць — трэба працаваць удвая шрычэй.

## КРОК НАПЕРАД

Транспарт і сувязь у дзяржаве — як крывяносная і нервовая сістэмы ў чалавечым целе.

І таму ў апошнія тры гады шмат рабілася на дарогах: за дзяржаўны кошт мадэрнізавалі каля 150 км, зрабілі рамонт 1250 км, нарэшце перабудавалі мост у Бакінах на Нарве і ўзвялі віядук у Лапах. Не загасла і грамадская

ініцыятыва — за гэтыя ж гады людзі самі пабудавалі 82 км дарог. Не спынілася, хоць і ідзе вельмі павольна, пабудова навейшага аўтобуснага вакзала ў Беластоку і ў 1985 годзе асноўная яго частка — абслугоўванне пасажыраў — павінна быць перададзена ў карыстанне.

Праводзіцца перабудова аддзяленняў ПКСу ў Бельску і Сямяцічах. Надзвычай спраўна адбываецца электрыфікацыя чыгуначнай лініі Варшава — Кузніца, датэрмінова пайшлі пасажырскія электрычныя цягнікі паміж Беластокам і Варшавай, будаўнікі ўжо пракладваюць электрычную сецьБеласток — Кузніца. У мінулым годзе таксама грузавыя перавозы паміж Варшавай і Беластокам перайшлі на электрычную цягу. Пачалася пабудова чыгуначнага вакзала Беласток Фабрычны і часткі будучага вакзала ў Гайнаўцы. Праводзіцца пашырэнне і абнаўленне перагрузачнага аб'екта ў Семяноўцы ў вялікі сухапутны порт на міжнароднай лініі Усход—Захад. Але ўсяго гэтага мала, мала, мала.

У гадах 1984-85 перш за ўсё будзе праводзіцца пабудова і мадэрнізацыя мясцовых дарог, якія злучаюць паасобныя вёскі з гмінамі і служаць даездам у школы. Значныя сродкі на гэта пойдуць ад дзяржавы, але неабходны таксама вялікі грамадскі па-



чын, асабліва ў паляпшэнні стану грунтовых дарог, ад якога ў многім залежаць вынікі ў гаспадаранні, спраўнасць сельскагаспадарчых машын і г.д.

Тэлефон у хаце ў развітых краінах даўно ўжо стаў звычайным абсталяваннем, як напрыклад, электрычнасць. У нас гэты сродак сувязі яшчэ належыць да вялікага люксусу, асабліва ў вёсцы, дзе ён найбольш патрэбны.

На Беласточчыне цяпер маем усяго каля 36 тысяч тэлефонных абанаментаў, з іх толькі 5400 — на вёсцы. Гэты стан у бліжэйшыя гады крыху палепшыцца, бо ў мінулым і бягучым годзе прыбудзе нам каля 5 100 новых тэлефонных абанаментаў, а гэта дзякуючы ўводу ў эксплуатацыю вялікіх тэлефонных цэнтраляў. „Антанюк“ і „Выгода“ ў Беластоку. пашырэнне такіх жа цэнтраляў у Бельску на новыя 1200 нумароў, у Гайнаўцы — на 800 і Сямяцічах — на 400 нумароў. Абсталёўваецца аўтаматычная, у абодва бакі, сувязь паміж Беластокам і Бельскам, Сямяцічамі і Гайнаўкай.

Ужо цяпер амаль кожны селянін мае магчымасць на ўласны кошт правесці ў сваю хату тэлефон.

## НАЙДАРАЖЭЙШЫ СКАРБ

Абы здароўе, а жыццё будзе, — кажа прыказка. Яе праўдзівасць пацвярджаецца заўсёды.

Значная праца і вялікія сродкі, што былі ўкладзены за гады народнай улады ў развіццё аховы здароўя на Беласточчыне, цяпер прыносяць плён, і ўсе мы карыстаемся ім. У нашым ваяводстве працуе больш за 1800 лекараў, 330 дантыстаў, 3600 медыцынскіх сясцёр і ў гэтым мы зусім не ўступаем іншым, нават значна больш развітым рэгіёнам краіны. Затое па колькасці ложак у бальніцах Беласточчына належыць да перадавых, бо калі ў краіне на 10 000 насельніцтва прыходзіцца 56 ложкаў, то ў нас іх 63. І не захлісnуліся мы задавальненнем, бо якніяк, але нават у самыя цяжкія 1980-83 гады надалей развівалася ў нас будаўніцтва аб'ектаў аховы здароўя. Закончана пабудова бальніцы на 256 ложкаў у Саколцы. Паўстаў вялікі, на 210 ложкаў, бальнічны павільён пры Ваяводскай бальніцы імя Е. Снядэцкага ў Беластоку. Пры бальніцы імя М. Складоўскай у Беластоку здадзены спецыяльны будынак на абсталяванне навейшай тэхнікі па барацьбе з ракавымі захворваннямі. Паўстае Інстытут педыятрыі Беластоцкай медыцынскай акадэміі. Пачалася пабудова бальніцы на 272 ложкі ў Гайнаўцы. Вядзецца перабудова і капітальны рамонт псіхіятрычнай бальніцы ў Харошчы. Здадзены ў карыстанне новыя ася-

родкі здароўя ў Боцьках, Янове і Нарве, а таксама раённыя амбулаторыі ў Беластоку, Васількове, Чорнай Беластоцкай.

За апошнія тры гады павялічылася на 130 колькасць месц у дамах апекі і цяпер іх, на Беласточчыне, каля 1000. І гэта ў значнай ступені дзякуючы заканчэнню пабудовы павільёна пры Доме апекі над дзяцьмі ў Засценках каля Беластока, сарганізаванню Дома пенсіянера ў Лазнях каля Супраслі і Дома для недаразвітых дзяцей у Баброўвай каля Заблудава.

І тут узнікае пытанне: калі ўжо ў нас усё так ладна ды складна ў гэтай ахове здароўя, то чаму ж нам даводзіцца траціць рэшткі здароўя падчас чакання на прыём у лекара ў асяродку здароўя, з языком на барадзе ганяцца ад аптэкі да аптэкі па ўсяму ваяводству за патрэбным лякарствам, вымольваць прыняцця ў бальніцу.

Што ж, па-першае, цяпер людзі непараўнальна часцей звяртаюцца за дапамогай да працаўнікоў медыцыны. Калісьці, бывала, разваліць чалавек касою ці сякерою нагу або руку, аж страх глянуць, але да доктара не ідзе: прыкладзе да раны крываўніку, загорне льняной анучкай і годзе. Цяпер жа з кожным мізэрным прышчыкам бяжыць да лекара. Проста становімся цывілізаваным грамадствам. І гэта добра. Па-другое, лекары ды сёстры завалены абавязкамі пісання справаздач, выпаўняння мноства анкет, фармуляраў, удзельнічаць у розных сходах, так што на агляд ды лячэнне пацыентаў ім і часу не астанецца. Так, мы не ўмеем адпаведна карыстацца ведамі і ўменнямі спецыялістаў. А па-трэцяе, у нас усё яшчэ замала лекараў, сясцёр, асяродкаў здароўя, дамоў апекі. Асабліва цяжка здабыць лекараў у вясковыя асяродкі здароўя, нягледзячы на тое, што там, як правіла, чакаюць на іх прасторныя новенькія кватэры, высокія заробкі, беззваротная пазыка на загаспадаранне, часам нават талон на машыну. І спецыялісты не ідуць. Але гэтага нельга тлумачыць тым, што маладыя лекары не хочуць працаваць для тых людзей, з асяроддзя якіх яны выйшлі. Яны перш за ўсё імкнуцца быць у гарадах, паблізу навуковых медыцынскіх цэнтраў, каб магчы пашыраць ды паглыбляць свае веды, здабываць дадатковыя спецыяльнасці, навуковыя ступені. Затым жыць на нашай вёсцы чалавеку, які не касее, не садзіць, не гадуе каровы, свінней, курэй — надта цяжка. Вядома ж якое забеспячэнне вясковых крамаў а кожны дзень у горад за 40-60 кіламетраў за ўсім не наездзішся, нават атрыманай на талон машынай. Таму ад усіх нас трэба большай апекі, уважлівасці і сардэчнасці для тых лекараў, сясцёр, аптэка-

раў, якія працуюць у малых мясцовасцях.

І вядома, не запавольваць развіцця аховы здароўя, паляпшэння варункаў працы ў ёй. Таму і плануецца інтэнсіўна працягваць пачатыя раней пабудовы і капітальныя рамонты асяродкаў, бальніц і інстытутаў. Між іншым, будуць рамантавацца асяродкі ў Белавежы, Кляшчэлях, Ляўкове Старым, Нараўцы, Нурцы і Чыжах. Пачнецца пабудова вялікага радзільна-гінекалагічнага павільёна пры бальніцы імя Складоўскай у Беластоку. Магчыма, што будуць здадзены ў карыстанне новыя амбулаторыі на Выгодзе, Дзесяцінах, Беласточку і Сонечным Стоку ў Беластоку, а таксама ў Гайнаўцы і Кнышыне. Паўстане асяродак лячэння алкаголікаў ва Угове каля Лапаў, будзе значна разбудаваны такі ж асяродак у псіхіятрычнай бальніцы ў Харошчы. Надалей будзе расшырацца апека над людзьмі старымі і цяжка хворымі.

А ў той жа час ад кожнага з нас патрабуецца большая культура ў карыстанні з медыцынскай дапамогі, разважлівасць у глытанні розных таблетак ды мікстураў і звычайнага шанавання свайго здароўя, бо яно — найдаражэйшы скарб.

## ПАВОЛІ, АЛЕ ВАРУШЫМСЯ

Культура ніколі не была наймацнейшым козырам Беласточчыны. Не тое, што дзесяцігоддзі, але нават цэлыя стагоддзі наш рэгіён — гэта глухая ўскраіна: раз — заходняя, другі — усходняя, але заўсёды знаходзіўся ён на задворках культурнага жыцця. Толькі пры народнай уладзе, асабліва ў 50-60-х гадах мы спрабавалі раўняцца



з усёй краінай. Беластоцкія тэатры дзякуючы высокаму мастацкаму ўзроўню свае працы патрапілі зацікавіць і дарослых і малых гледачоў, і павялічыць колькасць наведвальнікаў.

Не спыняліся чытальніцкія конкурсы, розныя агляды, выстаўкі, як напрыклад, штогадовыя конкурсы „Беларуская песня" ці чытальніцкі па творчасці Я. Купалы і Я. Коласа ў іх 100-ю гадавіну, якія праводзіла ГП БГКТ супольна з іншымі культурна-асветнымі арганізацыямі. За мінулыя тры гады ў грамадскім пачыне паўстала 7 вясковых святліц і клубаў, некалькі дзесяткаў іх аднавілі. Праводзілася рэстаўрацыя помнікаў культуры. Даспела і стала ажыццяўляцца стварэнне Беластоцкага музея вёскі.

Адначасова з тым, як наша краіна выходзіць з крызіснага заняпаду грамадскага жыцця, паволі наступае і зрух у культуры. У бліжэйшыя два гады перш за ўсё будуць ісці намаганні ажывіць розныя формы аматарскага руху. Неабходна разбудзіць да дзейнасці вясковыя дамы культуры, святліцы, клубы. Трэба павышаць і дасканаліць уменні людзей, што працуюць у культуры, пашыраць і ўзмацняць дапамогу і ствараць адпаведныя ўмовы для працы творчай інтэлігенцыі. Вялікую ролю ў абуджэнні культурнага жыцця прызначаецца дзяржаўным прадпрыемствам і ўстановам і грамадскім арганізацыям, кааператыўнаму руху ў гарадах і вёсках.

Надалей будзе ісці пабудова і аднаўленне розных аб'ектаў: будуецца музычная школа ў Беластоку, аднаўляецца і разбудоўваецца Беластоцкі драматычны тэатр, прадаўжаецца рэстаўрацыя жамчужыны беластоцкай архітэктуры — палаца Браніцкіх, з большым размахам ідуць працы ў стварэнні Беластоцкага музея вёскі.

А ў нас, беларусаў, узмацняецца надзея на тое, што зможам заснаваць і пачаць абсталёўваць Этнаграфічны музей беларускай нацыянальнай меншасці ў Гайнаўцы, здолеем разбудзіць наш аматарскі рух, будуць лепшыя варункі працы для нашых літаратараў, мастакоў і наогул нашай творчай інтэлігенцыі. Многае ў гэтым зруху будзе залежаць ад кожнага з нас, нашага ўдзелу, нашай актыўнасці.

**Ігнат Снарскі**

# Панарама гміны

Дубіцкая гміна займае плошчу ў 15 тысяч 120 гектараў. Ворыўнай зямлі, сенажацяў і пашы тут 7645 га. Лугі і паша займаюць адну трэцюю частку ўсіх сельскагаспадарчых ужыткаў. 762 сялян гаспадарыць на 4,5 тыс. гектарах ворыўнай зямлі. Амаль 400 га абрабляе сельскагаспадарчы кааператыў у Старым Корніне і яго сельскагаспадарчыя гурткі. Дзяржаўны фонд зямлі налічвае каля 500 га. Гмінныя ўлады 123 га здаюць у арэнду, на пятнаццаці гектарах пасадзілі лес.

У гміне пад збожжа прадназначаецца 3150 га і бульбу — 980 га. Сярэднія ўраджаі каласавых — 22 цэнтнеры з 1 га, роўныя з сярэдняй ваяводскай, і 195-200 ц/га бульбы, г. зн. крыху вышэй сярэдняй ваяводскай. Сяляне ў 1983 г. сабралі звыш 450 тон збожжа і 2530 тон бульбы. Прадалі 607 тон жывой вагі свінней і ялавічыны, 3200 тыс. літраў малака.

Такія звесткі даў мне начальнік гміны Уладзімір Паўлоўскі.

Гмінная сельскагаспадарчая служба шырока папулярызавала, якім чынам можна павялічыць ураджаі збожжа (між іншым, павялічыць да 100 гектараў вырошчванне змешаных культур, а таксама сеяць больш пшаніцы, ліквідаваць усе аблагі).

## ДУБІЦКАЯ ДЭМАГРАФІЯ

У гміне Дубічы Царкоўныя — 30 вёсак, з іх да найбольшых належаць: Грабавец (налічвае яна 529 чалавек), Дубічы Царкоўныя (339), Тафілаўцы (271), Ягаднікі (263) і Стары Корнін (257). У гміне ў 1984 г. пражывала 3010 чалавек. На 100 мужчын прыпадае 98 жанчын. Дзве трэці насельніцтва ўтрымоўваецца з сельскай гаспадаркі. Кожны год жэніцца ў сярэднім 20-25 пар і нараджаецца 24 дзяцей. У 1984 годзе сваё 50-годдзе шлюбу адзначылі Марыя і Фёдар Антанюкі з Руткі, Марыя і Іван Варанчукі з Войнаўкі, Аляксандра і Дзмітрый Гопшы з Вярстка ды Марыя і Рыгор Нікіцюкі з Вілюкоў. Найстарэйшыя жыхары гміны: Сцяпан Крот (нарадзіўся ён у 1892 годзе) з Вярстка, Параскева Лукашук (нар. 1894 г.) з Войнаўкі і Уліта Дзіда (нар. 1894 г.) з Тафілаўцаў.

## НАЙЛЕПШЫЯ ГАСПАДАРЫ

Да перадавых гаспадароў належыць некалькі дзесяткаў гаспадароў. Усе яны вядуць высокатаварныя гаспадаркі.

Да такіх, што прадаюць дзяржаве малако, убойную жывёлу на суму ад 600 тысяч да паўтара мільёна злотых, між іншым, належаць: Іван Корч, Іван Тапор, Рыгор Корч, Уладзімір Пень, Дзмітрый Дзіда і Іван Дзмітрук з Тафілаўцаў; Іван Скепка, Мікалай Галашэвіч і Мікалай Баравік з Ягаднікаў; Андрэй Завадскі з Карыцкаў, Сцяпан Катушэўскі з Грабаўца, Сцяпан Філіповіч з Пасечнікаў Малых.

Да найлепшых пастаўшчыкаў малака належаць: Іван і Рыгор Корчы і Іван Тапор з Тафілаўцаў, Мікалай Галашэўскі, Мікалай Баравік і Іван Скепка з Ягаднікаў. Яны спецыялізуюцца ў гадоўлі малочных кароў і прадаюць ад 20 да 34 тысяч літраў малака ў год.

Найбольш убойнай жывёлы прадаюць такія вопытныя гаспадары: Іван Скепка з Ягаднікаў (5,5 тон), Дзмітрый Дзіда з Тафілаўцаў (4,5 тоны), Уладзімір Пень з Тафілаўцаў (3 тоны), Сцяпан Катушэўскі з Грабаўца (3 тоны) і Андрэй Завадскі з Карыцкаў (2,7 тоны).

Іосіф Кандрацюк з Елянкі прадаў у мінулым годзе 1137 кілаграмаў мёду і ўсіх сельскагаспадарчых прадуктаў на суму больш за 1 мільён злотых.

Добра гаспадараць Рыгор Назарук, Мікалай Федарук і Уладзімір Куптэль з Ягаднікаў, Аляксандр Германовіч са Старога Корніна і Пётр Несцярук з Чэхаў Арлянскіх.

Ягадніцкія гаспадары Р. Назарук, М. Федарук і У. Куптэль гадуюць перш за ўсё многа пародзістых авечак. Усе палявыя работы выконваюць пры дапамозе навейшых сельскагаспадарчых машын. Карыстаюцца ўласнымі трактарамі і камбайнамі „Бізон". У іх механізаваныя хлявы.

Старакорнінскі селянін А. Германовіч дабіўся добрых вынікаў у авечкагадоўлі.

П. Несцярук з Чэхаў Арлянскіх гадуе многа ялаўніка і свінней, як ніхто ў гэтай вёсцы. Мае ён не малы даход таксама з пасекі.

## СОЛТЫСЫ

У Дубіцкай гміне да найлепшых солтысаў належаць: Рыгор Назарук з Ягаднікаў, Рыгор Рута з Грабаўца, Мікалай Якубюк з Чэхаў Арлянскіх, Люба Леанюк з Дубічаў Царкоўных і Надзея Чмель з Елянкі. Рыгор Назарук солтысам шмат гадоў, з'яўляецца радным ГРН, намеснікам старшыні ГРН і членам пленума Гміннага камітэта ПАРП.



*Грамадскі пачын пры пабудове дарогі з Грабаўца ў Дубічы Царкоўныя. Фота Я. Целушэцкага.*

## НАЙЛЕПШЫЯ ПАРТАРГАНІЗАЦЫІ

Васемнаццаць пярвічных партыйных арганізацый (ПОП) у Дубіцкай гміне гуртуюць каля 180 членаў. Актыўна працуюць ПОП у Ягадніках, Істоку, Доўгім Бродзе.

Ягадніцкая партыйная арганізацыя жыва займаецца справамі пабудовы дарог з Ягаднікаў у Арэшкава і з Ягаднікаў у Дубічы Пасечныя. Калі ў вёсцы закончаць пабудову водаправода, тады пабудуюць лепшую вуліцу, бо дагэтуль там разбіты стары брук.

Партыйцы з Істока многа ўвагі прысвячаюць пабудове жвіроўкі з Істока ў Вітава. Будуць меліяраваны тамашнія сенажаці і пашы ў даліне ракі Арлянкі.

У студзені 1984 г. члены партыі з Доўгага Броду і суседняй вёскі Пяскі абсталявалі на святліцу адзін з пустуючых будынкаў. Зараз у ёй новая печка, сцены абабіты цвёрдымі плітамі. Цяпер ёю карыстаюцца ўсе. Тут праводзяць культурныя мерапрыемствы, сустрэчы з цікавымі людзьмі, партсходы.

У Ягадніках сакратаром ПОП Іван Федарук, у Істоку — Дзмітрый Бажко і ў Доўгім Бродзе — Мікалай Пень.

## МОЛАДЗЬ І ГРАМАДСКІЯ ПАЧЫНЫ

**У гміне ў васьмі гуртках Саюза сацыялістычнай моладзі (ЗСМП) дзейнічае 225 членаў.**

У мінулым годзе сяляне закончылі пабудову клуба-святліцы ў Елянцы. На гэта перавезлі адзін з вялікіх будынкаў з вул. Л. Варынскага ў Гайнаўцы, дзе на іх месцы ўжо выраслі жыллёвыя блокі з так званай вялікай пліты. Жыхары Елянкі, а ў тым ліку і моладзь, на працягу двух дзён яго разабралі і перавезлі ў сваю вёску. Будынак ужо стаіць. Усё закончылі на Свята Адраджэння (22 ліпеня) 1984 г.

Варта адзначыць вялікі ўдзел у пабудове гэтага аб'екта, між іншым, солтыса Надзеі Чмель, старшыні грамадскага камітэта пабудовы — Фёдара Маркевіча, елянцаў: Васіля Хмяля, Мікалая Баравіка, Рыгора Голуба.

Члены ЗСМП у Войнаўцы закончылі абсталяванне аднаго са святлічных памяшканняў на клуб селяніна.

У 1984 годзе хлопцы, члены ЗСМП, з Чэхаў Арлянскіх пабудавалі ў сябе спартыўную пляцоўку.

## ВЕРНЫЯ ЧЫТАЧЫ „НІВЫ"

Шмат гадоў працуе на пошце ў Дубічах пісьманосцам Мікалай Панфілюк, ён адзін з актыўнейшых карэспандэнтаў „Нівы". У 1984 г. меў каля 90 гадавых падпісак на наш тыднёвік. У раёне яго працы найбольш падпісак на газеты і часопісы, а ў тым ліку і „Ніву" было ў Міхала Галко, Івана Корча, Уладзіміра Зубра і Мікалая Рыбака — усе яны з Тафілаўцаў ды Васіля Андраюка з Дубічаў Царкоўных. Некаторыя з іх, напрыклад, Міхал Галко мелі гадавыя падпіскі на „Ніву", „Газету Вспулчэсну", „Палітыку", „Грамаду-Рольніка польскага". і іншыя часопісы.




**...І тады ён мяне пацалаваў.**

## ВЯЛІКІ ГРАМАДСКІ ПАЧЫН

20 мая ў Дубіцкай гміне адбыўся вялікі грамадскі пачын з нагоды 40-годдзя Народнай Польшчы. Удзельнікі яго адраманталі 1,5-кіламетровы адрэзак дарогі Дубічы Царкоўныя — Грабавец. На дарозе працавала 500 чалавек. Сорак сялян вазіла пясок і жвір уласнымі трактарамі.

Члены паляўнічага гуртка ў Белавежы (каля 50 асоб) пасадзілі каля 1 гектара лесу каля Дубічаў Царкоўных і ва ўрочышчы Галадыска.

Жыхары Елянкі працавалі пры пабудове вясковай святліцы. У грамадскім пачыне ўдзельнічала 30 чалавек. Работай кіраваў сакратар ПОП Барыслаў Пракапюк.

У вёсцыІсток паставілі плот вакол мясцовай святліцы.

У Старыне пабудавалі пачакальню на аўтобусным прыпынку. Найбольш папрацавалі жыхары Старыны, Горнага Груда і хутара Бабінка, у тым ліку солтыс вёскі Старына — Пётр Казачук і кандыдат у радныя з той жа вёскі — Шымон Матэйчук.

---



# НАШЫ БРАТЫ — НАШЫ СУСЕДЗІ

## ДАЛЯГЛЯДЫ „РАССВЕТА"!

Усяго два старшыні за 39 год выбіраліся ў гэтай гаспадарцы. На памяць пра першага яна і называецца — калгас „Рассвет" імя Кірылы Арлоўскага. Дэмабілізаванаму падпалкоўніку, Герою Савецкага Саюза Кірылу Арлоўскаму, які страціў абедзве рукі ў баях з фашыстамі, пасля вайны была забяспечана ладная пенсія, кватэра ў Маскве. Але ён рашыў вярнуцца ў разбураную Беларусь, у родную вёску, каб адрадзіць калгас літаральна з папялішчаў. Першае, што рашыў пабудаваць старшыня — гэта помнік тутэйшым сялянам, якія загінулі на фронце II сусветнай вайны. Ён, гэты помнік, і цяпер на вачах ва ўсіх.

Цяпер працягвае справы ў калгасе вучань Кірылы Арлоўскага — Васіль Старавойтаў, таксама былы франтавы афіцэр, пасля вайны студэнт-завочнік Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, Герой Сацыялістычнай Працы.

Нягледзячы на здабыты вопыт, памнажаны да таго на вопыт свайго настаўніка, Старавойтаў не залічае сябе да людзей, якім усё ясна ў будучым развіцці калгасаў і ў якіх на кожны выпадак ёсць гатовы адказ. Ён як быццам разважае ўслых, займаючы размоўцу ніццю сваіх роздумаў.

Падчас аднаго са спатканняў я спытаў Старавойтава, што ён лічыць галоўным у сваёй дзейнасці як старшыня, кіраўнік.

— Арганізацыю вытворчасці і эканоміку.

Гэта было летам 1944 года, адразу пасля вызвалення нашай вёскі ад фашыстаў. Адбудоўваўся калгас з цяжкасцю. Праблемай было ўсё: гаспадарка разбурана дашчэнту, жывёла амаль цалкам вывезена — на дзвесце сем'яў захавалася адна карова. Мужчын у вёсцы — ніводнага, 400 чалавек загінула на франтах і ў партызанскіх атрадах, рэшта яшчэ ішла салдацкай дарогай да Перамогі. Насенне збіралася па жменьцы з кожнай хаты.

Якраз у той час дзяржава выдзяляе беларускаму калгасу, як і ўсім гаспадаркам краіны, якія пацярпелі ад акупацыі, доўгатэрміновую пазыку.

Аднагалосна было вырашана ўкласці выдзеленыя сродкі на набыццё гатунковага насення, племяннога быдла, новай тэхнікі, добраўпарадкаванне і жыццёвыя патрэбы. Набылі першы трактар, некаторыя іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Пабудавалі маленькую электрастанцыю.

У калгасе асаблівая ўвага звярталася на падрыхтоўку кадраў. Зразумела, што на пачатку ў людзей востра адчуваўся недахоп спецыяльных ведаў. Давялося арганізаваць сталую вучобу — трохгадовыя курсы калгаснай вытворчасці. На агульным сходзе вырашылі, што вучыцца павінны ўсе. І сам тадышні старшыня Кірыла Арлоўскі штодзённа з 24 гадзін „кароткіх“ пасляваенных сутак па дзве-тры гадзіны сядзеў над кнігай.

Абдуманая, адважная гаспадарчая тактыка — усё гэта, памножанае на ахвярную працу людзей, дазволіла калгасу хутка стаць на ногі. І ў гады, калі шматлікія беларускія калгасы яшчэ не акрыялі ад вынікаў вайны, „Рассвет“ стаў яскравым прыкладам таго, наколькі невычэрпны рэзервы калектыўных гаспадарак, дзе ўсё вырашаецца з удзелам народа ў кіраванні. Па-



*Помнік першаму старшыні калгаса „Рассвет“ Герою Савецкага Саюза, Герою Сацыялістычнай Працы Кірылу Арлоўскаму.*



*Перадавыя даяркі калгаса. Штодня ў калгасе надойваецца больш за 22 тысячы літраў малака.*

ступова ў „Рассвет“ пачалі ездзіць блізкія і далёкія суседзі. Рассветаўцы дзяліліся не толькі радай, але і насеннем, племянной жывёлай, праектамі будынкаў. І стаў „Рассвет“ своеасаблівым дзяржаўным універсітэтам у развіцці калгасаў, прыкладам для многіх гаспадарак краіны.

У мінулым годзе я прысутнічаў на сходзе калгаснікаў „Рассвета“, на якім падсумоўваліся вынікі працы калгаса на працягу года. З дакладам выступаў старшыня праўлення Васіль Старавойтаў. Ён вылічваў гектары, цэнтнеры, рублі. Людзі ўважліва слухалі яго і, я ўпэўнены, у памяці многіх усплывала нялёгкая і шчаслівая гісторыя — працоўны шлях „Рассвета“ даўжынёй амаль у 40 год. Успаміналіся гады, калі даход у 15 тысяч рублёў лічыўся ўдачай, калі плён збожжа — 9 цэнтнераў з гектара лічыўся дасканалым.

Сёння ў Рассвеце“ атрымоўваюць 45 ц/га збожжа, 380 ц/га бульбы, 1 100 цэнтнераў малака на 100 га ворыва. За год тут вартасць прадукцыі складае больш за 7 мільёнаў рублёў. Штогод чысты даход калгаса сягае 2,5 мільёна рублёў.

Цяпер у Мышковічах, на цэнтральнай сядзібе калгаса, засталося ўсяго некалькі старых дамоў ды і тыя стаяць з забітымі

вокнамі. Ранейшыя іх гаспадары даўно перасяліліся ў пасёлак побач — у па-сучаснаму абсталяваныя кватэры.

Нядаўна беларускія сацыёлагі правялі цікавае даследаванне: як і якім чынам забяспечвае сябе селянін жыллём сёння? Высветлілася, што ў сярэднім на 100 дамоў 92 будуюць працаўнікам вёскі саўгасы і калгасы. Яшчэ дзесяць год таму назад гэтыя суадносіны былі больш на карысць прыватнага будаўніцтва. Дакладней, усяго на 30 дамоў з 100 будавала ў рэспубліцы калгасная казна.

— Коштам чаго гэтакая шчодрасць? — пытаюся ў старшыні.

— Коштам дасканалення ўзаемаадносін паміж калгасамі і дзяржавай, а таксама ўнутрыкалгаснай дэмакратыі. Можна пералічыць мноства рашэнняў, прынятых партыяй і дзяржавай на карысць сялян. Гэта палітыка цэн на калгасную вытворчасць і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне гаспадаркі, увядзенне сталых планаў-заказаў на шэраг год.

Мне прыгадваецца пасяджэнне праўлення калгаса, на якім разглядаліся справы працаўнікоў „Рассвета". Некалькі чалавек звярнулася з просьбай выдзяліць ім будаўнічыя матэрыялы для рамонту ўласных дамоў. Ніводнаму не адмовілі. Калгас не забяспечвае прадпрыемства. Таму набыццё на складах будаўнічага матэрыялу для прыватнага будаўніцтва і яго прывоз можна за-



*Старшыня калгаса „Рассвет" імя Арлоўскага, Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Старавойтаў (злева).*



*Дамы, у якіх жывуць працаўнікі калгаса „Рассвет“.*

лічыць да лішніх клопатаў, якія адрываюць праўленне ад галоўных спраў. Але члены праўлення лічаць інакш.

— Для нас не можа быць „лішніх“ клопатаў, калі справа датычыць людскіх патрэбаў, — выясняе старшыня калгаса. — Гэта падстава нашай гаспадарчай палітыкі.

Калгас пастаўляе матэрыялы, заказвае праекты, выдзяляе на будаўніцтва грашавыя пазыкі. Імкнучыся звольніць члена кааператыву ад усіх цяжкасцей у будаўніцтве, тут рашылі ўзводзіць двухпавярховыя, па-сучаснаму абсталяваныя вілы і прадаваць іх потым тым, хто хоча адразу або ў растэрміноўку на дзесяць год. Аднак усё ж большым попытам у „Рассвеце“ па-ранейшаму карыстаюцца шматкватэрныя дамы, якія належаць да калгаса і кватэры, у якіх аддаюцца людзям за вельмі малую плату. За 3-4-пакаёвую кватэру з усімі выгадамі тут плацяць у месяц 12-15 рублёў. Пры даходзе ў год 3-4 тысяч рублёў на аднаго працуючага. Натуральна, што ўзнікае пытанне, як у жывучых у такім доме выглядае справа з індывідуальнымі дзялянкамі зямлі пры сядзібах.

— У новым пасёлку мы выдзяляем у асабістае карыстанне толькі невялікія дзялянкі зямлі, па сутнасці толькі на кветкі, садавіну і агародніну да стала, — расказвае Васіль Старавойтаў. — Рэшта ў агульным калгасным палявым масіве. Гэта не парушае архітэктуры пасёлка. А галоўнае — дае магчымасць максі-

мальна механізаваць апрацоўку зямлі і збор плёнаў тэхнікай, якую ўдосталь нам дастаўляе дзяржава. Цяпер на такую сістэму пераходзіць большасць гаспадарак у рэспубліцы. Такім чынам калгаснік вызваляецца ад нялёгкай працы на дзялянцы: брыгада механізатараў, якая ўзброена навейшай тэхнікай, зробіць гэта хутчэй і лепш. Разам з тым штогадовая змена дзялянак, абнаўленне насення з калгаснага фонду выразна павышае плён на індывідуальных палетках.

Ужо дзесяць год ніводзін з калгаснікаў у нас не выехаў у горад, не захацеў памяняць месца жыхарства. А ў нашай калгаснай завадовай школе ёсць і „гарадскія“ спецыяльнасці. У сярэднім за дзень працы калгаснік атрымоўвае па 8 рублёў 50 капеек, да гэтага дадаць неабходна даходы з прысядзібнай дзялянкі, бясплатнае ўтрыманне дзяцей у яслях, прадшколлях, школьных групах прадоўжанага дня. Наогул даход вышэй сярэдняга ў горадзе: сацыяльнае забеспячэнне ўзнята да „гарадскога“ ўзроўню.

У калгасе знаходзіцца бібліятэка, кінатэатр, у нашым Палацы культуры выступаюць лепшыя артысты рэспублікі і краіны. За білеты на канцэрт калгаснікі не плацяць — выдаткі бярэ на сябе калгас. Жыхар вёскі перастаў быць дамаседам. Працаўнікі калгаса ездзяць у горад на выстаўкі, у тэатры. Наш экскурсіённы аўтобус заўсёды ў дарозе. Па 150 членаў калгаса штогод



*Віла ў калгасе „Рассвет“.*

удзельнічаюць у замежных турыстычных паездках. Мы даём іх як заахвочванне за добрую працу і набываем гэтыя накіраванні на кошт калгаса. Вядома, — заўважае Старавойтаў, — у калгасе ёсць і нявырашаныя праблемы. У нас, напрыклад, няма пакуль што свайго прафілакторыя. У бліжэйшы час побач з расшырэннем будаўніцтва новых, сучасных, аўтаматызаваных жывёлагадоўчых комплексаў намерваемся таксама павялічыць і пабудову жылля не толькі з прысядзібнымі дзялянкамі, але і гарадскога тыпу — некаторыя маладыя спецыялісты не хочуць жыць у вілах. Яны больш ахвотна ідуць у шматпаверхавыя дамы. А мэта ў нас адна — задаволіць пажаданні кожнага. Перад намі далейшая праца над павышэннем ураджайнасці нашых палёў, уздыму жывёлагадоўлі. На гэта нас накіроўвае Харчовая праграма краіны. Дзеля гэтага мы жывём і працуем.

**Грыгорый Колабаў**

Фота М. Жылінскага

---

# ІДУЦЬ ЛЮДЗІ

(Інтэрв'ю з пісьменнікам, заслужаным дзеячом культуры БССР, дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы **Аляксеем Кулакоўскім.**)

*Пытанне:* Раскажыце, калі ласка, — звяртаюся да дырэктара Літаратурнага музея Я. Купалы, вядомага беларускага празаіка Аляксея Кулакоўскага, — аб гісторыі ўстановы, якой кіруеце?

*Адказ:* Літаратурны музей Янкі Купалы з'яўляецца адным са старэйшых музеяў Беларусі, ён заснаваны ў 1945 годзе паводле Пастановы Савета Народных Камісараў БССР і ЦК КПБ ад 4 жніўня 1945 года.

Цяпер музей з'яўляецца галоўным літаратурным музеем рэспублікі, аказвае метадычную дапамогу ўсім іншым музеям аналагічнага профілю.

У нашым музеі тры філіялы: Вязынка — радзіма Янкі Купалы, Ляўкі — была там дача Янкі Купалы і ён там жыў у трыццатых гадах, Пячышчы — пад Казанню, у Татарскай АССР. Там Янка Купала некаторы час жыў у часе вайны.

У музеі цяпер каля 60-ці чалавек штатных супрацоўнікаў. Мы праводзім значную прапагандысцкую, літаратурна-даследчую работу. Амаль штогод выпускаем навуковыя кнігі, прысвечаныя народнаму песняру Янку Купалу, а таксама буклеты, даведнікі, зборнікі ўспамінаў аб жыцці і творчасці народнага паэта.




На працягу апошнята часу да нас кожны год наведвалася да двухсот тысяч чалавек турыстаў з розных мясцін Савецкага Саюза, а таксама і з замежных краін. Музей мае больш дваццаці тысяч адзінак захавання: гэта — рукапісі Янкі Купалы, кнігі з кругу яго чытання, успаміны пра паэта, яго асабістыя рэчы, разнастайныя выданні твораў песняра, падарункі, сувеніры.

У мінулым годзе адзначалася сгагоддзе з дня нараджэння Янкі Купалы. Шырока адзначалася ва ўсім Савецкім Саюзе і па календару ЮНЭСКА ў многіх замежных краінах.

*Пытанне:* Напэўна музей наведваюць не толькі савецкія людзі, але і прадстаўнікі зарубежных краін. Цікава даведацца, як наведвальнікі ўспрымаюць жыццё і дзейнасць нашага песняра?

*Адказ:* Наведвальнікаў у нас многа. Кожны дзень у нас новыя і новыя людзі з усіх канцоў Савецкага Саюза і з зарубежных краін. Вось адзін з водгукаў дэлегацыі: „Мы, представители делегации Кампучии и Лаоса, очень взволнсваны и с восхищением осмотрели экспозицию поэта, произведения которого оказали большое влияние на революционное движение. Мы чтим память поэта, который являлся примером героизма для всего человечества и для нашего народа“.

Калі ж мець на ўвазе колькасць людзей, якія нас слухаюць у час разнастайных сустрэч, вечароў, сходаў, канферэнцый, юбілейных свят, то можна налічыць дзесяткі тысяч. Даволі адзна-

чыць, што ў час святкавання стагоддзя юбілею Янкі Купалы ў мінулым годзе, на радзіму народнага песняра ў Вязынку сабралася каля ста тысяч чалавек.

Вельмі масавымі былі ўрачыстыя сходы, прысвечаныя славутаму юбіляру, у Мінску, Маскве, Ленінградзе, Кіеве, ва ўсіх сталіцах саюзных і аўтаномных рэспублік, а таксама за мяжою — у Лондане, Парыжы, Нью-Йорку, у краінах сацыялізма.

*Пытанне:* Вашы творы вядомы беларусам у Польшчы і таму мне цікава даведацца аб вашай пісьменніцкай дзейнасці і аб вашых творчых планах.

*Адказ:* Да майго ўзросту кожны пісьменнік можа сёе-тое мець. Нават самы пасрэдны. У мяне семдзесят кніг, калі мець на ўвазе і перавыданні. Многа гэта ці мала? Для мяне можа і многавата, а для майго друга Івана Шамякіна — мала. Урэшце — не ў колькасці справа. Можна стаць значным пісьменнікам, стварыўшы толькі адну кнігу.

Некаторыя мае кнігі і асобныя творы, напісаны ў розныя часы, мне хочацца прызнаць патрэбнымі для нашага народа. Гэта перш за ўсё — раманы і аповесці пра людзей мінулай вайны. Я — удзельнік гэтай вайны, ваяваў на франтах, быў камандзірам штурмавой роты, чатыры разы паранены. Па жывых слядах удалося сказаць нешта сваё, на мой погляд, характэрнае.

Яшчэ ў мяне адна струнка — вельмі люблю сваіх землякоў: вяскоўцаў, местачкоўцаў, а цяпер і гараджан, бо побач ■ маёй вёскай раскінуў свае белыя корпусы, як гіганцкія крылы, новы горад беларускіх шахцёраў Салігорск. Пра гэтых людзей у мяне таксама напісана некалькі кніг. Яны ахвотна чытаюцца.

Па маёй аповесці „Нявестка" пастаўлены кінафільм, інсцэніравана і экранізавана некалькі апавяданняў. Амаль усе лепшыя творы перакладзены на рускую мову, некаторыя — на замежныя мовы.

Цяпер працую над новымі кнігамі. У канцы гэтага года выходзяць новыя аповесці і апавяданні ў часопісах „Полымя", „Маладосць", „Беларусь".

Гутарыў **А. Баршчэўскі**

## ЗЫЧУ МІРНАГА НЕБА І ЗГОДЫ

(Размова з сакратаром Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР **Барысам Сачанкам**).

*Пытанне:* — Раскажыце, калі ласка, — звяртаюся да сакратара Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, вядомага празаіка **Барыса Сачанкі,** — аб гісторыі развіцця Саюза пісьменнікаў БССР.



*Адказ:* У чэрвені 1984 года святкавалася 50-я гадавіна заснавання Саюза пісьменнікаў БССР і Саюза пісьменнікаў СССР. Пры гэтай нагодзе вярнуліся мы да нашага літаратурнага мінулага Да тых часоў, калі літаратурнае жыццё было ў нас падзелена, што знайшло свой выраз у існаванні некалькіх літаратурных аб'яднанняў. Такая мастацкая „раздробленасць" запярэчвала ідэі адзінства сацыялістычнага грамадства. Гэта прымусіла нашых літаратурных папярэднікаў і кіраўніцтва партыі да шукання новых вырашэнняў. Ініцыятарамі пошукаў новай формы існавання літаратурнага руху ў Беларусі былі, між іншым, Янка Купала і Якуб Колас, якія былі ў кантакце з Максімам Горкім. У 1934 годзе быў пакліканы да жыцця Саюз пісьменнікаў СССР і яго адпаведнікі — рэспубліканскія літаратурныя арганізацыі, у тым — Саюз пісьменнікаў БССР, які запачаткаваў новы перыяд у творчасці беларускіх літаратараў. Варта падкрэсліць, што на працягу пэўнага часу ў Саюзе пісьменнікаў БССР існавалі польская і яўрэйская секцыі.

Ужо ў даваенны перыяд Саюз пісьменнікаў БССР разгарнуў шырокую дзейнасць у галіне публікацыі твораў, перакладаў, кантактаў з чытачамі, папулярызацыі літаратуры ў найшырэйшых грамадскіх слаях. Многія тагачасныя пісьменнікі працавалі ў навуковых установах, у выдавецтвах і рэдакцыях. Некрасаў-

ская ідэя: паэт павінен быць грамадзянінам — у гэтым часе рэалізавалася з вялікім размахам.

*Пытанне:* Як выглядае сённяшні дзень Саюза пісьменнікаў БССР.

*Адказ:* Сёння Саюз пісьменнікаў БССР налічвае 350 чалавек, а да вайны было нас усяго 60 чалавек. З гэтага 190 займаецца прозай, 130 паэзіяй, 50 драматургіяй і каля 80 крытыкай. Каля шасцідзесяці займаецца творчасцю для дзяцей і каля трыццаці — перакладамі.

Аж 270 пісьменнікаў жыве ў Мінску, рэшта ў абласных або раённых цэнтрах. Ва ўсіх абласцях, апрача Мінска, існуюць аддзяленні Саюза пісьменнікаў.

Моцна вырасла выдавецкая база. У два-тры разы павялічыўся аб'ём „Полымя", узнік новы часопіс „Маладосць" і часопіс на рускай мове „Неман", які друкуе пераклады беларускіх пісьменнікаў. Вялікую „прадукцыю" даюць такія выдавецтвы як: „Мастацкая літаратура", „Навука і тэхніка". „Юнацтва", „Вышэйшая школа".

Саюзам пісьменнікаў кіруе праўленне, якое выбірае прэзідыум і сакратарыят. Старшынёй Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР ужо многа гадоў з'яўляецца выдатны паэт, вядомы таксама ў Польшчы, Максім Танк.

Пры праўленні Саюза пісьменнікаў дзейнічаюць секцыі прозы, паэзіі, драматургіі, літаратуры для дзяцей, крытыкі і літаратуразнаўства, мастацкага перакладу. Секцыі гэтыя збіраюцца больш-менш раз на два месяцы з удзелам аўтараў і даследчыкаў.

Пры Саюзе пісьменнікаў існуе Бюро прапаганды мастацкай літаратуры, якое займаецца арганізацыяй аўтарскіх сустрэч. Арганізуецца каля 10.000 аўтарскіх сустрэч у год, якія праводзяцца ва ўсіх закутках рэспублікі, а таксама па-за яе межамі.

Істотную ролю адыгрывае Літаратурны фонд, які займаецца дапамогай для пісьменнікаў.

Саюз пісьменнікаў мае свой Дом адпачынку і творчасці ў Каралішчавічах. Пры нашым Саюзе дзейнічае таксама паліклініка, у якой працуе каля дваццаці лекараў.

Зразумела, што найважнейшай справай для Саюза пісьменнікаў з'яўляецца развіццё мастацкай літаратуры. Думаю, што не толькі нам, але і вам вядомы такія вядомыя беларускія пісьменнікі як: Купала, Колас, Чорны, Лынькоў, Мележ, Танк, Брыль, Шамякін, Быкаў і многія другія. Зразумела, што творчыя дасягненні гэтых і іншых аўтараў, звязаны з дзейнасцю Саюза пісьменнікаў БССР.

*Пытанне:* Мы ў Польшчы ўрачыста святкавалі 100-годдзе з дня нараджэння Купалы і Коласа. Можа скажаце, як адзначаліся гэтыя гадавіны ў БССР.

*Адказ:* Для святкавання

юбілею Купалы і Коласа быў створаны камітэт, які ўзначальвала Ніна Сняжкова. У склад камітэта ўваходзілі многія вядомыя пісьменнікі: Танк, Лужанін, Гілевіч. На юбілейных урачыстасцях у Вялікім тэатры ў Мінску ўдзельнічалі не толькі шматлікія прадстаўнікі беларускай літаратуры і культуры, але таксама і чытачы, было больш чым 50 гасцей з іншых савецкіх рэспублік. Урачыстыя вечары, прысвечаныя нашым класікам, былі праведзены таксама ў Вялікім тэатры ў Маскве і ў многіх сталіцах саюзных рэспублік. Адных юбілейных выданняў, прысвечаных Купалу і Коласу было болей чым сто. Апрача гэтага ўсе часопісы і газеты змясцілі сотні публікацый, прысвечаных вялікім постацям нашых класікаў. Варта падкрэсліць і тое, што ў РСФСР і другіх саюзных рэспубліках былі выдадзены новыя кнігі перакладаў твораў Купалы і Коласа.

Святкаванне юбілею пераўтварылася ва ўсенароднае свята, у свята ўсёй беларускай літаратуры. Уявіце сабе, што на юбілейныя ўрачыстасці ў Вязынцы сабралася больш чым 100.000 людзей. Ці ж гэта не сведчыць аб усенароднай любві да Купалы?

*Пытанне:* Наколькі мне вядома, Саюз пісьменнікаў БССР супрацоўнічае з многімі замежнымі пісьменніцкімі арганізацыямі. Як выглядае гэтае супрацоўніцтва, хто з замежных пісьменнікаў прыязджае да вас і куды ездзіце вы?

*Адказ:* Перад усім прагну падкрэсліць, што наша краіна — гэта сузор'е многіх нацыянальнасцей, моў і літаратур. Усе рэспублікі зацікаўлены тым, каб іх літаратуры былі вядомы ў іншых рэспубліках. Ніколі яшчэ ў гісторыі нашых народаў не было такіх магчымасцей узаемнага запазнання са сваёй культурнай і літаратурнай спадчынай, як зараз. Аб гэтым клапоціцца і наша партыя і наш урад. Падам некалькі вымоўных лічбаў. Толькі за мінулую пяцігодку было выдадзена ў брацкіх рэспубліках 820 кніг беларускіх аўтараў. За гэты час у БССР выйшла 343 кнігі аўтараў з многіх савецкіх рэспублік. Найбольш нас перакладаюць рускія і выдаюць нашы творы вялікімі тыражамі. Перакладаюць беларускіх аўтараў таксама ва ўсіх савецкіх рэспубліках. Гэта спрыяе распаўсюджанню беларускай літаратуры па ўсяму Савецкаму Саюзу.

Цікава развіваюцца таксама кантакты з замежнымі краінамі. Мы кантактуемся з пісьменнікамі з Балгарыі, Чэхаславакіі, ГДР, Венгрыі, Польшчы, а таксама з пісьменнікамі з многіх іншых краін свету. Творы беларускіх пісьменнікаў перакладзены на многія еўрапейскія, пазаеўрапейскія мовы. У гэтым аспекце да найбольш папулярных належыць несумненна Васіль Быкаў. Варта пад-

крэсліць і тое, што нашы пісьменнікі прымаюць удзел у сесіях Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Дагэтуль выязджалі ў ЗША Танк, Кулакоўскі, Вярцінскі, Бураўкін, Чыгрынаў, Адамчык, Янішчыц, Адамовіч і я. Нашы пісьменнікі прымаюць таксама актыўны ўдзел у працах ЮНЭСКА, у міжнародным руху Абаронцаў міру і г.д. Ездзім часта на запрашэнне саюзаў пісьменнікаў з многіх краін народнай дэмакратыі ды і ў іншыя краіны. У сваю чаргу пісьменнікі з многіх краін свету кожны год наведваюць БССР.

У Мінску выдаем гадавік „Далягляды", у якім друкуем пераклады твораў пісьменнікаў розных народаў.

*Пытанне:* Вашы творы вядомыя многім беларусам у Польшчы. Прашу вас: раскажыце аб сваёй творчасці, аб сваіх планах.

*Адказ:* Першая мая кніга выйшла ў 1960 годзе, калі я быў студэнтам універсітэта. З таго часу выдаў я 25 кніг. Апошніх сем гадоў працаваў над раманам „Вялікі лес", які складаецца з трох кніг. Цікавіць мяне галоўным чынам Айчынная вайна. У часе вайны я знаходзіўся ў партызанскай краіне на Палессі. У 1943 годзе немцы спалілі вёску і вывезлі мяне ў Германію. У 1945 годзе вярнуўся я на радзіму. Мабыць, таму мая свядомасць і памяць так моцна „зняволены" вайной. Яно, мабыць, і не можа быць па-другому. З мінулай вайной звязаны і найбольшая наша трагедыя і найбольшы наш гераізм. Пісьменнік не можа прайсці побач гэтых з'яў. Пісаць аб іх — яго абавязак і доўг як у адносінах да жывых, так і памерлых. Цікаўлюся таксама глыбокім мінулым, перыядам казацкіх воен, але не чужыя мне і сучаснасць з рознымі яе аспектамі і праявамі.

*Пытанне:* Што вы хацелі б перадаць беларусам з Народнай Польшчы?

*Адказ:* Знаходзячыся ў Германіі і ў ЗША сустракаўся я з людзьмі, якія па розных прычынах адарваны ад роднай зямлі цяжка перажывалі адрыў ад радзімы. І таму хацелася б мне пажадаць усім беларусам у Польшчы, каб даражылі роднай зямлёй і роднай мовай, ды каб шанавалі ўсе тыя краіны і народы, якія ім прыязныя. Дарэчы, на працягу ўсёй гісторыі беларусы былі людзьмі добрай волі. Думаю, што гэта рыса характарызуе і беларусаў у Польшчы.

Больш за ўсё жадаю вам мірнага неба і згоды, бо толькі ў міры чалавек можа развіваць і распаўсюджваць дабро і высакароднасць.

Гутарыў **А. Баршчэўскі**

## ДЗЕЙНАСЦЬ У КАРЫСЦЬ МНОГІХ НАРОДАЎ

(Пытанні, пастаўленыя дырэктару Выдавецтва „Юнацтва“ **Валянціну Лукшу)**



— Вы загадваеце выдавецтвам „Юнацтва“. Скажыце, якая спецыфіка і якія галоўныя мэты вашага Выдавецтва?

— Выдавецтва „Юнацтва“, створанае ў адпаведнасці з Пастановай ЦК КПСС ад 1 студзеня 1981 года, заклікана забяспечыць выпуск усёй мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры для ўсіх узроставых катэгорый: кніг серыі „Школьная бібліятэка“, кніжак-цацак і кніг на замежных мовах па заказах зарубежных фірм. Стварэнне выдавецтва, дарэчы, дзесятага ў Беларусі — яркае сведчанне клопатаў Партыі і Урада аб маладой змене. Амаль за тры гады існавання з маркай „Юнацтва“ выйшла больш чым 300 назваў кніг і брашур, тыраж якіх перавысіў 25 мільёнаў экземпляраў.

— Вы друкуеце кнігі не толькі на беларускай, але і на іншых мовах. Можа некалькі слоў аб гэтай справе.

— Сваю галоўную задачу наш калектыў бачыць у тым, каб даць падрастаючаму пакаленню цікавыя кнігі пра гераічную гісторыю нашай радзімы, яе стваральнае сёння, кнігі пра Леніна, Камуністычную партыю, Ленінскі камсамол і піянерыю.

Важнае месца ў нашых планах займае руская, савецкая і зарубежная класіка, творы сучасных аўтараў. Выйшлі з друку кнігі А. Пушкіна, М. Гогаля, І. Тургенева, М. Горкага, Ул. Маякоўскага, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Танка, Ж. Верна, Р. Кіплінга, і іншых. Сярод нашых выданняў ёсць і кнігі польскіх аўтараў Б. Пруса „ Грахі маленства“ (пераклад Я. Брыля), Я. Корчака „Кароль Мацюсь“ (пер. У. Васілевіча) і М. Папузіньскай „Мая мама — чараўніца“ (пер. А. Вольскага).

— Між іншымі вы друкуеце

кнігі на польскай мове. Якія гэта кнігі, якія іх тыражы?

— Вялікую ўвагу мы надаем выпуску кніг на замежных мовах, у тым ліку і на польскай. Усяго рэдакцыяй выпушчана гэтай літаратуры больш за 40 кніг тыражом каля 2 мільёнаў экземпляраў. Нашы выданні на англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай і іншых мовах ідуць больш чым у 50 краін свету. Гэта, у асноўным, беларускі фальклор, а таксама творы Я. Купалы, Я. Коласа, І. Шамякіна, М. Танка, В. Быкава і іншых. Значную колькасць складаюць і кнігі на польскай мове, тыраж якіх амаль дасягае мільёна экземпляраў. Юныя чытачы Польшчы атрымалі кнігі „Кот Максім" (беларускую народную казку), зборнікі А. Лойкі „Дзе хто начуе?", П. Марцінкевіча „Паспяшайцеся ў наш звярынец" і інш.

— Вашы кнігі прыгожа ілюстраваны. Скажыце аб мастаках, з якімі супрацоўнічае Выдавецтва.

— Многія нашы выданні — „Балады" Ф. Шылера, „Адвечная песня" Я. Купалы, „Казка пра суседзяў: змяю і мядзведзя" Н. Мацяш, „Жаронцы" і іншыя — адзначаны дыпломамі ўсесаюзнага і рэспубліканскага конкурсаў „Мастацтва кнігі". Тут няма ніякага „сакрэту". Мы шырока адкрылі дзверы для маладых творчых сіл, разумна вызначаем мастакоў на той ці іншы твор. Плённа працуюць у дзіцячай кнізе В. Шаранговіч, А. Кашкурэвіч, Г. і Н. Паплаўскія, А. Лось, Т. Беразенская і інш. Як і творчыя планы, так і планы на мастацка-графічным афармленні мы складаем на перспектыву. Гэта і дае плён.

— Вы не толькі дырэктар Выдавецтва, але і выдатны паэт. Я меў прыемнасць перакладаць на польскую мову кнігі вашых дзіцячых вершаў „Лета круглы год". Раскажыце аб сваёй творчасці і найбліжэйшых літаратурных планах.

— У маім творчым багажы — 14 кніг паэзіі, прозы і публіцыстыкі. Амаль усе яны адрасаваны юнацтву і дзецям. Два гады таму, напрыклад, у выдавецтве „Мастацкая літаратура" ўбачыла свет мая паэма „Белыя берагі". Па сутнасці гэта біяграфія Наваполацка, дзе ў 1958-59 г.г. я быў першым камсоргам будоўлі. Сёлета ў „Юнацтве" выйшла кніга вершаў і казак для дзяцей „Крылаты цэх". На маім рабочым стале драма — паэма „Агонь і попел" пра легендарнага героя грамадзянскай вайны У. М. Азіна і аповесць-казка ў вершах „Чароўны камень". Рыхтую аднатомік выбранага да свайго 50-годдзя з дня нараджэння.

— Што вы хацелі б перадаць тым усім дзецям у Польшчы, якія чытаюць вашы беларускія вершы ў арыгінале і тым, якія прачытаюць іх у перакладзе.

— Дружнасць з кнігай. Бо, як

сказаў заснавальнік кнігадрукавання ўсходняга славянства, мой зямляк Францыск Скарына кніга „дзецям малым пачатак усякай добрай навукі“. Больш чытаць. Удумліва чытаць класіку. І свайго народа, і ўсіх народаў свету. Добрая кніга павінна стаць другам і дарадцам кожнага хлопчыка ці дзяўчынкі. Яна зробіць іх сэрцы чулымі, а саміх — больш разумнымі, працавітымі, вартымі называцца будучыняй сваёй Радзімы, вернымі камуністычным ідэалам.

Гутарыў **А. Баршчэўскі**

---

**Надзея Панасюк**

## ПРАЗАІЧНАЯ І ДРАМАТЫЧНАЯ ТВОРЧАСЦЬ АЛЯКСЕЯ ДУДАРАВА

У апошнім тэатральным сезоне ў рэпертуары Беластоцкага драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі знайшлася п’еса „Парог“ маладога беларускага пісьменніка і драматурга Аляксея Дударава.

Можна было б разважыць, што прычынілася да таго выбару: чаму якраз п’еса А. Дударава, творчасць і постаць якога ў Польшчы зусім не вядомая. Ці гэта выпадкова, ці можа прадуманы і ўзважаны выбар? Адказ на гэтае пытанне, я думаю, чытачы „Календара“, тыя, хто глядзеў п’есу, і тыя, якіх, мабыць, заахвоціць да наведання тэатра бліжэйшае знаёмства з асобай і дасягненнямі беларускага аўтара, знойдуць у сённяшнім артыкуле.

Аляксей Дудараў — малады беларускі пісьменнік і драматург, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола БССР за 1982 год, дэбютаваў у 1979 годзе зборнікам апавяданняў „Святая птушка“. Але яшчэ да кніжнага дэбюту пісаў і публікаваў апавяданні для дзяцей („Апошні бой“, „Бярозка“ 1978(7) і сцэнарыі фільмаў. Першы сцэнарый напісаў Дудараў да кароткаметражнага тэлевізійнага мастацкага фільма „Кола“. Карціну паставіў у Беларускай тэлевізійнай студыі Валеры Басаў (таксама дэбют). Гэты дэбютанцкі фільм расказваў пра чалавечую душу, імкненне яе да палёту. Гэта таксама расказ пра чалавечую мару, пра тое, як не збылося шчасце бацькоўства, як сутыкнуліся паэзія і проза жыцця, дзівацтва і сумная звычайнасць. Каратка кажучы — гэта фільм пра няспынны рух жыцця наогул, таму і загаловак карціны — „Кола“. Апрача сімвалічнага „кола жыцця“ ў фільме выступае і сапраўднае кола, якое дзівак Сцяпан уцягнуў на верхавіну старой ліпы, каб паслужыла яно гняздом для буслоў.

Удала запачаткаванае тэлефільмам „Кола“ супрацоўніцтва А. Дударава і В. Басава ў далейшым прычынілася да



*Аўтар „Парога" перад парогам беластоцкага тэатра...*

*Фота М. Гайдука.*

паўстання некалькіх цікавых і своеасаблівых фільмаў, між іншым: „Дэбют", „Суседзі", „Наваселле", „Крыллі мараў і надзеі..." і інш.

Адразу пасля выхаду кнігі А. Дударава, крытыкі пісалі, што ў літаратуру прыйшоў цікавы празаік, які мае свой почырк, сваю тэму, свайго лірычнага героя, майстар дынамічных і нечаканых сюжэтных паваротаў. Высока ацэньвалася арыгінальнасць аўтарскага мыслення з нейкай чысцінёй і душэўнай адкрытасцю, а таксама наіўнай безабароннасцю герояў. Апавяданні Дударава вылучаюцца веданнем псіхалогіі чалавечых характараў з народа, уменнем матываваць учынкі персанажаў і беражлівым, ашчадным станаўленнем да мовы. Проза маладога пісьменніка адзначаецца таксама пільнай увагай да чалавека як да асобы і да асяроддзя, у якім гэты чалавек жыве. Многія дзіўныя на першы погляд, паводзіны і ўчынкі яго персанажаў у канчатковым выніку апраўданы, напр. трактарыст Сямён Шпак („Цацкі") паліць сынавы цацкі не са злосці і не таму, што „ашалеў" ці „з глузду з'ехаў", а наадварот — ён баіцца за будучае сына. Сямён хоча, каб яго сын вырас на добрага, чулага чалавека і не прывучыўся глядзець на ўсё, як глядзяць на цацкі. Сам Сямён чу-

лы і добры, можна сказаць нават, што ў пэўным сэнсе дзівак. За дзівацтвам Сямёна хаваецца вялікая душа, якой многія з-за абыякавасці сваёй не могуць і не хочуць заўважыць. Сам жа Сямён не раз з болем задае пытанне: „Чаму душы ў людзей сталі такія засушаны, нібы летнія грыбы?“ Пытанне гэтае хвалюе яго і не дае яму спакою.

Чалавечая памяць прысутнічае ў многіх апавяданнях А. Дударава. У апавяданні „Дэмагог“ галоўны герой Пракоп Яцука перажыў вялікае няшчасце — памерла яму 5-гадовая дачка Настачка. Ціхі і маўклівы Пракоп пратэстуе супраць дэмагогіі суседа Міціка Калівы, які лічыць людзей нікчэмнасцю. Паводле Пракопа нават калі чалавек памрэ, то застанецца па ім памяць, любоў, дасягненні яго жыцця. Пасля недарэчнай смерці дзіўнага, цельпукаватага героя апавядання „Макароў вір“ таксама засталася светлая памяць і назва месца, дзе рос над вадой векавы дуб-прыгажун, за які так адчайна ваяваў герой. Аўтар з замілаваннем і сімпатыяй паказвае герояў, што ў нялёгкіх умовах жыцця здольны зберагчы чысціню чалавечых пачуццяў, умеюць прыгожа і добра сустракаць жыццёвыя нягоды.



*Аляксей Дудараў размаўляе з Тадэушам Александровічам, дырэктарам тэатра імя А. Вянгеркі ў Беластоку. Фота М. Гайдука.*

Быць самім сабой, быць верным сабе, сваім пачуццям і думкам, не зважаючы ні на што, — вось гэта дэвіз герояў А. Дударава. І хоць часам недарэчна смешнымі выглядаюць іх учынкі, то выклікаюць яны толькі спагаду, часам лёгкую ўсмешку, ніколі гнеў ці іронію. Пісьменнік паказвае, як няпроста ўсё ў жыцці, і хаця яго героі дзівакаватыя, але душэўна багатыя і чыстыя. Такімі з'яўляюцца і дзед Васіль („Лапці"), і паштарка Алена Сакавец („Святочная тэлеграма"), і Сашка Лявонаў („Кола"), і Генка Круглы („Хвароба") — усе яны непаўторныя, арыгінальныя і ні ў чым не прыпамінаюць персанажаў з твораў іншых пісьменнікаў. Гэта жывыя постаці, людзі, якіх многа на зямлі і якіх, магчыма, аўтар сустракаў у сваім жыцці, а можа прататыпы герояў Дударава жывуць у яго роднай вёсцы Кляны, што ў Дуброўскім раёне на Віцебшчыне.

Побач апавяданняў і сцэнарыяў А. Дудараў таксама аўтар арыгінальных і небанальных п'ес. Дагэтуль напісаў ён тры драматычныя творы: „Выбар", „Апошні ўзлёт" і „Парог". Два першыя спалучае падобная тэматыка — праблема выбару паміж смерцю і жыццём. Апошняя п'еса гаворыць таксама пра выбар, але ў іншым аспекце, тут мова пра выбар дарогі жыцця: ці лёгка і бестурботна, ці звычайна, як усе, як большасць людзей. У п'есах (можна іх назваць трагедыямі) „Выбар" і „Апошні ўзлёт" аўтар аналізуе прыроду подзвігу, яго вытокі, вядзе дыспут аб сэнсе жыцця і смерці, аб прызначэнні і абавязках чалавека. У адной і другой драме героі пастаўлены перад выбарам дзвюх супрацьлеглых магчымасцей — жыццё ў няславе або смерць і бяссмерце ў людскай памяці.

У „Апошнім узлёце" паміж жыццём і смерцю выбіраюць салдаты апошняй вайны. Героі Дударава выбіраюць, а выбар нават у звычайнай жыццёвай сітуацыі — гэта справа няпростая. Персанажам п'есы няма калі доўга задумвацца, трэба выбіраць імгненна — ці вялікая ганьба пры жыцці, ці смерць. Хаця кожнаму чалавеку дадзена адно жыццё — салдаты яшчэ не ўспелі нацешыцца ім — выбіраюць яны смерць. Смерць выбіраецца не галасаваннем, а воляй камандзіра. У далейшых разважаннях празаік ставіць рад маральна-этычных пытанняў: ці камандзір меў права распараджацца чужым жыццём, ці гатовы былі для такога выбару ўсе, каму прызначана загінуць, ці патрэбна была гэта ахвяра і іншыя.

У наступнай п'есе на подзвіг ідуць, заплаціўшы за гэта жыццём, хлопцы — салдаты нашых дзён. „Выбар" — гэта драматычная аповесць пра тое, як у мірныя дні звычайныя савецкія юнакі, апранутыя ў вайсковую форму, падчас баявога трэнінгу ў гарах гінуць, ратуючы жыццё падлетка. Да-



*А. Дудараў падчас размовы з перакладчыкам і рэжысёрам беластоцкай пастаноўкі яго п'есы Мірыям Александровіч-Краско.*

*Фота М. Гайдука.*

лей разгортваецца маральна-філасофскі дыспут аб сэнсе такога ўчынку, аб прызначэнні і абавязках чалавека наогул і ў ваенны час. У творы дзейнічаюць персанажы, што рэальна існуюць і тыя, каго ўжо няма сярод жывых. Мала таго, яны знаходзяцца ў сувязях паміж сабой, у дачыненнях адзін да аднаго. Разам з гэтым герояў раздзяляе рэзкая лінія, што пралягла паміж жывымі і мёртвымі. Падзеі з сённяшняга дня, з сучаснасці пераносяцца ў час Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар уводзіць постаці з мінулага ваеннага: эсэсавец-садыст, здраднік, баязлівец, увогуле нікчэмны чалавек і падпольшчык Аляшкевіч — спакутаваны, фізічна знявечаны, але цвёрды і нязломны духам юнак. Героі, якія жылі ў розныя гады, і Аляшкевіч стаяць па адзін бок, а эсэсавец і здраднік — па другі бок. Але гэта не адзіны прыклад спалучэння гісторыі з сучаснасцю, да такога прыёму Дудараў адклікаецца ў „Выбары" некалькі разоў. Кантамінацыі гэтыя служаць падмацаванню слушнасці выбару Шабуні.

Падчас баявога задання не-

чакана перад танкам, якім кіраваў Шабуня, паяўляецца заблуканы ў гарах хлопчык. Затармазіць танк было ўжо позна, а мінуць не было як, бо з боку знаходзілася бездань і радавы Шабуня (ціхі, нават трохі дзікаваты, вясковы хлапец) без дазволу камандзіра экіпажа Дробава, паварочвае ўбок. Жыццё хлопчыка выратавана, але цаной трох дарослых і яшчэ маладых людзей. Ці правільна паступіў Шабуня? Ці належала такой цаной ратаваць жыццё дзіцяці? А можа лепш было „не ўбачыць" хлопчыка? Каб даць магчымасць выказацца загінуўшым салдатам, прааналізаваць іх паводзіны, іх думкі, іх погляды воляй аўтара героям на сцэне дадзена другое жыццё — яны з небыцця пазіраюць за рэальнасцю, разважаюць, умешваюцца ў падзеі. Далей дзея разгортваецца паміж членамі экіпажа. Дробаў не адабрае ўчынку Шабуні. Паводле Дробава жыццё дадзена чалавеку толькі раз і трэба ўзяць ад яго ўсё, хай сабе і за кошт іншых людзей. Інакш думаюць Шабуня і Крынкін, і хаця яны сумняваюцца і хістаюцца ў правільнасці выбару аднак погляды Дробава хлопцы рэзка асу-



*Гэта размова — аўтара „Парога" з выканаўцам галоўнай ролі ў ім, папулярным беластоцкім акцёрам Анджэем Кароляком — была асабліва цікавая. Фота М. Гайдука.*

джаюць. Шабуня дзейнічаў пад уздзеяннем хвілі, яго альтруістычны ўчынак падыктаваны быў імпульсам сэрца, у той момант ён пра ўсё і ўсіх забыў, была адна толькі важная справа — хлопчык. Пасля свайго гераічнага рашэння Шабуня пакутуе, успамінаючы сваю адзінокую маці. Але апрача дзвюх магчымасцей іншага выбару не магло быць. Так паводзілі б сябе персанажы экіпажа, каб перад смерцю дадзены ім быў час узважыць і абдумаць усё. Усе яны аднолькава хацелі жыць. Духоўная веліч Шабуні і Крынкіна заключаецца ў тым, што пасля роздуму, разваг і балючых успамінаў аб блізкіх і родных яны прыходзяць да адзінага магчымага вываду — кожны з іх зрабіў бы таксама, як Шабуня. Таму што няма ў жыцці малых і вялікіх кампрамісаў. Нібы суровае абвяржэнне філасофіі Дробава аўтар уводзіць эпізод-успамін з мінулага — размову палкоўніка і маладога капітана, які вёў у атаку салдат, каб здабыць занятую ворагам вышыню. У гэтым баі загінула 38 чалавек. Фашысты прывязалі да амбразур дотаў дзяцей і ні адзін савецкі салдат не выстраліў. Яны ішлі і гінулі ад варожых куль, але ніхто з атрада не пераступіў мяжы чалавечнасці. Як вялікі папрок у адрас Дробава і яму падобных гучаць словы: „Дзеці заўсёды зберагаліся ў любых абставінах не лічачыся ні з чым“.

Каб адказаць на пытанні: ці бывае недарэчная смерць, ці існуе сувязь паміж сённяшнім жыццём і будучыняй нашчадкаў, драматург уводзіць новую сцэну. Даведаўшыся ад здрадніка пра ўсё, што яму было патрэбна, пра падполле, эсэсавец праводзіць свой садысцкі эксперымент над скатаваным камсамольцам Аляшкевічам. Яму хочацца, каб палонны хаця ў чым-небудзь адрокся ад сваёй ідэі, каб здрадзіў самому сабе, але нягледзячы на заманлівыя прапановы ворага, Аляшкевіч не адступае і гіне. Дзеянне п'есы А. Дударава „Выбар“ канцэнтруецца вакол філасофскай спрэчкі, якую вядуць юнакі, і сэнс яе заключаецца ў тым, што кожны чалавек павінен аднойчы зрабіць свой самы адказны выбар. Ці меў рацыю Шабуня, заплаціўшы за жыццё дзіцяці жыццём сваім і сяброў? Ці можна пераступіць мяжу дазволенага, а потым спакойна жыць на зямлі? Галоўная думка п'есы зводзіцца да таго, што паняцці дабра, справядлівасці, сумленнасці і гуманізму не з'яўляюцца індывідуальнымі катэгорыямі, якімі можна маніпуліраваць па ўласнаму жаданню, у залежнасці ад абставін. Гэта грамадская катэгорыя і наяўнасць ці адсутнасць іх у характары пэўнай асобы вызначае ідэйную і грамадзянскую сталасць чалавека.

Катэгорыя выбару (можна яе назваць дударАўскай катэгорыяй) выступае і ў чарговай



*Сцэна з пастаноўкі „Парога“ А. Дударава ў Беластоцкім тэатры імя А. Вянгеркі: у ролі Буслая — А. Кароляк (злева), Шаргаёва — Е. Сех. Фота Р. Сенькі.*

п'есе маладога беларускага драматурга „Парог“. Як ужо было сказана, перад выбарам пастаўлены малады чалавек, які толькі пачынае жыццё, выбірае дарогу жыцця. Лёгка выбіраецца лёгкі шлях. Лёгка выбраўшы, герой цяжка гіне, гіне страшна, бязглуздна і трагічна. Увесь трагізм у тым, што ён яшчэ не памёр фізічна, яшчэ ходзіць па зямлі, але маральна і духоўна ён ужо пераступіў парог у небыццё. І толькі дзякуючы дапамозе, такіх „дзівакоў-альтруістаў“ як Пакутовіч, перамагае сябе і пачынае вяртацца ў рэчаіснасць. У драме закранаецца тэма алкагалізму, праблема асабістай адказнасці чалавека за свой лёс. Пісьменнік задумваецца: чаму губляецца вера ў некаторых людзей у свае сілы? П'еса арыгінальная па форме і змесце, напісана вельмі эмацыянальна, за кожным словам, кожным паваротам дзеяння адчуваецца боль аўтара за змарнаваныя чалавечыя жыцці. Твор аднначасова прасякнуты вялікім аптымізмам, верай у адраджэнне чалавека. І гэтае адраджэнне павольна наступае. Андрэй Буслай, герой п'есы „Парог“, пад аздараўленчым уздзеяннем Максіма Пакутовіча вяртаецца да нармальнага жыцця, вяртаецца туды, адкуль уця-

каў, шукаючы лёгкага жыцця, вяртаецца ў родную вёску. Але мінулае не праходзіць бясследна. Яно пакідае свой адбітак на здароўі і памяці героя. Апрача Буслая і Пакутовіча ў п'есе выступае шмат цікавых, маляўнічых асоб. Да іх належаць каларытны і псіхалагічна багаты вобраз маці Андрэя Буслая — стомленай і спакутованай сялянкі. Бывае яна і мяккай, падатлівай, і рэзкай, няўступнай, а нават жорсткай. Маці перажывае за сына, за яго лёс. Гэты боль робіць яе яшчэ больш жорсткай, але не маладушнай, боль яе гняце, але не ломіць. Супрацьпастаўленнем маці ёсць бацька Андрэя — па-сялянску разважлівы і стрыманы, на свой спосаб перажываючы трагедыю сына. Не менш цікавыя постаці былой жонкі Буслая, Ніны, і яе цяперашняга мужа — Міколы, колішняга дружбака Андрэя па кілішку — алкаголіка Шаргаёва і інш. Сярод „гарадскіх" персанажаў увагу звяртае постаць Максіма Пакутовіча пісьменніка-казачніка, аднаго з „дудараўскай галерэі" дзівакоў. Добрага чалавека. Пакутовіч „прытуліў" і дапамог у няшчасці не толькі Андрэю, але многім такім, як ён, і яны не забываюць таго, забягаюць адведаць яго, падзяліцца сваімі радасцямі і смуткамі. Дзверы кватэры Пакутовіча заўсёды адкрыты для тых, хто патрабуе яго дапамогі, сам жа ён жыве небагата, у яго няма злодзею чаго ўкрасці.

У п'есе Дударава „Парог" драматычнае пераплятаецца з камічным. Побач амаль што дэтэктыўных сцэн ёсць многа гумару і смеху, звязанага пераважна з постаццю Андрэевага дружбака Шаргаёва.

Папулярнасць твораў Дударава не абмяжоўваюцца толькі да Беларусі. Творы яго перакладаюць на іншыя мовы (руская, украінская, башкірская, казахская), а драмы яго ахвотна ставяць такія тэатры, як Кіеўскі тэатр юнага гледача, Маскоўскі драматычны тэатр імя А. М. Астроўскага, тэатры Прыбалтыкі, Тэатр імя Я. Коласа, Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, Брэсцкі абласны драматычны тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі, Адэскі тэатр юнага гледача імя М. Астроўскага, Бранскі абласны драматычны тэатр, Вільнюскі рускі драматычны тэатр і рэпеціруе новую драму А. Дударава „Вечар" Дзяржаўны ўкраінскі акадэмічны драматычны тэатр імя І. Франка і шмат іншых — каля 60 тэатраў СССР.

У заканчэнні пра Аляксея Дударава трэба сказаць, што ў беларускую літаратуру прышоў арыгінальны і таленавіты празаік і драматург, які не спыняецца на дасягненнях і ўвесь час шукае новых форм, новых тэм і новай формы экспрэсіі.

**Надзея Панасюк**
Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

# СА СТАРОНАК МІНУЛАГА

Васіль Іванюк

## Праз Белавежу ў гісторыю

Белавежская пушча — гэта не толькі прырода. У яе нетрах дрэмле таксама і гісторыя. Прапаную чытачам „Беларускага календара“ паехаць у яе глыбіню. Няхай перасадачнай станцыяй будзе нам Старая Белавежа — месца, дзе расце больш за сорак даўгавечных каранастых дубоў. Дубы гэтыя былі пасаджаны ў XVI стагоддзі навокал паляўнічага замка, пабудаванага, магчыма, для патрэб караля польскага і вялікага князя літоўскага Зыгмунта І Старога. Дубы — якраз жывыя сведкі тых часоў. Цяпер маюць яны імёны князёў і каралёў, якія ўнеслі заслугі для Белавежскай пушчы і Беластоцкай зямлі. Палюбавацца гэтымі магутнымі дрэвамі можна, ідучы сцежкай, якая і называецца „Шляхам каралеўскіх дубоў“. Паўстаў ён дзякуючы старанням лесніка, любіцеля прыроды і экскурсавода Яцка Высмулка, якога ўжо, на жаль, няма сярод нас.

Пайшлі. Пры дубах блішчаць дошчачкі з іх імёнамі. Вось дуб князя Данілы Раманавіча. На інфармацыйнай таблічцы можна прачытаць, што яго акружнасць — 472 см, вышыня — 32 м, узрост — каля 400 год. А за паваротам сустракаем „даму“ — дуб „Ялена“. Яго акружнасць 326 см, узрост каля 200 год. На таблічцы бачым кароткі надпіс, у якім найважнейшае тое, што Ялена палявала ў пачатку XVI стагоддзя ў Белавежы. Каралева любіла паляваць і вяла сябе пры гэтым не горш, чым мужчыны.

Пра Ялену, жонку караля польскага і вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка, пісалася шмат у „Ніве“. Давайце прыгледзімся гэтай цікавай асобе бліжэй.

Папа Павел II, хочучы пашырыць свой уплыў на Маскоўскую

Русь, высватаў вялікаму князю маскоўскаму Івану III Зою Палеолаг, якая паходзіла са славутай дынастыі візантыйскіх імператараў. Яе дзядзька Іан VIII падпісаў з Рымам у 1439 г. вядомую Фларэнцкую унію. Папа, аднак, не мог прадбачыць, што яго „дачка“, прыбыўшы ў Маскоўскую Русь, дэманстрацыйна падкрэсліць сваю прывязанасць да праваслаўя і пакіне унію.

Шлюб князя з візантыйскай царэўнай адбыўся ў 1472 годзе. На пятым годзе пасля вяселля ў маладой пары нарадзілася дачка Ялена — будучая каралева Польшчы. Сваё дзяцінства яна правяла з маці, навучылася чытаць, прыгожа пісала. Два разы наведваўся ў Маскву брат Зоі — Андрэй Палеолаг. Падчас другога прыезду параіў сястры, каб у выпадку смерці мужа, яна шукала падмогі ў Ягелонаў. Ягелоны са свайго боку ўжо даўно хацелі ажаніць з маскоўскай княжною сына Казіміра Ягелончыка, які атрымае ў спадчыну Вялікае княства Літоўскае. Яно выпала на долю яго сыну Аляксандру.

У 1492 г. Аляксандр Ягелончык уступіў на вялікакняжацкі пасад. Нягледзячы на пагоршанне адносін паміж Вялікім княс-



*Праваслаўныя храмы Бельска Падляшскага ў замалёўках Б. Рудкоўскіна. Царква св. Мікалая (згарэла ў 1941 г.), стаяла на пляцы, на якім у пачатку 60-ых гадоў быў пабудаваны гмах Беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча.*

твам Літоўскім і Вялікім княствам Маскоўскім перамовы пра шлюб пачаліся. У 1494 г. у Маскве паявілася Аляксандрава пасольства, якое ўзначальваў ваявода Пётр Мантыгірдавіч. Літва згадзілася на анексію сваіх зямель, захопленых падчас вайны Іванам III, і быў падпісаны мір паміж абедзвюма дзяржавамі. 5 лютага 1494 г. ваявода папрасіў руку княжны Ялены для свайго князя і наступнага дня атрымаў прыхільны адказ. Абодва бакі прыступілі да ўстанаўлення шлюбнага дагавору. Гэта было цяжкае заданне: Аляксандр Ягелончык не хацеў дапусціць да аб'яднання ўсходнеславянскіх зямель з Маскоўскай дзяржавай, а Іван III намагаўся ўмацаваць праваслаўе у Вялікім княстве Літоўскім, а таксама гарантыі на пабудову для дачкі царквы ў віленскім замку.

Шлюб каталіка з праваслаўнай у тыя часы быў справай нечуванай. Сам папа даў згоду на яго. На прапанову віленскага біскупа Табара Ялена магла дабравольна прыняць каталіцызм. Масква на гэта не згадзілася і наступіў перапынак у перамовах. Нягледзячы на згоду Аляксандра, талерантнасць у адносінах да праваслаўнай княжны ў каталіцкай дзяржаве была немагчымай. Справа пабудовы царквы ў замку засталася адкрытай.

Урэшце бакі дамовіліся. Пасля ўрачыстага набажэнства ва Успенскім саборы на Крамлі і закліку Івана III быць вернай праваслаўю, княжна паехала ў Вільню. У Вялікім княстве Літоўскім віталі яе з вялікай радасцю. Праваслаўныя спадзяваліся палепшання свайго палажэння, каталікі цешыліся, што княжна будзе паручыцелем міру.

Вялікі князь літоўскі выехаў вітаць Ялену на тры вярсты ад сталіцы. У віленскім праваслаўным саборы Прачыстай Багародзіцы мітрапаліт маскоўскі Макарый сустрэўся з вернымі. Шлюб даў сам біскуп Табар у каталіцкай кафедры ў прысутнасці мітрапаліта Макарыя. Маладому тады было 34 гады, маладой — 18 год.

Гісторыкі падкрэсліваюць вялікую тактоўнасць Ялены, калі абедзве дзяржавы былі ў стане вайны. Княгіня была лаяльнай да абодвух ваюючых бакоў. Яна была таксама вернай і каханай жонкай, адданай праваслаўю дачкой. З многімі каталіцкімі духоўнымі ў яе былі добрыя адносіны. Аднак палітычныя спадзяванні Ягелонаў не споўніліся. Ялена хутка навучылася гаварыць па-польску, з мужам і яго дваром, мабыць, заўсёды гаварыла па-руску. Паланізацыі Вялікага княства Літоўскага яна не перашкаджала. Ад мужа ў пасаг атрымала яна ў Гродне — Княжычы, Смальняны, Градыжцы, Ласіцы, Чырчынск, замак Папова гара, а таксама Магілёў.

Спроба схіліць Ялену да пераходу ў каталіцтва не ўдалася: „...я без волі бацькі майго ўчыніць таго не магу", — казала яна. Цёшча таксама намагалася ўздзейнічаць на нявестку. Калі яна

загадала той разам пайсці ў касцёл, разлічваючы на ўдзел нявесткі ў набажэнстве, Ялена спадарожнічала каралеве да дзвярэй храма і адмовілася ўвайсці ў сярэдзіну, павярнулася і пайшла ў царкву. Сам Аляксандр не прымушаў жонку змяніць веравызнанне, хоць і хацеў, каб яна была каталічкай.

Асобным пунктам у пагадненні паміж дзяржавамі была пабудова царквы на віленскім замку. Ялена ў пісьмах пераконвала бацьку, што пабудова непатрэбная, бо царква знаходзіцца



*Праваслаўныя храмы Бельска Падляшскага ў замалёўках Б. Рудкоўскіна. Царква Архістраціга Міхаіла. 1984 г.*

блізка ад замку. Аднак яна апекавалася цэрквамі і не толькі ў сталіцы. Падтрымала ініцыятыву Хадкевічаў заснаваць манастыр на рацэ Супраслі. 10 мая 1500 года яна прыняла ўдзел у яго асвяшчэнні і перадала манастыру частку багаслоўскіх кніг, якія атрымала ад свайго бацькі. Манахі называлі княгіню дабрадзейкай і маліліся за яе.

У 1501 годзе Аляксандр стаў каралём Польшчы. Каранацыі Алены перашкаджала яе вернасць праваслаўю. У Кракаў яна паехала ў наступным годзе і толькі на патрабаванне мужа згадзілася быць каралевай. Абурэнні пачалі выклікаць праваслаўныя набажэнствы, якія адпраўляліся ў капліцы на Вавелі. Палажэнне Алены пагаршала адсутнасць таго акружэння пры двары, якое было ў Вільні. Чуліся дамаганні паўторнага хрышчэння Алены. Публічныя выступленні пра змену яе веравызнання абурылі самога караля і дзякуючы яго патрабаванням яны прыціхлі. Урэшце справай заняўся Рым. У Ватыкан падалося пасольства на чале з віленскім канонікам Эразмам Цёлкам і канцлерам Іванам Сапегам. Папа зняў абавязак паўторнага хрышчэння для праваслаўных. Вынікі перамоваў былі спрыяльныя для Аляксандра. Шлюб каралеўскай пары быў афіцыйна прызнаны.

Вайна з Вялікім княствам Маскоўскім непакоіла каралеву. Гэта было прычынай яе выезду ў 1502 г. у Вільню. У лістах у Маскву Алена заклікала да міру і падкрэслівала сваё цяжкае палажэнне падчас гэтай вайны. Нямецкі гісторык граф. Якуб Царо пісаў, што гэтыя лісты „заслугоўваюць, каб прызнаць іх помнікамі далікатнага такту ў цяжкім палажэнні. Не сказала яна нічога, што не пасавала б каралеве і жонцы, і пры тым яна засталася самай адданай і паслухмянай дачкой“. Нават падчас вайны вялікі князь маскоўскі не згадзіўся, каб дачка прызнала Фларэнцкую унію, хоць гэта і адкрывала б ёй дарогу да каранацыі. З далейшай перапіскі вынікае нездавальненне Івана III тым, што шлюб не прычыніўся да паляпшэння палажэння праваслаўя ў Вялікім княстве Літоўскім у такой ступені, як ён спадзяваўся.

Новым праваслаўным мітрапалітам у Вялікім княстве Літоўскім стаў духоўнік каралевы і праціўнік уніі Іона. Аляксандр прызнаў некаторыя прывілеі праваслаўным. Па просьбе жонкі напісаў канстанцінапольскаму патрыярху просьбу пра ўстанаўленне манастыра ў Супраслі. Алена працягвала апекавацца цэрквамі. У 1503 г. паехала з мужам у Гданьск і гэтым самым стала першай польскай каралевай, якая ўбачыла Балтыку.

Апошні цяжкі этап у жыцці некаранаванай манархіні пачаўся разам са смерцю яе мужа. Сталася гэта ў 1506 г. Удаве было тады 30 год. Жыла яна ў Вільні, ездзіла таксама ў Браслаў, дзе заснавала манастыр і царкву. Дапамагала і іншым манастырам.

Яе бацькі, князя Івана III, таксама ўжо не было ў жывых. Алена была вельмі багатай асобай. Месца захавання яе скарбаў не было добра вядомае. Частка іх знаходзілася ў віленскіх францішканаў, а частку, праўдападобна, яна аддала князю Астрожскаму, каб пасля яе смерці за іх ён абсталёўваў цэрквы.

Каля 1511 года Алена рашыла вярнуцца ў Маскву. Кароль Зыгмунт I Стары не даў на гэта дазволу. Адносіны паміж Кракавам і Масквой былі напружаныя. Вялікія яе скарбы таксама адыгрывалі ў гэтым сваю ролю. Удава рашыла дзейнічаць патаемна, але ажыццявіць планы ўцёкаў не ўдалося — яны былі раскрыты. У 1513 годзе, калі Алене было 37 год, яна нечакана памерла. Зыгмунт I Стары так напісаў у лісце да кракаўскага біскупа пра яе смерць: „Так не мала клопатаў дзяржаве ўбавілася". Цела Алены спачатку пахавалі ў яе любімым саборы Прачыстай Багародзіцы. У выніку яго знішчэння і новага будаўніцтва грабніца каралевы бясследна загінула.

**Васіль Іванюк**

Літаратура:

E. Rudski, Wnuczka Paleologów. Helena Moskiewska — żona Aleksandra Jagiellończyka. (w:) „Tygodnik Polski" Nr 36 z dn. 4.IX. i Nr 37 z dn. 11.IX. oraz Nr 38 z dn. 18.IX.1983 r.

---



*Іканастас работы Міхаіла Вайткевіча (справа) з Бельска-Падляшскага ў царкве манастыра Марфы і Марыі на св. гары Грабарцы. Ігуменне Варвара (злева). Фота Б. Рудкоўскіна.*

**Ежы Цэтэра**

## ГАНЧАРСТВА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Найстарэйшыя керамічныя начынні, якія знойдзены на тэрыторыі Польшчы, звязаны з прыбыўшымі сюды каля 2500 год да нашай эры земляробчымі плямёнамі. Гэтыя начынні з увагі на арнамент, належаць да т.зв. стужкавай керамікі. Ляпілі іх жанчыны і выпальвалі звычайна ў вогнішчы або ў гарачым попеле. Ужываліся яны да прыгатавання ежы, перахоўвання прадуктаў, або як урны для пахавання праху памёршых.

На тэрыторыі Польшчы ўпершыню карысталіся ганчарным кругам кельты, яшчэ каля 400 год да нашай эры, але разам з адыходам гэтага народа, знікае ён зусім і толькі на пераломе III і IV стагоддзяў нашай эры зноў паяўляецца кераміка, зробленая пры дапамозе ганчарнага круга. У той час начынні ляпілі ўручную і абкатвалі на ручным ганчарным крузе, які круціўся даволі павольна.

У перыяд ранняга сярэдневякоўя ганчарнае рамяство існавала ў гарадскіх асяродках і задавальняла патрэбы горада. Было таксама рамяство, якое працавала на патрэбы вёскі, дзе праз даўжэйшы час маглі захоўвацца вырабы, лепленыя ўручную. Вяс-



*Кераміка з археалагічных раскопак на Беласточчыне (пачатак нашай эры, ранняе сярэднявечча). Фота В. Дабрайскага.*



*Гліянае начынне з першай паловы XX стагоддзя на Беласточчыне. Фота В. Дабрайскага.*

ковыя ганчары былі земляробамі, а вырабам начынняў займаліся ў вольны ад сельскагаспадарчых заняткаў час. Ганчарства ў гарадскіх цэнтрах мела цэхавыя арганізацыі і таму хутчэй уводзіліся там тэхнічныя ўдасканаленні, а кераміка была якасна лепшая, чым вырабы з вясковых асяродкаў, у якіх уменне вырабу і абпальвання начынняў перадавалася з пакалення ў пакаленне. Большасць ганчароў Беласточчыны не ведала вырабаў іншых асяродкаў, толькі нямногія адбывалі практыку ў іншых майстэрнях. Ганчары сустракаліся на кірмашах і торгах, а абсяг гэтых кантактаў быў абмежаваны. Гэта садзейнічала трыванню даўніх тэхнік вырабу начынняў і захаванню іх выгляду праз многія стагоддзі ў нязмененай форме.

Каля XII стагоддзя ў гарадскіх асяродках паявіўся нажны круг, у якім дыскі злучаліся спіцамі. На ім стварылася магчымасць фармавання начынняў з камяка гліны. У XIII і XIV стагоддзях начынні з гарадскіх цэнтраў пакрывалі палівай. Тыя ганчары, якія не патрапілі пераняць заходніх, больш дасканалых узораў начынняў, вымушаны былі шукаць пакупнікоў сярод гарадской беднаты і сялян. Выконвалі яны пераважна начынні без палівы, выпаленыя на чорны (сівы) або чырвоны колер.

У канцы XVIII стагоддзя на тэрыторыі Польшчы паявіўся ганчарны круг без спіц з рухомай воссю і двума дыскамі, які пачаткова распаўсюдзіўся ў керамічных мануфактурах і пазней быў пераняты народнымі ганчарамі. Такі круг як найбольш даска-

налы ўжываецца ва ўсіх ганчарскіх асяродках да нашага часу з тым, што з электрычным рухавіком.

Пачынаючы з канца XIX стагоддзя фабрычная прамысловасць пачала пастаўляць танныя начынні з бляхі, фаянсу і фарфору, што было прычынай паступовага заняпаду ганчарства. Ганчары ў пошуках пакупнікоў пачалі ўводзіць багатыя ўпрыгожанні і паліванне начынняў, заняліся вырабам кафляў, чарапіцы і гліняных фігурак. Некаторыя перасяляліся таксама ў больш адсталыя ваколіцы, разлічваючы на лепшыя ўмовы жыцця.

Старэйшыя формы керамічных начынняў, а таксама іх упрыгожанні разам з паліваючымі тэхнікамі вырабу найдаўжэй працягваліся ва ўсходніх рэгіёнах краіны.

На Беласточчыне народнае ганчарства пратрывала па сённяшні дзень, але вырабы свае ў большасці прызначае на патрэбы жыхароў гарадоў. Кераміка з Беласточчыны вызначаецца невялікай разнастайнасцю формы і даволі беднымі ўпрыгожаннямі. Яе характэрнай рысай з'яўляецца прастата, а галоўнай вартасцю ёсць высакароднасць форм „сівых“ гаршчкоў і гладышак з далікатна глянцаваным арнаментам. Гэтая кераміка мае многа супольных рыс з чорнаглянцаванай керамікай Беларусі.

На Беласточчыне было некалькі дзесяткаў ганчарскіх асяродкаў, якія мелі традыцыі цэхавага або вясковага ганчарства. Велічыня ганчарскіх асяродкаў была розная. У Кляшчэлях да 1914 года асяродак меў уласны цэх і гуртаваў каля 30 ганчароў. Таксама ў Сямяцічах існаваў ганчарскі цэх, у якім было каля 30 ганчароў. У іншых асяродках як: Букштэль гм. Чорная Беластоцкая, Лука гм. Нараўка, Мельнік, Мілейчыцы, Супрасль, Сушча гм. Міхалова працавала ад 3 да 10 ганчароў. Былі таксама малыя асяродкі як: Бронка гм. Бранск, Храбалы гм. Дабжынева Касцельнае, Грынявічы Вялікія гм. Бельск-Падляшскі, Якубоўскія гм. Боцькі, Карчміска гм. Чорная Беластоцкая, Крынкі, Міхалова, Ахрымы гм. Нараўка, Плюцічы гм. Бельск Падляшскі, Сасіны гм. Боцькі, Зубры гм. Гарадок, у якіх выраблялі начынні на патрэбы жыхароў навакольных вёсак.

Гліна, якая ўжываецца да вырабу начынняў, мае розныя сумесі, як вокісі металаў, пяску і іншых рэчываў. У залежнасці ад колькасці вокісі жалеза пры дастатковым паступленні паветра колер начынняў пасля абпальвання можа мець розныя адценні ад чырвонага да чырвона-бурага. Спалучэнні кальцыя прыдаюць пасля абпальвання крэмавы або жаўтаваты колеры.

Не кожная гліна падыходзіць да вырабу паліваных начынняў. У вёсцы Лука гліну на чорнаглянцаваныя начынні („сівакі“) капалі паблізу, але на паліваныя начынні прывозілі з адлеглага 16 кіламетраў Міхалова, таму што лучанская гліна была за „худая“. У сваю чаргу, калі гліна была за вельмі „тлустая“, дадавалі да яе гліну „худую“, пясок, рачны мул. Да гліны, прызнача-

най на начынні, у якіх варылі, дадавалі жвір, або перапалены і дробна патоўчаны каменны парашок.

Накапаную гліну кідалі ў спецыяльна падрыхтаваную яму і залівалі вадой, адтуль бралі яе па меры патрэбы. Камякі гліны звільгатнялі вадой і стругалі тонкія стружкі, якія адначасова ачышчалі ад камення і раслінных засмечанняў. Пасля мялі гліну ў камяк. Гэтае дзеянне паўтаралі яшчэ два разы. Ачышчаную гліну залівалі вадой і мясілі, як цеста, рукамі ці нагамі. З выробленай гліны ганчары фармавалі цыліндрычныя камякі, якіх велічыня залежала ад таго, якія начынні ганчар хацеў рабіць. Гэтыя камякі складвалі паблізу ганчарнага круга і прыкрывалі мокрай шматкай, каб не засыхалі.

Зараз ганчары карыстаюца пры нарыхтоўцы гліны металічнымі вальцамі, якія раздушваюць мергель і дробнае каменне, даволі часта з электрычным рухавіком. Праз вальцы гліну прапускаюць некалькі разоў. Прымяненне вальцаў паскарае і аблягчае нарыхтоўку гліны для вырабу начынняў.

Кожны ганчарны круг зараз найчасцей мае электрычны прывод. Прыступаючы да працы, ганчар кідае камяк гліны на сярэдзіну верхняга дыска. Прыціскаючы рукамі гліну, прыдае ёй цэнтральнае палажэнне, пачаткова фармуе паўшары, потым конус. З конуса фармуе тоўстасценную міску, якую пераўтварае ў пажаданую форму начыння. У часе абкатвання начыння на ганчарным крузе, ганчар мочыць рукі ў місцы з вадой. Ужываецца таксама льняная шматка і ганчарскія ножыкі для выгладжвання сценак.

Ганчары выконваюць начынні серыйна, адной велічыні. Адзін ганчар, які мае нарыхтаваную гліну, можа выканаць каля 180 начынняў, ёмкасцю ў 1 літр, за дзень, г.зн. працуючы ад світання да змяркання. Адразу пасля выканання начыння ганчар часам робіць разцом арнамент у выглядзе простай або хвалістай навакольнай лініі і адразае тонкім дротам начынне ад круга. Калі начынне зацвярдзее, вечарам або на наступны дзень прыклейваюць яму вушкі і стаўляюць сохнуць. Звычайна ставяць начынні на дошкі і потым пераносяць іх на падвесныя жэрдкі пад столлю майстэрні, або на спецыяльныя паліцы.

У некаторых асяродках начынні сушылі на сонцы, але трэба было іх паварочваць, каб сохлі раўнамерна. Падсушаныя начынні перад абпальваннем „насіва“, глянцавалі каменем або рогам, каб аздобіць знешнюю паверхню.

Для абпальвання начыння ў горнах, ставілі такім спосабам, што ў большыя памяшчалі меншыя начынні, заўсёды ставілі знізу большыя, а на іх памяшчалі штораз меншыя аж да самага запаўнення гарна. Укладкі да абпальвання і абпальванне былі найбольш складанай фазай вырабу керамікі і займаўся ёй найбольш вопытны ганчар у калектыве.

Горны будавалі ўнутры майстэрні (Сямяцічы, Супрасль), у павецях каля майстэрняў (Кляшчэлі, Лука, Чорная Вёска Касцельная, Зубры, Сушча), або ў адкрытым полі, укапаныя ў зямлю (Грынявічы Вялікія, Мярэсткі, Сокалы, Панікліца).

Значна старэйшай тэхнікай вырабу начынняў з гліны ёсць іх фармаванне на коле з нерухомай воссю, дзе дыскі злучаюцца спіцамі. Начынні, якія абкатвалі на такім коле, вядомыя са Студзенага Лесу каля Сейнаў, куды спосаб іх выканання верагодна прынёс ганчар, які перасяліўся з Беларусі, з ваколіц Гродна. Пры фармаванні начынняў першапачаткова выціскалі з камяка гліны плыткую адпаведных памераў місачку, затым да яе нарошчвалі пры дапамозе паступовага кольцавага налепу гліняных валікаў адпаведных памераў сценкі, затым абкатвалі на крузе дапаўняючы злучэнні глінай і выгладжвалі драўлянай дошчачкай у форме кінджала.

Там жа выконвалі т. зв. „лаханькі" з авальным дном, якія фарміраваліся на драўляных падстаўках. Сценкі ў іх расшыраліся ўверсе і мелі таўшчыню каля 7-10 міліметраў. Пасля абкатвання начынняў на крузе адрэзвалі іх ад дыска ільняной ніткай. Сушылі іх на лавах, таму што аднаразова выконвалі невялікую колькасць. Было гэта абумоўлена ёмкасцю хлебнай печы, у якой іх абпальвалі. У печы ўкладвалі памост з дроў, на якім ставілі высушаныя начынні. Пасля падпалкі закрывалі чалеснік печы. Калі пачулі, што драўляны памост абсунуўся пад цяжарам керамікі, вымалі гарачыя начынні віламі і гартавалі, апускаючы ў рэдкую рошчыну з жытняй заквашанай мукі. Пасля гэтага зноў укладалі іх у печ, дзе сохлі і астывалі. Дзякуючы дадатку пяску і гартаванню, гаршчкі з гэтага асяродка даволі добра вытрымоўвалі нарыхтоўку ежы на агні.

Чорную (сівую) кераміку атрымоўвалі асаблівым спосабам абпальвання, калі ў канчатковай фазе давалі даволі сухое смалістае дрэва і закрывалі адтуліны ў горне. Дзякуючы таму, што не паступала паветра і кісларод з вокісу жалеза рэдуцыраваўся, магла атрымацца кераміка ад попельнага колеру па чорны.

Кераміка ў колерах ад жоўтага па чырвоны найбольш прымітыўная. Да яе аздаблення выкарыстоўвалі паліву, якую рабілі з высакароднай белай або каляровай глінкі, якой водным растворам наносілі на высушанае начынне пры дапамозе пэндзля або гусінага пяра кальцавыя лініі.

Чорную і чырвоную кераміку абпальвалі толькі адзін раз, вырабы прызначаныя да паліванння абпальвалі першы раз без палівы, потым пакрывалі палівай і абпальвалі другі раз. Можна было абпальваць паліваную пасуду адзін раз, але атрымоўвалася многа бракаў.

Да II сусветнай вайны ў Луцэ празрыстую паліву рабілі з волава, якое плавілі ў чыгуне і мяшалі лыжкай да таго часу, аж-

но спаліцца на парашок. Парашок гэты прасявалі праз сіта, дадавалі ваду і масу, па густаце нагадваючую смятану, маліолі тройчы ў жорнах такіх, як і да збожжа. Масу гэтую змешвалі з пяском і вадой і атрыманай эмульсіяй палівалі начынне або апускалі ў яе начынне.

Сухім парашком са спаленага волава таксама часам пасыпалі начынне, змочанае ў вадзе з дадаткам мучнога клею. Апошні спосаб рэдка прымяняўся, таму што расходвалася больш палівы і распыляліся атрутныя спалучэнні свінца.

У залежнасці ад гатунку гліны пасля абпальвання атрымоўвалі паліву з адценнямі колераў ад ясна-жоўтага да аранжава-чырвонага. Паліву каляровую атрымоўвалі, дадаючы ў празрыстую паліву паленую медзь (вокісь медзі), вокісь марганцу, паленае волава. Такім чынам атрымоўвалі колеры зялёны, буры і белы. Паліванне і маляванне начынняў на Беласточчыне не мае даўніх традыцый. Ганчары выраблялі начынні чорныя (сівыя) і чырвоныя. Толькі ў канцы XIX стагоддзя, а ў некаторых асяроддзях нават у міжваенны перыяд пачалі пакрываць начынні палівай. Былі таксама асяродкі, у якіх палівы не ўжывалі зусім. Выконвалі толькі начынні чорнаглянцаваныя (сівыя) кавалкам каменя. Такая тэхніка ўпрыгожанняў вядомая была ўжо ў неаліце, а ў сярэдневякоўі і крыху пазней такія начынні выраблялiся на тэрыторыі ўсяе Польшчы.

На Беласточчыне няма аздоб, характэрных для цэхавага рамяства з іншых рэгіёнаў Польшчы, як накладванне адціснутых у формах элементаў, аздоб, выкананых штэмпельнай тэхнікай, гравіравання з маляваннем і іншых. Няма таксама палівання цэлай паверхні начыння, разнастайных колераў палівы, наклейвання колаў, прымянення палівы ў плямы. Вельмі рэдка рабілі раслінныя ўпрыгожванні і ніколі не аздаблялі птушкамі.

Аздобы начынняў нагадваюць матывы з археалагічных знаходак з XIII стагоддзя і ранейшых. Найстарэйшым спосабам аздобы з'яўляецца глянцаванне гладкім каменнем ліній на паверхні падсушанага начыння, якія пасля абпальвання вызначаліся блескам.

Начынні аздаблялі простымі, дугападобнымі, спіральнымі лініямі і геаметрычным арнаментам, якім пакрывалі цэлую паверхню або частку начыння. Гарызантальныя і вертыкальныя лініі падзялялі начынне на палі, якія запаўняліся адпаведнымі аздобамі.

Даўні арнамент беластоцкай чорнай (сівой) керамікі мае супольныя рысы з начыннямі з Беларусі і Люблiншчыны.

Начынні аздаблялі таксама гравіроўкай гарызантальных ці касых простых або хвалістых ліній.

Формы начынняў вынікаюць з прыстасавання іх да практычнага выкарыстання і лакальных густаў, якія мала змяняліся на



*Ганчарныя вырабы Юзафа і Антонія Крашэўскіх.*
*Фота А. Цюлькіна.*

працягу доўгага часу, дзякуючы чаму змаглі ператрываць сотні год такія ж самыя або мала зменевыя ў выглядзе.

Найстарэйшую радаслоўную маюць начынні без вухаў з вузейшым ад горла дном, якія выкарыстоўваліся для гатавання ежы ў хлебнай печы або на адкрытым вогнішчы. Іх форма абумоўлена даўным спосабам гатавання, калі прастору паміж гаршчкамі запаўнялі палаючыя дровы і вугаль. Падобную форму мелі таксама чыгунныя гаршчкі.

Ежу ў поле насілі ў дваянах. Былі гэта два аднолькавыя начынні, злучаныя паскамі гліны. У сярэдняй частцы было ў іх круглае або авальнае вуха, за якое неслі дваян. Найчасцей да іх дараблялі драўляную накрыўку. Часам выраблялі таксама траяны. Зараз дваяны і траяны выконваюць выключна дэкаратыўную функцыю.

Для спажывання стравы выраблялiся рознай велічыні міскі. Падобныя да іх былі цадзілкі, між іншым, да мёду. Рабілі іх у Чорнай Вёсцы Касцельнай і Луцэ. Разнавіднасцю місак з'яўляецца „макотра", або інакш „верцеха", якая служыла да расціранне маку і магла выкарыстоўвацца з іншай мэтай. Сценкі яе былі вышэйшыя, чым у місках. У іх былі гарызантальныя жалабкі, унутры пасыпаныя былі дробным жвірам, што аблягчала расціранне маку.

Для захоўвання грыбоў, варэння з ягад, тлушчу, заквашвання агуркоў служылі слоі featureнай велічыні і ёмкасці з накрыўкамі. Збанкі мелі дно і горла аднолькавыя. Былі гэта начынні з вухам і дзюбкай featureнай велічыні. У іх насілі і захоўвалі вадкія рэчывы, найчасцей малако і ваду. Брушка ў іх было стройнае, высокае.

Падобныя да збанкоў, але без вухаў, — гэта зграбныя начынні, так званыя „гладышкі, гладункі“, якія галоўным чынам служаць для захоўвання малака. Так называюць часта таксама начынні з вухам, але без дзюбкі. Выраблялі таксама формы для выпечкі і студзіны з вертыкальнымі заглыбленнямі.

Апрача вышэй упамянутых начынняў, выраблялі кубкі, маслабойкі, вазоны, начынні для аддзялення смятаны, бунькі, жалабкі, у якіх пяклі мяса, падсвечнікі.

Ганчары выконвалі таксама гліняныя цацкі. У Чорнай Вёсцы Касцельнай выраблялі аздобленыя і паліваныя птушкі-свісткі, якія выціскаліся ў формах. Зараз зязюлі-свісткі выпальваюцца на колер чорны (сівы). Цацкі на продаж рабілі таксама ў Бранску, Грыневічах Вялікіх і Супраслі.

Свае вырабы ганчары збывалі розным пасрэднікам, на кірмашах або вазілі па вёсках. Формы платы былі розныя. Прадавалі гаршчкі за грошы або замяньвалі на збожжа, сала, яйкі, бульбу і іншыя прадукты ці вырабы. Пераважна за гаршчок давалі столькі жыта, колькі ў ім памяшчалася. У горшыя часы ганчар мог атрымаць за два начынні толькі адну мерку збожжа, хаця ў пасляваенны перыяд бралі за адно начынне падвойную колькасць збожжа.

У пасляваенныя часы гліняныя начынні перасталі быць таварам, які ахвотна куплялі сяляне. У сувязі з пераменамі ў вёсцы і дастаткам начынняў фабрычнага вырабу запатрабаванне на ганчарныя начынні паступова змяншалася. Так, напрыклад, калі сяляне пачалі пастаўляць малако для малочных заводаў, адпала неабходнасць у карыстанні з керамічных начынняў для яго захоўвання.

Зараз выраб такіх начынняў штодзённага ўжытку як: міскі, гаршчкі, збанкі, гладышкі і іншыя заняпаў. Ганчары пачалі вырабляць вазоны для кветак.

Некаторыя ганчары вырабляюць кераміку, якая мае высокія мастацкія вартасці. Іх вырабы карыстаюцца папулярнасцю ў гарадскіх пакупнікоў і выконваюць выключна дэкаратыўную функцыю.

Як цікаўнасць варта адзначыць, што шматлікія ганчары, ведаючы ўласцівасць рознага тыпу гліны, выкарыстоўвалі яе для лячэння людзей і жывёл. Ачышчаную і выробленую гліну раз-

мешвалі са спіртам, воцатам або кіслым малаком і прыкладалі на пухліну або вывіх.

**Ежы Цэтэра**

**Літаратура**


1. Z. Ciesielski, Z badań nad garncarstwem ludowym w województwie białostockim, „Lud". R.LII; 1968.
2. E. Fryś, Ośrodek garncarski w Studzianym Lesie, pow. Sejny. „Polska Sztuka Ludowa", R.XIII, 1959, str. 4.
3. Z.B. Głowa, Materiały do mapy ośrodków gancarskich w Polsce, „Polska Sztuka Ludowa", R.X. 1956, nr 2.
4. R. Rejnfuss, Garncarstwo ludowe, Warszawa 1955.
5. Hołubowicz, Garncarstwo wiejskie zachodnich terenów Białorusi, Toruń.





*Праваслаўныя храмы Бельска Падляшскага ў замалёўках Б. Рудкоўскіна. Капліца Аляксандра Неўскага на Замкавай горцы (не існуе).*

Лявон Крывіцкі

# Базыльянскія муры

Вільня — гэта горад, у якім помнікаў беларускай гісторыі і культуры не меней, а можа і болей, як у гарадах, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларускай ССР. Каму-небудзь гэта можа здацца незвычайным, але за растлумачэннем дастаткова звярнуцца да гісторыі нашага народа. Ці не Вільня была сталіцай магутнай некалі дзяржавы — многанацыянальнага Вялікага княства Літоўскага, тэрытарыяльную аснову якога складала Беларусь і дзяржаўнай мовай у якім была беларуская мова? Таму і не дзіва, што госці, якія прыязджаюць у Вільню з Беларусі, або тыя, хто цікавіцца беларускай праблематыкай, імкнуцца пазнаёміцца з помнікамі даўніны. Іх тут многа.

Якія ж гэта помнікі, што цікавяць беларусаў і вабяць іх у Вільню?

Гэта месца, якое напамінае нам аб беларускім першадрукары з Полацка — Францыску Скарыне. Друкарня братоў Мамонічаў, дзе быў надрукаваны на беларускай мове „Статут“ Вялікага княства Літоўскага. Лукішская плошча (цяпер плошча Леніна) з мемарыяльнай плітой на тым месцы, дзе быў павешаны нацыянальны герой Беларусі Кастусь Каліноўскі, які змагаўся супраць царскага самадзяржаўя і звяртаўся да сялян пабеларуску ў сваёй „Мужыцкай праўдзе“, падпісваючыся псеўданімам „Яська-гаспадар з-пад Вільні“. Гэта таксама месцы, звязаныя з беларускім нацыянальна - вызваленчым рухам самага пачатку нашага стагоддзя: незабыўным імем Цёткі — паэтэсы-рэвалюцыянеркі, якая змагалася ў шэрагах Беларускай сацыялістычнай Грамады. З рэдакцыямі беларускіх газет „Наша доля“ і „Наша ніва“, што сталі вехамі ў развіцці новай беларускай літаратуры. Урэшце і тыя мясціны, што нагадваюць пра змаганне беларусаў за свае правы ў міжваенны перыяд: аб падпольнай Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, Беларускай сялянска-рабочай грамадзе, першай беларускай гімназіі, першым беларускім музеі...

І нязменна шлях вандроўкі па віленскіх беларусіянах прывядзе нас да славутых Базыльянскіх мyроў.

Што ж сабою прадстаўляюць гэтыя „муры“?

Яны — комплекс будынкаў з двума падворкамі. У цэнтры аднаго з іх стаіць царква і по-



*Цэнтральная брама Базыльянскіх муроў.*

чым браму вельмі прыгожай архітэктуры, за ёю падворак, на ім манастыр і царква св. Тройцы, заснаваныя ў першай палове XIV стагоддзя княгіняй цвярской Юльянай — другой жонкай вялікага князя Альгерда.

У 1514 годзе князь Канстанцін Астрожскі — вялікі гетман літоўскі, выдатны палкаводзец свайго часу, якога сучаснікі называлі рускім Сціпіёнам і літоўскім Ганібалам — на месцы струхлелых драўляных манастыра і царквы пабудаваў мураваныя. Каля 1670 года пад кіраўніцтвам Льва Краўза Жавускага яны былі адноўлены. 1748 годзе пажар амаль цалкам знішчыў

бач з ёю — званіца. Будынкі, пры іх узвядзенні, прызначаліся на манастыр. Назва „Базыльянскія муры“ значна пазнейшая ад паўстання ў Вільні гэтага архітэктурнага помніка.

Паводле Адама Кіркора — вядомага гісторыка мінулага стагоддзя — гэтыя муры былі перададзены ордэну манахаў-базыльянаў у часы панавання польскага караля Зыгмунта III Вазы, якое пачалося ў 1587 годзе, гэта значыць, недзе на пераломе XVI і XVII стагоддзяў. Вось што піша А. Кіркор у сваіх „Шпацырах па Вільні...“ у раздзеле „Царква і манастыр св. Тройцы“:

„Ідучы ад сабора св. Міколы ўгару, з правага боку ба-



*Від праз цэнтральную браму на падворак у Базыльянскіх мурах.*

царкву і манастыр, але ў хуткім часе яны былі адбудаваны.

Пасля ўстанаўлення Вітаўтам асобнай мітраполіі Заходняй Русі, некаторым архімандрытам манастыра св. Тройцы было прысвоена званне мітрапалітаў, якое пацвердзілі канстанцінапольскія патрыярхі. У 1580 годзе, 12 сакавіка, каралева Ялена, жонка Аляксандра (дачка вялікага князя маскоўскага Івана III) атрымала прывілей назначаць архімандрытаў гэтаму манастыру без зацвярджэння мітрапалітам.

У 1580 годзе (5 чэрвеня) канстанцінапольскі патрыярх Іерэмія, наведаўшы Вільню, зацвердзіў статут брацтва царквы св. Тройцы і заснаванне пры ім асобнай друкарні і школы.

Па загаду караля Зыгмунта III Вазы манастыр св. Тройцы быў аддадзены уніяцкаму ордэну базыльянаў і належаў да іх аж да злучэння уніяцкай царквы з праваслаўнай.

Зыгмунт III пасля здабыцця Смаленска прыслаў у падарунку царкве св. Тройцы вышываную золатам і срэбрам, аздобленую дарагімі каменнямі і жэмчугам плашчаніцу, апрача гэтага таксама свяшчэнніцкія рызы — усё ўзята са смаленскага сабора. Плашчаніца была выканана ў Маскве ў 1545 годзе, у 1822 годзе яна трапіла ў зборы Сыбіллі ў Пулавах, адкрытая там у 1864 годзе, была звернута смаленскаму сабору. Пра рызы след загінуў. Але ў царкве св. Тройцы захоўваецца надзвычай рэдкі помнік старажытнасці — ікона Божай Маці (Адзігітрыі) Праведніцы. Паводле падання, пашыранага не толькі на землях Вялікага княства Літоўскага, але па ўсёй Русі, намаляваў яе сам евангеліст Лука. Каяловіч падае, што ў яго часы на паходжанне гэтага абраза быў падобны погляд. З вялікай пашанай адносіліся да яго грэчаскія імператары, пазней трапіў ён да каралёў Чырвонай Русі, ад іх — да вялікіх князёў маскоўскіх. Гэтым абразам Іван III Васільевіч блаславіў сваю дачку Ялену ў 1494 годзе, калі яна ад'язджала ў Вільню замуж за вялікага князя літоўскага Аляксандра (пазней польскага караля). Ад таго часу абраз знаходзіўся ў віленскім замку. Пасля смерці Ялены ў 1513 годзе быў ён пастаўлены пры яе грабніцы ў мітрапаліцкім саборы Прачыстай Багародзіцы, адтуль каля XVII стагоддзя перанесены ў царкву св. Тройцы. У 1569 годзе цар Іван IV Васільевіч даваў за яго каралю Зыгмунту Аўгусту 50 знатных літоўскіх палонных, аднак абмен не наступіў. Паводле апісання вядомага знаўцы старажытнасцей Сразнеўскага, абраз, без вонкавай рамы, быў даўжынёй у шэсць з паловай і шырынёй у чатыры з чвэрцю аршына. Намаляваны ён на драўлянай табліцы, якая складзена з чатырох дошчак, з іх дзве бярозавыя, а сярэднія, па здагадках,

з кіпарысавага дрэва. Знаходзіцца тут таксама шэсць абразаў, якія выйшлі з-пад пэндзля славутага Смуглевіча, а іменна: Збавіцель, св. Пётр і Павел, св. Ануфрый, св. Васілій, св. Мікола, Уваскрашэнне траіх дзяцей, св. Макрына. Варты ўвагі яшчэ адзін помнік, пастаўлены Янушам Скумінам Тышкевічам, пісарам Вялікага княства Літоўскага, сваёй жонцы Барбары Нарушэвіч. Ён складаецца з трох мармуровых пліт з гербамі надпісам. Сам жа Януш пахаваны ў гэтай жа царкве ў 1642 годзе ў асобнай капліцы, але помніка няма.

Праваслаўная семінарыя памяшчаецца ў манастырскім гмаху (паслябазыльянскім), які значна перабудаваны ў 1864 годзе, таксама дах царквы зменены на бляшаны замест даховак. Коштам графа Язэпа Тышкевіча зроблены купал над царквою ў памяць таго, што грабніцы Тышкевічаў знаходзяцца ў асобнай капліцы пры гэтай жа царкве".

Пра сувязі беларускага адраджэнскага руху з Базыльянскімі мурамі ўпамінаецца ў адной з міжваенных публікацый. Знаходзім там пра пачаткі гэтага руху ў Вільні ў 1906 годзе наступнае:

„У Вільні ўжо згуртавалася жменя беларускіх дзеячоў з „Цёткай" (Алаізай Пашкевічанкай) на чале, з сям'ёй Умястоўскіх і інш. Праўда, яны ў той час былі прыгавораны на бяздзейнасць: усе былі пад судом або арыштам, але дзякуючы ім арганізацыйныя ніці ўжо звязвалі некаторыя групы рабочых і школьную моладзь. Сярод гэтай апошняй адзін з дзеячоў развівае энергічную работу, заваяваўшы ўжо праваслаўную духоўную семінарыю. Ён адважна пранікае ў самы гмах семінарыі (Базыльянскія муры) і, нягледзячы на пільны нагляд „начальства", чытае вучням лекцыі аб беларусах і беларускім адраджэнні ў гістарычнай зале, дзе некалі сядзеў з таварышамі арыштаваны царскімі жандарамі вялікі пясняр зямлі нашае Адам Міцкевіч. Ажыўлёныя гарачым словам дэмакратычныя традыцыі віленскай моладзі захаплівалі душы слухачоў, будзілі ў іх любоў да свайго, забытага Богам і людзьмі народу, клікалі да працы дзеля лепшае долі яго. З выпускаў 1906, -7 і -8 гадоў усе вучні ідуць не на духоўных, але ва універсітэты і прымаюць актыўны ўдзел у беларускай нацыянальнай працы (гурткі ў Варшаве, Дорпаце, Пецярбурзе і інш.). Ад жывога слова не здолелі адгарадзіць сыноў народу нашага ані муры праваслаўнай, ані каталіцкай семінарый: прапаганда даходзіць і ратуе лепшыя адзінкі ад поўнай дэнацыяналізацыі".

Можа выклікаць сумненне тое, ці лекцыі, накіраваныя на нацыянальнае ўсведамленне семінарыстаў-беларусаў, сапраўды чыталіся ў зале, дзе знаходзіўся пад арыштам Адам Міцкевіч. Як паказалі

пазнейшыя даследаванні, месцам зняволення паэта была прыбудова паміж царквою і гмахам манастыра, якая ў той час ужо не існавала. Але тое, што ўсведамляючая работа сярод семінарыстаў вялася, — гэта бясспрэчны факт.

Аднак самая непасрэдная сувязь Базыльянскіх муроў з беларускім рухам пачынаецца ад заснавання ў іх Віленскай беларускай гімназіі. Вось як успамінае гэта адна з першых яе абітурыентак, якая закончыла гімназію і атрымала матуру (атэстат сталасці) у 1928 годзе, Марыя Скурчанка:

„Адкрыццё гімназіі адпавядала вялікай. даўно наспеўшай патрэбе беларускага народа мець у Вільні, як гістарычным цэнтры беларускай культуры, сваю родную сярэднюю школу.

Фармальна заснавальнікам Віленскай беларускай гімназіі быў Беларускі камітэт дапамогі пацярпеўшым ад вайны, а фактычна — адзін з членаў гэтага камітэта.

Адкрыцця гімназіі камітэт дабіваўся з часу нямецкай акупацыі, але немцы далі дазвол толькі перад самым сваім адступленнем з Вільні (восенню 1918 г).

Пасля адыходу немцаў з Вільні, уладу ўзяла ў свае рукі Літоўская Тарыба. Ад яе таксама быў атрыманы дазвол на беларускую гімназію. Афіцыяльна адкрыццё гімназіі было абвешчана актам міністра Літоўскай Тарыбы Біржышчы ад 4 студзеня 1919 года.

На падставе гэтага дакумента Беларускаму камітэту дапамогі пацярпеўшым ад вайны дазвалялася з 1 студзеня 1919 года адкрыць у гэтак званых Базыльянскіх мурах, дзе раней была семінарыя (тады вул. Вастрабрамская 9, цяпер вул. Горкага, побач з Філармоніяй) 8-класную беларускую гімназію змешанага тыпу.

Між тым, 6 студзеня 1919 года ў Вільню ўвайшла Чырвоная Армія, а 20 лютага была аб'яўлена Літоўская Савецкая Рэспубліка. Ад урада гэтай рэспублікі быў таксама атрыманы дазвол на беларускую гімназію.

Прызначаныя на гімназію Базыльянскія муры былі вельмі запушчаныя: вокны, дзверы, печы патрабавалі рамонту. Школьнае абсталяванне было больш чым убогае, бо ўсяго 44 лаўкі і 15 крэслаў. Пра навуковыя дапаможнікі, бібліятэку і беларускія падручнікі і гаварыць не было чаго. Намечаных было нешта 18 настаўнікаў, з якіх шмат хто добра і гаварыць па-беларуску не ўмеў.

Аднак 1 лютага 1919 года Віленская беларуская гімназія была адкрыта і ў ёй пачаліся заняткі“.

Не будзем шырэй спыняцца над мінулым Віленскай беларускай гімназіі, бо яе гісторыя ўжо сама па сабе — гэта цікавая тэма ў даследаваннях беларускага адраджэнскага ру-



*Галоўны корпус Базыльянскіх муроў з боку вул. Базыльянскай.*

ху. Адзначым толькі, што пасля ўключэння Віленшчыны і Заходняй Беларусі ў Польскую дзяржаву Віленская беларуская гімназія працавала далей і закончыла сваё існаванне ажно ў 1944 годзе На працягу ўсіх дваццаці пяці год свае дзейнасці яна кавала кадры свядомай беларускай інтэлігенцыі і гэтым унесла свой важкі ўклад у нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі. Яе цярністы шлях — гэта няспыннае змаганне за права на сваё існаванне. Тагачасныя ўлады або імкнуліся закрыць, або змяніць нацыянальны характар гэтай школы. У 1937 ці 1938 гадах гімназія была выселена з Базыльянскіх муроў і да самай вайны ў 1939 годзе была беларускім філіялам польскай гімназіі імя Ю. Славацкага, але знаходзілася ўжо ў іншым будынку і ў Базыльянскія муры болей не вярнулася..

Не меней цесна звязана з Базыльянскімі мурамі таксама гісторыя Віленскага Беларускага музея, яна — цікавая старонка беларускага руху ў Вільні. Музей паўстаў з багатых калекцый беларускай старасвеччыны і этнаграфіі, якія былі сабраны і знаходзіліся нейкі час у памяшканні рэдакцыі „Нашай нівы". Аб іх успамінаюць многія беларускія пісьменнікі і паэты, якія гуртаваліся пры рэдак-

цыі газеты. Гэта знайшло адбітак у іхняй творчасці.

У Базыльянскія муры калекцыі былі перавезены ў 1921 годзе і гэтую дату прынята лічыць годам заснавання музея. Тады пачалася праца над сістэматызацыяй і парадкаваннем збораў.

Адзін з беларускіх дзеячоў перадаў свае калекцыі Беларускаму навуковаму таварыству. Гэта таксама была адна з беларускіх арганізацый, якая памяшчалася ў Базыльянскіх мурах і тут працавала. Таварыства было распушчана восенню 1939 года, калі Вільня была ўключана ў Літву. Але музей існаваў надалей. У 1943 годзе нямецкія акупацыйныя ўлады загадалі асвабадзіць будынак для ваеннай бальніцы і тады экспанаты былі перавезены ў будынак Мастацкага інстытута на вул. св. Ганны (цяпер Цесас 6). Віленскі беларускі музей быў канчаткова закрыты ў 1945 годзе. Большая частка экспанатаў, у тым ліку ўсе рукапісныя кнігі і старадрукі, уся калекцыя слуцкіх паясоў, засталіся ў Літве. Меншая частка экспанатаў трапіла ў Беларусь. Увесь багаты архіў музея застаўся ў Акадэмічнай бібліятэцы Літоўскай ССР. З усіх беларускіх устаноў Віленскі беларускі музей найдаўжэй пратрываў у Базыльянскіх мурах.

Базыльянскія муры звязаны з імем вядомага беларускага пісьменніка і гісторыка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Пра гэта піша А. Бергман у нарысе па гісторыі газеты „Наша ніва". А. Бергман — аўтар цікавых артыкулаў па гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, якога сама была ўдзельніцай, актывісткай Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

„На асаблівую ўвагу заслугоўвае „Гісторыя беларускай літаратуры" М. Гарэцкага, пісаная ў 1919-1920 гадах у Вільні, — чытаем у А. Бергман. — М. Гарэцкі (1892 — 1939), папулярны савецкі празаік, у дваццатыя гады быў больш вядомы дзякуючы сваёй гісторыі літаратуры — піянерскай працы, якая на працягу дзесяці год была асноўным падручнікам гэтага прадмета як у БССР, так і па-за яе межамі. Выйшла некалькі яе выданняў. Гэтая праца яшчэ сёння лічыцца вельмі сур'ёзнай і найбольш верагоднай біяграфічнай і бібліяграфічнай крыніцай. І найважнейшае — аўтар адным з першых карыстаўся з поўнага яшчэ ў той час архіва рэдакцыі „Нашай нівы" ў Вільні і архіваў паасобных выдатнейшых яе дзеячоў, з якімі быў асабіста знаёмы. У 1913 годзе ён дэбютаваў у „Нашай ніве" апавяданнем „У лазні", затым сам працаваў у рэдакцыях часопісаў. У 1919-1920 гадах, калі ён пісаў сваю гісторыю літаратуры, непасрэдна суты-



*Галоўны ўваход у памяшканні былога Беларускага музея ў Вільні.*

каўся з быўшымі „нашаніўцамі“, якія тады выдавалі беларускія газеты, магчыма, быў і супрацоўнікам гэтых выданняў.

Інфармацыі, якія атрымала я ад магістра Мар'яна Пецюкевіча, былога дырэктара Беларускага музея ў Вільні ў 1939-1941 гадах, поўнасцю пацвярджаюць, што ў Гарэцкага былі проста-такі ідэальныя варункі да пісання свае гісторыі, між іншым, якраз раздзела пра „Нашу ніву“. Яго прыватнае памяшканне ў 1919-1920 гадах знаходзілася ў тых самых Базыльянскіх мурах, дзе была Беларуская гімназія, Беларускі музей, а таксама архіў „Нашай нівы“ (аддзел рукапісаў). Такім чынам жыў ён у асноўным цэнтры беларускага руху тагачаснай Вільні, які меў (у той час хіба адзіны) беларускія гістарычныя экспанаты і багаты архіў. Дадзены Гарэцкаму дазвол займаць частку памяшканняў, якія прызначаліся на грамадскія мэты, сведчыць пра вялікі давер і пашану, з якімі адносіліся да яго ў гэтым асяроддзі“.

Увесь міжваенны перыяд у Базыльянскіх мурах памяшчалася Праваслаўная духоўная семінарыя, якая там была і да I сусветнай вайны. Зразумела, што большасць семінарыстаў паходзіла з Заходняй Беларусі і была па мацыя-



*Галоўны ўваход у памяшканні былой Беларускай гімназіі ў Вільні.*

нальнасці беларусамі. Суседства беларускай гімназіі і беларускага музея рабілі сваю справу і сярод часткі выпускнікоў семінарыі пазней аказалася многа выдатных прадстаўнікоў беларускай творчай інтэлігенцыі. Адным з іх — народны артыст БССР, вядомы беларускі музыкавед Генадзь Цітовіч. Вось як ён успамінае пра ўзаемаадносіны паміж семінарыстамі і гімназістамі:

„Амаль кожны раз, бываючы ў Вільні, наведваю старыя Базыльянскія муры, дзе прайшло маё юнацтва (...) у духоўнай семінарыі... Зносіны між большасцю „бурсакоў" і „сярмяжнікаў" былі прыязныя. Старэйшыя семінарысты, пакрыёму ад школьных наглядчыкаў, хадзілі на вечарынкі, якія па суботах арганізоўваліся гімназістамі ў іх, прасторнай актавай зале, маладзейшыя наладжвалі сумесныя гульні на шырокім спартыўным пляцы.

У 1926 годзе пачаў наведваць першы паверх (Беларускую гімназію — Рэд.) і я: мяне там вельмі цікавіў гімназічны хор, які тады ўзначаліў Р. Шырма. Тут, пасля бытавога вясковага выканання, я ўпершыню пачуў беларускую народную песню ў мастацкай апрацоўцы, у тонкай інтэрпрэтацыі майстра. Захацелася і самому пасяваць пад такім кваліфікаваным кіраўніцтвам. Аднойчы, асмеліўшыся, падыйшоў да старога „рэгента“ і папрасіўся ў хор. Рыгор Раманавіч скрупулёзна праэкзаменаваў мяне і залічыў у дыскантовую партыю...“

Рыгора Шырму звязвала з Базыльянскімі мурамі не толькі кіраўніцтва хорам Віленскай беларускай гімназіі. Ён нейкі час нават жыў тут. Пра гэта піша вядомы даследчык Арсень Ліс у артыкуле „Прамаўляючы да сэрца“:

„У 1926 годзе Шырма перабраўся ўсё ж такі ў гэты гістарычны горад над Віліяй. Напачатку будучы культурна-грамадскі дзеяч, дырыжор, публіцыст, педагог, выдавец заходнебеларускай рэвалюцыйнай паэзіі і народных песень прытуліўся ў Базыльянскіх мурах... Шырма, якому ў гімназіі даручылі выкладаць спевы і адначасова быць выхавальнікам у інтэрнаце, заняў з сям'ёю невялікі пакойчык у самой уваходнай браме: такая яна была шырокая. Вокны кватэр глядзелі прама на гімназічны двор, старыя клёны...“

У канцы трыццатых гадоў значэнне Базыльянскіх муроў як беларускага асяродка пачало пастпова змяншацца. Праведзеная тады ў Польшчы рэформа сярэдняга школьніцтва змяніла структуру гімназіяў, адрэзаўшы ад іх два малодшыя класы і два старэйшыя класы. Апошнія былі пераўтвораны ў ліцэі. Беларусы ў Вільні засталіся без ліцэя, хоць грамадства і дамагалася яго. Беларуская гімназія, як ужо было сказана, падчас гэтай рэарганізацыі трапіла ў іншы будынак. Яе месца ў Базыльянскіх мурах заняў польскі педагагічны ліцэй.

Крыху пра Базыльянскія муры ў пасляваенны час.

Адразу пасля вызвалення, восенню 1944 года, у Базыльянскіх мурах пачаў працаваць Педагагічны інстытут. У 1960 годзе для гэтай школы быў пабудаваны новы гмах у раёне Звярынца, а яго месца ў Базыльянскіх мурах заняў Вільнюскі інжынерна-будаўнічы інстытут. Ён там працуе і цяпер.

Літоўскія рэстаўратары, якія многа зрабілі, каб захаваць гістарычныя помнікі Вільні і давесці знешні выгляд горада да добрай кандыцыі, не праміналі і Базыльянскія муры. Многа працы было ўкладзена ў рэстаўраванне царквы св. Тройцы, старой званіцы, галоўнай брамы і іншага.

**Лявон Крывіцкі**

д-р Аляксей Каўко

# Шлях да бацькаўшчыны

## (З гісторыі беларускіх студэнцкіх гурткоў)

Дарэвалюцыйная Беларусь была пазбаўлена свае нацыянальнае школы. Вёска ці горад, гімназія ці універсітэт — ні за якой вучнёўскай альбо студэнцкай лавай не вучыліся дзеці беларусаў ні роднаму слову, ні гісторыі, ні культуры свайго народа. Бо і народ беларускі, як самабытная гістарычная супольнасць, ігнараваўся тагачасным палітычным ладам і ягонай сістэмай асветы.

А між тым лепшыя сыны і дочкі гэтага народа, выпраўляючыся ў свет за навукай, не толькі не цураліся свайго паходжання, сваёй матчынай мовы, але імкнуліся суаднесці набытыя веды з лёсамі свае радзімы — Беларусі. Парадаксальная з'ява: маладыя людзі з Гродзеншчыны ці Міншчыны, апынуўшыся дзесьці ў Пецярбурзе, Маскве, Кракаве, ставаліся свядомымі, гарачымі патрыётамі. Яны прагна цягнуліся да слова, песні беларускай, да сваіх нацыянальных вытокаў. Нібы нанова адкрывалася перад імі аблічча роднае краіны, зацененае з розных бакоў чужымі штучнымі покрывамі накшталт „северо-западного края“, „крэсув всходніх“. Адначасна нараджалася і мацнела пачуццё пратэсту супраць адвечнай несправядлівасці і хлусні. Парадокс, як бачым, чыста знешні. Родная стыхія прабівалася да сонца жыццедайнымі парасткамі ў кожным месцы, дзе пралеглі пуцявіны дзяцей народа.

Няма прароку месца ў айчыне. Сапраўды, колькі прарочых галасоў беларускіх адазвалася ўпершыню здаля ад Беларусі. Колькі світальных зорак успыхнула на далёкіх небасхілах, азначыўшы шлях да роднай і вольнай краіны. Пра гэты шлях і пойдзе гутарка.

Першыя спробы гуртавання беларускай студэнцкай моладзі прыпадаюць на значна ранейшыя часы — на другую і наступныя дэкады XIX стагоддзя. Ужо тады выхадцы з Беларусі, якія займаліся ў вышэйшых навучальных устано-

вах Вільні, Пецярбурга, Масквы прымалі актыўны ўдзел у нелегальных арганізацыях асветніцкага і рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку. Прыгадайма таварыствы філаматаў і філарэтаў у Віленскім універсітэце (1817-1823), Дэмакратычнае таварыства ў Віленскай медыкахірургічнай акадэміі (1836-1839), Братні саюз літоўскай моладзі (1846-1849), рэвалюцыйныя гурткі ў Пецярбурзе канца 50 гадоў і іншыя. Ад іх бяруць свой пачатак патрыятычныя традыцыі змагання перадавой беларускай (тады яшчэ пад назвай „літоўскай" ці „польскай") грамадскасці супраць феадальна-прыгонніцкага ладу, за дэмакратычныя правы. Жывымі носьбітамі гэтых традыцый сталі прозвішчы Адама Міцкевіча, Томаша Зана, Франца Савіча, Юліуша Бакшанскага, Кастуся Каліноўскага. Студэнцкі рух тае пары, з беларускага боку яшчэ амаль не самаакрэслены, выступаў пераважна ў рэчышчы польскага вызваленчага руху.

Пасля паўстання 1863 г. і асабліва пад канец XIX ст. паскараецца працэс кансалідацыі беларускай нацыі, абуджэння нацыянальнай свядомасці працоўных Беларусі. Узмацняецца імкненне вызваліцца з-пад ярма сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, выйсці на арэну самастойнай гістарычнай дзейнасці. Рашаючы ўплыў на гэтыя тэндэнцыі мела даспяванне рэвалюцыйнай сітуацыі ў Расіі, нарастанне народніцкага, а затым пралетарскага руху. Усё разам узятае садзейнічала ажыўленню студэнцкага руху, які на новым гістарычным этапе пачынае фарміравацца на ўласна беларускай глебе.

Адным з першых студэнцкіх аб'яднанняў лічыцца падпольны гурток беларусаў-народавольцаў „Гоман" пры Пецярбургскім універсітэце (1881-1884). Менавіта пад такой назвай гурткоўцы выдавалі гектаграфаваны часопіс. У склад гуртка ўваходзілі студэнты універсітэта А. І. Марчанка, Х. А. Ратнер, У. В. Крупскі, М. І. Стацкевіч, слухач тэхналагічнага інстытута С. І. Нясцюшка-Буйніцкі і іншыя. Аб дзейнасці групы „Гоман" маецца параўнаўча багатая літаратура (праца С. Александровіча, С. Самбук, Р. Семашкевіча), на падставе якой можна вылучыць некалькі абагульняючых рыс з пункту гледжання гістарычнага значэння спадчыны гоманцаў. Пра „Гоман" пісаў, між іншым, таксама С. Яновіч у артыкуле „Стагоддзе беларускай думкі" ў „Беларускім календары" на 1984 г. (с. 132-136). Так, у сваіх публікацыях беларускія народавольцы ўпершыню ў гісторыі айчыннай грамадскай думкі засяродзілі ўвагу на аб'ектыўных прадумовах развіцця Беларусі як этнічна індывідуальнай адзінкі і паставілі пытанне аб нацыянальным самавызначэнні беларускага народа ў федэратыўнай сувязі з Расіяй. Тым

самым атрымала далейшае развіццё федэратыўная ідэя К. Каліноўскага, пракламаваная ім у 1863 г., аб дзяржаўным саюзе Беларусі (Літвы) і Польшчы на падставе свабоды і раўнапраўя, — ідэя ў сваёй геаграфічнай накіраванасці зразумелая па тагачасных гістарычна-палітычных умовах. Выказванне нашых народавольцаў сведчыла аб зразуменні імі рэвалюцыйных патэнцый Расіі, куды акурат пад той час, к канцу XIX ст. перасоўваецца цэнтр міжнароднага рэвалюцыйнага руху.

Лепшыя публікацыі групы „Гоман" вызначаюцца зразуменнем залежнасці паміж нацыянальным пытаннем беларусаў і барацьбой супраць капіталістычнага ладу, прасякнуты ідэяй інтэрнацыянальнага паяднання з рускімі рэвалюцыйнымі сіламі: „Такім чынам, мы — беларусы, таму што мы павінны змагацца ў імя мясцовых інтарэсаў беларускага народа і федэратыўнай аўтаноміі краіны, мы — рэвалюцыянеры, таму што, падзяляючы праграму барацьбы „Народнай волі", лічым неабходным прыняць удзел у гэтай барацьбе, мы — сацыялісты, таму што нашай галоўнай мэтай з'яўляецца эканамічнае паляпшэнне жыцця краіны на аснове навуковага сацыялізма". („Публицистика белорусских народников" Мн., 1983, стар. 120).

Да слабых бакоў светапогляду гоманцаў даследчыкі адносяць пэўнае перабольшванне грамадскай ролі інтэлігенцыі. Тым не менш прызначэнне апошняй у службе народнай справе беларускія народавольцы разумелі, мяркуючы па іх уласных заяўленнях, далёка навырост свайго часу. Яе, інтэлігенцыю Беларусі, падкрэслівалася ў адной з публікацый, чакае „вялікая і святая задача... раскатурхаць магутныя сілы свайго народа, накіраваць прагрэсіўнае развіццё яго, што спынілася, даць яму магчымасць праявіць свой нацыянальны геній, глыбока захаваны ад драпежніцкіх намераў палякаў і вялікарускага двухглавага арла". Служыць народу азначае першнаперш вучыцца ў народа, пранікаючы ў сутнасці ягоных запатрабаванняў: „Без цеснага яднання са сваім народам, без глыбокага вывучэння яго матэрыяльных і духоўных патрэб, без разумення і павагі да яго патрэб, якія вынікаюць з асаблівасці ўсяго яго мінулага гістарычнага і эканамічнага жыцця — усе ідэалы інтэлігенцыі назаўсёды застануцца пустым гукам". (Там сама, стар. 70).

Двумя гадамі раней гэтая ж праблема нацыянальнай інтэлігенцыі, яе ролі ў вывучэнні і развіцці духоўнай культуры, у абуджэнні нацыянальнай свядомасці беларускага народа была асабліва завострана ў брашуры „Пісьмы пра Беларусь" Данілы Баравіка, выдадзенай нелегальна студэнтамі-народнікамі з беларускага зямляцтва ў Пецярбурзе. У

трактоўцы нацыянальнага пытання Д. Баравік, у адрозненне ад рэвалюцыйнай накіраванасці выданняў „Гомана", прытрымліваецца пераважна асветніцкага напрамку, заклікаючы да актыўнай дзейнасці лепшыя патрыятычныя сілы краю, здольныя дапамагчы прыгнечанаму народу „развіцця адпаведна сваім родным пачаткам". Менавіта з пункту гледжання „роднага пачатку" аўтар брашуры прыводзіць у прыклад славутых рускіх пісьменнікаў-рэалістаў (Гогаль, Някрасаў, Тургенеў, Талстой, Дастаеўскі, Шчадрын, Пісемскі і інш.), а таксама лепшыя дасягненні ўкраінскай, польскай культур, азначае грамадскае ажыўленне сярод народаў Прыбалтыкі. Прыклад суседзяў не можа, на думку аўтара, не пабуджаць да самавыяўлення творчых сіл ягонай Радзімы, якая пакуль што „спіць сном непрабудным і толькі зрэдку прасыпаецца, каб зірнуць, ці не з'явіўся хто-небудзь разбудзіць яе.., дапамагчы ёй". А між тым, зазначае Д. Баравік, ягоныя суайчыннікі маюць багатыя культурныя традыцыі, прыпыненыя ў сваім развіцці непамерна дужым уплывам польскай культуры, якую вышэйшыя станы беларускага грамадства прынялі „як мацнейшую і гістарычна больш развітую". Прынялі, не паспеўшы „дастаткова развіць сваю ўласную самабытнасць". Але народ беларускі, не ў прыклад вышэйшым класам, на працягу вякоў застаўся верным уласным духоўным набыткам — сваім звычаям, паданням, песням, казкам. Не адкажаш Д. Баравіку і ў трапнасці абагульнення з ягонага агляду мінулага і сучаснага Беларусі. Як бы энергічна не насаджалася іншаземная культура ў народзе, яна не засвоіцца ім, паколькі разміноўваецца з духам, з арганічнымі патрэбамі народнага жыцця. Таму з асаблівым націскам падкрэсліваецца ў брашуры значэнне першых крокаў па вывучэнню гісторыі і культурнай спадчыны беларусаў (І. І. Грыгаровіч, П. В. Шэйн, І. І. Насовіч), па развіццю мастацкай літаратуры на роднай мове (В. Дунін-Марцінкевіч, А. Вярыга-Дарэўскі). Кідаючы свой позірк далей ад смутнай рэчаіснасці свайго часу, невядомы аўтар (прозвішча Баравік даследчыкі схільны лічыць за псеўданім) „Пісьма пра Беларусь" прарочыў аптымістычную перспектыву сваёй радзіме, „якую, мажліва, чакае вялікая будучыня". Прыкметна, што і публікацыя Д. Баравіка пачыналася з вядомага цяпер жыццесцвярджальнага эпіграфа: „Загляне сонца і ў наша ваконца". Праз якую чвэрць стагоддзя кнігі першай беларускай выдавецкай суполкі з гэтакім жа штандаровым поклічам на вокладках пачнуць разыходзіцца па сёлах і мястэчках усяе Беларусі, будзячы, узнімаючы сярмяжны край да свядомага жыцця.

Асветніцтва? Так. Але асветніцтва ў варунках народа, пазбаўленага якіх колечы нацыянальных правоў, афіцыйнымі ўладамі, пыхлівым арыстакратычным панствам ігнараванага ў сваёй самастойнасці і самабытнасці. Слова, скіраванае да гэтага народа ў яго роднай мове, ужо само па сабе аспрэчвала пануючую несправядлівасць. „Ухіленне нацыянальнага прыгнету, — зазначаў Ф. Энгельс у лісце да К. Каўцкага ад 7 лютага 1882 г. у сувязі з польскім пытаннем, — з'яўляецца галоўнай умовай усякага здаровага і свабоднага развіцця... Для таго, каб мець мажлівасць змагацца, патрэбны спярша глеба пад нагамі, паветра, свет і прастора. Інакш — усё балбатня" (Маркс К., Энгельс Ф. Сочинения, т. 35, стар. 221). Вось гэтай самай „глебы пад нагамі" для свайго прыцiснутага і прыніжанага народа і дамагаліся беларускія асветнікі, аб'ектыўна працярэбліваючы прасеку для пашырэння сацыяльнага і палітычнага руху.

Працягам патрыятычных пачынанняў групы „Гоман" стала дзейнасць нелегальнага, інтэрнацыянальнага па складу „Гуртка моладзі польскай, літоўскай, беларускай" альбо „Кола польскага" (1892-1894). Актыўным удзельнікам, а ў апошні час кіраўніком гэтай арганізацыі з'яўляўся студэнт Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута, беларускі паэт, рэвалюцыйны дэмакрат Адам Гурыновіч. Польская назва гуртка сведчыць не гэтулькі пра ўласцівы нацыянальны склад яго ўдзельнікаў, колькі аб пэўным стане нацыянальнай свядомасці часткі студэнтаў, чыё паходжанне з шляхецка-каталіцкіх беларускіх сем'яў тады яшчэ атоесамлівалася з польскай нацыянальнасцю. Ураджэнец Вілейшчыны, студэнт А. Гурыновіч у адным з сваіх вершаў („Што ты спіш мужычок?") акурат і выказаў прагу сваіх суайчыннікаў да грамадзянскай і нацыянальнай годнасці:

„Сукін сын" ці „пся маць"
Абое — рабое.
Ці ж не маюць нам даць
Што кольвек другое?

Разам з сябрамі па гуртку Гурыновіч займаўся распаўсюджваннем рэвалюцыйнай літаратуры. Захаваўся ліст паэта, датаваны 12 лістападам 1892 г., да Станіславы Пяткевіч у Цурых з просьбай прыслаць для гуртkoўцаў у Пецярбург кнігі Маркса, Энгельса, Лібкнехта, Бабеля, Пляханава, а таксама „Дудку беларускую" Багушэвіча і іншыя выданні. Гурток Гурыновіча падтрымліваў сувязі з рэвалюцыйнымі і дэмакратычнымі арганізацыямі Польшчы, Украіны, салідарызаваўся з дзейнасцю расійскай сацыялдэмакратычнай групы „Вызваленне працы" Г. В. Пляханава. У паэтычных жа творах А. Гурыновіча, як зазначалася, дадзена рашучая крытыка пануючай палітычнай сістэмы, паказаны, як і ў

творчасці Францішка Багушэвіча, працэс абуджэння ў беларускім селяніне грамадска-патрыятычнай свядомасці, рашучасці да змагання за свае чалавечыя правы.

Трохі раней, на рубяжы 80-90 гадоў у Маскве дзейнічала таксама нелегальная арганізацыя студэнтаў у складзе польскага, беларускага, украінскага зямляцтваў. Беларускую групу прадстаўлялі А. Лявіцкі (будучы пісьменнік Ядвігін Ш.), Н. Чарноцкі, А. Гайдамовіч, М. Абрамовіч. На сходах гурткоўцаў, як сведчаць матэрыялы паліцыі, абмяркоўваліся задачы змагання за дэмакратычныя свабоды ў Расіі, неабходнасці спалучэння нацыянальнага руху з сацыял-дэмакратычным рухам.

Рэвалюцыйная настраёвасць шматмоўнага студэнцкага асяроддзя спрыяла ўсведамленню сціслай узаемнай абумоўленасці нацыянальных і сацыяльных праблем. У дачыненні ж да пасланцаў з Беларусі менавіта сутыкненне з прадстаўнікамі іншых народаў вяло часам да „адкрыцця“ свае ўласнае Радзімы, усведамленнем духоўнай повязі з сваім беларускім народам. Пазней Ядвігін Ш. прыгадае своеасаблівасць вось гэтага шляху. У Бутырскай турме, чытаем ва ўспамінах пісьменніка, за ўдзел у антыўрадавай дэманстрацыі апынулася некалькі сот студэнцкай моладзі, людзей розных нацыянальнасцей. Былі сярод арыштаваных і хлопцы з Беларусі — мінчукі, слуцакі, магіляўчане, віцябляне. Толькі вось па інтэрнацыянальным канцэрце, дзе прагучалі і рускія, і ўкраінскія, і польскія, і літоўскія, і народаў Закаўказзя песні, забракла беларускай мелодыі. Чаму ж так сталася? Чаму адмаўчаліся, не падаўшы свайго голасу, юнакі з-над Дзвіны, з-над Дняпра? Няўжо забракла ім слоў, каб выказаць набалелыя думкі, пачуцці? Доўга не ўлягалася хваляванне, раскалыханае горкімі „чаму?“. Ва ўзаемных споведзях над тужлівымі пытаннямі выспяваў адказ. І маладыя людзі, яшчэ ўчора адасобленыя адзін ад другога, пачуліся злітаванымі ў адну грамаду, сынамі аднае маці-радзімы.

„Нашы лугі для нас цвітуць, нашы каласы — для нас шэпчуць, нашы рэчкі для нас гудзяць, нашы лясы — для нас шумяць, а нашы сумныя песні для нас і толькі для нас звіняць і будуць звінець!...“ Праз турэмныя краты паліліся на волю дзівосныя гукі:

Ой ляцелі гу-у-сі
Ды з-пад Белай Ру-у-сі...

Плылі беларускія песні адна за другой. „Як жа хутка мінула нам гэтая ночка, — успамінае Лявіцкі-Ядвігін. — Колькі новых планаў навеяла яна! Колькі новых зярнятаў закінула ў нашы маладыя душы! Колькі новых неспадзяваных думак нагнала яна ў нашы гарачыя галовы!“ Так пачалося гуртаванне вакол супольных намераў: заснаваць

першы беларускі гурток моладзі ў Маскве, шырыць беларускае друкаванае слова, будзіць у народзе нацыянальную свядомасць. Неўзабаве (1891 г.) сіламі маладых патрыётаў выдаецца асобнай кніжачкай на беларускай мове апавяданне У. Гаршына „Сігнал" у перакладзе А. Лявіцкага.

Пераважна ў асветніцкім напрамку дзейнічаў „Круг беларускай прасветы" ў Пецярбурзе (1902-1904) у складзе універсітэта і тэхнічнага інстытута (І. Луцкевіч, А. Луцкевіч, В. Іваноўскі і інш). Намаганнямі „Круга" былі выдадзены зборнікі „Вязанка" Я. Лучыны (1903), „Казкі" (1904), „Калядная пісанка на 1904 год", „Велікодная пісанка" (1904). Фактычна гэтаму гуртку наша айчынная культура абавязана першым беларускім „і зместам і моваю" (С. Александровіч) выдавецтвам. Тымі ж стараннямі была пачынена спроба выдавання нелегальнай газеты на беларускай мове „Свабода", першы і адзіны нумар якой надрукаваны на цыкластылі (1903 г., Лябедка Лідскага павета) канфіскуецца царскай паліцыяй. На васьмі старонках выдання былі змешчаны два артыкулы — пра актуальную палітычную сітуацыю ў краіне і гістарычна-этнічныя асаблівасці беларускага народа, верш Цёткі „Мужыцкая доля". Нядаўна Ю. Туронак натрапіў у варшаўскім архіве ЦК ПАРП на яшчэ адну, дасюль нязнаную публікацыю „Свабоды"*. Гэта верш Сыракомлі „Добрыя весці", перапрацаваны рэдакцыяй адпаведна тагачаснай сацыяльна-палітычнай злобадзённасці. Так радкі „мужык з панам", „лягчэй будзе сэрцу, як згінець маскаль" заменены на „мужык з рабочым, „лягчэй будзе сэрцу, як згіне наш цар" і г.д. Характар перапрацоўкі верша „вясковага лірніка" наводзіць на пэўныя меркаванні адносна ідэйна-палітычнай накіраванасці аўтараў „Свабоды" і арганізатараў (тыя ж самыя людзі) „Круга прасветы". Накіраванасці ідэалагічна не зусім акрэсленай, але зместам нацэленай супраць пануючага ладу.

Нельга прамінуць і такой істотнай дэталі. Са старонак выданняў „Круга" ўпершыню прагучала паэтычнае слова Цёткі (А. Пашкевіч), прадстаўніка беларускай рэвалюцыйнай дэмакратыі. Вуснамі паэтэсы „мужыцкі" народ пачынаў выказваць не толькі сваю крыўду на прыгнятальнікаў, але і сваю чалавечую годнасць, веру ва ўласныя духоўныя патэнцыі.

Глядзі, ён, хамула,
Аб роўнасці дбае.
. . . . . . .
Музыкант галосіць

---

* У артыкуле „Па слядах „Свабоды" („Ніва", Беласток. 1981. № 43). Ю. Туронак сістэматызаваў і ўдакладніў звесткі пра лёс гэтага выдання, частка якіх выкарыстана мною.

Скрыпка не махлюе,
Хутка „хамску“ песню
Увесь свет пачуе...
(Музыкант беларускі, зб. „Велікодныя пісанкі“)

Працэс абуджэння нацыянальна-грамадскай свядомасці працоўнага чалавека адлюстраваны таксама ў вершы іншага аўтара падпісанага псеўданімам „І. Стаўбун“:

Хто я — паляк, беларус ці літвін?
Бог толькі ведае праўду адзін.
Я ж хачу працаваць увесь век,
Каб заслужыць імя — чалавек.
(Хто я?, зб. „Калядная пісанка на 1904 год“)

Гэта яшчэ не пратэст, але тыя разважанні ўслых, накапленне таго самага гаручага рэчыва, з якога хутка выбухне цвёрдае купалаўскае патрабаванне „людзьмі звацца“.

Кіраўнікі „Круга“ прынялі непасрэдны ўдзел у заснаванні Беларускай сацыялістычнай грамады (1903 г.), што сведчыла пра пэўную пераемнасць і ўзаемазалежнасць асветніцкай і грамадска-палітычнай плыняў у беларускім нацыянальным руху.

На пачатку 900-х гадоў існаваў Беларускі гурток у Кракаве пры Ягелонскім універсітэце. Мэтай гуртка, мяркуючы па ягонай жа сацыялагічнай анкеце, што захоўваецца ў архіве ЦК ПАРП, было вывучэнне стану гаспадаркі, асветы, культуры і веравызнанняў беларускай вёскі, узаемаадносін паміж сялянствам і вясковай шляхтай, а таксама характару ўплываў на селяніна з боку „рускай афіцыяльнай культуры“ і „польскай цывілізацыі“. Кракаў, як і Лондан, з'яўляўся адным з замежных асяродкаў выдання беларускай кнігі. Адсюль пайшлі ў свет зборнікі Ф. Багушэвіча. Тут у 1904 г. былі надрукаваны дзве кніжкі на беларускай мове — „Янка Музыкант“ Г. Сянкевіча і невялічкая аповесць, з народных паданняў, „Ведзьма“ (абедзве ў перакладзе Янкі Сваяка, — псеўданім М. Фальскага). У Кракаве ўбачылі свет і першыя тры тамы (1897-1903) грунтоўнага фальклорнага даследавання Міхала Федароўскага „Люд беларускі на Русі Літоўскай“. У Ягелонскім універсітэце вучылася (1908-1909) Цётка. Напэўна гэтыя падзеі і факты так ці іначай спрыялі росту патрыятычнай свядомасці маладых людзей з Беларусі, чые сцежкі пазнання, як некалі пуцявіны іх славутага суайчынніка Францішка Скарыны з Полацка, вялі праз старажытную польскую сталіцу.

Рэвалюцыя 1905 г. узварушыла, ускалыхнула датуль бескаваныя сілы Беларусі. Беларускі люд у цеснай сувязі з „братняю Руссю“, з працоўнымі Украіны, Літвы, Польшчы падняўся на барацьбу за свае сацыяльныя і палітычныя

правы, несупынна даходзячы да ўсведамлення ролі ў агульначалавечым прагрэсе. У змаганні з царскім рэжымам здабываюцца некаторыя дэмакратычныя свабоды, першыя „плацдармы“, з якіх пачынае набіраць росту, паскараць сваю хаду беларуская культура. Закладаюцца выдавец-



*Праваслаўныя храмы Бельска Падляшскага ў замалёўках Б. Рудкоўскіна. Царква Уваскрасення Хрыстова. 1984 г.*

кія суполкі, выходзяць газеты „Наша доля“, „Наша ніва“. Загучэла палымяная ліра Купалы, Коласа, Багдановіча. З падзвіжніцтва Ігната Буйніцкага набірае размаху тэатральны рух. Да грамадска-асветніцкай працы актыўней пацягнулася перадавая частка нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Пачынаючы з 1906 г., у гарадах і мястэчках краю (Вільня, Мінск, Гродна, Полацк, Слуцк, Дзісна, Капыль, Давыд-Гарадок, Радашковічы) адбываюцца масавыя вечарынкі беларускай нацыянальнай культуры.

Выхад да шырокай аўдыторыі, да працоўных нізаў, спалучэнне асветніцкай працы з палітычна-рэвалюцыйнай прапагандай сведчылі аб якасна новым этапе ў адраджэнні роднага слова, нацыянальнай культуры наогул. Змітро Жылуновіч (Цішка Гартны), адзін з арганізатараў рэвалюцыйнага і культурнага руху тае пары, зазначаў у 1918 г.: „Той размах, тая шыр... ахапілі беларускі народ хвалямі самапазнання... Адначасова заварушыліся гарады, мястэчкі і сёлы. Беларусь пакрылася нацыянальнымі, палітычнымі і сацыялістычнымі гурткамі, грамадамі. Студэнты, вучні, інтэлігенцыя і асобныя работнікі і сяляне — усе ўсвядомілі патрэбу часу і народжаных ім задач. „Аслабаняй сябе з усіх бакоў! Ірві ланцугі ўсякага прыгнёту!“ — гучэў бадзёра вокліч у гушчы грамадскага жыцця беларускага народа (зб. „Зажынкі“, М., выданне Белнацкова, 1918, стар. 116).

Усё разам узятае садзейнічала паглыбленню патрыятычнай свядомасці беларускага студэнцтва, якое ў сваю чаргу адыгрывала не апошнюю ролю ў нарастанні нацыянальна-вызваленчага руху. „Няма амаль універсітэцкага горада, — паведамляў А. Навіна ў артыкуле „Беларускі рух“, змешчаным у Новым Энцыклапедычным Слоўніку Бракгаўза-Эфрона (т. 8, стар. 946), — дзе б не было беларускіх студэнцкіх гурткоў, прыкметных тымі ці іншымі мэтамі, скіраванымі на працу па адраджэнню беларускага народа“. На жаль, студэнцкі грамадска-культурны рух дарэвалюцыйнага часу даследаваны вельмі слаба. Добрым і пакуль адзіным пачаткам у распрацоўцы гэтай тэмы з'явілася праца Р. Семашкевіча „Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбургу. Канец XIX — пачатак XX ст.“ (Мн., 1971). Між тым вядома пра розныя формы арганізоўвання беларускай моладзі, якая займалася ў вышэйшых навучальных установах Масквы, Харкава, Рыгі, Варшавы і іншых гарадоў (Беларусь, як вядома, сваіх вышэйшых школ не мела, не лічачы настаўніцкіх інстытутаў у Віцебску і Мінску, адчыненых у 1910 і 1914 г.г.). Канкрэтныя ж плёны дзейнасці маладых чакаюць сваіх даследчыкаў. Асабліва пры-

кметны след пакінуў па сабе навукова-літаратурны гурток студэнтаў-беларусаў пры Пецярбургскім універсітэце (1912-1914). Фармальна гурток быў зарэгістраваны універсітэцкімі ўладамі ў снежні 1912 г., але праца яго ўдзельнікаў (Б. Тарашкевіч, Я. Хлябцэвіч, К. Душэўскі, А. Бычкоўскі, Л. Аляксюк і інш.) пачалася некалькімі гадамі раней. Станоўчы ўплыў на пачыненні гурткоўцаў аказваў Янка Купала падчас сваёй вучобы на агульнаадукацыйных курсах Чарняева. Вялікую дапамогу аказаў гуртку Браніслаў Эпімах-Шыпіла — бібліятэкар універсітэцкай бібліятэкі, выдатны збіральнік рукапісных твораў беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў выдавецкай суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца“*.

Удзельнічалі ў мерапрыемствах разам з студэнтамі Ц. Гартны, П. Мядзёлка, А. Грыневіч, Я. Драздовіч, малодшы брат Б. Шыпілы — Уладзіслаў Шыпіла і іншыя прадстаўнікі перадавой беларускай грамадскасці, якія ў той час працавалі ці вучыліся ў горадзе над Нявой.

Намаганнямі патрыётаў быў створаны беларускі хор, драматычны калектыў (пастаўлены спектаклі па п'есах „Паўлінка“ Я. Купалы, „Па рэвізіі“, „Пашыліся ў дурні“ М. Крапіўніцкага, „У зімовы вечар“, „Хам“ Э. Ажэшкі), адбылося некалькі музычна-драматычных вечароў у рабочых раёнах Пецярбурга. На першай беларускай вечарніцы ў Пецярбурзе (19 лютага 1910 г.) выступіў хор з 65 чалавек, паэтэса Цётка прадэкламавала свае вершы. Гучэлі народныя інструменты, танцоры выканалі „Лявоніху“, „Юрку“, „Качара“. Як яно выйдзе, прадстаўленне „папросту“? не ўтойваў сваёй заклапочанасці перад пачаткам вечара старэнькі дзядок-беларус. Як жа было не хвалявацца? Простая мова, простая песня... Далей сялянскай сядзібы ці панскай пярэдняй яе не пускалі. А тут нава-

*. Кватэра Эпімах-Шыпілы на Васільеўскім Востраве стала мейсцам традыцыйных творчых спатканняў. Паўліна Мядзёлка — удзельніца такіх сустрэч, успамінала пазней: „Па суботах на кватэры... можна было спаткаць і людзей старэйшага пакалення — дзеячоў беларускай культуры: рухавага, са светлай бародкай мастака Язэпа Драздовіча, высокага, з шапкай сівых валасоў, пакдзіцячаму наіўнага збіральніка беларускіх народных песень Антона Грыневіча. Тут слухалі Бранісла Тарашкевіча, які рабіў даклад „Асновы беларускай граматыкі“, іншым разам хто чытаў лекцыю па гісторыі ці эканоміцы Беларусі. Антон Грыневіч знаёміў з новымі запісамі беларускіх народных песень. Драздовіч расказваў пра старадаўні стыль беларускіх помнікаў архітэктуры, паказваў свае замалёўкі. Жылуновіч прыносіў падпольную рэвалюцыйную літаратуру, гаварыў пра рабочы рух на заводах... Колькі ж тут было цікавага, колькі жывых думак выказана, якія гарачыя спрэчкі кіпелі!“ (П. Мядзёлка. Сцежкамі жыцця. Мн., 1974. стар. 55).

жылася яна падаць свой голас з падмосткаў вялікага горада, перад тысячнай залай... „А выйшла сапраўды пекна. Як загрымеў хор песню народную „Ой, пайду я лугам, дзе мой мілы арэ плугам...“ — запла-каў стары: „Пекна, зусім так сястра Гануля пяяла“, — чы-таем у справаздачы з веча-рынкі, змешчанай у „Нашай ніве“. Мацей Крапіўка (Цёт-ка), аўтар нататкі выказвае абагульняючую думку аб зна-чэнні першых беларускіх ве-чарынак, што адбыліся ў Вільні, Слуцку, Гродне, Пе-цярбурзе: „Гэта не былі звы-чайныя гулянкі, гэта была сур'ёзная культурная праца. Гуляць адно для забавы, быц-цам матылёк на сонцы, можа толькі народ з вялікай куль-турай, бо ён мае ўжо аргані-заваныя тэатры, аркестры, хоры, музыку. А беларус што меў дагэтуль?“ (Цётка. Тво-ры, Мн. 1976, стар. 206-207).

Сапраўды, што меў на тую пару беларус? — „І душу тваю абакралі, ў цябе нават мовы няма“ (М. Багдановіч). І над пытаннем, і над сумнай канстатацыяй паэта не зашко-дзіла б і сягоння задумацца аўтарам некаторых апрацо-вак, не пазбаўленых і нават зняважлівых заўваг адносна культурнага грамадскага ру-ху дакастрычніцкай пары, як нейкага „чыстага культур-ніцтва“, адчужанага нібы ад рэвалюцыйнага руху, ад жыццёвых інтарэсаў працоў-ных мас. Гутарка ж ідзе пра культурна-асветніцкі рух ся-род прыгнечанай нацыі. Не гледзячы на сваю ўнутран-нюю супярэчлівасць, неадна-роднасць (рэвалюцыйна-дэма-кратычная, ліберальная, кан-серватыўная плыні) гэты рух з'яўляўся істотным фактарам нацыянальна-вызваленчай ба-рацьбы.

Вяртаючыся да спадчыны студэнцкага гуртка ў Пецяр-бурзе, нельга прамінуць на-вуковай часткі ягонай працы. Яна адлюстравана ў выдадзе-най асобнай адбіткай справа-здачы аб дзейнасці гуртка за 1913 год. Студэнты рыхтавалі і абмяркоўвалі агляды па бе-ларускай літаратуры, біблія-графіі беларускіх выданняў, удзельнічалі ў збіранні фаль-клорных твораў. Сумеснымі сіламі студэнтаў і выдавец-кай суполкі „Загляне сонца...“ былі падрыхтаваны і выда-дзены тры сшыткі літаратур-на-публіцыстычнага альмана-ха „Маладая Беларусь“ (1912-1913) з творамі Я. Купалы, Я. Коласа, А. Цёткі, З. Бядулі, К. Буйлы, Я. Журбы, з арты-куламі па гісторыі беларус-кай культуры, вызваленчага руху на Беларусі. Дзейнасць гуртка падтрымалі вядомыя вучоныя: акадэмік А. Шах-матаў, прафесар Я. Бадуэн дэ Куртэнэ, прафесары С. Вен-гараў, А. Пагодзін. Апошні з асаблівай цеплынёй вітаў на-маганні беларускіх студэнтаў садзейнічаць росту самасвя-домасці свайго народа, па-колькі „не можа быць куль-турнага развіцця паміж свя-домасці аб сваёй нацыяналь-

най самабытнасці“ („Белорусский научно-литературный кружок студентов С-Петербургского университета“. Спб., 1913-1914, стар. 28). Шырэй маральнай падтрымкай адарылі гурткоўцаў іх славутыя суайчыннікі — прафесар Е. Карскі, Е. Раманаў, звярнуўшы ўвагу маладых даследчыкаў на неабходнасць руплівага і глыбокага вывучэння духоўных скарбаў беларускага народа. Этнограф Раманаў дык проста заклікаў „ратаваць творы роднай душы, якія гінуць паўсядзённа, паўсюдна“. Аўтар „Беларускіх зборнікаў“ наказвае з асаблівай рупнасцю аднесціся да збірання моўных багаццяў народа, „каб астудзіць гарачку некаторых вучоных, што аднялі ў беларусаў ледзь не палову слоў, аддаўшы іх літоўцам, латышам, палякам і нават фінам“. (Там жа, стар. 30-31). Урэшце, вучоны перасцерагае сваіх маладых калег ад акадэмічнага этнаграфізму, нагадваючы пра грамадзянскую звышзадачу: „Станоўцеся да абароны роднага народа!“ (Там жа). Папулярызацыі беларускага друкаванага слова, нацыянальнай культуры садзейнічалі студэнты-беларусы Варшаўскага універсітэта. У 1908-1913 гадах у польскай сталіцы адбылося некалькі беларускіх вечарынак, на адной з якіх (люты 1913 г.) выступіла трупа Ігната Буйніцкага. Прыкметная дэталь: напярэдадні вечарынкі з удзелам артыстаў Буйніцкага арганізатары надрукавалі і расклеілі па горадзе афішу на беларускай мове. Разгневаная царская паліцыя (дазвалялася друкаваць толькі на рускай і польскай мовах) ледзь не сарвала правядзенне вечара, калі б не хадатайніцтва перад уладамі тагачаснага рэктара універсітэта праф. Я. Карскага. Тым не менш, факт выдання „крамольнай“ афішы стаў спецыяльнай тэмай паліцэйскага дазнання. Сярод арганізатараў беларускіх вечарынак, паводле дайшоўшых да нас звестак, значацца прозвішчы паэта Гальяша Леўчыка, Аркадзя Салаўевіча. Актыўна ўдзельнічалі жонка і дачка прафесара Карскага — Соф'я Мікалаеўна і Наталля Яфімаўна.

Беларускі гурток дзейнічаў сярод студэнтаў сельскагаспадарчага інстытута ў Нова-Аляксандраўску (цяпер — Пулавы). У Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР захоўваецца ліст ад 31 сакавіка 1914 года, дзе праўленне гуртка звяртаецца ў „Нашу ніву“ за дапамогай інфармацыйнымі матэрыяламі. Мэтаю гуртка, паведамлялі студэнты з Нова-Аляксандраўска, з'яўляецца вывучэнне прыроды і гісторыі, лясной і сельскай гаспадаркі Беларусі, каб даць „роднай краіне навукова падрыхтаваных працаўнікоў, знаёмых з яе мясцовымі варункамі і асаблівасцямі“. Гурткоўцы, даведваемся далей, мелі свой статут, зацверджаны дырэкцыяй інстытута, улас-

ную бібліятэку, а таксама праводзілі навуковыя спатканні, краязнаўчыя экскурсіі. Ліст пацверджаны калектыўным подпісам „Праўленне гуртка" і адпаведняй пячаткай: „Кружок по изучению Белорусско-Литовского края при Ново-Александровском сельскохозяйственном институте". Шкада, не ведаем прозвішчаў маладых людзей, на рахунку якіх, мяркуючы з пададзенага вышэй допісу, значыліся практычныя крокі на шляху служэння роднай Беларусі. Можна, аднак, дапусціць, што сярод актыўных гурткоўцаў знаходзіўся і студэнт Аркадзь Смоліч, чыё прозвішча ўжо ў Савецкай Беларусі, у 20-х гадах, спатыкаецца на шматлікіх навуковых працах, прысвечаных эканамічнай геаграфіі рэспублікі. Дарэчы, ён жа, А. Смоліч, значыцца ў ліку аўтараў комплекснага выдання „Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культуры і рэвалюцыйнага руху" (Мн., 1924), падрыхтаванага пры ўдзеле Змітра Жылуновіча, Усевалада Ігнатоўскага, Язэпа Лёсіка, Васіля Пічэты і іншых беларускіх вучоных.

Матэрыялы некалішняга сельскагаспадарчага інстытута ў Пулавах цяпер захоўваюцца ў ваяводскім архіве Любліна. І хто ведае, ці ў якой-колечы з папак не дрэмле, прыцярушаная часам тая ці іншая паперына-першакрыніца, пакуль не трапіць на яе вока зацікаўленага тэмай нашых разважанняў даследчыка. Тады даведаемся пра нешта большае: хто яны, маладыя беларускія патрыёты, што за клопаты і радасці спадарожнічалі ім на выбоістым шляху да роднай Бацькаўшчыны?

Пачынаючы з другой дэкады XX ст., у патрыятычна-асветніцкую працу ўсё актыўней уключаецца вучнёўская моладзь Беларусі. У паасобных гімназіях пачынаюць выходзіць рукапісныя часопісы на роднай мове, вучні распаўсюджваюць сярод насельніцтва газету „Наша ніва", творы беларускіх пісьменнікаў, ладзяць мастацкія вечарыны з нацыянальным рэпертуарам. Пра вопыт такога гуртка ў Гродне (1910-1914) падзялілася нядаўна ўспамінамі адна з актыўных яго арганізатараў Л. Сівіцкая (Зоська Верас) на старонках „Беларускага календара" на 1981 год. Але гэта ўжо іншая тэма.

Некалькі, у абагульненне, канцовых заўваг. Па-першае. Палітычны і культурна-асветніцкі рух студэнтаў, а пасля і вучнёўскай моладзі нараджаўся і мацнеў у агульным рэчышчы нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага народа. Вядавочная роля гэтага руху ў абуджэнні і паглыбленні патрыятычна-грамадскай свядомасці працоўных мас Беларусі. Па-другое. Арганічна звязаны з развіццём літаратуры, усяе нацыянальнай культуры маладзёжны рух адыграў станоўчую ролю ў фарміраванні першых атрадаў народнай інтэліген-

цыі, свядомай свайго нацыянальнага паходжання, сваёй духоўнай еднасці з маці-Радзімай, грамадзянскага абавязку перад ёю. Па-трэцяе. Асветніцкая дзейнасць, яе дэмакратычна-рэвалюцыйная плынь перш за ўсё, разам з іншымі праявамі вызваленчага руху, увасабляла ў сабе гістарычнае імкненне беларускага народа да гаспадарання ў сваёй вольнай Айчыне, да адспявання ўласнай „гістарычнай песні“ ў агульначалавечым хоры. Увасабляла тыя самыя правы, якія за беларусамі паслядоўна адстойваў вялікі Ленін і фактычныя гарантыі якім забяспечыла сацыялістычная дзяржава.

**Аляксей Каўко.**



*Праваслаўныя храмы Бельска Падляшскага ў замалёўках Б. Рудкоўскіна. Царква св. Тройцы на могільніку „Любка“. Перанесеная ў 1857 г. з вул. Відаўскай, дзе цяпер зборная гмінная школа. 1984 г.*

# ЛІТАРАТУРНЫ ПАЛЕТАК

На 60-я ўгодкі паэта

Віктар Швед

## МОЙ ШЛЯХ У КРАІНУ ПАЭЗІІ

Часта на аўтарскіх сустрэчах мяне просяць:

— Раскажыце аб сваім шляху ў чароўную краіну паэзіі.

Таму вось я і падумаў, што, мабыць, варта выказацца пра гэта.

Трэба прызнацца, што чамусьці вершаскладанне давалася мне вельмі лёгка ад наймалодшых гадоў. Пасвіўшы кароў на лузе, я на хаду сыпаў рыфмаванымі сатырычнымі куплетамі ў мясцовым дыялекце, прысвечанымі сябрам, якіх не надта любіў. Часам нават і спяваў гэтыя куплеты на нейкія вядомыя мне народныя мелодыі. А трэба сказаць, што голас у мяне быў нядрэнны. Доказам гэтага хаця б такі факт, што прымалі мяне ў сваю кампанію намнога старэйшыя хлопцы развучваць калядныя песні. Аднак пасля калядавання праганялі з кампаніі, сцвярджаючы, што дзяўчаты з іх смяюцца, калі сярод іх блытаецца нейкі смаркач. Я з плачам пакідаў гэтую кампанію да наступных каляд. Пазней спяваў я ва ўсіх школьных хорах.

У школьным узросце пачаў я таксама пісаць вершы. Настаўнікі і вучні мною ганарыліся: „Маем свайго школьнага паэта!“ А настаўнікаў, якія заахвочвалі мяне да пісання і спрыялі майму творчаму росту, было многа. Першай маёй сардэчнай настаўніцай, яшчэ ў даваенны час, калі я вучыўся ў Орлі, была пані Цежахова. Яна мае школьныя сачыненні чытала ў іншых класах.

Калі пры Савецкай уладзе вучыўся я ў арлянскай беларускай дзесяцігодцы, маім настаўнікам быў П. Каroткі, надта ўжо хворы малады чалавек, які неўзабаве памёр у беластоцкай бальніцы. Памяці свайго настаўніка, што навучаў мяне беларускай мове, я



*Наш заслужаны юбіляр Віктар Швед сярод сваіх юных чытачоў у вёсцы Іванкі каля Нарвы. Фота В. Буры.*

прысвяціў верш, з якога помнящца радкі:

Сёння з песняю сіроцкай
Вестку нам прыгнаў віхор,
Што ў бальніцы беластоцкай
Пётр Кароткі ўжо памёр.

У дзесяцігодцы мяне павысілі ўжо на рэдактара насценгазеты. Там, між іншымі, змясціў я сатырычны верш, прысвечаны сябрам яўрэйскай нацыянальнасці, якія ў суботы не прыходзілі на заняткі. Аднак жа ў той самы час я на ўроку беларускай мовы Янкелю Шумахеру, з якім сядзеў у адной парце і які ў суботу не ўзяў пяра ў руку, я напісаў дыктоўку. І калі выкліканы настаўнікам Кароткім да дошкі Янкель не дакрануўся нават да крэйды, выявілася, хто напісаў дыктоўку. Мы з Янкелем атрымалі па двойцы. Трэба сказаць, што сужыццё з вучнямі яўрэйскай нацыянальнасці было ў нас добрае. Памяці аднаго з іх, Вераніка Шыі, таленавітага танцора, што дасканала танцаваў „лявоніху" на школьных урачыстасцях і яго потым замучылі гітлераўцы, я прысвяціў верш „Абарванае дараванне".

Арлянская школа накіравала мяне са сшыткам вершаў на алімпіяду дзіцячай творчасці ў Бельск-Падляшскі.

Жудасная вайна спыніла мой творчы рост. Не мог я, аднак, паўстрымацца ад вершаскладання. Невядома чаму, пачаў я тады пісаць на рускай мове. Адзін з вершаў, „Друзьям на прощание", пры-

свецйў я вясковай моладзі, якую вывозілі на прымусовыя работы ў Нямеччыну. З сябрам Ю. Філіманюком вершы гэты прыбілі мы ноччу аграмаднымі цвікамі да сцяны школьнага будынку. Надта ж уцешыўся я, што верш вісеў тры дні, пасля нехта яго зняў. Помняцца мне з гэтага верша наступныя радкі:

Разъярённый злой враг
выгоняет
Вас насильно с деревни
родной.
Кто родимый дом отчий
бросает,
Слезы льет он с печалью,
с тоской.

Пасля вызвалення Беласточчыны ад гітлераўскіх захопнікаў яшчэ пры гарматнім гудзе на Вісле, пайшоў я вучыцца ў Гайнаўскую беларускую гімназію. Там маім сардэчным настаўнікам, які заахвочваў пісаць вершы, быў дырэктар школы Васіль Бахар.

Змяшчаў я вершы ў насценгазеце. Мая вершаваная сцэнка „Дзве кумачкі" ставілася моладдзю на ўрачыстасці заканчэння школьнага года. Гэтая ўрачыстасць была, на жаль, апошняй у працы школы. Гімназію ліквідавалі, і я перайшоў вучыцца ў Бельскую беларускую школу.

Там ужо ахапіла мяне нейкае творчае шаленства. Вылівалася яно і ў насценгазетах, і ў вершаваных школьных сачыненнях. Мелі са мною многа працы, правячы мае сачыненні, і настаўнік беларускай мовы Гайсакоў, і настаўнік рускай мовы Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч і настаўнік польскай мовы Пухнарэвіч. Пухнарэвічу, відаць, не вельмі было да спадобы, што я хатнія сачыненні пісаў вершам, калі пад адным з іх „Konopnicka pieśniarka ludu" ён напісаў: „Praca bardzo dobra. Wypracowanie w przyszłości należy pisać prozą". Не за шмат гэта памагло, калі я нават на такія дамашнія працы, як: „Następujące wyrazy zastosować w zdaniach", пісаў вершы. Фармальна нічога нельга было мне закінуць, таму што ўсе зададзеныя словы знайшлі сваё месца ў вершы.

У школе супрацоўнічаў я з настаўнікам спеваў Я. Тарноўскім, які пісаў музыку на мае словы і нашы песні выконваў школьны хор. Старэнькая настаўніца нямецкай мовы, пані Сабалеўская, надта ж любіла паэзію. І калі на яе ўроку моладзь падказвала, што Швед напісаў новыя вершы, настаўніца, зразумела, прасіла пачытаць. Такім чынам, як кажуць, увесь урок мелі мы з галавы. На жаль, і Бельская беларуская школа спыніла сваю працу.

Восенню 1946 года выехаў я ў Варшаву. Апынуўшыся ў аграмадным, страшэнна разбураным горадзе, у выключна польскім асяроддзі, без кватэры, без матэрыяльных сродкаў, я зусім разгубіўся. На маё шчасце ў падобных абставінах былі і мае сябры: аднавяскавец Дзмітры Аліферук (працуе лекарам у Беластоку) і вя-

домы дзеяч БГКТ Хведар Галёнка. Усе мы ўладкаваліся ў школах. Аднак не маючы дзе жыць, даўжэйшы час качавалі ў паўразбураным „Caritasie“ на Кракаўскім Прадмесці ў Варшаве. Там трэба было паўтараць за манашкай словы малітваў за скібку чорнага хлеба і кубак неасалоджанай кавы. Не атрымаўшы стыпендыі, якую мелі тады толькі шчаслііўцы, вымушаны я быў спалучаць вучобу з заробкамі.

Закончыў я Акадэмію палітычных навук, факультэт журналістыкі і беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце. Адначасова працаваў у многіх установах. Такія складаныя абставіны не спрыялі, зразумела, маёй паэтычнай творчасці. А праўду кажучы — амаль поўнасцю яе спынілі.

І толькі пакліканне да жыцця ў 1956 Беларускага грамадска-культурнага таварыства і яго друкаванага органа „Нівы“ было натуральным імпульсам, які разбудзіў мяне зноў да паэтычнай творчасці. Мой першы друкаваны ў „Ніве“ верш „Я — беларус“ выразіў маё паэтычнае крэда, якому я астаўся верны па сённяшні дзень. Быў я ўжо ў такім духоўным стане, што не мог не пісаць. Выдадзеныя дагэтуль тры мае паэтычныя зборнікі і звыш тысячы аўтарскіх сустрэч, якія я правёў на Беласточчыне ў беларускім асяроддзі ды пяцьдзесят маіх вершаў, якія сталіся песнямі ўпэўнілі мяне, што існуе патрэба і ёсць для каго пісаць. Наогул забавязвае мяне да творчай працы і членскі білет Саюза польскіх пісьменнікаў.

Я запусціў так глыбока карэнні ва ўраджайную глебу маёй роднай зямелькі, што ніхто, апрача смерці, не здолее мяне з яе выкарчаваць. Ды і пасля смерці спачну я ў роднай зямельцы. А пакуль што — пішу, не спыняю сваёй творчай працы, нягледзячы на месца свайго прабывання.

І чым далей знаходжуся ад родных мясцін, тым больш узмацняецца туга за Радзімай, якая пабуджае мяне да творчага гарэння. Паездзіў я ўжо крыху па свеце і цешыць мяне той факт, што мае вершы ведаюць і за межамі Народнай Польшчы. І таму я не вельмі згодны з поглядам, што мая паэзія з'яўляецца толькі рэгіянальнай з'явай і не прэтэндуе на шырэйшы аспект і ахоп.

У адным са сваіх вершаў я сказаў:

Я ўсё накопліваю вопыт:
І пазнаю шырокі свет.
На рубяжах старой Еўропы
Хачу пакінуць скромны
след.

У якой ступені мая скромная паэтычная творчасць будзе вядомая шырэй, пакажа будучыня. А пакуль што я пішу, не сыходзячы са шляху, што вядзе ў чароўную краіну паэзіі.

**Віктар Швед**

**Віктар Швед**

## Я НАРАДЗІЎСЯ БЕЛАРУСАМ

Кім нарадзіўся?
— Беларусам.
Беларусам
Буду жыць!
Мову родную
Вучуся
Шанаваць,
Цаніць,
Любіць.
Сваю родную
Старонку
Я кахаю,
Як бацькоў,
Што вучылі
Песні звонкай,
Прывівалі
Мне любоў:
І да мовы,
Да дубровы,
Да палёў
І да лугоў.
І заўсёды
Да народу,
Што жыве тут
Ад вякоў.
Я клянуся:
Не зракуся
Сваё роднае
Любіць.
Заўжды буду
Беларусам,
Пакуль толькі
Буду жыць!

## СНЮ ЦЯБЕ Я, ВЁСКА МОРА

Родная ты, вёска Мора,
Я не ўбачу цябе скора —
Да цябе далёкі шлях.
Тут у кожную часіну
У сэрцы, у душы няспынна,
І ў маіх жывеш ты снах.

Сню — з вялікаю натугай
Грунт засохлы ару плугам,
Ледзь магу плуг утрымаць.
І з агромністай сявенькі
Хлапчуковай яшчэ жменькай
Еду збожжа рассяваць.

На плячы з касой кляпанай
Луг касіць іду я рана
З серабрыстаю расой.
Зноўку серп бяру зублёны —
Жаць іду з ім на загоны,
На палетак родны свой.

Сню — зімою мы заўзята,
На таку цапамі з татам
Змалацілі ўвесь авёс.
У марозны час зімовы
З Белавежскай пушчы дровы
З татам позняй ноччу вёз.

Снілася, што ў сенцах зёрны
З татам я малоў у жорнах
На хлеб чорны, аржаны.
Хлеб пякла матуля потым,
Елі мы яго з ахвотай...
Сны, цудоўныя вы, сны!

Не злічу ўжо раз каторы,
Снішся мне ты, вёска Мора,
І мая там маладосць.
Надалей мне часта сніся,
Хоць у снах мне адазвіся,
Я ж цяпер твой рэдкі госць.

## АТРОК

Калі я быў ужо падлеткам,
Ды жыў у вёсцы пад страхой,
Калі касу цягнуў улетку,
Хадзіў за плугам баразной,

Матуля падвяла падлікі,
Сказала: „Сёння, мой сынок,
Ты ў нас ужо зусім вялікі —
Ты ў нас ужо цяпер атрок“.

І слова дзіўнае, што мама
Сказала з гонарам тады,
Так моцна ўрэзалася ў памяць,
Што яго помню праз гады.

Хоць я пайшоў у свет шырокі,
Пакінуў родныя палі,
Помню, я быў калісь атрокам
І на руках меў мазалі.

## МАЯ ШКОЛА

Калі мяне да вёскі Мора
Жыцця прыводзяць каляіны,
Іду я з хваляваннем, скора,
Пад школы ўжо стары будынак.

Яшчэ з мінулага сталецця
Стаіць ён тут — асветы помнік.
Дзяды, бацькі, мы, нашы дзеці
Святла тут здабывалі промні.

Тут рускай, польскай, роднай мовы
Гучалі словы. У школьных партах
Тут асвятляўся люд вясковы
І пазнаваў сваю ён вартасць.

Адгэтуль я ва ўзросце раннім
Пайшоў у свет, як самы першы.
Я тут з вялікім хваляваннем
Чытаў аднавяскоўцам вершы.

Хоць ён цяпер вясковым клубам —
Старэнькі вельмі, занядбаны —
На ветэрана глянуць люба,
Вітаю я яго з пашанай.

## НАШ НАСТАЎНІК

*Памяці*
*Васіля Бахара*
*прысвячаю*

Над шматпакутнаю зямлёй
Дыхнула ўрэшце мірам неба.
Мы ўсе апалены вайной
Асветы прагнулі, як хлеба.

І нас усіх ласкавы лёс
З сёл навакольных, проста з поля,
Сабраў ля гайнаўскіх бяроз
У роднай беларускай школе.

А на парозе школы Ён
Як бацька ўсіх вітаў сардэчна,
І сэрцы нашыя ў палон
Узяў любоўю бесканечнай.

Умела прывіваў любоў
Ён да народа, да Радзімы,
Да родных беларускіх слоў,
Якія сталіся святымі.

## МОЙ ВЕРНЫ ДРУГ — АСЕННІ ЛЕС

Стаміўся ад чытання зрок,
Ці дапякае адзінота —
Іду ў суседні свой лясок,
Хоць і асенні, без лістоты.

Лес залацісты свой убор,
Як дар, рассыпаў мне пад ногі.
Ды ён жыве, ён не памёр,
Хоць сумны больш і больш
убогі.

Ён больш загадкавы цяпер,
І больш маўклівы, задуменны.
Як дарагі ты, лес, павер,
Заўжды люблю цябе
нязменна.

Такой цішы няма нідзе,
І прыгажосці, і суладдзя.
Прырода нас не падвядзе,
Прырода верная не здрадзіць.

Я зросся з роднаю зямлёю
Дзе дарагі жыве народ.
Яе пад босаю ступнёю
Я чую ад дзіцячых год.

Глыбока запусціў карэнні
Я ў сваю родную зямлю.
Тут сокам многіх пакаленняў
Прагу жыцця заўжды ўталю.

## МАЯ ЗЯМЛЯ

Зямля дае натхненне, сілы,
Бацькоўскай мовы
прыгажосць,
І сэрца напаўняе сумам,
Калі ты дома рэдкі госць.

Часцінка нашае планеты
Далёка ты — а я ў журбе.
Жывеш заўжды, зямля,
ва мне ты,
Пакуль не буду я ў табе.

Мая зямля, мая калыска,
Прыстань мая апошніх дзён,
Ты ад душы прымі мой нізкі
І шчыры мой зямны паклон!

## НАША МОВА

*„Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі“.*

*Ф. Багушэвіч*

Мова — у венах нашых кроў,
Мова — гарачая любоў.
Мова — найбольшае багацце,
Мова — нам родная, як маці.
Без мовы роднай з года ў год
Мы паміраем як народ.
Без мовы роднае, паверце,
Чакаць мы можам толькі смерці.

**Віктар Швед**

---

## АФАРЫЗМЫ АЛЕСЯ БАРСКАГА

Бывае, што мана больш верагодная, чым праўда.

*

Каршун, праспяваўшы оду ў гонар галубінага сэрца, пакінуў ад голуба толькі пер'е.

*

Найбольшая катастрофа для ананімшчыка, калі яго данос не пашкодзіць, але паможа.

*

Дзе ёсць страх, там няма свабоды.

*

Чалавек, для якога чужое — роднае і злодзей ўкрадзены.

✲

Ёсць людзі, якія найрэальней сябе адчуваюць на грунце фікцыі.

✲

Ён лічыць, што праўда, якая не служыць яго інтарэсам, — гэта мана.

✲

Некаторыя лічаць, што ўкрасць украдзенае — гэта маральны ўчынак.

✲

Ён пайшоў бы на любы грэх, каб толькі людзі лічылі яго святым.

✲

Зыходзячы з прынцыпу, што пад ляжачы камень вада не цячэ, ён заўсёды ліў ваду, стоячы за трыбунай.

✲

Лёгкі для цвярозага роўны крок, з'яўляецца невыносным цяжарам для п'янага.

✲

Калі прыгнечаныя зразумеюць, што яны моцныя, — бяда для прыгнятальнікаў.

✲

Прывучыць аўтахтона саромецца роднай мовы — найвялікшы здабытак прышэльца і чужынца.

✲

Многія маладыя людзі паступаюць, як жабракі, з той розніцай, што не просяць, але патрабуюць.

✲

Калі нехта выбіраў да жыцця балота, дык мусіць лічыцца з неабходнасцю сужыцця з гадзюкамі.

✲

Жыццё — спешка.



❊

Для маладых час спазняецца, для старых — спяшаецца.

❊

Бываюць сітуацыі, у якіх вялікасць чалавека праяўляецца ў задаволенасці з малога.

❊

Атэіст, які хваліцца сваім бязвер'ем, напамінае чалавека, які ганарыцца тым, чаго не мае.

❊

Лепш зрабіць менш, але лепш, чым больш, але горш.

❊

Замала робім мы ў тым напрамку, каб людзі, пачуўшы: „Беларусь", не пыталі: „А што гэта такое?"

❊

Калі цябе зняволяць іншыя — вызвалішся, калі сам зняволішся — прападзеш у ярме.

❊

Калі ў жыцці хочаш зрабіць „штосьці", дык мусіш стацца „кімсьці".

**А. Барскі**

---

**Надзея Артымовіч**

* ❊ *

мой сон тужыць за спакоем зялёным
і дзіцячым гармонікам
а тут трэцяя вясна рыхтуе першы урок

хто гатовы ў трэцюю вясну

чужы смех у зубах
а словы глыбока-глыбока
каб верыць сонцу —

* ❊ *

рассыпана зелень у дзікім агародзе
задумалася пад цяжкім дажджом
дзень не чорны
а не відаць блакітнага неба

сонца
здаецца абмінула дзікі агарод...
трэба купіць дзецям зялёным
новыя акуляры
час замураваны ў чатырох сценах
за пазухай дзень мокры
і мой востраў відочны
як ясны доказ
хірургічны
справа простая
адняць адрэзаць сшыць
доказы перастануць быць патрэбныя

* ✲ *

так нізка
як у танцы з непрытомным морам
злоўлена
адназначны позірк
ключ да непатрэбнага замка
і скрыжаванне

толькі крыкнуць
каб ніхто не пачуў крыку
спаліць белую стужку і чорныя рэцэпты
толькі глянуць на старыя месцы —
і увайсці ў наступны тэатр

* ✲ *

зямля зменшылася на момант
успыхнуў пажар на небасхіле
праезджыя затрымаліся
конь падняў вышываную кашулю
без ініцыялаў
тут быў чалавек
ініцыялы яго ў дзікай ружы
у бяздоннай зелені

праезджы
твая дарога простая
але і ты калі-небудзь загубішся
у ноч бязрукую
у восень маўклівую
набліжаецца пара затуманеная

* * *

*Брату*

брат
са срэбрам добрага часу
у шуканні адкрытых дзвярэй
зводзілі паверхі

былі яго сны праўдзівыя
як лістападавы дождж
і сяброўства з абяцаючым днём
няпэўным ночы

гэтай казкі нельга працягваць
калі жыццё з каменняў схаваных
а смех вясны аднавокай
піша дзве біяграфіі

рака на фатаграфіі
усё жывая
як твой дом

**Надзея Артымовіч**

---

**Алена Анішэўская**

## ШЧАДРУХА

Платы амаль па верхні пояс стаялі ў пушыстым снезе. Мяккія пярыны ляжалі на стрэхах хат. Сёлетняя зіма не скупілася: шчодра прымарожвала ды пасыпала белым пухам.

Вечарэла. Непрыкметна, нібы крадучыся, надыходзіў зімовы вечар.

Заскрыпелі шырокія дзверы старой хаты, і на падворак не столькі выйшла, а хутчэй за ўсё выкацілася цётка Тэкля. Яна надта ж баялася прастуды, апраналася ў безліч кофтаў, душагрэек, сардакоў і прыкрывала ўсё гэта старым, моцна паношаным кажухам. Выглядала яна, як тоўсты куль саломы. Сёння ж паверх на ўсё накінула прыгожую ваўняную хустку. Вядома, незвычайны то вечар — паводле даўнішняга звычаю яго завуць „шчадрухай“.

Тэкля ад вайны стала ўдавою. Дзяцей у яе не было, а сядзець адной у хаце, асабліва ў такі вечар, яна не любіла. Дзверы замкнула доўгім драўляным ключом, які ўжо на памяць трапляла ў дзірку ўшака. Адняла ад прызбы абмёрзлую мятлу і паклала на тое месца ключ, нагарнула на яго снегу, а мятлу схавала за хату. Падумала: „Сёння трэба зважаць на ўсялякія хлапцоўскія свавольствы!“ Вось у мінулым годзе прывалаклі ў вароты ёй

куль саломы, застрыкнулі мятлу, а зверху, нібы капялюшам, прыкрылі вядром, знятым з коварата. Яшчэ і непрыемнасць з гэтага выйшла: Рыгор прыйшоў на Новы год забіраць тую салому, бо быццам з яго клуні яе выцягнулі, а тут і ёй самой гэты куль прыдаўся б. Пачалі яны сварыцца, а людзі кажуць: „Пасварышся ў такі дзень — то ўвесь год будзеш грызціся з суседзямі“. І яна, каб не смяшыць людзей, уступіла.

Закруціла Тэкля вароты дротам, нагарнула снегу на сцежку і выйшла на вуліцу. Стала на сярэдзіне і разважала, куды тут падацца. У яе на прыкмеце было некалькі хатаў, дзе можна прыемна правесці вечар.

„Можа пайсці да Ёзікавых? Каця смачную каўбасу робіць — пачастуе. Не, крыху задалёка. Можа да Буславых? Ой, не, скупаватыя. Да суседзяў праз вуліцу блізка. Але не пайду, бо ён любіць усё насміхацца — сапсуе вечар. Не заўсёды даю рады адгрызціся“.

Падняла яна ўверх галаву і паглядзела, дзе дым з коміна выходзіць. Амаль з усіх каміноў дымілася. Гаспадыні рыхтавалі святочную вячэру. То ж гэта шчодры, багаты вечар! Усе стараюцца, каб сёння вячэра была раскошнай.

З коміна хаты, дзе жыла яе сяброўка Ніна, таксама ўдава, тонкай стужачкай таксама струменіўся дымок. „Пайду да яе, — падумала Тэкля, — яна не скупая. Да таго, напэўна, збяруцца туды дзяўчаты варажыць — будзе весела“. На ганку яна абтупала ногі, адчыніла скрыпучыя дзверы ў сені і пачула звонкія дзявочыя галасы. Увайшла ў кухню. Там прыемна запахцела. „Вось і добра трапіла“, — падумалася Тэклі.

— Зачыняйце хутчэй дзверы! — закрычалі дзяўчаты. — Мы тут сёння будзем доўга варажыць, няхай цяпло не ўцякае.

— Варажыце, дзяўчаткі, варажыце сабе, — супакоіла іх Тэкля. — Мо і я што-небудзь падкажу. Ой, калісьці, бывала, мы варажылі...

Глянула яна на стол: там ляжалі роўненька нарэзаныя паперкі і некалькі алоўкаў.

— То і пісаць штосьці трэба? Што гэта за такая варажба? Мы калісьці гэтага не ведалі, бо і пісаць не ўсе ўмелі.

— А такая варажба, — кажа прыгожая бяляvenькая Каця. — На гэтых паперках напішам імёны хлопцаў. Кожная жмenьку гэтых лёсаў пакладзе сабе пад падушку нанач, а раніцай выцягне адзін ды прачытае тое імя, як будзе называцца яе муж.

— А калі не выйдзе замуж? Можа не суджана ёй пара? — пытаецца Тэкля.

— Тады выцягне пусты лёс, — адказала Каця. — Бачыце, усё абдумана ў гэтай варажбе.

— А якую яшчэ ведаеце варажбу?

— Я ім зараз падкажу варажбу, — кажа Ніна.

Падышла яна да пліты і доўгай драўлянай лыжкай дакладна вымешала куццю, адставіла гаршчок на край пліты, а на яе месца паставіла патэльню з нарэзанай саланінай.

— Бярыце па лыжцы куцці і па чарзе выходзьце на падворак. Ідзіце на тое месца, дзе мы парсючка смалілі. Трэба памаленьку есці куццю і слухаць, дзе, з якога боку, сабака забрэша. У той бок, значыць, замуж пойдзеш. Гэта вельмі праўдзівая варажба. Мне калісьці заўсёды вельмі далёка сабакі брахалі, ды ўсё ў кірунку Белавежскай пушчы. Ну, сюды, бачыце, і прыйшла я. А маім сяброўкам блізка брахалі, і яны павыходзілі ў сваім сяле.

Дзяўчаты пачалі згаворвацца, якая пойдзе першая.

— Няхай уперад ідзе найстарэйшая, — кажа гаспадыня і, зачарпнуўшы лыжку кашы, падала сваёй старшай дачцы. — Ідзі ды добра слухай.

Адна за другой выбягалі дзяўчаты за дзверы. Апошняй пайшла высокая, хударлявая Манюся, малодшая гаспадынiна дачка. Вярнулася хутчэй за ўсіх ды надта ж усхваляваная. Кінула лыжку на стол.

Дзяўчаты і маці ўстрывожыліся:

— Што такое сталася?

А Манюся са злосцю:

— Ці ж можна тут толкам паваражыць? Базылюковы сабакі заўсёды галодныя — брэшуць, аж вешаюцца на ланцугах!

Дзяўчаты пачалі спачуваць Манюсі, а Тэкля зарагатала на ўсю кухню.

— Чаго вы смяецеся? — здзівілася Манюся.

— А чаму ж ты злуеш? То ж у Базылюка два кавалеры! Ці адзін з іх не можа быць тваім мужам?

— Я і слухаць пра тое не хачу! — абурылася Манюся. — Яны мне з маленства надакучылі. Такія жулікаватыя: то кветкі рвалі, то ў садок улазілі.

— Гэта было калісьці, — не сунімалася Тэкля. — А цяпер, бач, аднаго ў гмінную раду выбралі, а другі ў афіцэрскую школу збіраецца... — Крыху памаўчаўшы, яна быццам да сябе сказала: — А ўсё ж з гэтага можа штосьці выйсці... Хто ведае?

Гаспадыня акрасіла куццю, абклала яе скваркамі. Паліла багата салам аўсяны кісель.

Дзяўчатам сказала:

— Бежыце ўжо дахаты. Павячэрайце. То ж сёння ў кожнай хаце багатая вячэра, каб увесь год багата вялося. Пасля папрыбягаеце, я вас коржыкамі пачастую — дзеля вас і напякла.

— Дзяўчаты, пасля вячэры прыходзьце да мяне, — азвалася Каця. — Мая бабуля ведае многа даўнейшых звычаяў, яна нам і варажбу нейкую напэўна падкажа.

— Ой, праўда! Пойдзем да бабулі Марчыхі! — зашчабяталі дзяўчаты.

А Тэкля на тое:

— Ідзіце, ідзіце. Марчыха — ведзьма не благая, многа дзе чаго ведае.

Дзяўчаты выходзілі, накідваючы на сябе вопратку і дамаўляючыся, хто што прынясе на пачастунак. Каця сказала, што яе бабуля наварыла многа кісялю з журавінаў — хопіць для ўсіх.

Ніна заслала стол ільняным, яшчэ перад вайною вытканым абрусам, паставіла міскі з ежай і запрасіла Тэклю.

Дзяўчаты хутка павячэралі і пабеглі да Каці.

Удовы-сяброўкі доўга яшчэ сядзелі за сталом. Успаміналі сваю маладосць, бедавалі, як вясной абрабіць поле.

На ганку затопалі і загаманілі хлопцы, і зараз жа вялікай гурбою ўваліліся ў хату.

— Добры вечар, цёткі, а дзе дзяўчаты?

— А хто іх ведае? Пабеглі ўжо дзесьці, — адказала Ніна. — Ідзіце, шукайце. Ведаеце ж, дзе зборышча бывае.

Хлопцы выйшлі, а Ніна ўзяла венік і хацела змесці снег, што яны прынеслі за нагамі.

— Ой, не рабі гэтага! — раптоўна паўстрымала яе Тэкля. — У сённяшні вечар хаты не мятуць, бо чужыя куры будуць у агародзе дзерці. Збяры снег рукамі.

— Вось, бачыш, а я пра гэта і не ведала, — задзівавалася Ніна і паставіла венік у кут.

Тэкля нібыта пачала збірацца дадому. У той жа час думала: „Куды тут яшчэ заглянуць?"

— Не ідзі яшчэ, — азвалася Ніна. — Давай і мы паваражым.

Тэкля яшчэ спадзявалася выйсці замуж і з цікаўнасцю глянула на сяброўку. А тая ўзяла дзве цыбуліны, падала Тэклі і сказала:

— Аблупі і нарэж дванаццаць роўненькіх кружочкаў.

Сама ж узяла днушку і пачала ўкладваць кружочкі і пры кожным называць месяц: „Студзень, люты, сакавік..." і так аж па снежань.

— Заўтра, — сказала, — паглядзім, які кружочак заросіцца, той месяц будзе мокры.

Тэклі адпала ахвота да гэтай варажбы. Яна ж думала, што будзе пра замуж!..

А дзяўчаты сабраліся ўжо ў Каці. Ад вайны яна засталася круглай сіратой і жыла з бабуляй і дзедам.

Бабуля Марчыха, разліваючы кісель у кубкі, сказала:

— Там, на печы, у рэшаце, нарыхтавала я пшаніцы. Няхай каторая з вас пойдзе з Каціяй у куратнік. Прынясіце курку. А вы ўсе па жменьцы пасыпце ля парога пшаніцы. Толькі запамятайце кожная сваю жменьку.

Каця з Воляй прынеслі курку, паставілі яе ля парога ды самі хутчэй насыпалі па жменьцы зярнятаў.

Усе чакалі, чыю горбачку пачне дзяўбсці. А тая спрасонку не ведала, што рабіць. Неяк смешна перакрыўляла галаву, пераступала з нагі на нагу і дзяўбсці нават не збіралася.

Бабуля пачала яе заахвочваць:

— Цю-цю-цю... Ку-у-у-рачка, курачка, — і перабірала пальцамі, быццам сыпала зярняты.

Курка пакруцілася і дзяўбнула ў Kaціну пшаніцу. Каця была наймалодшая і ўсе здзівіліся, але пільна ўглядаліся, чыю пшаніцу стане дзяўбаць птушка.

— Запамятайце толькі, у якой чарзе яна дзяўбе. бо так і замуж будзеце выходзіць, — папярэдзіла бабуля.

Курка прыходзіла то да той горбачкі, то да іншай. Разагрэлася і пачала нават разграбаць пшаніцу. Дзяўчаты заўважылі, што яна якаясьці ненармальная: дзяўбе не па парадку і перасталі сачыць за ёю.

Бабуля злавіла курку, накрыла яе фартухом і сказала:

— Бярыце з міскі, што на прыпеку стаіць, па адной галушцы, апранайцеся і выходзьце на панадворак. Галушкі пакладзіце па чарзе ля сабачай буды. Я ж пайду і прытрымаю сабаку, каб не выскачыў раней. Будзеце ўглядацца, у якой чарзе ён будзе хапаць вашыя галушкі. Важна, каб прыкмеціць, ці праглыне на месцы, ці дзе адвалачэ. Пайду я першая, бо ён у нас злосны і можа кінуцца на вас.

Паслухаўшы, ці няма блізка хлопцаў і ці тыя не перашкодзяць ім у гэтай гульні, дзяўчаты выйшлі на панадворак. Бабуля лашчыла Бобіка, а яны паклалі свае галушкі перад будаю і адышлі пад плот.

Бабуля гладзіла сабаку ды прыгаварвала:

— Вось дастанеш штосьці... Усе свае — не брашы, — і сунула яму скарынку хлеба.

Бобік выскачыў з буды і здзівіўся: чаму тут такое зборышча ды сёння яго лашчыць гаспадыня. Бывала, гэтак рабіў гаспадар, асабліва, калі ён добра напалохаў суседавых курэй. Але ж сёння нічога такога не было! Ён ужо спаў у будзе, закапаўшыся ў сена, і тут раптам яго вывалаклі. Упёрся ва ўсе чатыры лапы і на ўсялякі выпадак пачаў злосна бурчэць на спалоханых дзяўчат.

— Эй, каб табе добра не было! — крыкнула бабуля. — Глянь, што пад носам.

І пачала паказваць сабаку пшанічныя галушкі.

Бобік схапіў некалькі сярэдніх, а пасля ўзяўся за крайнія і пачаў насіць іх у буду. Адну схапіў і павалок недзе далей.

— Ну і праўдзівая ж варажба! Не кожная дзяўчына выходзіць замуж на месцы. Бывае, павалакуць яе дзесьці, бы Бобік галушку, — разважала бабуля.

Яна нават забылася сачыць за Кацінай галушкаю. Так і не зведала, у якой чарзе Бобік схапіў яе.

Пачуўся хлапечы гоман на вуліцы, і дзяўчаты ўбеглі ў хату.

Бабуля ім параіла:

— Ідзіце ў пакой, пагрэйцеся. Адно ціхенька праходзьце праз спальню, каб не разбудзіць дзеда.

Дзяўчаты адна за другой прасоўваліся праз вузенькую спальню, у якой дзед Марка пасвістваў праз нос, лежачы нейк да паловы на ложку, з нагамі на табурэце. Ногі былі абутыя ў валён-



*Праваслаўныя храмы Бельска Падляшскага ў замалёўках Б. Рудкоўскіна. Капліца на вул. Дубічы. 1984 г.*

кі без галош і смешна стырчэлі ўверх. Жывот жа быў прыкрыты кажушкам.

Каця ўсвядоміла сваіх сяброўак, што гэтак дзед адпачывае пасля вячэры.

У пакойчыку яны сядзелі без святла. Размаўлялі аб нядаўняй варажбе. Смяяліся.

І тут дзед Марка пачаў шамолькацца, адсоўваць табурэт, мармытаць нешта. Каця хуценька запаліла святло.

Дзед прасунуў галаву паміж ільняныя заслонкі ў дзвярах пакойчыка, паморгаў крыху, варухнуў вусамі, абвёў вачыма ўсю грамаду і спытаў:

— А дзе кавалеры?

— Сёння няма, дзедку, — адказала Каця. — У гэты вечар мы хацелі пабыць самі.

— Ага, ну то і даволі гэтага хіхатання. Расхадзеўш!

Дзяўчаты баяліся Кацінага дзеда. Надта ж крыклівы ён быў. Але не змаглі паўстрымацца ад смеху з гэтага „Расхадзеўша". Дзед, аднак, пагрозліва насупіў бровы і не супакойваўся:

— Такія тут дзеўкі! Людзі ноч разбяруць, а яны сядзяць і смешкамі забаўляюцца.

— Дзедку, то ж сёння святы вечар — шчадруха, — баранілася Каця. — Трэба ж пасядзець даўжэй.

— А была каўбаса на вячэру? — спытаўся дзед, ужо крыху паспакайнеўшы.

— Была, была, то ж вы цэлую адностальку з'елі. Забыліся, ці што? — упэўніла яго ўнучка.

— Ну, пайду на двор, — сказаў ён і пачаў апранаць свой кажушок.

Дзяўчаты таксама пачалі збірацца дахаты. Ведалі яны, што калі дзед вернецца з абыходу свайго падворка, то і так іх разгоніць.

Выйшлі гурбою ў вароты. А там не прайсці: у самых вяснічках стаяў вялізны снегавік. Ён быў утырканы кійкамі, мяцёлкаю, на галаве меў цэбрык, нос — вялізная морква.

— Вось жулікі! Што ўчаўплі. Як мы павыходзім, — занепакоіліся дзяўчаты.

Падышоў дзед Марка:

— Во, праз гэтае вашае зборышча, што нарабілі хлопцы! Ну, перапёлкі, берыце калкі ды разбівайце.

Дзед крануў кіем снегавік і заўважыў:

— Ухітрыліся — вадою палілі, каб умацаваўся. А на галаве цэбрык не мой. Здаецца, у Тэклі сцягнулі. Бач, не прыхавала...

Дзяўчаты, разбіўшы снегавік, паразыходзіліся па хатах.

Каця, вярнуўшыся ў хату, пачала рыхтавацца да сну. Дзядуля абыходзіў сядзібу і пільна глядзеў, ці яшчэ чаго не ўпаролі хлопцы.

— Бабулю, — азвалася Каця, — лажыцеся і вы. Ужо позна.

— Лягу, Каценька, лягу, — падала голас бабуля. — Няхай адно дзед прывалачэцца.

Яна чакала, пакуль засне Каця, бо абавязкова хацела непрыкметна паставіць пад ложак місачку з вадою ды з дзвюма драначкамі: нібыта рэчку з мосцікам. А вось прысніцца Каці, хто яе праз гэты мосцік праводзіць будзе. З усіх варожбаў гэтую, з мосцікам, яна прызнавала найпраўдзіўшай. Гэтак выварaжыла бабулька сабе свайго Марка сорак пяць гадоў таму назад.

**Алена Анішэўская**

---

**Ірына Баравік**



Люлі, люлі, люлі,
Спі, маленька, —
Ты одна, ой, одна у матулі —
Люлі, люлі!
Сон хай сныцця, як сонце,
І звіёрочкі малыя,
І орыэшкі золотыя
І як зайчыкі гуляют
І як пташэчкі співают —
Люлі, люлі!
Спі бэз страху, трывогі.
Шчэ нэ знают,
Ой, нэ знают біды твоіе ногі —
Люлі, люлі!
Нуоч такая тыхэнька —
Люлі, люлі!
Ты у мэнэ маленька,
маленька.

Чоловіек, як малый, то
і шчасліві.
Послі доростае
Шчасце пропадае,
Біда нэ омінае.
Біда і жаль —
Люлі, люлі!
Ціелы дэнь, ой, дэнь ціелы
дісь сніегом нэсло:
Замэло, ой, доруожкі всіе
замэло.
А ты спі — спі маленька бэз
страху, трывогі —
Шчэ нэ знают біды твоіе
ногі —
Спіт,
Спіт, як ангел.

*

Завіруха сніег нэсэ,
Понад ею мороз страшны
ступае,
До окон загледае,
А дэ стукнэ змэрзлым
пальцём,
Ой, дэ стукнэ —

Сухім туолём дэрэво в хату
лопочэ.
Ныгдэ нэ ўтэчэш
Забірают ангелы труну,
А в ёй мэрця нэма.
Спорат чорты о душу,
А вона пусцютэнька.

Пісок нэполічьимы в пустынях
памэты,
Далекі шум в ліесах забытых.
За окном світа всё ростэ
і ростэ.
Зуоркі біжат, як бы хто іх
гнав.
Нэ спішай — камэнь надіеі
пуд босы ногі,
Коб пальці розбівала — нэ
спішай,
А камэні ростут, хоч нэ сіее
ныхто.
Нэ спішай — о, бо нэ віедаеш,
Якое дэрэво посадыш на
вэрхові,
Якую піесню заграе твуой
трубач.
Зачарованы світ пустыні.
Сухій язык і очы сліпыя,
А ставлят всё пэрэд тобою,
Садят на хвары — біелому
конёві
Віетёр грыву рострэсае,
I ■ гаёві зэлёнум
Ухом дотыкаеш біегу воды,
Оно віер — оно нэ провірай.
Святый колуодчык пэршых
сліёз там ждэ.
Там тато травы косыт зэлёны.
I мама, згорбівшысь, пэле,
Як бы зэмлю нюхала.
Ну, нэ плач!
Воны нэдалеко і всё так
блізько —
Оно вырушыты.
I по дісь дэнь воны там:
Тато, як дэрэво высокое,
Дывіцця в нэбо
Мама, бы пташка, прысіевшы
на загоны.
Застыглы час.
Всё ростэ і ўмірае,
А ты, дочэнька, іедэш далей,
далей.
Думаеш, што далей
Шчасце ліепшэ бывае?
Біда тая сама!
Люды по світы ганяе.
А як шчасце — кому шчасце,
То і тут хватае.
Хорошэ ўбэрыся і до нас
прыіедь.
Хай твуой сміех по хаты
рознэсэцця.
Бо так тяжко, як гляну на
поізд, —
Ныколі тэбэ нэ прывозыт.
Біегла б за ім — нэ знаю дэ.
Такая ты ўжэ поэтка.
Поэты то нэ тут — далеко.
I мают кніжок мнуого.
А грошы шчэ буольш
А ты што ж? Што ж ты!
Прыізджаеш всэ в тых
нагавіцях.
Замуж нэ выходыш —
Хто ж тэбэ такую схочэ?
Пудвэды бровы, зробі
андуляцыю і сміейся!
В кого вона вдалася?
Замнуого чытала.
Любіла замнуого.
Кніжкі в головіе путают.
I хлопці голов туманят —
Правда, часом, як напішэ —
Той за груды стыскае:
I заплачу.
А як так жыты?
Як жыты!
Жыцця сэрціе поспіешно
стукочэ.
Жыце, само сэбэ пудганяеш.
Ты ж на мэнэ глянь і
роздывіся —
Нэпотрыэбно занадто
спішаеш
Задывіся, затопіся
Коло мэнэ і во мніе;
Россадыся, загорыся,
розгорыся.
Я доткну,

О, доткну твэі скуоры —
Нэба огнём вышываного.
Мы поіедэм. — Ой, дэ ты
поіедэш?
Дэ нуочка нас тэмна застанэ?
В дорогу! В дорогу! В дорогу!
Колеса воза скрыпят.
Дорогі праўду оддаймо, еібогу.
В дорогу вэдэ нас час.
Віетёр з намі співае.
Шум ліеса піесню нэсэ.
Ныхто нэ знае, ой, ныхто
нэ знае,
Куды дорога вэдэ.
І хто жэ знае, ой, ныхто
нэ знае,
Куды дорога вэдэ.
Піеснё, ты солодка,
Што сама сэбэ співаеш.
Выбігаеш з губ послушных,
Як корыэнём дуб
Лісце віетрові.
Дэсь тут спіт правда.
Прыложыся тыхо до зэмліе,
Сміело зміерайся,
Втуліся:
Туолько тэбэ — куолько
обняла.
Віетёр яблыка з яблынь
скідае.
Ой віетёр, ты віетёр шалёны!
Діед яблыка на коліенках
збірае —
Старэнькі згорблены муой
діед.
Діеду, ой, діеду, дэ
Твоя рэволюцыя?
Молодосці іскры з-пуд
куоньскіх копыт,
Твоя молодосць — коны
біегом проз свіет,
Твоя старосць — яблыко
забытэ
На горыэ в полові загрэблося,
І усміешка остатня, як бы
всё віедаў.

Нэ плач, малая внучка,
нэ плач:
Плач нэ помогае — люды
одганяе.
Нэ показуй жалю і розумна
будь.
Діеду, ой, діеду, дэ
Твоя піесня шуміт в садкові?
Яблыка — красны шчокі
доспіваючых дывчынят,
Што руок сміюцця вэсёло.
Шчэ і яворы співают, і трава,
Як бы всэ тая сама росла:
Говорліва, шэліестліва,
высока.
Круглы слёзы на твоіе рукі —
Кров наша біжыт.
Біжат кругом початок
з кунцём.
Біжат кругом.
І баба Наталя
Сэрэбрыстою головою
Над плітою сіяе:
І я была молодая!
Як тыя ліета пройшлі?
Дэ тыя ліета пушлі?
Ныхто нэ знае —
Як жыце мінае.
Нэ віерат, нэ віерат молодыя,
Што смэрть у двэры
застукочэ,
Над луожком станэ,
І в очы заглянэ
І скажэ: „За мною іды!“
Дэ я тогды буду?
Дэ душа моя?
І чы жыцця сёго,
Сёго будэ жаль?

Як на покуті буду лежаты,
А бабы кругом мэнэ співаты,
А дочкі слёзьмі заліватысь —
Дэ тогды буду я?
Як станут труну забіваты,
В могілу спускаты,
Піском посыпаты —

Дэ тогды буду я,
Дэ душа моя?

Душэ моя, душэ моя,
Восстані, што спішы!
Конец прыбліжается
І стані смутітіся...
А ты на моіёй могілі
Квіеточкі посадыш
І будэш пудліваты.
А квіеткі пудліваты,
Коб моя могіла вэсёла была.
В дорогу, в остатню дорогу
На могілкі вуоз вэзэ.
Батюшка піесню співае
Дэ я іду, ой, дэ?
В дорогу, в дорогу, в дорогу!
Колеса воза скрыпят,
Вороны нэбом летят,
Чорны хусткі лопотят,
Жалобно, жалобно віетёр
співае.

Ой, бо ныхто, ныхто нэ знае,
Куды дорога вэдэ,
Куды дорога вэдэ.
Груом роскроюе зэмлю:
В глубоку рану ўбігаю.
Чорно. Чорно. Чорно.
Дорога до сэрця свіета
Рві волос — тобіе трэба ткаты.
Рві волос — трэба вышываты:
Нэ макатку на стыну,
Нэ сорочку на пэршу нуоч.
Зэмля на рукі напіраецця
До вінцю з пальцямі
збіраецця,
З шыёю обнымаецця.
Тяжкі і твэрды з зэмлёю
вінэць...
Рві волос — і тчы своіе
дорогі.
Сонце і крыж положы
на руках.
Выколышы сонце з крыжа.
Ясносць очыма своімі вышый.
Нэ выдумовлюй кунця свіета.

Што ж ты: хліеба нэ ўміееш
спэчы?
А можэ ты кульгава, чы бэз
языка,
Што піесні-сэстрычкі
нэ співаеш?
Торбу з хліебом закінувшы
на плечы,
Нэстрашны одвэрняны спіт
час.
В рукавові віетёр і костур
в руціе.
Вода і хліеб і суоль — всё е.
Як пушла так і пропала.
А казала: хліеб ідэ купляты.
Од малого так пропадала.
Говорыт: свіет, мамо, як
казка.
Я оно сёе жыще знаю —
Што то за казка:
Дэнь, як дэнь; нуоч, як
нуоч —
Всё кругом і кругом.
Кажэ: жыце однэ —
нэ подіеліш.
Хто ж сеі правды нэ знае?
Кажэ: нэ можна стояты
на міесці.
А ішоўшы всэ, — чы то нэ тое
самэ?
Я еі говорыты учыла,
Тэпэр што говорыт — мніе
нэ поняты.
Ішла пэршы раз, трымаўшысь
моіх рук,
А тэпэр пропадае.
От, доля матэры!
Нэвядомо куды біегла б —
І нэ знаю, што робіла б —
Жаль такій сэрце пэчэ!
Нэбо высоке, вэлике —
Оком ёго нэ обняты.
На іём зуоркі сміюцця,
У мэнэ слёзы в очах.
Нэбо такое высоке.
Міесэць дывіцця круглы.

Ой, міесэць, ты — ошуканэць:
Кажду нуоч другі твуой твар,
Свіетло з горы ліеццЯ.
Віетёр над полём гуляе.
А мніе так тяжко на
грудях —
Штось то душу кусае.
Трэба было колісь так
співаты —
Помэтаеш? Прыіехалі до тэбэ
ў сваты,
А я коло хаты ў садкові ждав:
Галіны трыэскалі і сніег
трышчав.
Мороз, одным словом, вэлікі,
А я бэз шапкі стою.
На морозі стою і жду.
У тэбэ там гостына і сіяніе
Сміех нэсэцця і голосы
кругом —
Гуорке мое жданіе.
Аж сталі од'їжджаты,
А ты до бруонкі провожаты.
Штось вуон сказав — ты
лепій знаеш —
І як жэ сміятыся нэ станэш!
І по сёй дэнь нэ могу поняты,
Як могла тогды ты так
сміятысь.

Тогды трэба было так
співаты —
Помэтаеш? За клунямі
договорылісь:
Повалісь пэрэд твоім батьком.
Дэрэва тыхі і тэмны стоялі,
Віетёр в косах твоіх свістав.
Нэ хотіев твуой батько мэнэ
на зятя:
За біедны, за молодый,
сірота —
Ты з посагом, солтыса дочка.
Што ёму, жэ од малого
любілісь
І нэ дывілісь на другіх.

Сэрця болієлі, груды
розрывалісь,
Як мы з тобою росставалісь.
Помэтаеш?
Круг клуні дэрэва моўчалі,
Як мы з тобою обнымалісь.
О. тогды так трэба было
заспіваты.

**Мамо,**
**Одкуоль плывэ туолько мукі?**
Мамо,
Голов положэтэ на моіе рукі.
Мамо,
Ясносць свіета — вашы очы
сэрдэчны.
Радосць — сміех ваш
полыскліві,
Што сонцём жэнэцця по
травіе.
Мамо,
Вашы слёзы —
Я віновата.
Сэрця вашого дрыжане —
Я віновата.
Рукі спрацёваны —
Я віновата.
Очы-слугі змучаны —
Я віновата.
Шчасце нэ такое —
Я віновата.

От, і тая сама кроў в нас
лопочэ,
Тая сама сетка жыця
на руках,
Нэбо нам на віекі тое самэ.

Душы нэ розвэзаты, ока
нэ заміняты —
Бачыт, як дорогі
Бігут, розбігающця,
накладающця.
Кров задымку і віетёр
выбурае,
Хмары тэмно роскладают
рукамі.

Віетёр вэрбы порывчо чэшэ,
І хто жэ знае: замкнёнымі
кругамі
Куды час вэдэ?

Вэдэ, вэдэ, той завэдэ,
На край свіета завэдэ.
На нэсвіет крайні завэдэ,
На суд страшны пожэнэ.



*Праваслаўныя храмы Бельска Падляшскага ў замалёўках Б. Рудкоўскіна. Царква Раджджаства Прасвятой Дзевы Марыі. 1984 г.*

Голодным там голод.
Там голод і прага.
І схочэш ўтыкаты —
Нэ ступіш ны кроку.
І схочэш, коб слёзы, як
дождж,
А коб слёзы, коб слёзы
нэдаром плылі.
І спокою нэ прыносыўшы,
Хай прыносят бэссілле —
І вона ласкава для тэлята

Одлучоного од молока.
І вжэ нэ будэш гоныты
і ўтыкаты,
Бо ж і ныхто нас тут нэ жэнэ.
Ныхто нас нэ жэнэ кругом
нас.
І нэ будэш біежты, улітаты
Віетром, што закручуецця
в свою віетросць,
Як бы в шеты зэмля жарыла,
Як бы кругом руос огонь.
І рук нэ будэш росставляты
В дрыжучы крыж — на
головіе
Корона отуманеных пальцюв.
По обох сторонах сонця і тіеня
Правда і нэправда тая сапэ —
Говорат, што тут остаюцця.

Станься біелым і чорным,
І солодкім, і гуоркім,
А нэ увіедаеш, чым жыцце
чоловіечэ.

Што ж скажэш?
Такое і твое і мое!
Камэнь пуд голов,
Між·ду зубы кулак,
А смэртёю і так нэма з кім
дылітыся,
Моўчанём, што свіета нэ знае.

Ты самэнька, як палець, —
Нэма молітвы на такій час.
Молітва пташкою лйетіела б
Од тэбэ до тэбэ,
Од сэбэ до тэбэ
І свіетла гныздо віла б.
А там
Всё прышыкованэ раніей —
До твэі пэршоі думкі.
І тут
Всё прышыкованэ раніей —
Од твого пэршого крыку.
Початок і кунэць —
Вінэць, вінэць, вінэць.

Нуоч і сонце,
Збуожжэ і папары,
Горы і просторы,
Радосць — чорны пуот,
Шчасця буоль,
Страху муоль,
Слёз роса.
Кунэць бэз кунця.
А як рукі маеш — набірай,
Оры маеш — розглядай,
Сэрце маеш — розлюбляй.

Кому — пэкло, кому — рай,
Выбірай, выбірай.
Кому — чорнэ, кому — біелэ,
Кому — збожжэ, кому—
зіеле.

Кому кусок ціелы,
Кому куска край.
Выбірай, выбірай.
Кому — солодке, гуорке
— кому.

Тое — сёму, тое — сёму,
Тому — сёму, тому — сёму.
Кому — вода, кому —
пустыня,
Кому — кулак, кому —
гостына,
Кому — хліеб, кому — нуож.
Кому — пэкло, кому — рай:
Выбірай.
Кому — пэкло, кому — рай:
Хто мае сілы — выбірай.

Віее віетёр і розвіваецця,
Кусныкі на крыж
росплетаюцця,
Дэрэва шумят.
Як жэ ж тыхонько тут
Дієд і баба спят!..
О, віетрык нэсмэртэльны,
То і вуон кусныкамі лопотав
Свавуольнык косы чохрав
І піесню нашу — о, як ніёс!
Бабы, нібы квіеткі,
Паўсходыўшы на полі за
одну нуоч.
Мужыкі рослы в сорочках
біелых.
Сэрпы в сонці мігочут,
Шэліестыт збуожэ, зіеле
пахнэ.
О, то быв час!
Хто такую роботу знае,
Хто такую кумпанію мае —
Той шчасце носыт в кішэні.

А ты, внучка, будь добра для
люды.
Помэнтай: і собакі оно злого
кусают.
До доброго дорогі нэ шукают.
Ты, внучка, будь добра
для люды.
Нэ шкодуй — подылися.
Нэ шкодуй — усміхнысь,
Добрым словом заговоры.

І дієд обураны на бабу:
З пэчыэ погледае,
Рукі затыскае,
Лоб моршчыт, пытае:
— Чого ты, бабо, дурная,
научаеш?
Баба горбіцця коло пліты,
А дієд з-пуд полопа,
як апостол:
— Будь добра, але і горда,
Помэнтай!
Нэ кланяйся за часто —
Головою дорогі нэ замітай.
На тое ногі,
Коб зналі дорогі.
На тое рукі,
Коб зазналі мукі.
А на тое голова,
Коб высоко была.
А нэ прэбуй забываты,
А нэ прэбуй вырыкатысь.
Як дэрэво бэз корыэня,
Зломыт тэбэ пэршы віетёр.
Вода твару нэ одоб'е.
Зэмля тэбэ одкажэцця.
Згорыш бэз огня,
А попэл віетёр розвіее.

Тут і тато, задумавшысь,
за столом,
Рукі на століе, пуд іконою,
Як камэні два.

Сон снывся мніе, страшны сон:
Дытя малое,
Будьто, в клуні нашуй рыдае.
Думаю: „Што такое
Будэ, дыво якоесь".
Прытулів — пэрэстало,
Накормів — засміялось.
Аж тут людэ хлынут:
Чорны народ і п'яны.
Бачу: дытя чуднэ,
Говорыты стало,
Круг головы ёго засіяло,
Як на іконах святых.
Нэ слухае п'яны народ —
Вэсэліцця, танцюе.
Мэнэ страхі бэрут.
І раптом тут нуоч настае:
Сонце пропадае,
З нэба чорного огонь
Віетёр рострэсае.
І такая вітруга —
Клуні пудныма е,
Хлівы пудныма е,
Всё кускамі нэсэцця.
В огнёві пуд нэбом

Чоловiечы крык,
А кругом: як бы смiех сатаны,
Смiех, страшны, дыкi смiех.
А дытя, як сонце,
З очыма, бы звёзды.
Рукi пуднымае,
Рукi роскладае —
О, страшны сон, страшны суд!
Маміны на тое слова швiткi
убiгают:
— Бывают, пэвно, сны
пророчы,
Як хто одгадае,
Но то рыэдко бывае:
Вэчэром то, як камэнём
заснуты.
А в сновi правды нэма:
Свiет другi там заклiкае.
Рано очы в страховi
пролупіш —
Всё з памэты ўтыкае,
Дэсь пропадае,
Дэнь нэбач пролiтае.

Глянь, Вiерко, на поле,
Хоть бы тое, пуд лiесом,
Пэршэ нажытэ —
Воно ж тое самэ.
А на рукi глянь нашы —
Воны колiсь стыскалiсь.
Тыя самэ — нэ тыя,
Лiета iх помiнялi.
I очы нашы ўжэ нэ блiшчат,
I сэрця нашы так нэ горат.
Бачыш, i дэнь сам гаснэ,
змэркае:
Умiрае i нэ ўмiрае,
Скажы ты, якая хiтросць!

Було, пропало i пушло.
I знов сонце взышло.
I зэрно знов взышло.
То ж кругом тое самэ
Засiек заповняе.
А нэ я пэршы сiеяв —
Нэ быв пэршы муой дiед.

— Ай, говорыш!
Што ж ты, Коля, говорыш?
О!
Болят рукi, болят ногi,
Попэрэк пэчэ.
Тут нэ хiтросць, но мука:
I сонце нэ тiешыт,
I квiетка нэ тiешыт.
Дэнь за днём i кругом —
Над жыцём подуматы нэма
колi.
Подумаеш — бэрут страхi.
О, вчорай — корова шчэ
вэсёла,
Траву скубала, молока дала.
В вэчур з поля гнала —
Ўпала i нэ встала.
Лоб на зэмлю опав,
В очах еi жаль чоловiечы.
Нэ поможэш ныяк.
Так будэ i з намi.

А здаецця, што то вчора
Пуд лiесом з тобою жалi.
Як жэ ж мы спiшалi!
Ты косыш, я пудбiраю
I тэбэ всэ догоняю —
Ззаду нэ зоставала
Далей, як на шаг —
Як жэ ж я тэбэ гнала!
А як станэш
Косу нагострыты,
Як на мэнэ глянэш,
На нэбо, на жыто...
О, то нас свiет тогды тiешыв!

Чытане? То нэ робота:
На одному мiесцi сыдiеты,
Нэ бачыты свiета,
Рукамi зэмлiе нэ взяты,
Тяжкостi нэ зазнаты,
На сонце нэ погледаты,
Коб пору обiеда пузнаты,
Або додому спiшаты, як час.

О! Дохтором быты — то так.

Всіем дохтор потрыэбны,
шчэ як!

Всіе до його біжат,
Нэсут, што хто можэ:
Той яйця, той кубаску —
Дай здоров'е, дай Божэ.
Людём помогае,
Собіе грошы згорняе —
Так воно е.

А ты росцвітай, росцвітай!
Помэтай:
Ціловане коротшэ од жыця.
А доброта — на віек.
Трэба, коб добры быв:
Коб нэ пів, нэ курыв і нэ бів,
Коб грошы прыносыв дохаты.
Нэ мусыт быты богаты.
Но коб умев шановаты,
Коб нэ боявся роботы
І з бабамі нэ міев заботы.
Добрэ на тое подывіся!
Маты знае, што говорыт.
А як шчэ і подобаецця —
той згодыся.

Зіма таксамэ бывала хороша
пора:

Дэнь короткі, доўга нуоч.
Штовэчур покудіеле:
Дывчынят з дэсэть
Кругом засядае —
Свэтры робят, вышывают
і співают.
А кругом хаты хлопці
бушуют:

То драпнут в окно, то стукнут.
Аж тут в простынях біелых
убігают:

Лекают, рычат і шчыпают.
Мы піскотэнь пудносым,
Аж хата трэсецця,
І вжэ которусь забірают
(Всё попарованы булі).

Як вэрнэцця — сміецця.
Шчокі чырвоны горат.
Очы блішчат.
І радосць такая!
Квіеткі з-пуд іголкі біжат,
А сэрце співае:
„На посаг, на посаг..."
А як на нэшчасце полюбіты —
То ўжэй лепій нэ жыты.
І так колісь бывало,
Што з коханя ўміралі.
Тэпэр всё нэ так —
Тэпэр абы-як.
Біеленька сядэш за столом,
А госты кругом
П'ют, ідят, одным словом
— гостят.

А тобіе тяжко, і в очах слёзы.
Аж бабы на порозі
Станут і заспівают:
„Ой, іедэ, іедэ, ужэй
од'іжджае —
Просыт батэнька на
спомагане,

Просыт батэнька на
спомогане.

Хай Буог поможэ
І всіе святыя,
І всіе святыя,
Людэ добрыя..."
Слёзы, як горох посыплюцця.
А тут ужэ запрэгают.
Пуд поруог пуд'іжджают
Коны в кусныках по двое.
Шчэ поклонышся всіем
нызко:

На прошчане, і на шчасце
Батько шкло розоб'е.
А тут старшы коня погоняе.
На вінэць од'іжджаеш —
Жаль сэрце стыскае,
Рукі на квіетёх затыскаеш.
Ой, нэ знаеш, што ждэ.

„В дорогу, в дорогу,
в дорогу", —

Колеса воза скрыпят.

Коны шалёно біжат.
Поля по боках міготят.
Хмары нэбом лietят.
Пташкі высоко крычат.
Музыканты прыгрывают.
Дывчынята штось співают.
У цэрковнуй брамі
Біелы платтяміготят —
Баба в вінкові на головіе.
Мама в вінкові
На дорозі стоят —
Якій страх! Якій страх!
На вінэць, на вінэць —
Святый кунэць, ой, кунэць.
З зэмлёю вінэць,
З нэбом вінэць,
Ой, кунэць.

Хмары хочэш розогнаты —
Зуорок в рукі налапаты,
Пальцюв пять — зуорок пять.
Пуд міесэцём зэмлю
пробігаеш,
Зэмлёю голов посыпаеш.
А між нэбом і зэмлёю
Свіет зэлёны,
А між імі
Кохане шалёнэ.
Ой, скована, скована твоя
голова.
Ты еі роспалі —
Чырвоно загорацця очы,
Очы пувночы,
І всё, што ўтэкло, вэрнэцця:
Потрыэбнэ з нэпотрыэбным
прыбіжыт,
Ой, як загорыт!
Тогды свіет ціелы любі,
Коб ціело горыэло,
Коб нэ гас пожар...
Ой, утулі мэнэ, мамо!
Абы волосы з біды нэ
повылітали.
Абы вошы з думаня не
завэліся,
А кыш! А кыш! —

Всё зло нэхай утэчэ.

Ой, вые віетёр, вые, гудэ,
І собакі кругом, ой, кругом.
Кажут: „Повіесывся хтось —
Чорт в пэкло душу вэдэ".
Трэба свіечку запаліты,
Запаліты, помолітысь —
Ліепій станэ на душыэ.
А е такіе, што кажут:
„Бога нэма на свіеты".
Як Бога нэма на свіеты,
То на што чоловіекові жыты
І як чоловіекові жыты?

Нэ было б нэдіелі, коб
Бога хваліты,
Нэ было б свята, коб нам
одпочыты,
Нэ было б цэркві в сэліе,
Нэ было б молітвы в душыэ,
Нэ было б грыэхуов
прошчаня,
Нэ было б вінчаня, хрыстын,
Ны батюшкі над могілою.
А то в цэркву зайдэш — там
співают.
Бога выхваляют, зло
одганяют —
І нэ можэ так быты,
Коб бэз Бога жыты.

Россыпаліся горошкі,
поліетіелі в куточкі.
Той зэлёны, той чырвоны —
Поліетіелі.
Як жэ ж мы іх позбіраем —
На очы нэ добачаем.
Россыпалісь діеты по свіеты —
Нам самэнькім тэпэр сыдіеты.
Нэма на што ждаты:
На пудвуорку пусто
І пусто в хаты.
Сыдымо на порозі —
Прыгледаемось дорозі.
Скажы, скуоль ідэш,
чоловіечэ?

Скуоль дорога вэдэ?
Роскажы нам свое жыце,
Роскажы нам про сэбэ.
По дорозі наша хата:
Заходь, трошкі оддыхнэш.
Почастуем тэбэ хліебом,
Молоком свіежым зап'еш.
Роскажы про свіет вэлікі,
А як хочэш — помовчы.
Сядь тут з намі на порозі
І мінутку посыды.
А мніе, оддохнувшы,
Знов хустку завэзаты
І торбу з хліебом
Закінуты на плечы.
Эх, кажды свою піесню співає.
Збірайся!
Шчэ зачарованы камэнь з-пуд клуні
Тыхо до хліеба докінь.
Эх, мама знов заплачэ тыхо
Слёзою, што рвэцця,
І разом з татом
Очы затоплят в дорозі,
А вёсковы віетёр — дух сэла —
На прошчане круг рук затанцюе,
Завэдэ на доруог росстаі,
Будэ тэбэ тут пэршы ціловаты,
Як в госты прыіедэш,
Будэ віеяты коло хаты,
Дым пахушчы нэсты.
Ах!

Можна туолькі мовчаты.
Час застыглы. Скамэніелы час.

І іты, і іты.
Як тыхо дыхае зэмля.
Прыміерайся до еі і втуліся,
А в нэбо — нэ забудь!
— подывіся.

Ты тут віечны, сын, дочка,
Туолькі тэбэ —
Куолькі свіета обняла.
„В дорогу, в дорогу,
в дорогу“, —
Колеса воза скрыпят.
Дорогі праўды — оддаймо еі Богу.

В дорогу вэдэ час, час.
Віетёр з намі співае,
Шум ліеса піесню нэсэ.
І хто ж знае, ой, ныхто нэ знае,
Куды дорога вэдэ.

* ✻ *

Люлі, люлі, а-а-а, люлі, люлі,
Спі, маленькі, ты одён у матулі.
Твое очы — нэбо сыне — прымкнулісь,
Там ангелы малыя сховалісь.
Крылця іх трэпотліві,
Крылця іх шэлестліві
Потрусылі ўсміешкою шчокі.
А-а-а, люлі, люлі.
Пройдут рокі, ой, пройдут рокі.
Люлі, люлі, а-а-а, люлі, люлі...
Спі, сынок, спі бэз трывогі.
Шчэ нэ знают, ой, нэ знают біды
Твоіе ногі.
Твоіе ногі малюські-малюські,
Пальчыкув горошкі мілюські-мілюські.
Сон хай сныцця тобіе солодэнькі,
Муой сыночок маленькі-маленькі,
А-а-а, а-а-а, люлі, люлі.

**Ірына Баравік**

Васіль Петручук

# МАЯ СЛУЖБА

Быў 1946 год. Адыход...

Прыйшоў дзень восьмага лістапада, дзень адыходу навабранцаў у армію. Учора ўсе яны пілі ды спявалі, а родныя плакалі. Сёння таксама хлопцы, падвыпіўшы, ходзяць адзін да другога, а бацькі рыхтуюць калёсы ды чамаданы з ежай.

Я чакаў у дзядзькі Трахіма, пакуль усе збяруцца да выезду. Другога майго дзядзькі, Рамана, не было дома і не было каму даць мне на дарогу хлеба. Так то было сіраце. Дзядзька Трахім лічыў, што павінен даць Раман, бо ўсё маё, сабранае з поля, асталося яму. Але той кудысьці „мусіў“ паехаць.

Калі настаў час выходзіць з хаты, я пачаў плакаць, што пакідаю вёску, мо назаўсёды, а ніхто не даў мне нават кавалачка хлеба. Дзядзька Трахім холадна падаў мне руку.

З гэтым я і выйшаў з хаты. Падводы вязлі чамаданы, а хлопцы ішлі грамадою і спявалі:

Последний нонешний денёчек
Гуляю с вами я друзья,
А завтра рано чуть светочек,
Заплачет вся моя семья...

Праводзячыя ішлі за імі і плакалі. Песня мяшалася з ляментам. Дзіўна, але я тады адчуў сябе лепш. Мне шкада было вёскі і роднай старонкі агульна, але паасобна шкадаваць я не веdaў каго і не меў чаго. Я быў вельмі прывязаны да роднага, але тое роднае мяне не прымала, не хацела. Я быў яму чужы. Ішоў за ўсімі ззаду і ўглядаўся ў ваколіцу, якую здаптаў сваімі босымі ступнямі. У канцы вёскі ўсе пачалі развітвацца і яшчэ грамчэй плакаць. Я ж прыглядаўся і шчыра шкадаваў іх: бацькі праводзілі сваіх сыноў у армію, а тыя пакідалі родных бацькоў.

Тыя, хто меў нас завесці ў РКУ, падганялі хутчэй развітвацца, каб не спазніцца. Пасля селі мы на калёсы і далей цягнулі „Последний нонешний...“

Гаспадары-фурманы пагналі пугамі коней, і жалезнякі жвава пакаціліся ў Бельск.

У Бельску было мноства нашых аднагодкаў. Чакалі навокал і ў будынку, дзе прымала камісія.

Я баяўся, што могуць мяне не прыняць, бо надта ж худы.

Перад камісіяй натоўп: адных прымаюць, другім кажуць прыйсці іншым разам, а трэціх зусім адкінулі, як не прыдатных. Калі я ўбачыў, што не прынялі хлопцаў на мой погляд здатных, злякаўся не на жарт. Але ж — во, ужо клічуць і мяне. Распра-

нуўся я дагала і нібы той сухотнік, з рэбрамі да лічэння, падыходжу да доктара. Той заглянуў мне ў рот, вочы, змерыў рост, паставіў на вагу. Я стаю на вазе, а ён падыйшоў да стала, за якім сядзела камісія і нешта ціха загаварыў. Вярнуўся да вагі, пляснуў мяне рукою па спіне і сказаў:

— Здольны!

У вечары аказалася, што з нашай вёскі прынялі толькі Васілёвага Івана і мяне.

Калі ўжо скончыўся прыём, камендант РКУ, капітан Міхаляк сабраў нас у шарэнгу і сказаў, што ідзём мы служыць у вельмі важных і ганаровых войсках. Гэтыя войскі паказалі сябе гераічна ў баях з нямецкімі захопнікамі, а цяпер перад намі стаіць заданне аховы ды ўмацавання дэмакратыі.

Пасля прамовы загадаў сержанту Вянцлаўку, які прыехаў нас „купіць“, каб завёў навабранцаў у кіно на начлег.

У зале кіно хлопцы-навабранцы, зведаўшы ўжо, дзе пойдуць служыць, пачалі зноў гуртавацца на пачастунак. Пачуліся гоман, смехі, спевы. Няма ніякага плачу — усе весяляцца. Грышка Міхалаюк, з якім я ўжо паспеў пазнаёміцца, пачаў кудахтаць пакурынаму і спяваць, як певень. Іншыя бляюць па-авечы і, як хто патрапіць, дзівачаць. Бліжэй экрана стаіць група хлопцаў і „рэжа“ савецкія песні, а другая ёй наперакор — польскія.

Мне спяваць не хочацца, бо не памятаю, ці снедаў. На хлеб грошы ў мяне былі, але я не ведаў, ці куплю. Выйшаў на вуліцу і ў краме купіў буханку хлеба. „Цяпер то я буду вясёлы“, — падумаў. Сеў у крэсла і давай лакома есці. З'еў бы ўвесь, але трэ-



ба ж і назаўтра пакінуць, бо невядома, калі нам дадуць вайсковага супу. Пачаў згадваць, як мне будзе ў войску. Дзядзька гаварыў: „У войску, бач, нельга быць разявай і ніколі нікому скардзіцца, калі нешта згіне, бо абсмяюць і яшчэ плаціць будзеш. Укралі ў цябе, то і ты пaціху ўкрадзі ў другога. Вінтоўку навучышся апісваць хутка, бо маеш добрую памяць і гэта ўсё, чаго вымагаюць ад салдата. Муштры таксама навучаць і ты — поўны салдат“.

Так вучыў мяне дзядзька. Ён служыў у войску, не ведаўшы аніводнае літары, а я ж ведаю рускія і польскія. Толькі навошта мне рускія, я ж іду ў польскае войска і там трэба будзе ўсё папольску.

Але і нападалі іншыя згадкі. Хіба там вельмі дрэнна, бо Валодзя аж турму разваліў, каб не ісці. Гэта ж войска не савецкае, а польскае. Там напэўна афіцэрамі паны, бо і тое мне дзядзька гаварыў. Нават часам патрапяць па мордзе наляскаць і не знойдзеш праўды. Ат, няхай будзе, што мае быць. Ідуць усе, то і я іду. Тым больш, што вельмі ж я хацеў...

Глыбокай ноччу гоман сціх зусім — навабранцы паснулі, хто дзе сеў. На другі дзень раніцай пабудзіў нас „наш“ сержант і загадаў выстраіцца ў дзве шарэнгі. Божа, як гэтае зборышча выглядала! Як мы варушыліся! Жаласна і смешна было на нас глядзець. Лезлі на збор, як мухі па смале, а і вопраткі ніхто ж найлепшае не меў на сабе. Сержант чакаў-чакаў і ўрэшце скамандаваў:

— Бачнасць, направа раўняй!

Натоўп забегаў. Пачалі хлопцы гуртавацца свае са сваімі, каб быць разам. Не ўсе ведалі, што гэта такое „раўняць направа“. Сержант пачакаў яшчэ хвіліну, а пасля вытлумачыў:

— Калі вам пададуць каманду „бачнасць“, трэба стаяць, як укопаны: ногі стулены, рукі па швах. А калі камандзір крыкне: „Раўняй направа“, тады ўсе, як адзін, павінны звярнуць галовы ўправа і глядзець трэцяму на гузік.

Пасля скамандаваў:

— Бачнасць, раўняй направа!

Хлопцы ажывіліся і выканалі загад нянайгорш.

Сержант пахваліў нас, але каманду паўтарыў яшчэ некалькі разоў. Пасля скамандаваў, каб адлічылі. Лічэнне ў нас выпала таксама лянiва. Тады Вянцлавак павучыў, што лічыць трэба хутка і выразна:

— Я буду ісці хуткім крокам, а вы паспявайце за мной лічыць.

Навабранцы пастараліся.

Пасля гэтай уступнай вайсковай цырымоніі сержант загадаў, каб мы давялі да парадку вопратку, паснедалі, бо зараз паедзем.

У цягніку зноў парабіліся групкі і працягвалася развітанне. Я раніцай з'еў апошні кавалак хлеба. Быў свабодны ды лёгкі, як у нас кажуць: „яко благ, яко наг, яко нет ничего“. Усе пілі, елі, а я стаяў ля акна і запісваў назвы станцый на ўсім шляху аж да Варшавы. Стаміўся, але цікавасць перамагла.

У Варшаве з Віленскага вакзала на Галоўны ішлі мы пешшу, па грузах. На Галоўным вакзале прыблукаўся да нас нейкі амерыканскі ці англійскі салдат. Моцна падвыпіўшы, валіў сябе кулаком у грудзі і пераконваў нас, што ён — „дэмакратыя“. Нашы хлопцы з цікавасцю яго акружылі і мо думалі, што „дэмакратыя“ дасць папяроса, але ж — не. Ён толькі ўсё штосьці гаварыў. Жанчыны прапанавалі нам нейкую цёплую страву, але ніхто не купіў, бо яшчэ ў цягніку разыйшлося, што ў Варшаве можна наесціся чалавечага мяса.

Пачуўся загад сержанта:

— Сядаць!

Усе гурнулі ў вагоны.

У Катавіцы заехалі мы адзінаццатага лістапада. Ужо кожны ледзь ногі валок з вакзала ў казармы. Нам думалася, што будзе, як у Бельску: загоняць нас некуды ў залу і дадуць спакойна пасядзець. Але дзе ж там! У казармах адразу падзялілі ўсіх на ўзводы, аддзяленні ды прызначылі камандзіраў аддзяленняў. Тыя ж схапілі нас у свае рукі, бы чорт грэшную душу, і пачалі па-свойму распараджацца.

Адразу паставілі ў шарэнгі, паклікалі нямецкіх палонных, каб нас астрыглі і пабрылі. Немцы агалілі „пад нуль“ нам галовы, а пасля бяспечнымі брытвамі пачалі брыць пад пахамі і да-




...зноў упіўся, як гэты гаспадар!

лей. Я пад рукамі пазволіў брыць немцу, але ніжэй — то ўжо сам, бо саромеўся.

Пасля гэтай аперацыі шэф роты загадаў, каб падыходзілі па чарзе за вопраткай. Выдаваў, як папала, а мы павінны былі паміж сабой яе дапасоўваць. Зноў пачаўся гармідар і шум. Мне мундзір трапіўся нічога сабе, але нагавіцы ўсе спераду ў крыві. Я пачаў дамагацца, каб мне іх шэф памяняў, але ён і слухаць не хацеў. Рабіў сваё, а ў мой бок кідаў злосныя позіркі. Я ўпёрся, што ўсё роўна такія нагавіцы не вазьму і звярнуўся са скаргай да стаяўшага побач афіцэра. Той гыркнуў на мяне. Маўляў, сваіх не скіне і мне не аддасць.

У той момант прыпомнілася мне дзядзькава парада, каб нічога ў нікога не прасіць і нічога нікому не гаварыць. Залучыў я ўсё пад паху і змоўк.

У лазні, вядома, кожны паклаў сваю адзежу, дзе папала і хутчэй пад душ. Я прыкмеціў хлопца свайго росту і выкарыстаў дзядзькаву навуку ўжо на самым пачатку свае вайсковай службы, калі толькі мой сябра знік у пары. Што з тымі нагавіцамі ён зрабіў, я не ведаю, але ў роце ніякіх нараканняў не было.

Пасля лазні прыгналі нас у казармы і загадалі ложкі слаць. Разваліў я ўсё, што было на прызначаным мне ложку, ды не ведаю, што далей рабіць. Асабліва задзіваваўся я прасціradлам. Такое белае было, гладзенькае, што гатоў яго за пазуху схаваць, а не класціся на яго ды мяць. „От, — думалася мне, — каб з гэтага прасціradла можна было сарочку пашыць! У Грабаўцы ніхто такой не бачыў. Шкада, што мая мачыха не бачыць. Яна ўсяго мне шкадавала“. Калі я так на хвіліну задумаўся, над маёй галавой раптам дзікім голасам заверашчаў афіцэр, чаму яшчэ не паслаў ложка, бо зараз збор на вячэру. Гэтыя словы мяне балюча ўкалолі. Але слова „вячэра“ болей мяне абрадавала, чым беленькая пасцель. Я ўсё ж такі ад пазаўчарашняга дня нічога ў роце не меў. Прывыкшы да галадавання то прывыкшы, але ўжо есці хочацца.

На вячэру селядцы проста з бочкі, хлеба дзвесце грамаў і кава. У сталоўцы ўзнік шум і рогат: хлопцы пачалі біцца селядцамі, бо навошта ім іх есці, калі ў чамаданах хатнія ласункі: белы хлеб, каўбаса... Я свайго селядца з'еў і нічога амаль не пачуў у роце, апрача салёнасці. Каб крыху напоўніць страўнік, давай я піць каву. Паспрабаваў, а яна — няведама што такое: салёна-салодка-горкае пойла. Калі я быў заняты селядцом, нехта замяніў сваю каву на маю, але перад тым вымачыў у сваёй селядца.

Амаль нічога я не наеўся, але саромеўся збіраць са стала параскіданыя селядцы і хлеб, каб наесціся. Крыўдна было, але прадчуванне падказвала, што з голаду ўжо не памру.

Дзяжурны ўбачыў, што войска не есць, а толькі селядцамі кі-

даецца, загадаў устаць і выходзіць на плошчу ды павёў у казарму. Тут кожны камандзір аддзялення зноў пачаў даказваць, які то ён важны. Калі ўжо мы паверылі ў ягоную важнасць, тады пачаў нас вучыць, як павінен у войску выглядаць ложак, ляжаць у костках вопратка і як салдат павінен абгортваць ногі ганучамі, каб не калечыцца. А я думаю: „Чалавеча, ты толькі дай мне больш гануч, а не па адной на нагу, то я цябе лепш навучу. Я ж ніколі нічога больш не меў на нагах, апрача гануч...“ Але слухаю. Ён праінструктаваў нас, а пасля патрабаваў, каб мы па чарзе паказалі, ці добра зразумелі. Хлопцы зразумелі добра, бо ўсе былі з Беласточчыны. Мучыў ён нас аж да дзесяці гадзін вечара. Нам ужо і ў галаву нічога не лезла, бо вельмі спаць хацелася.

Урэшце дзяжурны крыкнуў: „Адбой!“ і мы палезлі пад коцы. „Ох, як жа ж добра быць памытым і спаць у чыстай пасцелі“, — уцешыўся я і заснуў, бы нованароджаны.

Здавалася мне, што толькі заснуў, а тут нейкі гоман і крыкі. Прадзёр я вочы, гляджу: стаіць наш яфрэйтар сярод залы і чагосьці верашчыць. „Трывога!“ — крычыць, скача, бы д'ябал, і здзірае з нас коцы, каб хутчэй апраналіся. Мы са страху не ведаем, што перш за ўсё на сябе нацягаць. Найгорш, аднак, было з абмоткамі. Кожны матаў, каб хутчэй, а пасля па лесвіцы цягнуліся яны, або ў маршы адзін аднаму наступаў на іх. Смех і бяда.

Вярнуліся мы з вучэнняў у дзевяць гадзін раніцы. Гэта значыць, што сем гадзін прабылі ў полі пасля чатырох пад коцам. Гэта не заахвочвала. І ніхто не паспачуваў, што пасля цяжкага падарожжа можа хтосьці стомлены ці галодны.

І гэтак я стаў салдатам. Учарашні парабак — сёння салдат, абаронца народнае ўлады.

Пасля сямігадзіннага бегання па палях кожны дапаў да чамадана і хапаў, што яшчэ меў у ім з хатніх запасаў. Замест ісці ўмывацца па загаду камандзіра роты. У выніку многія зноў не кранулі вайсковае ежы.

Калі мы абедалі, у сталовую зайшоў шэф штаба батальёна, паручык Палац. Хадзіў ён між сталамі, глядзеў і галавой ківаў, што толькі харчоў застаецца. Відаць, ён дзіваваўся, што прыехаў у Катовіцы нейкі дзіўны народ, які так мала есць.

Калі кончылася каўбаса ў нашых сяброў, а ганялі нас на вучэннях страшэнна, пачалася амаль галадоўка. Абед складаўся з паўталеркі нейкага супу або баршчу з буракоў, кавалка хлеба і на адзін глыток бульбы з нейкім соусам. Гэта столькі, як сабацы муха. Хлопцы пахудзелі і давай пісаць дадому за пасылкамі. Пачалі валіцца пасылкі, а ў іх нават самагонка. Стала ім лягчэй. Адзін Сцёпка нават нас пачаставаў самагонкай, але пасля патрабаваў заплаціць за яе. Мы з ахвотай плацілі б і больш, бо гэта ж такое сваё, такое роднае. Кожны ўспомніў не толькі сваю вёску, але і месцы, дзе гналі гэтае дабро.

Напісаў і я пісьмо да Мані — дваюраднае сястры — і пахваліўся, якую то я зброю атрымаў. Не напісаў, што ручны кулямёт Дзегцярова, бо нельга, а толькі даў зразумець, што не страляе яна па адным, а страчыць. Думаў, што Маня зразумее, а вайсковая цэнзура — не. Ужо я ведаў, што такое цэнзура. Тады мне ў галаву не прыйшло, што ў войску ручны кулямёт не сакрэтная зброя і як жа ж цэнзары, пэўна, рагаталі над маім пісьмом.

Атрымаў я ад Мані адказ, што жыццё ў сяле плыве па-старому: моладзь, якая засталася дома, гуляе і ўсё.

А ў вёсцы засталося многа моладзі, бо многія вярнуліся з Нямеччыны і папрыходзілі з войска, хаця не мала і загінула. У тым часе ў польскім войску з нашае вёскі служыла ўсяго чатырох: Іван і Коля Трахімюкі ў артылерыі і я з Іванам Васілюком у корпусе ўнутранай бяспекі (КБВ). Многа хлопцаў яшчэ не вярнулася з Савецкай Арміі, хаця вядома было, што яны жывуць.

Наступнае пісьмо адважыўся я напісаць да дзядзькі Рамана, якому пакінуў жыта, пшаніцу, бульбу і сена, ды засеянае поле на зіму. Прасіў я яго, каб прыслаў мне пасылку. Па нейкім часе, як жа ж, паведамілі мяне, што на пошце ёсць пасылка. Заходжу на пошту, а там поўны мяшок. Уцешыўся я і прынёс яго ў казарму. Давай пацІху заглядаць, што мне дзядзька прыслаў. Адкрываю бульбяны мяшок, а там — хлебныя сухары, ды парваны дзядзькаў світар, у якім я яго і памятаю. Світрам я ўцешыўся, бо вопратка ў нас была слабая. Тыя сухары як мага хутчэй занёс я на кухню, дзе стаялі злеўкі для свінней. Мяшок жа са сваім прозвішчам укінуў у сметнік. Ужо больш дзядзькі не прасіў нічога. Але ад сябе пасылаў яму папяросы, ён многа курыў, а я — не. Папяросы ж я даставаў дарма.

Вучэнні праводзіліся вельмі інтэнсіўна і напружана, бо ў краіне бушавала варожае падполле. Трэба было адбудоўваць краіну, будаваць яе ды яшчэ выйграць выбары ў Сейм. Незалежна ад штодзённых вучэнняў ды начных трывогаў, камусьці прыйшло ў галаву, каб тых, хто не мае пачатковай адукацыі, паслаць у вячэрнюю школу. Сярод іх, вядома, апынуўся і я. У школе мне ішло добра. Па нейкім часе настаўнік пахваліў мяне і загадаў, каб я вучыў геаграфіі свайго сябру Івана. А вучыцца вайсковай справе таксама нялёгка было, хаця і ахвоты многа. На вучэннях у полі холадна, бо зіма вострая, а вопратка ліхая. Усяго толькі сарочка, мундзір з ціку і шынель з крапівы. На галаве пілотка, на нагах чаравікі з парцянкай, а да таго ў мяне пальцы былі ўжо адмарожаны і ім даволі было малога холаду, каб яны пяклі так, што аж за сэрца сціскала. Рукавіц мы зусім не мелі.

У зале на палітычна-выхаваўчых занятках было нядрэнна. Але ж цяжка зразумець усё, што гавораць на польскай мове. Аднак мяне гэта не пужала. Я ж ад калыскі марыў аб войску.

Цяпер жа ведаў, што яно цвёрдае. Мне толькі вельмі не падабалася і паганіла душу абзыванне салдат. А рабілі гэта яфрэйтары і капралы, рэдка афіцэры. Першае месца ў вульгарнасцях займаў касавокі Эдак. Ён усіх называў „асамі“ і „афермамі“. Відавочна не любіў людзей прыгажэйшых ад сябе. Яго ніхто не любіў. Ён заўсёды правацыраваў ды дражніў. За які-колечы шэпт у шарэнзе, загадваў салдату высушваць сабою лужыны ды абзываў. Прымушаў бегаць навокал узводу і самога сябе празываць: „Я — дурань!“

Аднойчы пасля перакуру ў вучэннях ён крыкнуў: „Збірайся, узвод, за мной!“ Былы варшаўскі паўстанец, жартаўнік, па прозвішчу Клос, дабег першы да яго і стаў на тры крокі за яфрэйтарам, як трэба, але адзін. Той вечарам камусьці набрахаў, і Клосу валасы абстрыглі ў пакаранне Але гэта было ўжо на унтэрафіцэрскай школе. Я крыху выбег наперад. Але калі так, то яшчэ адзін эпізод з гэтай школы. Аднойчы вяліся практыкаванні са стральбой халастымі патронамі. Калі Эдак апынуўся наперадзе, хтосьці з салдат бахнуў у яго з вострага, але не трапіў. Былі допыты, аднак ніхто не прызнаўся і так засталося. На барацьбу з бандамі яго з намі не паслалі.

На пачатку было так цяжка, што не ўсе змаглі вытрымаць. Чуем аднойчы, што двух дызерціравала. Але тых, што пайшлі ў дызерціры, злапалі і засудзілі на паўтара года турмы. Справа ў тым, што да войска польскага якімсьці спосабам прабраліся ў канцовым перыядзе вайны салдаты вермахта. Гэтыя людзі не перасталі быць ворагамі палякаў і як маглі так загіджвалі нам жыццё.

Камандзірам нашай роты, якая тады налічвала 300 салдат, быў ветлівы, разумны і добры афіцэр — паручык Сабутка. Яго намеснікам па палітычна-выхаваўчых справах — стары сержант, падхаружы Копка, таксама цудоўны чалавек, удзельнік варшаўскага паўстання. Але ротай араў шэф роты, старшы сержант, які пранік у Войска Польскае з вермахта. Быў ён худы, жоўты і злосны. Камандзірам аднаго з батальёнаў КБВ Катавіцы быў колішні афіцэр гітлераўскай фармацыі СС. Але пасля наша контрразведка „вылушчыла“ ўсіх іх і аддала пад суд.

У мяне асабіста, каб не Эдак, то ўсё было б добра. За кожнае стралянне вострымі патронамі атрымоўваў я пахвалу перад усёй ротай у час вячэрняга агляду. Адным словам, лепш было, чым дома, бо хоць ежы ніхто не шкадаваў.

Па сённяшні дзень не ведаю прычыны, але яшчэ да прысягі двойчы быў я назначаны да выканання абавязкаў дзяжурнага падафіцэра па роце. Ці гэта было пакаранне, ці пахвала — цяжка мне здагадацца. Але ведаю, што мною нехта цікавіўся. Аднойчы дзяжурны сказаў мне, што маю пайсці да камандзіра роты. Увайшоўшы ў кабінет, убачыў я двух незнаёмых афіцэраў. Да-

лажыў я старшаму, як мяне навучылі, а яны ў сваю чаргу пачалі мяне пытацца пра тое ды сёе. Хіба сарыентаваліся, што я калечу польскую мову. Запыталі мяне, у якога Бога я веру: каталіцкага ці праваслаўнага. Я, каб быць лаяльным, сказаў, што Бог адзін. На гэтым наша размова кончылася.

Я не хачу сказаць, што ўжо тады не верыў у Бога, але пачуўшы такое пытанне, падумаў, што яны вядуць дапрос. Баяўся, што могуць пакараць за тое, што ў першую нядзелю, калі рота сабралася ісці ў касцёл, дзяжурны скамандаваў: „Хто не хоча ісці ў касцёл, няхай выступіць!" Як пачалі мы выступаць, то мала хто застаўся ў шарэнгах. Хлопцы выступалі з шарэнгаў мо не таму, што не верылі ў Бога, але таму выступілі беларусы, што вялі іх у касцёл, а не ў царкву. А нас у гэтай роце было 65 чалавек беларусаў.

Тым афіцэрам напэўна не ішло пра тое, але я так думаў. Нельга сказаць, што і пазней мы выступалі з шарэнгаў, калі было такое пытанне. О не! Бо лепш было ісці ў касцёл, а пасля ў кіно, чым заставацца ў казармах і чысціць калідоры, вокны і прыбіральні. Нават да споведзі раз нас завялі. Ой, Божа мой, Божа! Пытае мяне ксёндз, ці многа награшыў. Ён меў на ўвазе канкрэтныя справы з дзяўчатамі. Я ж адказаў, што вельмі многа, нават не памятаю колькі. Святар са здзіўленнем глядзеў на мяне; „Ты яшчэ малады, а так марнуеш сваё здароўе з развязлымі дзяўчатамі! Калі далей будзеш так жыць, то змарнуешся і хутка пастарэеш. А і хваробы можна набрацца, з якой ніхто не вылечыць..." Здагадаўся я аб чым ён гаворыць, бо ўжо лекар нас папярэдзіў, што ў горадзе 80 працэнтаў жанчын — гэта венерычна хворыя. Так нас напалохаў, што хлопцы баяліся нават глядзець на жанчын, а не тое, што чагосьці ад іх хацець. Святар пацвердзіў гэта, і я ўжо быў пераканаы, што ў Катавіцах няма здаровых жанчын. Нават калі ў „Доме жаўнера" выступаў нейкі вялікі калектыў песні і танца, то я глядзеў на іх, як на заражаных.

*

Надышлі каталіцкія Каляды. На Куццю сабралі нас у агромнай зале, на супольную вячэру. Аж слінкі пацяклі, як убачыў я на сталах такую колькасць розных ласункаў. Там былі селядцы, капуста і катлеты, якія я толькі раз у жыцці прабаваў, калі за савецкай улады як адзін з лепшых вучняў паехаў у Мілейчыцы на экскурсію. Да гэтага ўсяга яшчэ штосьці такое ляжала на сталах, чаго я ніколі не бачыў. „Што гэта такое?" — зацікавіўся я і ўжо думка мая ад яго не адарвалася. У зале шум, бо войска ўсё яшчэ прыходзіла і сядала за сталы. „Давай паспрабую, ці то штосьці салодкае, ці якое, бо калі ляжыць на стале, значыць, можна есці. Мала гэтага, бо мала, але хіба надта ж смачнае", — падумаў я і ўзяў у руку ды давай жаваць. Убачыў гэта намес-

нік камандзіра роты па справах палітычнага выхавання, пачырванеў і кажа „Пачакай, ты заморак! Гэта ж не да ежы, як цукерка. Ці ж ты ніколі аплатка не бачыў?“ Махнуў рукою з неадабрэннем.

Я ад сораму амаль пад зямлю не праваліўся, а аплатак, які мне зусім не пасмакаваў, паклаў на стол. Пасля прамовы камандзіра роты, усе хадзілі вакол сталоў і ламаліся аплаткамі, віншавалі сябе, а я гарэў з сораму. Да мяне таксама прыходзілі і нешта гаварылі, і я нешта мармытаў. Але свет мне быў нямілы. Пры тым я нават не ведаў, што трэба гаварыць. Мне дома ўсё жыццё зычылі, каб я здох або струціўся, а тут жадаюць чагосьці добрага і здароўя...

Нават і добра было б, каб не той няшчасны аплатак. Ежы было ўдосталь і ўсё смачнае. Але што ж ты зробіш, калі Бог яшчэ раз захацеў мяне пакараць. Мо той, хто звярнуў мне ўвагу, ужо даўно забыў пра здарэнне, але я не мог сабе прабачыць сваю вароннюю цікаўнасць.

Пасля вячэры прывялі нас у казарму, дзе ў зале збораў была пастаўлена ёлка. Беларусы — хлопцы адважныя. Нехта гучна запрапанаваў: „Хлопцы, давайце гукнем нашыя калядныя песні!“ Доўга прасіць не трэба было нікога, тым больш, што і каталікі прапанову падтрымалі. І мы грымелі адну за адной песні, з якімі калісьці хадзілі калядаваць.



Усе хлопцы часта атрымоўваюць пісьмы з дому, а я ўсяго адно толькі атрымаў ад Мані. Ужо прайшло столькі часу, а яна не піша. Аж аднойчы вечарам, пасля пераклічкі, камандзір роты загадаў пісару роты, каб прачытаў загад. Зрэшты, заўсёды гэта робіцца вечарам. Але сёння тут сам камандзір, значыць будзе нешта важнае.

У загадзе пісар вычытаў маё прозвішча першым сярод узнагароджаных пахвалай за трапнае стралянне. Я, зразумела, вельмі абрадаваўся, што хтосьці мяне пахваліў і да таго перад усёй ротай. „Ды за што, — думаў я, — ці ж цяжка трапіць з вінтоўкі ці аўтамата ў мішэнь, якая не варушыцца? Я цэлае жыццё хацеў дагаджаць мачысе і дзеду, а яны мяне ні разу не пахвалілі. Наадварот, яны заўсёды мяне ганілі, а мачыха біла...“

Калі пісар закончыў чытаць, узяў голас камандзір. У сваёй прамове ён падкрэсліў, што самым добрым салдатам той, хто добра выконвае загады сваіх начальнікаў і камандзіраў ды трапна страляе. У краіне на жаль, яшчэ існуе такая сітуацыя, што трэба страляць. „І вы як салдаты ўнутранай бяспекі таксама хутка выедзеце ваяваць з ворагамі нашай дэмакратычнай улады, — падкрэсліў ён. — Сярод вас ёсць радавы (тут ён назваў маё прозвішча), які ніводнага патрона не змарнаваў дарма на

працягу двух месяцаў абучэння". Я рос ад шчасця, бо ж і сябры чулі.

Прысяга адбылася 12 студзеня на плошчы перад казармамі. Стаялі ўсе падраздзяленні Войск унутранай абароны — Катавіцы.

Першага лютага, раніцай, прыйшоў камандзір роты і на зборы сказаў, што арганізуецца унтэрафіцэрская школа. Хто мае адпаведную адукацыю і хоча быць унтэрафіцэрам, няхай выступіць тры крокі ўперад. Крыху ўжо выступіла на першую прапанову, а пасля заахвочання — яшчэ больш. Выступіў Вася Сахарчук, які меў шэсць класаў савецкай школы, і Сцёпа Вілюк, які закончыў усяго чатыры класы. але быў добрым салдатам і хіба ведаў, што дасць рады. Бо быць унтэрафіцэрам, хаця б капралам, многім хацелася. Я не выступіў, бо ведаў, што не адолею гэта раз, а, па-другое, я нікому не патрэбны.

Тых, хто выступіў з шарэнгі, камандзір роты загадаў разлічыць і адправіць у распараджэнне каменданта школы, іншых жа — далучыць да правага і накіраваць у поле на вучэнні.

Другога лютага вечарам была мая чарга наводзіць парадак. Мыю я ганучаю калідор, а на гэта ўваходзіць намеснік камандзіра роты па палітычна-выхаваўчых справах і, убачыўшы мяне з ганучай, пытае:

— Што вы тут робіце?

— Прыбіраю калідор.

— Чаму вы не ў школе?

— Таму, што не маю адукацыі.

— Я ведаю тое. Але ж я сам вас вызначыў, бо ведаю і тое, што вы добры салдат: разбіраецеся ў палітыцы і добра страляеце.

— Грамадзянін падхаронжы, я маю ўсяго тры класы савецкай школы.

— Добра, скажыце мне, што здарылася дзевятнаццатага студзеня бягучага года?

— Дзевятнаццатага студзеня бягучага года адбыліся выбары ў заканадаўчы Сейм.

— А мо скажаце, калі паўстала ППР і хто быў яе першым сакратаром?

— Польская рабочая партыя паўстала 5 студзеня 1942 года, а першым яе сакратаром быў Марцэлі Навотка, якога пасля забілі.

Яшчэ былі пытанні пра ПСЛ і іншыя. Я адказваў без запінкі.

— Ну, я гаварыў, што з вас добры палітык, — зажартаваў палітрук Копка і загадаў, каб я далажыў камандзіру ўзвода, што заўтра адпраўляюся ў школу.

Рана я далажыў камандзіру ўзвода аб пастанове палітрука

роты. Падхаронжы Пшыбышэўскі, якога я вельмі любіў, нічога не сказаў супраць. І так я апынуўся ў унтэрафіцэрскай школе, якую закончыў і атрымаў званне капрала. А пасля...

Што было пасля, то іншым разам.

**Васіль Петручук**

---

**Міхась Шаховіч**

## ГУТАРКА З СУМЛЕННЕМ

Ты гавары,
А я цяпер — маўчаннем.
Ты гавары:
— Такі і несякі!
Ты гавары,
Зіма і так растане,
Не быць ніколі
Лету без вясны.
Ты гавары,
А снег такі прыгожы
Кружыцца з яблынь
У валасы Зямлі.
Вярні рабро
Маё мне, Божа,
Прастору лета...
Ты гавары!
Што хочаш гавары!
А лістапад
Зямлю, вунь, распранае,
Шапоча замаразкамі,
Бульбы
Не звязлі,
Луг
Прадчасна ў шэрасці канае,
А па лясах
Замерзлыя грыбы.
Ты гавары,
Што сакавік адкліча...
А тут зіма,
Аж рэжа ў вочы снег.
Сваім багам
Сабакі гімнамі скавычуць.
І скажаш ты:
— Нічога без пары.
Сняжынкі гаснуць,
Не звітаўшыся з зямлёю,
Гарланяць куры,
Куры вечна спораць.
Ты гавары,
Ты ўвесь час гаворыш.

## КРАЯВІД

Усё нармальна —
Хтосьці першы
Хто апошні,
Не змясціўшыся ў ліках
Не бывае.
Цішком нехта
Прапівае нашы вёсны
З ранку злое
І
Абгрызены імёны раскідае.
І сказалі:
— Заўтра восень!
Будзе дзень
Высокі і сіні.
А тут неба
І ў анёлаў вочы злыя...

Паспрабуй
Ты быць сабою,
Калі штодзень хочуць
Іншым.
Усё таксама
І нічога не змянілась,

Толькі ліст
Уцёк ад восені з бярозы.
Спатыкнуўся недзе конь
І ў каляіне
Галашэннем
Захліснуліся калёсы.

* * *

*Еве*

Калі пасееш боль
У чужым сэрцы,
Яго слязою
Зросіш след —

Ты, значыць,
За жыцця памершы,
Ценем ты таго,
Што звалі — чалавек.

## РОЗДУМ

Была зіма
І было лета,
А потым восень,
Зноў зіма...

А дзе вясна —
Надзея кветак?
Зіма была...
А дзе вясна?

## МАЯ МОВА

З пялёсткаў
І траў,
З
Валошак блакіту...
Мова мая
— Рунеюча жыта,
Колас пшаніцы,
Як сонца жывое.
Мама з сярпом,
Адмяраючы поле
І бацька,
Што золатам
Зёрны кідае.
І сад,
Апрануўшыся беллю
У маі.

Верас увосень
Падпалены небам,
І крык малатарняў
У клунях
Пахам хлеба.
І вырай жывы,
Што
Па леце галосіць.
І Нарва,
Што рэхам
Арэляў гукае.
І Белавежа —
Ааза жывая
— Карона майго
Беластоцкага Краю.

**Міхась Шаховіч**

Юрка Трачук

## ДЗЕНЬ І НОЧ

Дзень і ноч хаджу, як ашалелы.
Сэрца маё замірае...
Чорныя хмары клубяцца белай заслонай пад жоўтым купалам неба.
Шолах гусцеў ў дрэвах.
Чаму?.. Чаму маё сэрца стала промнем без кроплі надзеі?
Увесь дзень у бліскучым патоку тонуць няшчасныя песні...
А ноч?..
Што прынясеш ты майму сэрцу на жоўтых крылах ветру?
Чым ты яго абдарыш на бязлюднай пустыні?..
Круцяцца жоўтыя слёзы іскрай у вочных ямах.
Дзень і ноч — адно сумнае сэрца...

## НАВОШТА

Навошта бязлітасны вецер ломіш кволыя галінкі дрэў, якія прагнуць жыцця і сонца?

Навошта бязлітасны вецер разносіш па гэтым свеце дажджлівыя хмары чорных птахаў, якія часта ўюць сабе гнёзды ў маім сэрцы!

Чаму такі сумны шолах асенняга лісця пад маімі нагамі?..

Ходзіш і ходзіш... А дзе ж тваё месца? Дзе ж месца сэрца і думкі, якая кружыць няспынна на восеньскіх хвалях ветру?

Ох, вецер...

Калі б ты ведаў мае думкі, калі б чуў біццё майго сэрца — не кружыў бы ты бязмэтна сярод зялёных галінак, пачарнелых ад сумнай восені, не ламаў бы іх кволага лісця...

## АДКАЗ КІТАЙСКАМУ ПАЭТУ ЛУ Ю

Лу Ю мой, Лу Ю...
Я ж свету зусім не дзялю!
Аддзяліліся ўсе ад мяне —
Горыч у сэрцы крывёю плыве.

Юрка Трачук

**Іван Кірызюк**

## ГУЛЬКІ
### (З народнага)

— Мая ты сястрыца,
Родна, чорнаброва,
Асядлай канікa,
Коня буланога.
— Куды ты паедзеш,
Браце, мой саколе?
Захмурылась неба
Над шырокім полем.

— Хмар я не баюся,
Не баюся й грому —
Паеду за рэчку,
Да любай да дому.
Пацалую губкі.
Пацалую шчочкі,
Пасядзім у садзе,
У ціхім куточку.

У панядзелак рана
Вярнуўся конь буланы
З плеценаю грывай
І не рассядланы.
Чарнява дзяўчына
Ёга напаіла,
І аб родным браце
Так загаварыла:

— Родны брат не будзе
Больш ужо гуляці —
Не буду я ёму
Коніка сядлаці.
У прымацкай хаце
Цёшча — а не маці —
Будзе яго сына
Люляць, калыхаці.

## УСЯГО ПАКРЫСЕ

### ЛЕЧЫМСЯ САМІ

# Што на нашых ступнях?

У апошні час стала шырока вядомай у нас акупунктура, гэта значыць — лячэнне наколваннем каля 1000 месц на чалавечым целе. Гэты старадаўні метад, якім лечацца людзі ўжо доўгія стагоддзі на Далёкім Усходзе, трапіў і да нас. Але ён — занадта складаная лекарская працэдура, каб можна было самому ёю лячыцца. Затое такую магчымасць дае акупрэсура.

**Акупрэсура** — слова лацінскага паходжання — абазначае лячэнне націсканнем 70 асноўных пунктаў цела.

Пэўныя пункты ці месцы на чалавечым целе, у асноўным на ступнях і далонях, паведамляюць пра расстройствы ў адпаведных унутраных органах. Амаль што ўсе захворванні можна лячыць націсканнем, расціраннем, казытаннем, ці інакш кажучы — масажам, адпаведных „рэфлексійных месц". „Рэфлексійныя месцы" — гэта пункты на ступнях і іншых частках цела, якія маюць густую сетку нерваў. У гэтых месцах, калі адпаведны ім унутраны орган хворы, тады збіраецца ў іх значная колькасць мачавой кіслаты (kwasu moczowego) і кальцыю (wapnia) і гэтыя адклады перашкаджаюць абмену і адпаведнаму забеспячэнню нервовымі клеткамі і валокнамі. Націсканне ў тым месцы, расціранне яго пабуджае кровазварот, дапамагае ліквідаваць патаўшчэнні — адклады, вяртае хвораму органу раўнавагу.

Найбольш „рэфлексійных месц" знаходзіцца на ступнях. Тымчасам мы, пэўна, ніводную частку цела не занядбоўваем у такой меры, як свае ступні. Невыгодны абутак, прамярзанне — шкодна ўздзейнічаюць на паасобныя „рэфлексійныя месцы". Самы лепшы іх масаж — гэта хадзіць басанож. Калі ходзім босымі нагамі, тады пабуджаем усе „рэфлексійныя месцы". Найбольш карысна

хадзіць басанож па пляжу, сыпучым пяску, мяккай траве, там дзе ступні пакідаюць поўны след, якраз тады ўсе „рэфлексійныя месцы“ ўзбуджаюцца.

## ЯК МАСАЖАВАЦЬ СТУПНІ

Для добрага масажу найважнейшае — расслабленне ступней. Неабходна вымацаць на іх зацвярдзеласці і, па магчымасці, ліквідаваць, напрыклад, вострай шчоткай ці кавалкам пемзы (пумексам). Месцы, якія хочам масажаваць, націскаем вялікім пальцам або суставам сагнутага ўказальнага пальца, робім акружны рух па ходу стрэлак гадзінніка. Націскаць трэба моцна і глыбока. Калі пры гэтым адчуваем боль, значыць — мы закранулі „рэфлексійнае месца“, якое адпавядае хвораму органу. Гэта і ёсць сігнал расстройстваў і захворванняў. Пры масажаванні абавязкова трэба ўжываць крэм. Масаж неабходна рабіць сістэматычна штодзень, але не даўжэй пяці мінут.

## „РЭФЛЕКСІЙНЫЯ МЕСЦЫ“ НА СТУПНЯХ

### Правая ступня

1. Галава (мозг, левая палова). Głowa (mózg, lewa połowa).
2. Пазухі лобныя (левы бок). — Zatoki czołowe (lewa strona).
3. Прадаўгаваты мозг, мазжочак. — Pień mózgu, mały móżdżek.
4. Гіпофіз. — Przysadka mózgowa.
5. Вісок (левы бок), трайнічны нерв. — Skroń (strona lewa), nerw trójdzielny.
6. Нос. — Nos.
7. Карак. — Kark.
8. Левае вока. — Oko lewe.
9. Левае вуха. — Ucho lewe.
10. Правае плячо. — Ramię prawe.
11. Трапецаідальныя мускулы (правы бок). — Umięśnienie trapezoidalne (strona prawa).
12. Шчытападобная залоза. — Tarczyca.
13. Парашчытападобная залоза. — Przytarczyca.
14. Лёгкія і бронхі (правы бок). — Płuca i oskrzela (strona prawa).
15. Страўнік. — Żołądek.
16. Дванаццаціперсная кішка. — Dwunastnica.
17. Падстраўнікавая залоза. — Trzustka.
18. Печань. — Wątroba.
19. Жоўцевы пузыр. — Pęcherzyk żółciowy.
20. Сонечнае спляценне. — Splot słoneczny.
21. Надныркачнік (правы бок). — Nadnercze (strona prawa).
22. Правая нырка. — Nerka prawa.




Правая ступня

23. Мачавы канал (правы бок). — Przewód moczowy (strona prawa).
24. Мачавы пузыр. — Pęcherz moczowy.
25. Тонкі кішэчнік. — Jelita cienkie.
26. Адростак сляпой кішкі. — Wyrostek robaczkowy.
27. Аартальны клапан. — Zastawka tętnicza.
28. Накіраваная ўверх тоўстая кішка. — Grube jelito skierowane ku górze.
29. Папярочная кішка. — Jelito poprzeczne.
35. Правае калена. — Kolano prawe.
36. Семявыя залозы (правы бок). — Gruczoły płciowe (strona prawa).

## Левая ступня

1. Галава (мозг, правая палова). — Głowa (mózg, prawa połowa).
2. Пазухі лобныя (правы бок). — Zatoki czołowe (strona prawa).
3. Прадаўгаваты мозг, мазжочак. — Pień mózgu, mały móżdżek.
4. Гіпофіз. — Przysadka mózgowa.
5. Вісок (правы бок), трайнічны нерв. — Skroń (strona prawa), nerw trójdzielny.
6. Нос. — Nos.
7. Карак. — Kark.
8. Правае вока. — Oko prawe.
9. Правае вуха. — Ucho prawe.
10. Левае плячо. — Ramię lewe.
11. Трапецаідальныя мускулы (левы бок). — Mięśnie trapezoidalne (strona lewa).
12. Шчытападобная залоза. — Tarczyca.
13. Парашчытападобная залоза. — Przytarczyca.
14. Лёгкія і бронхі (левы бок). — Płuca i oskrzela (strona lewa).
15. Страўнік. — Żołądek.
16. Дванаццаціперсная кішка. — Dwunastnica.
17. Падстраўнікавая залоза. — Trzustka.
20. Сонечнае спляценне. — Splot słoneczny.
21. Надныраччік (левы бок). — Nadnercze (strona lewa).
22. Левая нырка. — Nerka lewa.
23. Мачавы канал (левы бок). — Przewód moczowy (strona lewa).
24. Мачавы пузыр. — Pęcherz moczowy.
25. Тонкі кішэчнік. — Jelito cienkie.
29. Папярочная кішка. — Jelito poprzeczne.
30. Накіраваная ўніз тоўстая кішка. — Jelito grube skierowane w dół.
31. Прамая кішка. — Odbytnica.
32. Задні праход. — Odbyt.




Левая ступня




*Унутраны бок ступні*




*Знешні бок ступні*

33. Сэрца. — Serce.
34. Селязёнка. — Sledziona.
35. Левае калена. — Kolano lewe.
36. Семявыя залозы (левы бок). — Gruczoły płciowe (strona lewa).

### Унутраны бок ступні

6. Нос. — Nos.
13. Парашчытападобная залоза. — Przytarczyca.
24. Мачавы пузыр. — Pęcherz moczowy.
15. Тазасцегнавы сустаў. — Staw biodrowy.
16. Залозы лімфатычныя. — Gruczoły limfatyczne.
49. Пахвіна. — Pachwina.
50. Матка або прастата. — Macica lub prostata.
51. Похва, мужчынскі палавы член, урэтра. — Pochwa, penis, cewka moczowa.
52. Прамая кішка (гемарой). — Kiszka odchodowa (hemoroidy).
53. Шыйныя пазванкі. — Kręgi szyjne.
54. Крыжавыя пазванкі. — Kręgi brzuszne.
55. Паясні́чныя пазванкі. — Kręgi lędźwiowe.
56. Крыжавая і хвраставая косці. — Kości krzyżowa i ogonowa.

### Знешні бок ступні

5. Вісок, трайнічны нерв. — Skronie, nerw trójdzielny.
10. Плячо. — Ramię.
35. Калена. — Kolano.
36. Семявыя залозы, яйцавод і яечнікі або машонка. — Gruczoł nasienny, jajowód i jajniki lub moszna.
37. Паслабленне напружання падбрушша (супраць менструальных боляў). — Odprężenie podbrzusza (przeciwko bulom menstruacyjnym).
38. Тазасцегнавы сустаў. — Staw biodrowy.
39. Лімфатычныя залозы, верхняя частка тулава. — Gruczoły limfatyczne, górna część tułowia.
42. Орган раўнавагі. — Narząd równowagi.
43. Грудзі. — Piersi.
44. Дыяфрагма. — Przepona.

### Хрыбет ступні.

39. Лімфатычныя залозы, верхняя частка тулава. — Gruczoły limfatyczne, górna część tułowia.
40. Лімфатычныя залозы, ніжняя частка тулава. — Gruczoły limfatyczne, dolna część tułowia.




Хрыбет ступні

41. Лімфатычная пазуха, грудны лімфатычны канал. — Zatoka limfatyczna, piersiowy przewód limfatyczny.
42. Пачуццё раўнавагі. — Zmysł równowagi.
43. Грудзі. — Piersi.
44. Дыяфрагма. — Przepona.
45. Гланды. — Migdały.
46. Сківіца ніжняя — Szczęka dolna.
47. Сківіца верхняя. — Szczęka górna.
48. Гартань і трахея (дыхальнае горла). — Krtań i tchawica.

---

Юзаф Макавецкі

## СУР'ЁЗНА ПРА ЧАРАДЗЕЙСТВЫ

Ужо колькі год газеты, радыё, тэлевізія робяць нам неспадзеўкі, адкрываючы розныя, часам дзівосныя, з'явы, якія нельга даследаваць у лабараторыі вучонага.

Таксама адкрыўчыя ўласцівасці чарадзейнай палачкі, або інакш — радыястэзіі, як галіны нетрадыцыйных ведаў, выклікае вялікае зацікаўленне гараджан, а таксама сялян. Аднак на вёсцы людзі значна часцей сустракаюцца з вынікамі дзейнасці ўладальнікаў чарадзейнай палачкі ці інакш — радыястэтаў, напрыклад, падчас пошукаў крыніцы пад новы калодзеж. Слова „радыястэзія“ для многіх людзей гучыць не меней таямніча, як словы „псіхатроніка“ ці „біяэнергатэрапія“, або „парапсіхалогія“. Аднак ніводнай з гэтых назваў не варта займаць памяці, хоць яны і яшчэ некалькі іншых акрэсленняў нейкім чынам звязаны з некаторымі здольнасцямі чалавека, або яго ўздзеяннем на іншыя з'явы, якія немагчыма адназначна класіфікаваць. Возьмем хоць бы тое, што аднаму чалавеку палачка выгінаецца над падземнай воднай жылай, а другому — не. Таму розныя назвы выдуманы дзеля таго, каб імі карысталіся спецыялісты, якія толькі пачынаюць пракладваць сцежкі новым галінам ведаў. Што за імі крыецца? Які змест нясуць? Што на самай справе абазначаюць? Нават тыя, хто ўжывае гэтыя назвы, не патрапяць дакладна адказаць на гэтыя пытанні. На пацвярджэнне гэтага прыгадаю прыклад. Не так даўно, недзе ў канцы 1983 года, група людзей — вучоных розных галін — рашыла паклікаць гэтак званую Агульнапольскую кансультацыйную раду Польскага біяцэнознага таварыства. Ужо нават такая напышчаная назва многім людзям незразумелая, нават камнехта і захоча яе вытлумачэнне шукаць у тлумачальных

слоўніках. І якраз тая ж Агульнапольская кансультацыйная... прыйшла да думкі — і то якой! — каб выдаваць дыпломы людзям, якія займаюцца аздараўленнем хворых перадачай нейкай энергіі. Дадаць тут я мушу, што мне вядома некалькіх радыястэтаў, якія пачалі ў Беластоку і не толькі ў гэтым горадзе „лячыць“ людзей, замест займацца па-ранейшаму адкрываннем падземных водных жылаў на будаўнічых пляцоўках ды браць за гэта цалкам прыстойныя грошы.

Сярод адзначаных дыпломамі „аздаравіцеляў“ праз рукапалажэнне аказаліся якраз такія людзі. Затое без дыпломаў засталіся авеяны славай і легендай Кліў Харыс з Канады, які шмат разоў прымаў хворых у Польшчы і Еўропе, або не меней славуты Станіслаў Нардэлі, на якога аздараўляючых сеансах аднаразова прысутнічае ад некалькіх соцень да некалькіх тысяч чалавек. Яны абодва, як і трэба было спадзявацца, адмовіліся прыняць тыя дыпломы, бо дыплом, як вядома, нічога не змяняе ў прыроджаных уласцівасцях чалавечага арганізма.

Гэтае даўтаватае разважанне звярнула, мабыць, увагу чытачоў на тое, што навука, уваходзячы ў новыя, неспазнаныя яшчэ галіны ведаў, сустракаецца з рознымі цяжкасцямі. Найбольшай жа небяспекай для яе бываюць людзі, якія спрабуюць пры такой нагодзе пагрэць сабе рукі, хоць такім чынам шкодзяць іншым, патрабуючым дапамогі.

Таксама маецца справа з устанаўліваннем крыніц выпраменьвання не толькі ў зямлі, але і ў чалавечым арганізме. Якраз адкрыванне крыніц выпраменьвання ў чалавечым целе завецца ў навуцы „радыястэзіяй“. І ў нішто ідуць пратэсты розных уладальнікаў таямніц чарадзейнай палачкі ды патрабаванні называць іх радыястэтамі, бо яны прызваны шукаць ваду, а радыястэты займаюцца іншым выпраменьваннем. Некаторыя „радыястэты“ ўсё часцей, праўда, праводзяць нібы-медыцынскія эксперыменты, карыстаючыся чарадзейнай палачкай, маятнікам або іншымі прыладамі ў адкрыванні захворванняў у чалавечым арганізме.

Гэтая з'ява займае ўсё большы круг людзей. Яна ўжо перастае быць газетнай цікаўнасцю або прамінаючай модай, але пераўтвараецца ў навуковы факт, якім займаюцца таксама светлыя розумы, бо трэба ж знайсці доказ, што доказу няма... Для прыкладу, толькі адно Вялікапольскае аб'яднанне радыястэтаў гуртуе тры тысячы членаў. У іх ліку людзі розных прафесій: вучоныя-біёлагі, фізікі, электронікі, лекары, рабочыя, інжынеры, працаўнікі адміністрацыі з розных бакоў Польшчы.

Што за прычына гэтакага

зацікаўлення радыястэзіяй? Можа імкненне даказаць сабе і іншым незвычайнасць свае асобы? А можа гэта кіданне выкліку сілам прыроды, якія не даюцца падглядзець праз мікраскоп нават калі гэта будзе электронны мікраскоп? А можа для шматлікіх любіцеляў і пашыральнікаў незвычайнасцей гэта лёгкі грош, які сам шчодра сыплецца ў кішэню, бо чалавек, які шукае палёгкі ад пакутаў, падасца нават у пекла. Якія б не былі прычыны зацікаўлення радыястэзіяй, важна тое, што яна прыносіць немалыя карысці ў даследаванні яшчэ някранутых многіх галін нашага жыцця, а таксама канчаткова не даследаваных прыроджаных уласцівасцей чалавечага арганізма.

Калі чаго-небудзь не патрапім назваць, гэта зусім не абазначае, што трэба заплюшчыць вочы на існаванне з'явы.

Той, хто ні ў што не верыць, адкрывае ўбоства свайго мыслення. Затое той, хто ва ўсё верыць, выяўляе сваю дурноту.

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Радыястэзія — гэта ўражлівасць жывога арганізма на выпраменьванне. На яго рэагуе не кожны чалавек, а ступень успрыняцця выпраменьвання розных крыніц — гэта індывідуальная справа ўражлівасці чалавека.

Запаленая свечка стварае светлавое поле, якое ўздзейнічае на наш зрок, і цеплавое поле, што мы адчуваем нашымі далонямі. Але, напрыклад, рэнтгенаўская лямпа вытварае нябачнае вокам поле выпраменьвання, якое дае магчымасць заглянуць ва ўнутр непразрыстых целаў, аднак убачыць гэта можна толькі пры дапамозе спецыяльнага экрана.

Падсумуем сказанае гэтак:

1. Усе без выключэння целы — крыніцы эмісіі хваляў (напрыклад, гук), або выпраменьвання (напрыклад, цяпло),

2. Чалавечы арганізм успрыймае гэтыя сігналы, пераўтварае іх свядома або несвядома,

3. Калі ў далонях мы будзем трымаць адпаведнай формы прадмет (палачку, маятнік), то наяўнасць выпраменьвання будзе праяўляцца ў руху гэтага прадмета. Такім чынам ён будзе рэагаваць як паказчык прысутнасці нябачнай сілы.

Пра гэтыя з'явы ведалі ўжо старажытныя людзі. У гістарычных крыніцах гаворыцца, што з самых даўніх часоў у Рыме і Індыі ўжывалі чарадзейную палачку і маятнік. Рымскія легіянеры разбівалі лагеры на начлег або адпачынак у месцах, якія вызначылі ваяўнікі-„палачнікі".

Ішло пра добры адпачынак і сон ваяўнікоў, ад якіх не толькі адвагі, але і спраўнасці залежалі баявыя вартасці ўсяе арміі. Даказваюць, што палачку і маятнік ужывалі старажытныя яўрэі і егіпціяне, а кітайцы перад заснаваннем дома прасілі „палачніка", каб адкрыў „кіпцюр дракона". Гэта, мабыць, адпавядае нашаму паняццю шкоднасці нездаровага месца.

Колькі ж разоў мы самі, або нашыя знаёмыя натыкаліся на такія з'явы, што ў новым месцы, удома або нават у нейкай частцы пакоя не прыходзіць сон, раніцай жа адчуваем шум у галаве, маем чырвоныя вочы, нас ломіць у касцях. А ў іншым месцы адчуваем сябе, як нованароджаныя, спім, як забітыя. Разважаючы над гэтым прыкладам, можна было б сказаць, што тут маем дачыненне амаль з магіяй, што нехта зачараваў тое месца. Але, вядома, нічога такога тут няма.

Усё жывое на свеце рэагуе на выпраменьванне водных жылаў, бо пра гэта ідзе гаворка ў нас. Каты, пчолы, мурашкі ахвотна прабываюць на водных жылах. Некаторыя пчаляры спецыяльна ставяць вуллі на водных жылах, таму што ў такіх месцах значна павялічваецца збор мёду. Затое буслы, сабакі, каровы, свінні як мага пазбягаюць напрамененых месц. Дом, на якім бусел віе сваё гняздо, напэўна пастаўлены ў добрым месцы. Каты надта ж любяць вылежвацца на скрыжаваннях водных жыл. У адной жывёлагадоўчай ферме паблізу Беластока ў новапабудаваным хляве надоі ад кароў надта ж паменшыліся, жывёлы хварэлі, страшэнна ўзрасла колькасць скідванняў. Даследванні радыястэтаў, якія гуртуюцца ў а'бяднанні пры ваяводскім аддзеле Таварыства інжынераў і тэхнікаў сельскай гаспадаркі ў Беластоку. паказалі, што ферма пабудавана на моцных водных жылах. Перанеслі хлеў у іншае, вызначанае спецыялістамі-радыястэтамі месца і з дасканалым вынікам.

У людзей, якія спяць або працуюць у напрамененых месцах, узнікаюць разнастайныя хваробы, бо чалавечы арганізм слабне пад уздзеяннем шкоднай сілы, эфектыўна не абараняецца ад атакаў хвароб і недамаганняў.

Арганізм некаторых людзей не рэагуе на моцнае выпраменьванне водных жылаў. Аднак пераважная большасць людзей — некаторыя крыніцы лічаць, што 80-90% — мае чулую нервовую сістэму. Якраз сістэма нерворых клетак і валокан у чалавечым арганізме і ёсць прычынай таго, што ён — чулы праваднік align розпага выпраменьвання і балюча ўспрыймае павелічэнне выпраменьвання. Хто сярод нас у

маленстве не насіў пухіроў на плячах ад празмернага загарання на сонцы? Патрапім жа іх пазнаць і забяспечыць адкрытыя месцы ад сонечнага выпраменьвання. Ад выпраменьвання водных жылаў таксама можна засцерагчыся. Але папярэдне трэба ўстанавіць, вызначыць іх месца, каб знайсці сабе надзейнае прыкрыццё.

Такім чынам мы наблізіліся — хоць і не спазналі да канца фізічныя ўласцівасці гэтай з'явы — да таго, што радыястэты пры дапамозе адпаведных прыбораў патрапяць адкрыць і паказаць крыніцу выпраменьвання.

## ПРАЎДА

што радыястэты ў сваіх пошуках часцей за ўсё карыстаюцца палачкай або маятнікам. Самыя старажытныя крыніцы прадстаўляюць гэтыя чарадзейныя палачкі як галінкі вярбы або ляшчыны ў выглядзе адвернутай уніз, друкаванай літары „у". Карыстаюцца таксама іншымі матэрыяламі — медным дротам, прутамі з металу або пластыку. У чарадзейнай палачкі павінны быць канцы аднолькавай даўжыні і таўшчыні. Яе даўжыня — 35-55 сантыметраў. Абодва адгалінаванні трэба трымаць у руках пальцамі ўверх, падушачкі пальцаў павінны дакладна прылягаць да палачкі. (Бываюць чарадзейныя палачкі іншай формы, але яны непрыдатны ў нашых практыкаваннях). Трымаючы так палачку, каб яе трэці канец быў плоска над зямлёй, як быццам бы прадаўжэннем рукі, радыястэт даследуе паверхню тэрыторыі, ходзячы па ёй павольным крокам. Калі знойдзе водную жылу, вяршок палачкі моцна згінаецца да зямлі.

Маятнікі бываюць вельмі розных форм і велічыні. Іх робяць з дрэва, пластыку, медзі, мосенжу. На маятнік надаецца кожны матэрыял, аднак найлепш, каб ён не быў праваднікам электрычнасці. Прымяняюцца таксама маятнікі з выдзеўбанай сэрцавінай, якімі карыстаюцца пры пошуках розных мінералаў. Пустую сярэдзіну напаўняюць невялікай колькасцю таго выкапня, які шукаюць. Вага маятнікаў розная, часцей за ўсё важаць яны 25-50 грам. Усе маятнікі, незалежна ад іх вагі, формы і велічыні, выконваюць чатыры віды руху: хістальны, эліптычны, вярчальны ўправа, вярчальны ўлева. Сам маятнік нічога не можа паказаць. У гэтым лёгка можна пераканацца, калі мы яго на чымнебудзь павесім. Аднак, як апыніцца ў чалавечай руцэ, тады запускаюць яго ў адзін з чатырох відаў руху тыя „таямнічыя сілы".

І тут неабходна адна засцярога. У працэсе мыслення самаўнушэнне можа ўвесці шмат замяшання пры спробе запусціць у рух маятнік. Зрэшты, лёгка заўважыць, што маятнік часцей за ўсё схільны выконваць такі від руху, які мы хочам. Бадай што нехта ўжо вопытны радыястэта. Але на гэта трэба шмат год практыкі.

## ПРАВЕРКА ЎРАЖЛІВАСЦІ

Для праверкі ўражлівасці арганізма ёсць шмат спосабаў. Той, які зараз прадстаўлю, здаецца мне самы просты, бо можна яго правесці самому, у розную пару і ў розных варунках. Дзеля гэтага трэба стаць проста з павернутым на захад тварам, і як мага болей расслабіцца. Потым левую руку пакласці на сонечным спляценні, пальцы сабраць разам. Маятнік павінен звісаць з правай рукі на ўсёй даўжыні шнурка (5-15 см) такім чынам, каб ён знаходзіўся насупраць сярэдзіны левай рукі ў адлегласці каля 20 см ад яе. У гэткім палажэнні маятнік павінен пачаць вярчальны рух у кірунку згодным з рухам стрэлак гадзінніка. Трэба дакладна палічыць колькасць абаротаў. Калі яны слабыя і ўсіх іх меней 15, тады надта ж малыя шанцы на атрыманне верагодных вынікаў.

## СКАРЫСТАННЕ

Каб атрымаліся добрыя вынікі, трэба быць аптымістам, нават тады, калі да маятніка ці палачкі адносімся, як да рэчаў з іншай планеты. Зрэшты, далёка не ўсе людзі ведаюць, на якой аснове працуе радыёпрыёмнік або тэлевізар, аднак усе патрапяць іх уключаць і выключаць, калі ім толькі захочацца. Таксама і мы ў гэтым выпадку ўключаем свой арганізм, які працуе як радыёпрыёмнік на вызначанай намі даўжыні хваль. Можам праверыць гэтую здольнасць на прыкладзе вады. Патрымайце маятнік над поўнай шклянкай вады. Калі ён абарачаецца згодна з кірункам руху гадзіннікавых стрэлак, тады, значыць, вада чыстая. Абарачэнне ўправа заўсёды карыснае для правяраючага, нягледзячы на тое, ці правяраюцца харчы, выпраменьванне водных жылаў, або проста ўспрыйманне арганізмам лякарстваў ці іншых сродкаў. Можна ў гэтым пераканацца на наступным прыкладзе: налейце шэсць шклянак або кубкаў вады, пастаўце іх побач на стале. Няхай нехта іншы, без вашага ведама, усыпле лыжачку солі ў адно з гэтых начынняў, не датыкаючыся да яго. Вы зусім не ведаеце, у якое з начынняў усыпана

соль. Прымяніце маятнік, праверце па чарзе кожнае начынне. Над тым з іх, у якім ёсць соль, маятнік будзе абарачацца ў адмоўным напрамку (улева). Сведкі гэтага практыкавання напэўна будуць патрабаваць, каб вы яго паўтарылі. Не паддайцеся нагаворам, не паўтарайце! Выпраменьванне арганізмаў гэтых жа сведкаў будзе настолькі пераблытанае, што практыкаванне паўторна можа ўдацца толькі выпадкова. Эксперымент можна паўтарыць толькі праз некалькі гадзін. Каб праверыць сваю ўражлівасць у карыстанні чарадзейнай палачкай, трэба яе так напружыць — аж яна сама пачне лёгка дрыжаць. Калі яна дрыжыць лёгка ўверх і ўніз, без перабояў і цягі ўніз, абазначае гэта, што мы стаім у нармальнай іанізацыі паветра. Затым наблізімся да калодзежа (калі практыкаванне праводзім на вёсцы) і спрабуйма знайсці водную жылу, якая яго жывіць. Калі мы трымаем палачку моцна, але не сударгава, і яна сагнецца ўніз, гэта якраз і будзе абазначаць, што вы натрапілі на водную жылу. Такім чынам можам пераканацца, што наш арганізм рэагуе на выпраменьванне водных жылаў.

## ПАДВОДЗІМ ВЫНІКІ

Па неабходнасці кораценька падаў я крыху звестак пра такія з'явы, з якімі навука не ведае, што і рабіць. Радыястэзія здзіўляе не толькі звычайных людзей, але таксама гідролагаў, геолагаў, лекараў, заатэхнікаў. Добры радыястэт патрапіць вызначыць месца, прыгоднае на пабудову хлява або на выкапанне калодзежа, акрэсліць захворванне жывёлы. У Савецкім Саюзе радыястэты з дасканалымі вынікамі вядуць пошукі карысных выкапняў. У Сверку каля Варшавы падчас пабудовы атамнага рэактара геолагі надта ж доўга і вялікім коштам шукалі і аніяк не маглі знайсці вады. Урэшце папрасілі радыястэта і той паказаў адпаведнае месца. Навука дагэтуль не выказалася адназначна пра такія з'явы, хоць яны і захапляюць не толькі дылетантаў, але і спецыялістаў розных галін ведаў. Мы ж змясцілі некалькі гэтых заўваг і прыкладаў пад развагу чытачоў.

**Юзаф Макавецкі**

# ГЕАМАРФАЛОГІЯ АХОВЫ ПРЫРОДЫ

Геамарфалогія са сваімі формамі на зямлі і ў зямлі — гэта геаграфічнае асяроддзе аховы прыроды. Сюды адносяцца геамарфалагічныя „крэпасці“ аховы. 1. Узвышшы, масіўныя ўтварэнні — каменні і агрэгаты ды прасторы паміж імі: фізічнага паходжання і жыццяздольнасці арганізмаў; 2. Экалагічная ўзаемазалежнасць рэльефу і арганізмаў, аховы глебы; 3. Тапаграфія тэрыторыі.

Вялікае значэнне мае геамарфалогія сажалак, рэк, упадзін і выкапанак. На жыццё водных арганізмаў маюць уплыў: форма дна, берагоў і розныя пустоты — сховішча і месца жыхарства іх.

У грунце ёсць поры, пустоты, шчыліны ад надта малых, мікраскапічных да вялікіх ямаў. Не зважаючы на тое, што шматлікія пустоты ўтварыліся ў выніку геалагічных працэсаў і фізічных з'яваў, усе яны служаць месцам прабывання і прыстанішчам для арганізмаў. Паветра і вільгаць праходзяць выключна па міжабломкавых і міжагрэгатных прамежнасцях.

Зімой у вадаёмах вада замярзае. Асабліва небяспечныя для земнаводных і рыб застойныя водныя басейны. Аказваецца, што зімой арганізмы патрабуюць свабоднага кіслароду (тлену).

Каля асфальтавай дарогі Бельск-Падляшскі — Аўгустова ёсць глыбокі выкап. Вада ў ім не высыхала да вясны 1984 года. Назіраючы жыццё ў выкапе, я заўважыў, што 13 кастрычніка 1976 г. усе жабы павылазілі з вады. Сядзелі яны на схілах выкапу. Штосьці дрэннае прадчувалі. Рыхтаваліся да зімовай спячкі. У дзень было +17°С. Цёпла і прыемна. Здзівіў мяне іх адыход на зімоўку. Аднак жа памылкі тут не было. Праз два дні — 15 кастрычніка тэмпература панізілася да +2°С. Дзьмуў моцны халодны вецер, да касцей пранізваў ён цела. 28 кастрычніка зямля зверху замерзла. Якаясьці таямнічая сіла асцерагла жаб ад немінучай пагібелі.

На рэчцы Чорнай пад Альшэвам, што ў гміне Боцькі, будавалі мост. Я прыехаў праверыць тапаграфічныя пункты і якасць бетону. Быў холад і рэчка замерзла. Пакуль нарыхтоўвалі бетон, я праз моцны празрысты лёд назіраў за рыбкамі ў вадзе. Заўважыў, што яны ўсе гуртаваліся каля вялікіх камянёў, што тырчэлі аж над лёдам. Там яны тыркаліся сваімі мордач-

камі, быццам штосьці хапалі. Калі я прыгледзеўся бліжэй, выявіў, што каля камянёў знаходзяцца малыя бурбалкі паветра. Каменні ж добрыя праваднікі цяпла, і таму паміж імі ў вадзе знаходзяцца сховішчы для водных арганізмаў — земнаводных, рыб і насякомых. Іх арганізмы выкарыстоўваюць як месца жыхарства, адпачынку, аховы ад драпежнікаў і крыніцы кіслароду.

Аднойчы я назіраў за рыбнай сажалкай, якую выкапалі ў гліністым грунце каля ўрочышча Грабіна, што ў гміне Бельск-Падляшскі. Уласнік сажалкі скардзіўся, што піжмакі муцяць у ёй ваду. Быў жнівень 1981 г. Надвор'е асенняе, але прыгожае. Сяджу на беразе сажалкі, назіраю. У мой бок накіраваліся чатыры жабы. Яны квакалі, надзімалі пузыры і неспакойна плавалі. Хутка разгадаў я прычыну іх павітання мяне — яны абаранялі сваю тэрыторыю. „Пабіць іх кіем! — скажа несвядомы чалавек. — Яны ж муцяць ваду". Але ж гэта няпраўда! Наадварот — ачышчаюць: жабы ядуць водарасці ды ловяць мушак. Паўднёвы вецер дзьмуў моцна. Хвалі білі ў гліністы бераг і коўзаліся па дне вадаёма. Ад гэтага ўтваралася муць, што клубамі разыходзілася па ўсёй вадзе. І так, мае назіранні выявілі, што ўпадзіны ў беразе не маглі быць сховішчамі піжмака.

Каб забяспечыць вадаём, трэба на гліністае дно насыпаць жвіру, навазіць каменне і скласці яго ў пірамiды (глядзі на малюнку), каб верх выступаў над узроўнем вады на 30 см. Тады рыба не будзе душыцца пад лёдам. Будзе мець прыстанішча і ахову ад натуральных сваіх ворагаў. Бераг добра было б абсадзіць нізкарослай вярбой. Не толькі для прыгажосці. Гэта будзе ахова вадаёма ад ветру, ну і лісце патрэбна вадзе для развіцця водарасцей — корму ды вітамінаў для рыбы.

Вада і гідраграфічная сетка ў ваколіцах Бельска-Падляшскага атручваюцца сцёкамі з ільнозавода, малачарні, каналізацыі горада. Няма ўжо веры ні ў якія ачышчальнікі. Ніхто ўжо не ў стане вярнуць вадзе першабытную чысціню. Толькі фільтраванне яе цераз грунт можа гэта зрабіць.

Рэкі, дзе знішчана першабытная геамарфалогія рэчышчаў, берагоў, выпраставаныя меліярацыяй не могуць стварыць аптымальнае асяроддзе жыхарства арганізмам. Для нармальнага жыцця ім неабходны заглыбленні, лукавіны, плёсы, перакаты і асабліва — камяністыя ўчасткі ракі.

Геамарфалогія тэрыторыі мае вялікі ўплыў на ахову глебы ад шкоднай дзейнасці вады і ветру. У мясцінах з расчлянёным рэльефам ураджайны слой глебы змываец-




ца ды да таго перамяшчаецца плугам. Глеба размешчаная вышэй, становіцца больш светлай і дае слабаваты ўраджай. Трэба стварыць травяністыя ды кустарнікавыя буферныя палосы, размясціць па іх вышынных гарызанталях. Лес добра ахоўвае глебу. Геамарфалагічная дзейнасць ветру — гэта перанос рачных пяскоў. Утвараюцца пры гэтым золавыя ўзгоркі. Часта тады заносяцца пяском ураджайныя глебы.

Мікрарэльеф ствараюць мікраарганізмы. Па іхніх ходах і норах у зямлю пранікаюць карэнні раслін, вада і паветра. Геалагічная дзейнасць землярыяў вядзе да вынасу грунту з глыбіні на паверхню.

Трэба таксама ведаць, што апырскванне хімікатамі моцна атручвае глебу і ніштожыць біялагічнае жыццё ў ёй на глыбіню да 30-32 см. А мёртвая глеба становіцца неўраджайнай.

**інж. Б. Ф. Рудкоўскін**

---

**Парады суддзі Вінцука Склубоўскага**

## ЯШЧЭ ПРА САЦЫЯЛЬНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ СЯЛЯН

У Беларускім календары на 1983 год былі прадстаўлены асноўныя пастановы, якія рэгулююць сацыяльнае забеспячэнне сялян і членаў іх сем'яў на падставе закона ад 14 снежня 1982 г. „Аб грамадскім забеспячэнні сялян і іх сем'яў". У пазнейшым часе выйшлі распараджэнні Рады міністраў, у якіх падрабязна разгледжаны многія пастановы гэтага закона. Паколькі яны датычаць спраў вельмі важных для сялян і цікавяць асабліва

старэйшых людзей, знаёмім з найважнейшымі пастановамі гэтых распараджэнняў.

## ХТО ЛІЧЫЦЦА СЕЛЯНІНАМ?

Селянін — гэта той, хто працуе на сельскай гаспадарцы і кіруе ёю. Гаспадарка можа быць яго асабістай уласнасцю або складаць супольную ўласнасць з іншым. Можа гэта быць гаспадарка жонкі, бацькоў, або арандаваная ў іншых уласнікаў.

Сельская гаспадарка — гэта зямельная нерухомая маёмасць, якая ёсць гаспадарчай цэласнасцю разам з будынкамі, жывёлай, інвентаром, з правамі і абавязкамі, звязанымі з вядзеннем сельскай гаспадаркі. У склад гаспадаркі ўваходзяць таксама лясы і аблогі. Гаспадарка павінна мець не меней паўгектара (0,5 га) паверхні. Аднак селянінам лічыцца таксама асоба, якая гаспадарыць на абшары меншым ад 0,5 га, калі яна займаецца спецыяльнай вытворчасцю і выраблае сельскагаспадарчай прадукцыі вартасцю не меней 50 цэнтнераў жыта і плаціць зямельны падатак. Такую гаспадарку закон называе „działem specjalnym".

Калі гэтая гаспадарка ёсць супольнай уласнасцю, то супольнікі падлягаюць сацыяльнаму забеспячэнню, калі на кожнага з іх прыпадае гадавая прадукцыя вартасцю не меншай за 50 цэнтнераў жыта.

## ЧЛЕНЫ СЯМ'І

Абавязак забеспячэння членаў сям'і датычыць толькі асоб, якія жывуць разам з гаспадаром або па-суседску, а праца на гэтай гаспадарцы для іх — галоўны сродак утрымання. Калі б даход члена сям'і з іншых крыніц перавышаў палову найніжэйшай заработнай платы, якая абавязвае ў грамадскай гаспадарцы, то яго не датычыць забеспячэнне для сялян. Гэта адносіцца таксама да членаў сям'і, якія жывуць у іншай вёсцы, а тым болей у горадзе, нават калі б яны памагалі працаваць на гаспадарцы.

Абавязак забеспячэння членаў сям'і не датычыць вучняў школ вышэйшых ад пачатковай, а таксама інвалідаў I або II групы, а інвалідаў III групы — калі інвалід не здольны да працы ў сельскай гаспадарцы.

Да 1 студзеня 1983 года мужу і жонцы прызнавалася адна пенсія, якая па іх прапанове дзялілася паміж імі пароўну. Паводле новага закона пенсія прызнаецца асобна мужу і асобна жонцы, пры тым найменшая пенсія вызначаецца ў размеры найменшай пенсіі, якая прызнаецца ў грамадскай гаспадарцы.

## ДАДАТКІ ДА ПЕНСІІ

Да асноўнай пенсіі належацца дадаткі за прададзеную грамад-

скай гаспадарцы прадукцыі, за здадзеную дзяржаве зямлю, лес, сад і іншыя ўгоддзі, будынкі і за зрачэнне на права бясплатнага карыстання памяшканнем і будынкамі.

Дадатак за продаж грамадскай гаспадарцы сельскагаспадарчай прадукцыі належыцца так у выпадку перадачы зямлі дзяржаве, як і наследніку. Каб падлічыць дадатак да пенсіі за прададзеную прадукцыю, бярэцца сярэдняя гадавая колькасць яе за 10 апошніх год. Паколькі ўлік гэтай продажы вядзецца ад 1 студзеня 1977 г., то да 1987 г. сярэднюю яе колькасць падлічваецца ад 1 студзеня 1977 г. Пры гэтым бярэцца пад увагу змену цэнаў, г.зн. пералічваецца вартасць прададзенай прадукцыі за ўвесь час паводле цэнаў апошняга года перад атрыманнем пенсіі. Калі гаспадарка перадаецца дзяржаве, уласніку належыцца дадатак ад 400 да 2500 зл. у месяц у залежнасці ад вартасці прададзенай маёмасці. Гэты дадатак належыцца супольна мужу і жонцы, калі ёсць толькі адно з іх, то той і атрымоўвае ўсю суму.

Селяніну, які перадаў гаспадарку дзяржаве або наследніку разам з будынкамі, належыцца права карыстацца з жыллёвага памяшчэння і гаспадарчых будынкаў у памерах, неабходных для заспакаення патрэбаў яго і ягонай сям'і. Калі ён зракаецца гэтага права, належыцца яму дадатак 0,1% вартасці будынкаў паводле ацэнкі ПЗУ з абавязкам забеспячэння будынкаў, аднак не меней 300 і не болей 1500 зл у месяц. І гэты дадатак дзеліцца пароўну паміж мужам і жонкай.

## УЛІК ПРАДАНАЙ ПРАДУКЦЫІ

Да сельскагаспадарчай прадукцыі залічваецца раслінаводства, агародніцтва, садаводства і жывёлагадоўля, а таксама драўніна з лесу, які ўваходзіць у склад сельскай гаспадаркі, лясныя прадукты (ягады і г.д.), лекавыя расліны, мёд і іншыя прадукты пчалярства, рыба з азёраў і сажалак, якія ўваходзяць у тую ж гаспадарку.

У вартасць прадукцыі залічваецца не толькі атрыманае за продаж, але і належныя селяніну прэміі і дадаткі, а таксама 50% кампенсацыі за знішчожаныя звярамі пасевы.

Грамадская гаспадарка, якой пастаўляюцца сельскагаспадарчыя прадукты, мае абавязак даваць адпаведны дакумент аб продажы. Дакумент выпісваецца на асобу, якая тыя прадукты нарыхтавала, хоць іх пастаўляла іншая асоба.

Ад вартасці кантрактаванай прадукцыі адлічваецца вартасць прадуктаў, якія селянін атрымаў бясплатна, згодна з кантрактацыйнай умовай.

Улік праданай прадукцыі вядуць кааператыўныя банкі. Калі грамадская ўстанова, якой пастаўляюцца прадукты, выплачвае сама, яна мае абавязак перадаць копію дакумента продажы ка-

аператыўнаму банку паводле месца жыхарства селяніна. Калі прадукты пастаўляе калектыў або супольныя ўласнікі гаспадаркі, то яны абавязаны скласці пісьмовую заяву, як павінна быць падзелена вартасць прадуктаў, бо ў іншым выпадку банк падзеліць яе паміж імі пароўну.

Кожны год кааператыўны банк падлічвае вартасць проданых прадуктаў, узгадняе падлік з селянінам і ўпісвае ва ўліковую дакументацыю, а таксама ў выдадзеную банкам селяніну „кніжку продажы".

Банкавы ўлік кантралюе начальнік гміны. Ён можа правесці кантроль, ці праданыя прадукты паходзяць з уласнай гаспадаркі селяніна, і ён выдае адпаведную пастанову, на падставе якой банк робіць афіцыяльны запіс у дакументах.

Калі селянін прадаў у даным годзе грамадскай гаспадарцы прадуктаў вартасцю меншай ад 5 цэнтнераў жыта з кожнага пералічанага гектара, то такі год залічваецца ў стаж, патрэбны для атрымання пенсіі, толькі тады, калі гэта апраўдана стыхійным бедствам або няшчасным выпадкам: паводкай, засухай, градам, працяглай хваробай, зменай напрамку прадукцыі ў выніку спецыялізацыі або кааперацыі, адабраннем зямлі, камасацыяй або іншымі дзеяннямі дзяржаўных органаў. Продаж вартасцю найменш 5 цэнтнераў жыта з пералічанага гектара абавязвае ад 1 студзеня 1983 г. За час ад 1 студзеня 1977 года да 31 снежня 1982 года гэтае патрабаванне лічыцца споўненым, калі вартасць праданай прадукцыі была не меншай ад 15 000 зл.

Стаж працы на гаспадарцы, патрэбны для атрымання пенсіі, складае 25 год для мужчын і 20 год для жанчын. З таго вынікае, што ён мусіць быць прадоўжаны на столькі год, на колькі павінна быць праданай прадукцыі.

Выключэнні прадбачаны для сялян-мужчын ва ўзросце 65 год, і сялян-жанчын — 60 год ці інвалідаў I і II групаў, або III групы, калі яны поўнасцю няздольны да працы на гаспадарцы. Такія сяляне, калі здаюць гаспадарку дзяржаве ў 1982-85 гадах, атрымоўваюць пенсію нават калі не прадавалі дзяржаве прадуктаў вартасцю не меншай 5 ц жыта ў год з кожнага пералічанага гектара.

Адным з варункаў атрымання пенсіі ёсць перадача гаспадаркі дзяржаве або наследніку, калі вартасць яе не панізілася за апошнія 5 год. Гэты варунак не абавязвае, калі паніжэнне вартасці гаспадаркі наступіла з незалежных ад селяніна прычын. За такія прычыны лічыцца абніжэнне вартасці гаспадаркі ў выніку стыхійнага бедства, няшчаснага выпадку або бясплатнай перадачы дзяржаве часткі гаспадаркі. Ці такія прычыны існуюць — сцвярджае начальнік гміны на жаданне селяніна.

# НЯШЧАСНЫ ВЫПАДАК

Селяніну, які пацярпеў у выніку няшчаснага вупадку, належыцца дапамога на час хваробы (zasiłek chorobowy), аднаразовая кампенсацыя і часовая пенсія.

Аднаразовая кампенсацыя належыцца селяніну, які ў выніку выпадку ў часе працы на гаспадарцы атрымаў пастаяннае або працяглае пашкоджанне здароўя. За пастаяннае пашкоджанне здароўя лічыцца такое парушэнне арганізма, якое не падае надзеі на яго паправу. За працяглае пашкоджанне здароўя лічыцца такое парушэнне арганізма, якое трывае больш за шэсць месяцаў. Не лічыцца працяглым пашкоджанне, калі яно выклікае страту здароўя меней чым на 10% і ёсць надзея на яго паправу.

Кампенсацыя прызнаецца ў суме 500 зл. за кожны працэнт пастаяннага або працяглага пашкоджання здароўя, а калі няшчасны выпадак выклікаў інваліднасць I групы, кампенсацыя павялічваецца да 10 тысяч злотых.

Пацярпеўшы член сям'і або солтыс маюць абавязак неадкладна паведаміць пра выпадак начальніку гміны. Начальнік гміны з удзелам грамадскага інспектара працы і прадстаўнікоў гміннага саюза сялян, гурткоў і сялянскіх арганізацый устанаўляюць абставіны і прычыны выпадку і выпаўняюць карту выпадку.

Кампенсацыя пацярпеўшаму не належыцца, калі расследаванне ўстанавіла, што:

1. няшчасны выпадак не звязаны з працай на сельскай гаспадарцы;
2. выключнай прычынай выпадку было парушэнне пацярпеўшым правіл, якія абавязваюць у ахове жыцця і здароўя;
3. выпадак выкліканы пацярпеўшым наўмысна або з-за несумненнай нядбайнасці;
4. да выпадку ў значнай ступені прычыніўся сам пацярпеўшы будучы нецвярозым.

Кампенсацыя таксама як за няшчасны выпадак належыцца селяніну, які пацярпеў пашкоджанне здароўя ў выніку прафесіянальнай хваробы. Служба здароўя, лекар або дантыст, ветэрынар або грамадскі інспектар працы гміннага саюза сялян, гурткоў і сельскагаспадарчых арганізацый маюць абавязак, калі ёсць падазрэнне прафесіянальнага захворвання, паведаміць пра гэта ваяводскага санітарнага інспектара.

Сталае або працяглае пашкоджанне здароўя, а таксама факт, што ўзнікла яно ў выніку выпадку ў часе працы на сельскай гаспадарцы, а таксама інваліднасць і яго прычыны ўстанаўляюць канчаткова лекарскія камісіі.

Часовую няздатнасць да працы і яе сувязь з выпадкам падчас працы на сельскай гаспадарцы ўстанаўляюць працаўнікі служ-

бы здароўя на падставе агляду і карты выпадку, а пры прафесіянальных захворваннях — на падставе карты санітарнага інспектара.

Калі селянін з прычыны выпадку ў часе працы або прафесіянальнай хваробы няздатны да працы на працягу больш за 15 дзён, належыцца яму дапамога на лячэнне (zasiłek chorobowy). Дапамога выплачваецца за час няздатнасці да працы, аднак не больш, чым за 6 месяцаў ад выпадку, або даты, калі сцверджана прафесіянальная хвароба.

Селяніну, якому належыцца дапамога на лячэнне на падставе іншых правоў, напрыклад, па рабоце ў прадпрыемстве ці грамадскай установе, — выплачваецца толькі адна дапамога.

Членам сям'і селяніна, які памёр у выніку выпадку ў часе працы, належыцца аднаразовая кампенсацыя. Гэта датычыць таксама сям'і пенсіянера, які памёр у выніку выпадку ў часе працы на сельскай гаспадарцы або ў выніку прафесіянальнай хваробы.

Калі на аднаразовую кампенсацыю мае права толькі адзін член сям'і і калі гэтым членам ёсць жонка або дзіця памёршага, належыцца ім 50 тысяч злотых, а іншаму члену — 25 тысяч злотых. Калі на кампенсацыю маюць права адначасова жонка і дзеці, выплачваецца на жонку 50 тысяч злотых, а на кожнае дзіця па 10 тысяч злотых. Калі кампенсацыя належыцца двум або болей дзецям, а пацярпеўшы не меў жонкі, то прызнаецца 50 тысяч зл. пабольшаныя на 10 тысяч на кожнае наступнае дзіця. Сума павінна быць падзелена пароўну на кожнае дзіця. Калі побач жонкі і дзяцей права на кампенсацыю маюць іншыя члены сям'і, кожнаму з іх належыцца 10 тысяч зл. Але калі б не было жонкі і дзяцей, якія мелі б права на кампенсацыю, а былі толькі іншыя члены сям'і, то выплачваецца 25 тысяч зл. на аднаго, а па 10 тысяч зл. на кожнага наступнага, пры гэтым сума гэтая дзеліцца паміж імі пароўну. Суму аднаразовай кампенсацыі памяншаецца на тыя грошы, якія пацярпеўшы атрымаў як кампенсацыю за пастаяннае або працяглае пашкоджанне здароўя.

## ФОНД ГРАМАДСКАГА СТРАХАВАННЯ СЯЛЯН

Селянін абавязаны ў фонд грамадскага страхавання сялян плаціць узнос за сябе, жонку і членаў сям'і. На ўзнос складаюцца: па 1200 зл. ад кожнага застрахаванага і па 500 зл. ад кожнага пералічанага гектара, разам не меней 1700 зл.

Паверхня сельскагаспадарчых угоддзяў пералічваецца для ворыўнай зямлі памножаннем 1 га праз каэфіцыент:

| Катэгорыя зямлі: | I | II | IIIa | IIIб | IVa | IVб | V | VI |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Каэфіцыент: | 1,8 | 1,6 | 1,25 | 1,15 | 1,05 | 0,95 | 0,8 | 0,5 |

Напрыклад, хтосьці мае 3 га ворыўнай зямлі II катэгорыі. Каб атрымаць лік пералічаных гектараў трэба памножыць 3 праз каэфіцыент 1,6 — атрымаем: 3×1,6=4,8 га. Узнос кожнага пералічанага гектара ўстаноўлены на 500 зл. — атрымаем 4,8×500=2 400 зл.

Для пашавых угоддзяў устаноўлен каэфіцыент:

| Катэгорыя зямлі: | I | II | III | IV | V | VI |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Каэфіцыент: | 1,8 | 1,6 | 1,2 | 1 | 0,8 | 0,5 |

Лес ацэньваецца паводле VI катэгорыі, г.зн. 2 га лесу лічыцца за адзін пералічаны гектар.

Ад гаспадаркі, якая ёсць супольнай уласнасцю дзвюх або болей асоб, узносы вызначаюцца кожнай з іх асобна, адпаведна яе ўдзелу ў супольнай уласнасці. Удзелы ўстанаўляецца паводле дакументаў або заявы зацікаўленых асобаў, а калі дакументаў няма і зацікаўленыя не складаюць заяў — пароўну. Узносы абавязаны плаціць і той, хто гаспадарыць не на ўласнай зямлі.

Нарахаваны такім чынам узнос не можа быць большы чым 72 тысячы зл. Калі б, беручы пад увагу сям'ю селяніна і колькасць зямлі, якой ён валодае, узнос прыпадаў вышэйшы, зніжаецца ён да гэтай сумы.

Узносы ўстанаўляе начальнік гміны, а сысківаюцца яны як і іншыя грашовыя абавязкі для дзяржавы. Начальнік гміны можа зменшыць узнос на адзін год да 50%, калі селяніну здарылася няшчасце, стыхійнае бедства або з іншых прычын, незалежных ад селяніна, але з-за якіх зменшылася ў яго гаспадарцы колькасць прадукцыі. Начальнік гміны можа звольніць селяніна на тры гады ад абавязку плаціць узнос, або зменшыць узнос на 50%, калі селянін пачаў весці гаспадарку на купленых або арандаваных з дзяржаўнага фонду землях.

Узнос, які селянін абавязаны плаціць за сябе, змяншаецца да 50%, калі гаспадарачы на гаспадарцы меншай чым 2 га, працуе ён у грамадскім прадпрыемстве без перапынку найменш 6 месяцаў. Гэткай самай ільготай карыстаецца селянін, які не мае наследніка, якому мог бы перадаць гаспадарку, і атрымоўвае пенсію на іншай падставе, а не за перадачу за пенсію сельскай гаспадаркі. Узнос змяншаецца за ўвесь час працы або атрымоўвання пенсіі, пачынаючы ад месяца наступнага пасля месяца, у якім селянін пачаў працаваць або атрымоўваць пенсію. Гэта датычыць таксама жонкі селяніна, калі яна працуе ў грамадскім прадпрыемстве або атрымоўвае песнію.

Да 1 студзеня 1983 г. селянін, які пачаў гаспадарыць ва ўзросце да 35 год, праз першыя 5 год гаспадарання быў звольнены ад абавязку плаціць узносы ў фонд грамадскага страхавання сялян.

Паводле новага закона селянін, які карыстаўся гэтай ільготай да часу сканчэння тэрміну пяці год, звальняецца ад часткі ўзносу, які прыпадае за пералічаныя гектары. Ён абавязаны толькі плаціць узносы за сябе, жонку і членаў сям'і. Да 31 снежня 1985 г. селянін, які быў звольнены ад пазямельнага падатку ў сувязі з утрымоўваннем вялікай сям'і, будзе звольнены ад узносу, належнага з кожнага пералічанага гектара, але мусіць аплачваць частку ўзносу за сябе і членаў сям'і.

## СПЛАТА ДАЎГОЎ

Пераймаючы сельскую гаспадарку за пенсію, дзяржава забавязана сплачваць даўгі ўласніка гаспадаркі, звязаныя з вядзеннем тае ж гаспадаркі. Гэта датычыць даўгоў, якія селянін меў абавязак заплаціць установам грамадскай гаспадаркі. Даўгі прыватным асобам дзяржава сплачвае толькі тады, калі яны маюць іпатэчнае забеспячэнне. Аднак калі селянін затрымлівае сабе дзялянку з будынкамі, а яго даўгі перавышаюць вартасць зямлі, якую пераймае дзяржава, гэтую розніцу абавязаны заплаціць сам селянін. Ён таксама абавязаны заплаціць пратэрмінаваныя ўзносы па сацыяльнаму страхаванню і ўсе асабістыя даўгі. Калі б селянін хацеў бясплатна перадаць дзялянку іншай асобе, то гэта дапускаецца толькі пры ўмове, што пераймальнік яе забавяжацца ўзяць на сябе нясплачаныя даўгі.

Калі селянін перадае гаспадарку сыну за пенсію, тады даўгі, якія звязаны з вядзеннем гаспадаркі, пераходзяць на наследніка. Аднак наследнік не мае абавязку сплачваць пазыкі, узятыя селянінам на спажывецкія мэты.

**В. Склубоўскі**

## ЗМЕСТ

**Усяго пакрысе**

